МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ «ПОЛАЦКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ»

# БЕЛАРУСКАЕ ПАДЗВІННЕ: ВОПЫТ, МЕТОДЫКА І ВЫНІКІ ПАЛЯВЫХ І МІЖДЫСЦЫПЛІНАРНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ

Зборнік навуковых прац міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 160-годдзю з дня нараджэння А. П. Сапунова

(Полацк, 21 – 23 красавіка 2011 г.)

У дзвюх частках

Частка 2

Пад агульнай рэдакцыяй
канд. гіст. навук, дац. Д. У. Дука,
канд. гіст. навук, дац. У. А. Лобача

Наваполацк
ПДУ
2011

УДК 94(476)(082)
ББК 63.3(4Беи)я43
Б43



Б43 **Беларускае Падзвінне : вопыт, методыка і вынікі палявых і міждысцыплінарных даследаванняў** : зб. навук. прац міжнар. навук.-практ. канф., Полацк, 21 – 23 красав. 2011 г.: у 2 ч. Ч. 2 / Полацкі дзярж. ун-т; пад агульн. рэд. Д. У. Дука, У. А. Лобача. – Наваполацк : ПДУ, 2011. – 224 с.
ISBN 978-985-531-257-5.

У зборніку змешчаны навуковыя артыкулы па выніках работы міжнароднай навуковай канферэнцыі «Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых і міждысцыплінарных даследаванняў». Прадстаўлены вынікі гістарычных, краязнаўчых і этнаграфічных даследаванняў Беларускага Падзвіння і сумежных тэрыторый. Прыведзены новыя даныя аб гістарычных лёсах, матэрыяльнай і духоўнай спадчыне рэгіёна Паўночнай Беларусі ў шырокім храналагічным кантэксце (ад першабытных часоў да сучаснасці).

Разлічаны на прафесійных гісторыкаў, антраполагаў, студэнтаў гістарычных спецыяльнасцей ВНУ, мастацтвазнаўцаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

**УДК 94(476)(082)**
**ББК 63.3(4Беи)я43**

**ISBN 978-985-531-257-5 (Ч. 2)**
**ISBN 978-985-531-255-1**

На вокладцы змешчана выява Полацка на гравюры 1579 г. з нюрнбергскага лятучага лісткі.

# *ГІСТОРЫЯ*

## *УНУТРЫЦАРКОЎНАЯ БАРАЦЬБА НА ТЭРЫТОРЫІ ВІЦЕБСКАЙ ЕПАРХІІ Ў 1920-Х – ПАЧАТКУ 1930-Х ГГ.*

***В.В. БАРАНЕНКА***
***(Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт)***

*На падставе гістарыяграфічнай базы і архіўных крыніц даследуецца ўзнікненне і распаўсюджванне абнаўленчага расколу на тэрыторыі Віцебскай епархіі ў 1920-х – пачатку 1930-х гг.. Ахарактарызавана змена палітыкі савецкай улады ў адносінах да абнаўленчага руху. Асаблівая ўвага ў працы надаецца апісанню эвалюцыі раскола на пазначанай тэрыторыі, характарыстыцы асоб кіруючых абнаўленчых архірэяў.*

Полацка-Віцебская епархія была створана 17 (29) красавіка 1840 года. У 1912 годзе епархія налічвала 310 царкоўных прыходаў, 546 цэркваў, уключаючы прыхадскія, дамавыя, прыпісныя, могілкавыя, і 235 капліц. Духавенства налічвала 636 чалавек, з іх 359 – свяшчэннікі. Усяго ў межах епархіі жыло 872 тыс. 384 чалавека праваслаўных. Большасць прыходаў епархіі складалася з 20 – 55 весак, якія належалі да адной царквы і знаходзіліся ад яе на адлегласці 6 – 15 верстаў. У 1914 годзе ў епархіі дзейнічалі 422 прыхадскіх школы, у якіх навучалася 11222 хлопчыкі і 8062 дзяўчынкі. З 419 законанастаўнікаў 345 былі свяшчэннікі. Фінансаванне дзейнасці царкоўна-прыхадскіх школ адбывалася за кошт епархіі і за кошт Свяцейшага Сінода (202 тыс. 100 руб.) Пры цэрквах было адкрыта 297 бібліятэк [1, с. 69 – 70].

Духавенства Віцебскай епархіі, а разам з ім і веруючы народ, падвергліся ганенню з боку бальшавікоў адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года. Гэтыя ганенні насілі жорсткі характар – любое ўхіленне ад савецкіх парадкаў або падазрэнне у нелаяльнасці да рэжыму лічылася контррэвалюцыяй і строга каралася: смерцю, турмой або доўгатэрміновым зняволеннем у канцэнтрацыйным лагеры.

Ганенні першых пасляваенных гадоў (1918 – 1921) дакументальна амаль не фіксаваліся і ў сувязі з гэтым нельга асвяціць царкоўнае жыцце на тэрыторыі дадзенай епархіі.

Адным з самых складанейшых перыядаў у жыцці Віцебскай епархіі прападае на 1920-я гг. Менавіта на гэты прамежак часу прападае кампаніі па канфіскацыі царкоўных каштоўнасцей і ўскрыцця мошчаў. У гэтыя гады адбываецца і развіцце абнаўленчага руха.

У гэты час Віцебскую кафедру ўзначальваў архіепіскап Інакенцій (Ястрабаў). Да рэвалюцыі ен быў першым вікарыем Кіеўскай епархіі, рэктарам Кіеўскай Духоўнай Акадэміі [2, с. 23]. Пасля таго як ен атрымаў вазванне Ціхана, наконт царкоўных каштоўнасцей, быў сазваны сход віцебскага духавенства, дзе прапанаваў кожнаму святару рабіць як тыя палічуць патрэбным. На гэтым сходзе Інакенція патрымалі настаяцель Хрыста-Раждзесцвенскай царквы а.Фанцін Капусцінскі, ключар Свята-Мікалаеўскага кафедральнага сабора а.Стэфан Кальвін і настаяцель Задунаўскай царквы Св. Іаана Хрысціцеля а.Феадар Чулкоў [2, с. 23]. Услед за пачаткам рэквізіцыі каштоўнасцей на іх абарону выступілі і веруючыя. Так апісвае гэтыя падзеі а.Петр Беляеў, які служыў у Свята-Пакроўскай царкве: «У Віцебску супраціўленне здачы царкоўных каштоўнасцей і некаторыя эксцэсы па гэтаму поваду мелі месца… пры саборы на працягу 3 – 4-х сутак збіраліся вялікія натоўпы веруючых, асабліва жанчыны, з намерам перашкодзіць здачы каштоўнасцей. Некаторыя з жанчын нават начавалі пры саборы на плошчы» [3, с. 40]. Аднак бальшавікоў гэтыя падзеі не спынілі і ў хуткім часе ўсе храмы горада былі абрабаваны, а Інакенцій быў вызваны ў Маскву.

Архіпастыр быў абвінавачаны ў тым, што, атрымаўшы вазванне патрыярха Ціхана, ен склікаў сход віцебскага духавенства, блаславіў зачытаць атрыманы дакумент і прапанаваў кожнаму святару паступаць у згодзе са сваім сумленнем. Архіепіскапа падтрымалі протаіерэй Фанцім Калусцінскі, ключар кафедральнага сабора протаіерэй Стэфан Кальвін і святар Задунаўскай царквы святар Федар Чулкоў. Іх таксама неўзабаве арыштавалі [3, с. 40].

Арышты віцебскага духавенства па часе супалі з арыштам у Маскве ў маі 1922 г. патрыярха Ціхана. У сітуацыі, калі Руская Праваслаўная Царква пазбавілася кіраўніка і шматлікія епархіяльныя архірэі былі таксама арыштаваны, дзяржаўная ўлада ў цэнтры і на месцах паспрабавала ў хуткім часе стварыць раскольніцкія падкантрольныя структуры, якія павінны былі захапіць як вышэйшую царкоўную ўладу, так і кіраванне епархіямі. У Маскве раскольніцкія дзеянні невялікай групы духавенства першапачаткова падтрымліваліся і акіроўваліся старшыней Рэвваенсавета Л.Д. Троцкім праз апарат УЧК – АДПУ.

Сукупнасць праграм, распрацаваных абнаўленчымі групамі і прадстаўленых на ўсеагульнае абмеркаванне, прадугледжвала мадэрнізацыю практычна ўсіх аспектаў традыцыйнага Рускага праваслаўя: ад укладу царкоўнага жыцця, канонаў і абраднасці да дагматыкі, сацыяльных канцэпцый і этычных гле-

джанняў. Але першае месца адводзілася ў гэтых праграмах палітычнай пераарыентацыі Рускай Праваслаўнай Царквы, нармалізацыі яе адносін з Савецкай уладай.

Першай паўстала група «Жывая царква», якая аб'ядноўвала спачатку белае духавенства і міран. Было ўтворана Вышэйшае царкоўнае упраўленне (ВЦУ), на чале якога стаў архіепіскап Антанін (Граноўскі).

Лідары «Жывой царквы» ахарактарызавалі сваю дзейнасць як «царкоўна-рэвалюцыйную», накіраваную на тое, каб дамагчыся адхіленні ад кіраўніцтва Царквой архіепіскапаў-манахаў, ліквідаваць манастыры, увесці жанаты епіскапат і рэарганізаваць царкоўнае кіраванне.

Крайні радыкалізм «Жывой царквы» незадавальняў ўмераных прыхільнікаў царкоўнай рэарганізацыі, якія ўтварылі «Саюз царкоўнага адраджэння», які ўзначаліў старшыня ВЦУ архіепіскап Антанін. Праграма дадзенай плыні адрознівалася нявызначанасцю пазіцый і невыразнасцю фармулевак. Галоўная ўвага надавалася ў ей асвятленню сацыяльных аспектаў хрысціянскага вучэння.

Неўзабаве ў «Саюзе царкоўнага адраджэння» выявіліся ўласныя радыкалы, якія аб'ядналіся вакол петраградскага святара А. Введзенскага. Яны адышлі ад групы Антаніна, утварыўшы «Саюз суполак старажытна-апостальскай царквы» (СССАЦ). СССАЦ патрабаваў вельмі радыкальных пераўтварэнняў як у праваслаўнай ідэалогіі, так і ў царкоўнай арганізацыі, але яго прыхільнікі пазбягалі «рэвалюцыйных» фармулевак [4, с. 392].

Усе тры рэфарматарскія групы, якія атрымалі роўны лік месцаў у Вышэйшым царкоўным кіраванні, былі прызнаны раўнапраўнымі аб'яднаннямі. Яны праследвалі агульную мэту - мадэрнізаваць рускае праваслаўе ў дачыненні да новых сацыяльных умоў, якія склаліся пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі. За гэтымі групамі замацавалася назва абнаўленскіх, а за іх аб'яднаннем пад эгідай ВЦУ – абнаўленскай царквы.

Царкоўна-абнаўленчы рух на тэрыторыі Віцебскай епархіі пачаўся яшчэ ў 1905 годзе, падчас дзейнасці епіскапа Серафіма (Мешчарыкова). У сваіх пропаведзях, дакладах і водгуках аб царкоўнай рэформе Серафім выказваўся аб неабходнасці яе правядзення і прымальнасці з пункту гледжання багаслоўскай навукі і патрабаванняў сучаснага царкоўнага жыцця. Епархіяльны з'езд духавенства і міран 1906 года агульным галасаваннем падтрымаў епіскапа Серафіма ў неабходнасці царкоўнай рэформы. Такім чынам, абнаўленчы рух у 1922 годзе быў прадвырашаны ў 1905 г.

Сярод абнаўленцаў не было паразумення, дзейнічалі тры накірункі, якія вялі паміж сабой барацьбу за лідэрства. Гэта «Жывая Царква», якую ўзначальваў В.Д.Красніцкі, «Саюз царкоўнага адраджэння» (СЦА) на чале з епіскапам Антанінам (А.А. Граноўскім) і «Саюз суполак старажытна-апостальскай царквы» (СССАЦ) з лідэрам А.І. Ввядзенскім.

З трох абнаўленчых плыняў на тэрыторыі Віцебскай губерні была прадстаўлена ў асноўным «Жывая царква». Паводле вызначэння прафесара С. Троіцкага: «Жывая Царква – гэта, перш за ўсе, папоўскі бунт ці, кажучы мовай канонаў, прэсвітарыянскі раскол. Яе стварыла ганарлівасць петраградскага сталічнага духавенства. Гэтыя святары здаўна займалі выключнае, асабліва прывілеяванае становішча ў Царкве... Было ў бліскучым становішчы петраградскага духавенства адну цемную пляму. Як і ўсе белае духавенства, яно знаходзілася адасоблена ад епіскапату, доступ у які быў адкрыты толькі для манахаў, а манаскі клабук апранали тыя ж школьныя таварышы петраградскіх бацюшак, і вельмі часта менш адароныя, якія не спадзявaліся на свае здольнасці, і вось імкненне ўзяць у рукі ўладу з рук чорнага духавенства ў свае рукі і было галоўнай прычынай, што падштурхнула групу найбольш славалюбівых петраградскіх святароў на раскол, а знешнія абставіны тлумачаць, чаму не раней ці пазней» [5, с. 23].

Першымі прыхільнікамі «Жывой царквы» ў Віцебскай епархіі былі прадстаўнікі белага духавенства: Федар Булатаў, Аляксей Донаў, Федар Шэхаўцоў, Міхаіл Свідэрскі, Андрэй Мытовіч, Аляксандр Шчэрбакоў, Венедыкт Петрачэнка, Уладзімір Мігановіч, Федар Ціхаміраў. [6, с. 29аб]. У сваю чаргу супрацьць новага руху выступілі манахі Полацкага мужчынскага манастыра і частка прыхажан Віцебскага Кафедральнага сабора. Сярод не прыняўшых абнаўленства быў і ўпаўнаважана Віцебскага епархіяльнага ўпраўлення па Невельскаму уезду Мікалай Акаловіч.

Варта зазначыць, што абнаўленчы рух падтрымлівала савецкая ўлада. Так, у лісце ЦК РКП(б) да Віцебскага губкама 19 мая 1922 года казалася: «Неабходна садзейнічаць таму, каб на Памесным Саборы, які павінен быць, большасць апынулася за лаяльнымі да савецкай улады элементамі… Праца павінна адбывацца з максімальнай асцярогай і тактоўнасцю праз Вашага неафіцыйнага ўпаўнаважанага па царкоўных справах. Афіцыйна ў друку абнаўленцаў супраць царкоўнага феадалізму крытыкаваць з пункту гледжання іх непаслядоўнасці і палавіннасці… каб не памяшаць расколу ўнутры царквы» [7, с. 43].

Для высвятлення стану спраў у Маскву па даручэнні Віцебскага епархіяльнага кіравання быў накіраваны протаіерэй кафедральнага Мікалаеўскага сабора Феадор Булатаў, якому атрымалася сустрэцца і пагутарыць з Антанінам (Граноўскім). 27 чэрвеня 1922 г. у Сяменаўскай царкве Віцебску адбылося паседжанне гарадскога духавенства, на якім протаіерэй Феадор прачытаў даклад «пра акалічнасці часовага выдалення Патрыярха ад спраў царкоўнага кіравання», пра арганізацыю ВЦУ, пра неабходнасць абрання дэлегатаў на з'езд прагрэсіўнага духавенства ў Маскве, якое павінна было адбыцца 3 жніўня 1922 г. для рашэння пытанняў знешняга і ўнутранага жыцця Царквы [8, с. 158 – 159].

На абнаўленчы з’езд ад епархіі былі накіраваны протаіерэі Алексій Данцоў і Феадор Шэхаўцоў. Алексій Донаў быў протаіерэям Свята-Мікалаеўскага сабора. Быў пасвечаны ў 1885 годзе, пасля чаго служыў святаром у прыходах Полацкай епархіі. 25 снежня было прысвоена званне пратапрэсвітэра [9, с. 325].

Пасля іх вяртання 22 – 24 жніўня 1922 г. ў Свята-Петра-Паўлаўскай царкве ў Віцебску быў праведзены 1-ы абнаўленчы з’езд. На ім прысутнічала 61 дэлегата ад розных акруг епархіі. Старшыней быў выбраны протаіерэй Іаан Аўсянкін. 22 жніўня на пасяджэнні з дакладамі выступілі Міхаіл Свідэрскі і Яўген Ланге, якія выказаліся за рэфармаванне Царквы. Пра ідэйныя настроі, якія панавалі на з’ездзе, можна даведацца па захаваным фрагменце дакладу: «Абнаўленчы рух – гэта барацьба белага духавенства з манаствам за ўладу ў Царкве. У цяперашні час вырашаецца пытанне, хто павінен кіраваць Царквой: белае духавенства ці архіерэй-манах. Архіерэі-манахі захапілі ўладу ў Рускай Праваслаўнай Царкве з моманту хрышчэння Русі пры святым Уладзіміру і трымаюць гэту ўладу да цяперашняга часу. Цяпер белае духавенства, прыгнятпемае манаствам, зрынула ўладу і ў твары сваіх лепшых прадстаўнікоў вядзе адкрытую барацьбу за гэтую ўладу» [10, с. 15аб]. Іх даклады выклікалі абуранасць прысутных, пачаліся настолькі бурныя спрэчкі, што старшыня быў змушаны спыніць паседжанне.

На наступны дзень 43 дэлегата сабраліся ў архірэйскім доме дзе адбыўся з’езд. Старшыней з’езда быў протаіерэй Алексій Донаў. З’езд адкрыў протаіерэй Феадор Шэхаўцоў, які выказаўся за рэфармаванне царкоўнага жыцця. Было абрана новае епархіяльнае кіраванне ў складзе протаіерэяў Донава, Чулкова, Булатова, Ніканавіча, Маісеенко, міраніна Карамышева. Аднак большасць названых іменаў не падтрымалі раскол, і ўжо 29 жніўня 1922 г. новаабранае епархіяльнае упраўлене прызнала сваім епіскапам Інакенція (Ястрабава) [8, с. 159].

У той жа час протаіерэй Донаў і святар Свідэрскі, не быўшы ўпаўнаважаны епархіяльным упраўленнем, здзейснілі паездку ў Маскву, дзе прапанавалі ВЦУ быць правадырамі новых царкоўных пачынанняў у Полацка-Віцебскай епархіі. Прапанова Свідэрскага была прынята, і ў кастрычніку 1922 г. ен вярнуўся ў Віцебск у якасці ўпаўнаважанага ВЦУ па Віцебскай епархіі, з даручэннем арганізаваць тут філіял «Жывой царквы». Свідэрскі стварыў губернскі камітэт гэтай арганізацыі, у склад якога без абрання ўвайшлі протаіерэі Донаў, Шэхаўцоў, Аўсянкін, святар Я. Ланге і веруючы Ф. Ланге. Неўзабаве Свідэрскі без зацвярджэння вышэйшай духоўнай улады быў узведзены ў сан протаіерэя і ўзначаліў губернскі камітэт «Жывой царквы», яго намеснікам стаў Шэхаўцоў. Незаконным шляхам гэтыя святары ўвайшлі і ў склад Віцебскага епархіяльнага упраўлення. З мэтай папулярызацыі праграмы «Жывой царквы» ў снежні 1922 г. Свідэрскі прачытаў публічную лекцыю, але яна дала супрацьлеглы эфект, аддаліўшы насельніцтва ад удзелу ў раскольніцкіх групоўках.

10 верасня 1922 года ў Маскве ў Срэценскім манастыры на Віцебскую кафедру быў назначаны жанаты протаіерэй Канстанцін Запрудскі. Ен нарадзіўся ў 1874 г. Скончыў Казанскую духоўную акадэмію і стаў святаром храма Калітнікаўскіх могілак у Маскве. Быў удаўцом. У 1922 г. ухіліўся ў абнаўленчы раскол. І ўжо 10 верасня адбылося яго епіскапскае пастаўленне ў маскоўскім Спаскім манастыры. Хіратонію здзейсніў мітрапаліт Антоніі (Граноўскі), вядомы сваей непрымірымай пазіцыяй у стаўленні да белага епіскапату, таму падчас уручэння жазла навахіратанісанаму епіскапу Антанін па звычаі прамовіў прамову. Гэта быў сапраўдны абвінаваўчы акт супраць белага епіскапату і супраць «Жывой Царквы». Тут абнаўленцам узгадалася ўсе: і кар’ерызм, і даносы, і нявартыя паводзіны ў побыце. У адрас Запрудского ен выказаўся так: «Папы лезуць у архірэі, каб піць і паліць» [11, с. 132]. У выніку ў храме падняўся неверагодны шум і крык, а Канстанцін Запрудскі страціў прытомнасць. Прыехаўшы ў Віцебск Канстанцін Запрудскі не знайшоў паразумення з мясцовым духавенствам, ен стаў выказваць вельмі ліберальныя погляды на абнаўленства і яму прыйшлося пакінуць епархію [2, с. 24].

14 студзеня 1923 года ў Полацку адбыўся сход, на якім прысутнічала каля 500 праваслаўных веруючых. На ім рашаліся такія пытанні, як адносіны веруючых да абнаўленчага руху, адносін да новага Епархіяльнага Упраўлення Віцебскай епархіі, а таксама выбранне Савета групы веруючых праваслаўнага веравучэння. Найбольшая ўвага надзялялася абнаўленцам. Было пастаноўлена не ўступаць з «абнаўленцамі» ні ў якія зносіны, не прызнаваць іх цэнтральнай /Вышэйшае Царкоўнае Праўленне/ улады, арганізаваць у горадзе Полацку свае царкоўнае ўпраўленне ўсімі маральнымі і духоўнымі сіламі, абараніць сваю праваслаўную веру і ад усякага гвалту абнаўленцаў і для падтрымання нашых сабрацій іншых прыходаў нашай епархіі [12, с. 36б].

У сакавіку 1923 года Канстанцін Запрудскі пакідае кафедру, з’ехаўшы ў Рыльск у якасці вікарнага абнаўленчай Курскай епархіі. Пасля перавода Запрудскага справы ў абнаўленцаў палепшыліся. Духавенства Епархіі прыняла не толькі асноўныя палажэнні царкоўнай рэформы розных абнаўленчых груп і галоўным чынам Жывой Царквы, якая да вясны 1923 года толькі адна знайшла сябе распаўсюджванне па Епархіі [6, с. 29аб].

У сакавіку 1923 г. ў Віцебск вяртаецца архіепіскап Інакенцій (Ястрабаў). Ен стаў на бок «ціханаўцаў» і аб’явіў сябе кіруючым архірэем Віцебскай епархіі, пагражая выгнаць усіх непакорных іерэяў палкаю» [13, с. 171]. Большая частка віцебскага духавенства пайшла да яго на паклон да іх таксама далучыліся мужчынскі і жаночы манастыры ў г. Полацку і правінцыяльныя свяшчэннікі. У гэтым жа годзе ўлады пачалі перарэгістрацыю рэлігійных абшчын. У выніку гэтага мерыпрыемтсва у Віцебскай губерні

было зарэгістравана толькі каля 200 праваслаўных храмаў. У самім Віцебску засталося функцыяніраваць 17 цэркваў [14, с. 17]. У хуткім часе справы пачалі паляпшацца, але ўлад гэта не задавальняла і таму ў кастрычніку 1923 года ен быў асуджаны і высланы за межы епархіі.

2 мая 1923 ў Маскве адкрыўся абнаўленчы Сабор. У ім удзельнічала 476 дэлегатаў, якія разбіліся на партыі: 200 жывацаркоўнікаў, 116 дэпутатаў ад Саюза абшчын старажытнаапостальскай царквы, 10 – з «Царкоўнага адраджэння», 3 беспартыйных абнаўленца і 66 дэпутатаў, названых «умеранымі ціханаўцамі» [4, с. 394]. Сабор узаконіў рэформы, якія супярэчылі папярэдняга Вышэйшага царкоўнага ўпраўлення: закрыцце манастыроў, белы епіскапат, але у выніку супрацiўлення «умераных ціханаўцаў» былі адвергнуты дагматычныя і літургічныя рэформы, прапанаваныя ў дакладах Введзенскага і Красніцкага. Таксама, на Саборы адбыўся завочны суд над патрыархам Ціханам. На ім быў вынесены наступны прысуд: «Патрыярх Ціхан перад сумленнем веруючых падлягае самай строгай адказнасці і кары – пазбаўленне сану і звання патрыярха – за тое, што ен накіраваў усю моц свайго маральнага і царкоўнага аўтарытэта на зрыванне існуючага грамадскага лада нашага жыцця» [4, с. 395].

На ўсіх удзельнікаў сабора адбываўся моцны ціск з боку ДПУ. Гэтымі фактарамі шмат у чым тлумачыцца хуткае прыняцце Саборам прапанаванай яму праграмы. Сабор абраў Вышэйшую царкоўны савет (ВЦС), у складзе якога на 17 чалавек духавенства прыходзіўся адзін міранін.

Ужо ў жніўні таго ж года на з'ездзе прадстаўнікоў епархій у Маскве ВЦС быў ператвораны ў Свяшчэнны Сінод Расійскай Праваслаўнай Царквы. У яго склад увайшлі наступныя іерархі: мітрапаліт Еўдакім, былы рэктар Маскоўскай духоўнай акадэміі, мітрапаліт Ціхан, былы Варонежскі, Веніамін, архіепіскап Разанскі і іншыя [13, с. 8]. Свяшчэнны Сінод увайшоў у зносіны з усходнімі патрыярхамі пасылаючы да іх місію, у склад якой ўваходзіў і мітрапаліт Кастрамскі Серафім, які да гэтага быў Віцебскім.

Аднак Памесны Сабор 1923 г. не апраўдаў надзеі, якія укладалі на яго абнаўленцы. Так, ужо праз год пасля правядзення Сабора Міхаіл Грыгор'еў будучы выбраны дэлегатам ад 4-га Сененскай акругі на Памесны Сабор 1923 г. выказаўся а яго ролі ў развіцці Рускай Праваслаўнай Царквы наступным чынам: «Надзеі былі вялікія, але не ўвянчаліся поспехам, атрымалася процілеглае. Непадзельная Адзіная Святая Саборная і Апостальская Царква зрабіліся не адзінай, а шматліка-адзінай; падзяліліся на царкву адраджэння, старажытнаапостальскую, жывую цэрквы і шматлікія іншыя, і кожная сцвярджала, што яна мае рацыю, а Памесны Сабор, замест супакаення гэтых груп, замест сцвярджэння праўды, замест умацавання веры, замест дазволу даўно наспелых хворых царкоўных пытанняў, стаў будаваць сваю кар'еру, уладкоўваць свае сямейнае жыцце, стаў захапляцца выгодамі тлушчу і пусціўся ў пагоню за чалавечай славай. Чакалі мы ўмацавання веры, а атрымалі падрыў і без таго ўжо пагасаючай веры. Я не спрачаюся, жыцце патрабуе некаторых рэформаў, але настрой сярод чальцоў праваслаўнай царквы, якое выказалася за апошні час у вострых і трывожучых сумленне формах, мяне здзіўляе і прымушае застацца ў падначаленні няўхільнай праўды [15, с. 75].

15 мая 1923 года віцебскіх абнаўленцаў узначаліў Гаўрыіл Свідэрскі. Нарадзіўся ен 13 ліпеня 1862 г. У 1883 году скончыў Віцебскую Духоўную Семінарыю са званнем студэнта. Быў законавучыцелем Аршанскай настаўніцкай семінарыі. У 1885 г. пасвечаны ў святара. У 1922 – 1923 г. ухіліўся ў абнаўленскі раскол. 14 студзеня 1923 г. быў хіратанісан у епіскапа Віцебскага. Быў удзельнікам 2-га абнаўленскага т.зв. «Усерасійскага Памеснага Свяшчэннага Сабора» 1923 гады, на якім падпісаў пастанову Сабора пра пазбаўленне сану і манаства Св. Патрыярха Ціхана [16].

Вікарным епіскапам стаў Міхаіл Свідэрскі: 40 гадоў, ураджэнец Магілеўскай Епархіі, беларус, сын святара, скончыў курс Кіеўскай Духоўнай Акадэміі 5-м магістрантам… З 1921 года – святар на радзіме пры Высачанскай царкве, Віцебскага уезда. В 1922 году быў назначаны ВЦУ Упаўнаважаным па Епархіі. Быў удзельнікам Сабора 1923 года [6, с. 30]. Абодва яны былі раднымі братамі.

Праваслаўныя абшчыны Віцебска ўвесну 1924 г. спынілі зносіны з Гаўрыілам (Свідэрскім) і прасілі перад патрыярхам Ціханам паставіць у Віцебск праваслаўнага архірэя. 25 мая 1924 г. у Віцебск быў прызначаны насельнік Аляксандра-Неўской лаўры архімандрыт Нектарый (Трэзвінскі). 3 чэрвеня 1924 г. ен быў хіратанісан у епіскапа Веліжскага, вікарыя Полацкай епархіі, але выехаць у епархію не змог, паколькі знаходзіўся пад следствам. У гэтай сітуацыі праваслаўныя Віцебскай епархіі ў жніўні 1924 г. звярнуліся ў Мінск да Беларускага мітрапаліта Мелхіседэка (Паеўскаму) з просьбай прыняць «старацаркоўныя» прыходы Віцебска пад духоўнае кіраўніцтва. 2 верасня 1924 г. мітрапаліт Мелхіседэк даручыў акармленне праваслаўных абшчын Віцебска Стаўрапальскаму епіскапу Інакенцію (Лецяеву) [8, с. 161].

Інакенцій (Лецяеў) у сваю чаргу прызнае кананічнасць епіскапа Гаўрыіла, але не зважаючы на гэта амаль усе гарадское духавентсва, акрамя кафедральнага сабора і Ільянскай царквы прызнае яго кіруючым іерэям.

У гэтым жа годзе ўлады пачалі перарэгістрацыю рэлігійных абшчын. У выніку гэтага мерапрыемтсва, а таксама паводле аднаго з параграфаў прыхадскога ўстава аб свабодзе прыхажан выбраць сябе выканаўца культу, дала магчымасць некаторым прыходам выгнаць сваіх святароў, якія падтрымлівалі абнаўленчы рух, і ярнуцца да ціханаўцаў. Прыклад віцебскіх прыходаў падтрымалі таксама і ва ўездных, асабліва дзе пазіцыя

ціханаўцаў была моцная. У жніўні на тэрыторыі епархіі налічвалася каля 20 прыходаў, якія належылі ціханаўцам. Усяго, паводле перарэгістрацыі ў Віцебскай губерніі было зарэгістравана толькі каля 200 праваслаўных храмаў. У самім Віцебске засталося функцыяніраваць 17 цэркваў [14, с. 17].

Становішча ў гэты час у абнаўленцаў па-ранейшаму заставалася складаным. Як паведамляецца, паводле Епархіяльнага Савета, на лістапад 1923 года ў епархіі склалася наступнае становішча: «матэрыяльнае становішча духавенства Епархіі вельмі цяжкае. Духавенства, з двух-трэці свайго склада пазбаўленае зямлі і сенажацяў, змушана здавольвацца добраахвотнымі вельмі беднымі міласцінямі [6, с. 30]. У наступным годзе справы не палепшыліся.

17 мая 1924 г. на Беларускі з’езд у Магілеў быў выкліканы былы Кастрамскі архіепіскап Серафім (Мешчарыкоў), які 18 мая быў абраны абнаўленчым Беларускім мітрапалітам. У канцы мая 1924 г. ен прыехаў у Віцебск, дзе разлічваў на ветлівы прыем, паколькі кіраваў Віцебскай епархіяй у 1902 – 1911 гг. Аднак яго чаканні не апраўдаліся. У дзень памяці Еўфрасінні Полацкай, 5 чэрвеня 1924 г., архіепіскап Серафім прыбыў у Полацк, але полацкі Еўфрасіньеў манастыр яго не прыняў. Архіепіскап Серафім з’ехаў у Маскву і ў Беларусь не вярнуўся.

У 1924 г. В.В.Галубовіч у лісце да архіепіскапа Гаўрыіла пісаў пра палажэнне ў Оршы: «Вашага прыезда ў нас не хочуць, не хочуць нашыя набожныя бацюшкі, асабліва настаяцель Казлоўскі і яго прыхільнікі. Вы прыехалі бы да чужых людзей, на Вас бы глядзелі, як на чалавека, які з’явіўся ледзь не з Луны. Пачакайце крыху, Уладыка, з прыездам» [17, с. 29]. У сувязі са склаўшымся становішчы архіепіскап Гаўрыіл быў вымушаны прызнаць уладу Інакенція, заставіў кафедру і пайшоў безпрыхадскім свяшчэннікам у кафедральны сабор. Аднак і ен нядоўга кіраваў епархіяй. 12 красавіка 1925 года, пасля таго, як падпісаў акт аб перадачы царкоўнай улады мітрапаліту Пятру (Палянскаму) у выніку смерці патрыярха Ціхана Інакенцій (Лецяеў) быў узяты пад арэст і асуджаны.

У ліпені – жніўні 1925 г. у Віцебскай епархіі праходзілі падрыхтоўчыя мерапрыемтсвы да з’езда духавенства епархіі. На тэрыторыі епархіі гэтая кампанія прайшла марудна і гэта была выклікана шматлікімі прычынамі. Адной з такіх прычын быў нізкі аўтарытэт архіепіскапа Гаўрыіла ў веруючага насельніцтва. Гэта паслужыла ўзмацненню пазіцый ціханаўцаў. У выніку гэтага на з’ездзе, які адбыўся 1 верасня, з ціханаўцаў прысутнічаў толькі Барнукоў. У гэты час архіепіскап Інакенцій (Лецяеў) пакінуў Віцебск, а епіскапа Алексія Буя яшчэ не было. Але трэба зазначыць, што на кастрычнік 1925 года становішча ў епархіі было неадназначным. Ціханаўскі рух развіваўся галоўным чынам у г.Віцебску, дзякуючы ўплыву архіепіскапа Інакенція (Ястрэбава) і нядаўна прыбыўшага епіскапа Інакенція (Лецяева). З 9 віцебскіх прыходаў восем відавочна ўхіліліся ў «ціханаўшчыну». Моцная «ціханаўшчына» была у г.Полацку, дзе яе праваднікамі служылі манаствуючыя, асабліва насельніцы жаночага Спаса-Еўфрасіньеўскага манастыра, якія займалі выключна непрымірымую пазіцыю. З благачынных акруг шмат прыхільнікаў было патрыярха Ціхана ў 2-й Полацкай акрузе; у іншых благачынных акругах ціханаўцы з духавенства вылічваюцца ў колькасць 2 – 3 асоб [13, с. 172]. Але нягледзячы на тое, што «ціханаўцы» ў Віцебску мелі значную перавагу на астатняй тэрыторыі епархіі ў гэты час панавалі абнаўленцы. Як зазначае Гафіцкі: «са змешчаных на тэрыторыі акругі 132 цэркваў з’яўляюцца абнаўленчымі 76, ціханаўскімі – 41 а не прыналежных не да якой плыні – 15 цэркваў» [18, с. 807].

У Віцебску функцыянавала 11 цэркваў «ціханаўскай арыентацыі». Аўтарытэту традыцыйнай праваслаўнай царквы спрыяў падбор кваліфікаваных святароў, якія мелі падтрымку ў розных пластах гарадскога насельніцтва. Так, толькі за некалькі месяцаў у Бешанковіцкім раене да ціханаўцаў адышло 7 цэркваў, аднак 5 з іх неўзабаве зноў вярнуліся на пазіцыі абнаўленцаў. У сельскай мясцовасці большасць святароў, як сведчаць дакументы, прыналежала да абнаўленскага руху.

Разумеючы небяспеку наступстваў расколу, ціханаўцы неаднаразова выказваліся за аб’яднанне, патрабуючы пры гэтым, каб абнаўленцы павініліся «ў сваей віне перад царквой і ўвайшлі ў кананічнае адзінства з старацаркоўнікамі, прызнаючы ўладу патрыярха» [9, с. 9]. Да згоды і супрацоўніцтву заклікалі і некаторыя абнаўленцы. У сярэдзіне 1926 г. епіскап Гаўрыіл (Свідэрскі) распачаў спробу прымірэння з ціханаўцамі. Ен сабраў найболей аўтарытэтных і ўплывовых святароў для перамоў. Прыехаўшыя падтрымалі гэту ідэю, але казалі пра неабходнасць атрымання згоды ад веруючых і ціханаўскага епіскапа Інакенція (Лецяева). Такія сходы веруючых у г. Віцебску правесці не атрымалася, але яны адбыліся ў Гарадку і Бешанковічах. Абнаўленцаў абвінавачвалі ў царкоўнай смуце, але ўсе ж пастанова аб царкоўным міры была прынята [9, с. 9].

У канцы 1925 годзе ў епархію прыязджае новы епіскап Алексій (Буй). За час свайго кіраўніцтва ен паспеў наведаць усе праваслаўныя храмы Віцебска, дзе правеў богаслужэнні. У хуткім часе, як зазначае Федар Крыванос, неўзабаве ў епіскапа Алексія на глебе асабістай непрыязнасці адбыўся канфлікт з прадстаўнікамі мясцовага духавенства [2, с. 25].

Ва ўспамінах протаіерэя М. Акаловіча канфлікт епіскапа Алексія з віцебскім «старацаркоўным» духавенствам тлумачыцца асабістымі амбіцыямі архірэя, паколькі ен не мог спадзявацца на спрыяльны для яго зыход галасавання пры абранні епіскапа на з’ездзе. У выніку, каб не даваць благаславенне на адкрыцце епархіальнага з’езду, архіерэй з’ехаў у Маскву. Дазвол на адкрыцце з’езду было атрымана тэлеграмай ад архіепіскапа Інакенція (Ястрабава), які знаходзіўся на лячэнні на Каўказе. У адказ епіскап Алексій забараніў у служэнні бачных протаіерэям-ціханаўцам, уключаючы Акаловіча і Чулкова. Па хадатайству царкоўных саветаў Віцебска неўзабаве

гэта забарона была знята. З’езд быў праведзены, на ім абралі «староцаркоўнае» Віцебскае епархіяльнае упраўленне. Неўзабаве яно атрымала афіцыйную рэгістрацыю, што азначала легалізаванне патрыяршай Царквы ў Віцебску, умацаванне яе пазіцый і паслабленне абнаўленчага расколу [8, с. 162].

Аднак новага кіраўніка епархіі абраць не ўдалося. Падводзячы вынікі з’езду протаіерэй Федар Чулкоў сказаў: «Няхай епіскап Алексій з’яджае з Віцебска, не трэба нам ніякага архірэя, будзем мець адносіны непасрэдна з мітрапалітам Мелхіседэкам» [18, с. 811]. На гэтым жа з’ездзе было створана Віцебскае епархіяльнае упраўленне ў складзе протаіерэя Федарава Чулкова, протаіерэя Барнукова, міран Уладзіміра Еленеўскага і Іванова [2, с. 26]. Утвораны новы орган кіраўніцтва не выконваў указанні Алексія, а падпарадкоўваўся на прамую мітрапаліту Ніжагародскаму Сергію (Старагародскаму), а пасля Местаблюсціцелю Патрыяршага Прыстола Пятру (Палянскаму).

Епіскап Алексій, не прызнаў рашэнняў епархіяльнага з’езду, арганізаваў віцебскае епархіяльнае гарадское упраўленне «Ісціна-старажытнай апостальскай праваслаўнай царквы» на чале з міранінам, чыгунічнікам І.К. Баранавым. У склад гэтай структуры ўвайшлі святар віцебскай Васкрэсенскай царквы протаіерэй Ніканавіч, святар віцебскай Багаяўленскай царквы М. Дымман [8, с. 162]. Прадстаўнікі праваслаўнага духавенства і веруючыя Віцебска, нязгодныя з дзеяннямі епіскапа Алексія (Буя), хадатайнічалі аб вяртанні яго з Віцебскай епархіі, што і было выканана. Пасля ад’езду архірэя віцебскае «Ісціна-старажытнай апостальскай праваслаўнай царквы» распалася.

У сувязі са склаўшымся становішчам у 1926 годзе Алексій быў вызвалены ад займання Віцебскай кафедры і адпраўлены настаяцелем манастыра ў Тамбоўскай епархіі. У гэтым жа годзе архіепіскап Інакенцій (Ястрэбаў) таксама злажыў з сябе абавязкі кіруючага архірэя Віцебскай епархіі. У выніку гэтага ДПУ ўдалося пазбавіць ціханаўцаў кіраўніка. Нягледзячы на тое, што на кафедру прыбывалі новыя архірэі, але яны доўга не затрымліваліся на сваіх пасадах. З гэтага часу ў Віцебску канчаткова склалася два цэнтра: ціханаўскі і абнаўленчы.

Не лепшае становішча было і ў абнаўленцаў. Такім склаўшымся становішчам быў незадаволены Беларускі абнаўленчы Сінод. Епіскапу Гаўрыілу за бяздзейнасць спачатку была аб’яўлена вымова, а 6 кастрычніка 1926 года яму было прапанавана стаць настаяцелем Белынічскага манастыра.

На месца Гаўрыіла атрымаў назначэнне жанаты архіепіскап Аляксандр Шчарбакоў. Нарадзіўся ў 1892 г. у сям’і святара. Скончыў 5 класаў Краснаярскай Духоўнай Семінарыі. Здаў экстэрнам іспыты на медыцынскім факультэце Томскага ўніверсітэта па спецыяльнасці – лекар па дзіцячых хваробах. З 1914 г. да рэвалюцыі служыў у Омску ў якасці ваеннага святара. З 1917 па 1923 г. служыў святаром у розных прыходах Заходняй Сібірскай епархіі. У канцы 1922 г. ухіліўся ў абнаўленчы раскол. А ўжо 26 ліпеня 1923 г., будучы ў шлюбе, хіратанісан у епіскапа Акмалінскага і Актюбінскага. Хіратонію здзяйснялі: мітраў. Петр (Бліноў), архіепіскап Аляксандр (Аўдентаў) і архіепіскап Аляксандр (Введзенскі). У 1924 году часова кіраваў Кіеўскай епархіяй. У 1925 годзе прызначаны епіскапам Віцебскім і Гарадокскім, а затым быў Магілеўскім. Прысутнічаў на 3-м Усерасійскім Саборы з вырашальным голасам. У тым жа 1925 годзе ўзведзены ў сан архіепіскапа [19].

Падчас яго прыезду ў Віцебск 20 кастрычніка 1926 года ў Віцебскай епархіі функцыянавала 253 абшчыны, з іх да ціханаўскім адносілася толькі 38. Абнаўленчыя прыходы былі размеркаваныя на 20 благачынных акруг [5, с. 159]. Галоўнай мэтай яго стаў ціханаўскі цэнтр – г. Гарадок. Абнаўленчы архірэй выбраў тактыку расколу царкоўнага грамадства. Ужо ў лістападзе наступнага года ўлады заключылі дамову аб карыстанні гарадскім саборам з новастворанай абнаўленчай абшчынай. Аднак веруючыя не задаволеныя гэтым, перайшлі ў абшчыну Аляксандра-Неўскай царквы.

Прыбыцце Аляксандра (Шчарбакова) у епархію значна ўмацавала пазіцыі абнаўленцаў, пасля чаго актыўнасць ціханаўцаў зменшылася. Вялікую ролю ў гэтым працэсе адыграла праца акруговых органаў дзяржбяспекі, якія праводзілі арганізацыйныя мерапрыемствы па скліканні Віцебскага абнаўленчага епархіяльнага з’езду і Паместнага сабора, падчас якіх часта здараўся прамы ціск на некаторых святароў, пры гэтым рабілася стаўка на кампраметацыю як ціханаўскага епіскапату, так і яго прыхільнікаў. Мелі месца выпадкі адкрытай падтрымкі абнаўленцаў у друку, на што цэнтральныя органы ўлады паказвалі як на недапушчальную з’яву.

Паводле дадзеных на тэрыторыі Беларусі на 1 чэрвеня 1927 года налічвалася 1110 праваслаўных прыходаў, у якіх неслі службу 1140 святароў. З іх 300 прыходаў з 308 свяшчэннаслужыцелямі прытрымліваліся абнаўленчай арыентацыі, ціханаўскіх прыходаў налічвалася 810. У іх неслі службу 833 святары [20, с. 257 – 258]. У гэты час па сельскай мясцовасці ў межах Віцебскай акругі, межы якой супадалі з тэрыторыяй Віцебскай абнаўленчай епархіі, налічвалася 40 храмаў, якія трымаліся расколу [9, с. 8].

У канцы 1920-х гг. сярод партыйнай эліты пачаліся спрэчкі наконт далейшых адносін паміж дзяржавай і рэлігіяй. Адны заклікалі весці барацьбу з рэлігіяй на «культурным фронце». Прадстаўнікамі гэтага кірунку з’яўляліся Л.І. Рыкаў, М.І. Бухарын, А.У. Луначарскі. Прыхільнікам «культурнай барацьбы» з рэлігіяй супрацьстаяла іншая ідэалогія «ваяўнічага атэізму». Яна арыентавалася на выкарыстанне больш жорсткіх метадаў, лічачы, што барацьба з рэлігіяй з’яўляецца адной з формаў класавай барацьбы. На гэтых пазіцыя стаяў і І.В. Сталін.

Непасрэднай прычынай для наступу на царкву стаў хлебанарыхтоўчы крызіс 1928 г. Пачалі гучаць абвінавачванні ў адрас духавенства ў процідзеянні збожжанарыхтоўкам. Годам «вялікага пералому» становіцца 1929 г., калі канчаткова згортваецца НЭП і пачынаецца калектывізацыя. Прадстаўнікам царквы адводзіцца роля актыўнай контррэвалюцыйнай сілы, якая выступае супраць мерапрыемстваў дзяржавы.

У 1929 годзе дзяржаўная палітыка ў дачыненні да абнаўленчага раскола змянілася. У першую чаргу гэта выявілася ў закрыцці храмаў нягледзячы да якой царкоўнай плыні яны належалі. Так, калі да рэвалюцыі ў Віцебску і ў Віцебскай епархіі (без уліку Полацкага вокруга) было адпаведна 31 і 124 храма, то на 15 сакавіка 1929 г. колькасць цэркваў склала адпаведна 20 і 116 храмаў [21, с. 162].

У выніку пачатку правядзення калектывізацыі ўзмацніўся кантроль з боку Аб’яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення за ўсімі працэсамі, звязанымі з рэлігійным жыццем грамадства. З мэтай дыскрэдытацыі царквы органы дзяржаўнай бяспекі праводзілі адпаведныя мерапрыемствы. Для гэтага яны ініцыявалі адмову асобных святароў ад сану, пераводзілі святароў, якія карысталіся аўтарытэтам у другасныя прыходы, да непакорлівых ужываліся такія формы ўздзеяння, як арышт і ссылка, якія ажыццяўляліся без уліку сану і ўзросту. Такі лес напаткаў і Пашына Васілія Дзмітрыевіча, які служыў другім святаром у саборы Раства Хрыстова ў Себежы, выкладаў Закон Божы ў Себежскім гарадскім 4-класным вучылішчы. Арыштаваны 25 лістапада 1929 г. з шэрагам іншых святароў епархіі за «антысавецкую агітацыю» і асуджаны да 5 гадоў папраўча-працоўнага канцлагера, пасля чаго яго далейшы лес невядомы [22, с. 155]. На тэрыторыі Віцебскай епархіі, як і на ўсей тэрыторыі Беларусі праводзілася кампанія па зачыненні храмаў. Ужо ў 1928 г. у Віцебску ўлады зачынілі 4 праваслаўных храма: Дабравешчанскі (аднаверскі), Св. Міхася (могілкавы), Заручэўска-Васкрасенскім і Свята-Мікалаеўскім. У Дабравешчанскай царкве размясцілі савецкую ўстанову. Св.-Міхайлаўскую царкву знеслі дашчэнту, а прылягаўшыя да яе могілкі разбурылі і на іх месцы праклалі чыгуначныя шляхі, у Заручеўска-Васкрэсенскай царкве размясціліся камунальныя службы, у Свята-Мікалаеўскай адкрылі палкавы клуб [9, с. 8].

У адносінах да праваслаўнага духавенства ўжываліся такія метады як арышты, дыскрэдытацыя, частыя пераводы святароў у розныя прыходы і г.д. Для барацьбы з духавенствам выкарыстоўваліся і эканамічныя метады. Святароў абкладалі сельскагаспадарчым і падаходным падаткамі, сума якіх у некаторых мясцовасцях складала да 700 рублеў. За няплату падаткаў было асуджана каля 30 і арыштавана за антысавецкую агітацыю да 20 святароў праваслаўнага культу. 5 лютага 1930 г. дзяржаўная камісія канстатавала факт няплаты кафедральнай абшчыны падатку. У выніку гэтага было апісана ўся маемасць абнаўленчага епіскапа Ніла (Ушакова). Ен у адчаі ўсклікаў: «Вось на якое здзекаванне я прыехаў у Віцебск» [23, с. 35]. У хуткім часе Мікалаеўскі сабор быў зачынены і архірэйская кафедра перамясцілася ў Віцебскую Петрапаўлаўскую царкву.

Для актывізацыі атэістычнай працы былі арганізаваны сацыялістычныя спаборніцтвы, якія прадугледжвалі кратнае павелічэнне колькасці арганізацый, паўсюднае стварэнне ячэяк з уцягненнем ў іх 75 % рабочых, 25 % батракоў і 40 % жанчын [24, с. 14]. Планавалася стварыць тры бязбожных калгасаў, набыцце трактароў «Бязбожнік» і іншыя мерапрыемствы.

У цэлым па Віцебскай акрузе ў выніку адмовы вернікаў было зачынена 7 храмаў, адміністрацыйным шляхам – 11, па прычыне адсутнасці святароў – 100. Дзейнічала толькі 2 праваслаўныя храмы ў Гарадокскім і Межанскім раенах. З нефункцыянуючых 120 цэркваў, 71 царква не выкарыстоўвалася, 12 – былі перададзены пад клубы, 35 – выкарыстоўваліся для захоўвання збожжа, 4 – перададзены калгасам і выкарыстоўваліся для іх патрэб [25, с. 338]. Такім чынам, да пачатку 1930 г. з 155 цэркваў, якія былі ў Віцебскай акрузе да рэвалюцыі, функцыянавалі толькі 14 (па іншых звестках – 12) [9, с. 8]. У Полацку, будынкі былога Спаса-Еўфрасіньеўскага манастыра былі перададзены раеннаму выканаўчаму камітэту і яго ўстановам, а таксама ваенведамству [26, с. 168]. Па сведчанні абнаўленчага протаіерэя С. Аглобліна, увесну 1930 г. каля 50 прыходаў епархіі заявілі пра пераход з абнаўленчаства [8, с. 162].

Падчас правядзення кампаніі па зачыненні храмаў мелі месца так званыя «перагібы». Шматлікія цэрквы падвяргаліся спусташэнню. Выломваліся дарагія іканастасы, спальваліся і ламаліся абразы і інш. Такія выпадкі былі зафіксаваны ў мястэчках Астроўна, Старае Сяло Віцебскага раена; Мішневічы і Роўнае Сіроцінскага раена; Навікі Бешанковіцкага раена; Веляшковічы Лезненскага раена; Віроўля, Болецк, Обаль, Футравае, Халамер’е Гарадокскага раена і інш. Характэрна тое, што падчас адваротнага руху за адкрыцце цэркваў, калі веруючыя ад вінаватых у разгроме цэркваў сталі патрабаваць тлумачэнняў. У адказ на гэтыя патрабаванні пераважна ўсе нізавыя працаўнікі тлумачылі, што яны не вінаватыя, што іх прымушалі гэта рабіць зверху [21, с. 163].

Арыштаваны 24 сакавіка 1931 г. архіепіскап Мікалай (Пакроўскі) так сведчыў пра падзеі тых гадоў: «...частка зачыненых сельскіх цэркваў разгромлена, званы зняты і вывезены, алтары апаганены, святыя сасуды і царкоўная маемасць раскрадзены, іканастасы разламаны і раскіданы, святары зачыненых прыхадскіх цэркваў ці трымаюцца ў турмах ці знаходзяцца ў спасылках, іншыя знаходзяцца на цяжкіх прымусовых працах. З адбыўшых пакаранне ніводны не вярнуўся ў прыход» [2, с. 28].

Кампанія па закрыццю храмаў выклікала хвалю пратэсту з боку насельніцтва. Магчыма, такі рэзкі пад'ем рэлігійнай актыўнасці быў выкліканы незадаволенасцю сялян палітыкай органаў савецкай улады ў цэлым і калектывізацыяй у прыватнасці. У архіўных дакументах зафіксаваны шматлікія патрабаванні веруючага

насельніцтва вярнуць зачыненыя храмы. З данясення акруговага аддзела ДПУ Віцебскаму акруговаму аддзелу партыі пра маральна-палітычнае становішча ў акрузе зазначаецца, што у найвялікай ступені, рух за адкрыцце цэркваў было распаўсюджана ў Лезненскім раене. Ініцыятарамі гэтага руху ў большасці выпадкаў з'яўляліся былыя «царкоўнікі» (царкоўны стараста, вартавыя, члены царкоўных саветаў і іх блізкія) і заможныя сяляне. Яны, па меркаванню партыйных работнікаў, выкарыстоўвалі веруючае насельніцтва для сваей антысавецкай барацьбы. У некаторых сельскіх саветах праходзіў збор подпісаў для рэгістрацыі царкоўна-прыхадскіх абшчын з мэтай адкрыцця царквы. [25, с. 364]. Масавы характар гэты рух набыў у Сіроцінскім раене, дзе не засталося ніводнага праваслаўнага прыхода. Нярэдка збор подпісаў арганізоўваўся непасрэдна на кірмашовым пляцы. У гэтым руху бралі ўдзел розныя пласты насельніцтва як заможнага, так і бядняцка-серадняцкага, асабліва важную ролю адыгрывалі жанчыны.

Для таго каб вярнуць зачыненыя храмы, веруючыя выкарыстоўвалі розныя метады: нелегальныя сходы (досыць шматлікія: ад 300 да 600 чалавек), звароты ў сельсаветы і раенныя выканаўчыя камітэты. У асобных выпадках, жадаючы вярнуць царкву, сяляне нават пагражалі мясцовым партыйным кіраўнікам. Так, 12 сакавіка 1930 г. ў с. Вялешкавічы Лезненскага раена натоўп ў колькасці каля 500 чалавек амаль не забіў настаўніка і рабочых, якія перабудоўвалі царкву пад клуб. Яны патрабавалі ад сельсавету звароту царквы і тых працаўнікоў, якія выступалі на сходзе за закрыцце цэркваў, а таксама і тых, якія працавалі рабочымі ў царкве па ўстройству сцэны. Гэты жа натоўп людзей разагнаў усіх працаўнікоў сельсавету і іншых актывістаў, калгаснікаў, разламалі дзверы ў царкве, зайшлі ўнутр, зламалі што было зроблена рабочымі, пасеклі тапарамі кажухі рабочых, валенкі, паламалі інсрумент і потым пачалі збіваць палкамі тых сялян, якія згаджаліся на сходах аб адняцці царквы ад веруючых [27, с. 134]. У выніку гэтага ў некаторых раенах Віцебскай акругі (Віцебскім, Сіроцінскім), мясцовыя ўлады змушаны былі вярнуць цэрквы.

Новая хваля рэлігійнага актыўнасці назіралася ў сувязі з надыходам Вялікадня. У адрозненні ад папярэдніх гадоў была зафіксавана вялікая наведвальнасць цэркваў. У Высачанскай царкве падчас начной службы 23 красавіка 1930 года прысутнічала каля 3000 чалавек [25, с. 415], у Віцебскай Сяменаўскай – 300 [25, с. 417]. У сельскай мясцовасці, дзе цэрквы былі зачынены, вернікі збіралі грошы на дарогу для дэлегатаў, якія запрасілі б святара правесці службу ў велікодныя святы. Нярэдка ў гэтыя дні сяляне збіраліся каля цэркваў. Напрыклад, у тым жа 1930 годзе ў Сянно з'ехаліся людзі не толькі з блізкіх весак, але і з Віцебскага і Чашніцкага раенаў.

Узмацніўся рух за вяртанне культавых будынкаў. Калі раней ен быў распаўсюджаны ў Лезненскім, Віцебскім і Сіроцінскім раенах, то зараз таксама ім быў ахоплены Гарадокскі і Бешанковіцкі раены. Там, дзе цэрквы былі вернутыя, святары нават прад'яўлялі іскі сельсаветам за пашкоджанне царкоўнай маемасці. Не жадаючы абвастраць сітуацыю, кіраўніцтвам БССР было дадзена распараджэнне ў некаторых месцах не перашкаджаць веруючым карыстацца тымі цэрквамі, пра зачыненне якіх няма пастановы ЦВК.

У 1929 – 1931 гг., падчас знаходжання на Віцебскай кафедры архіепіскапа Мікалая (Пакроўскага), протаіерэй Мікалай Акаловіч з'яўляўся памагатым свайму кіруючаму архірэю ў справе адраджэння зачыненых прыходаў і іх вяртанні з абнаўленчай юрысдыкцыі. У гэты час з абнаўленства атрымалася вярнуць каля 50 прыходаў. Часта протаіерэй Мікалай узначальваў урачыстыя набажэнствы ў зноў адчыненых цэрквах, як гэта было ў Дарогакупаўскай царкве, калі на набажэнства прыйшло да дзесяці тысяч чалавек [28, с. 10].

Такім чынам, у выніку такіх мерапрыемстваў шэрагі праваслаўнага духавенства прыкметна зменшыліся і па гэтай прычыне зачынілася шмат цэркваў. Акрамя гэтага ад царкоўных абшчын патрабавалася выкананне дамоў, якія тычыліся рамонту храма і там, дзе гэтыя ўмовы не выконваліся, гэтак жа зачыняліся храмы.

Даследаванне абнаўленства ў Віцебскай епархіі паказвае, што раскол не меў тут непахісных паслядоўнікаў сярод духавенства і веруючых, якія былі перакананы ў неабходнасці рэформаў у Царкве (хоць сустракаліся асобныя прыклады, калі духавенства чакала ўвасаблення хрысціянскіх ідэалаў з дапамогай савецкай улады), але быў створаны зверху атэістычнай уладай. Яны праследавалі агульную мэту – мадэрнізаваць рускае праваслаўе ў дачыненні да новых сацыяльных умоў, якія склаліся пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі. За гэтымі групамі замацавалася назва абнаўленчых, а за іх аб'яднаннем пад эгідай ВЦУ – абнаўленчай царквы.

Пераважная большасць духавенства і веруючых, дэзарганізаваная ў сітуацыі адсутнасці вышэйшай царкоўнай улады, калі і патрыярх Ціхан, і мясцовы кананічны архірэй Інакенцій (Ястрабаў) былі арыштаваны, патрапілі ў раскол змушана, не быўшы ідэйнымі прыхільнікамі абнаўленства, і неўзабаве вярнуліся ў патрыяршую Царкву.

Разумеючы вынікі наступстваў расколу, ціханаўцы неаднаразова выказваліся за аб'яднанне, патрабуючы пры гэтым, каб абнаўленцы прызналі сваю віну перад Царквой і ўвайшлі ў кананічнае адзінства са старацаркоўнікамі, прызнаючы ўладу патрыярха. Да згоды і супрацоўніцтву заклікалі і некаторыя абнаўленцы. У сярэдзіне 1926 г. епіскап Гаўрыіл (Свідэрскі) распачаў аб'яднанне з ціханаўцамі. Ен сабраў найболей аўтарытэтных і ўплывовых святароў для перамоў. Прыбыўшыя падтрымалі гэту ідэю, але казалі пра неабходнасць атрымання згоды ад веруючых і епіскапа-ціханаўца Інакенція (Лецяева), Такія паседжанні веруючых ў Віцебску правесці не атрымалася, але яны адбыліся ў Гарадку і Бешанковічах. Абнаўленцаў вінавацілі ў царкоўнай смуце, але ўсе ж пастанова пра царкоўны мір была прынята.

У канцы 1920-х гг. сярод партыйнай эліты пачаліся спрэчкі наконт далейшых адносін паміж дзяржавай і рэлігіяй. Адны заклікалі весці барацьбу з рэлігіяй на «культурным фронце». Прадстаўнікамі гэтага кірунку з'яўляліся Л.І. Рыкаў, М.І. Бухарын, А.У. Луначарскі. Прыхільнікам «культурнай барацьбы» з рэлігіяй супрацьстаяла іншая ідэалогія «ваяўнічага атэізму». Яна арыентавалася на выкарыстанне больш жорсткіх метадаў, лічачы, што барацьба з рэлігіяй з'яўляецца адной з формаў класавай барацьбы. На гэтых пазіцыя стаяў і І.В. Сталін.

Непасрэднай прычынай для наступу на царкву стаў хлебанарыхтоўчы крызіс 1928 г. Пачалі гучаць абвінавачванні ў адрас духавенства ў процідзеянні збожжанарыхтоўкам. Годам «вялікага пералому» становіцца 1929 г., калі канчаткова згортваецца НЭП і пачынаецца калектывізацыя. Прадстаўнікам царквы адводзіцца роля актыўнай контррэвалюцыйнай сілы, якая выступае супраць мерапрыемстваў дзяржавы.

Пасля змены дзяржаўнай палітыцы ў адносінах да абнаўленцаў у канцы 1920-х – пачатку 1930-х гг. яны, гэтак жа як і прыхільнікі патрыяршай Царквы, сталі ў масавым парадку падвяргацца арыштам і рэпрэсіям. Абнаўленства было ліквідавана сілавым шляхам у сувязі з прыняццем новага курсу дзяржаўна-царкоўнай палітыкі.

Значэнне абнаўленчага расколу для Рускай Праваслаўнай Царквы вялікае. Безумоўна, ен меў негатыўныя наступствы, паколькі спрыяў паслабленню царкоўнага адзінства, магчымасці супрацьстаяць атэістычнай палітыцы дзяржавы, у значнай ступені падрываў аўтарытэт духавенства сярод веруючых. Аднак стварэнне абнаўленчых структур мела і пазітыўныя наступствы, бо абнаўленцы першымі сталі буферам у барацьбе паміж кансерватыўным крылом Царквы і дзяржавай. Акрамя таго, абнаўленчы раскол паслужыў аздараўленню Царквы, абцяжаранай архірэйскай самаўпраўнасці і чыноўнічага бюракратызм.

ЛІТАРАТУРА

1. Шейкин, Г.Н. Полоцкая епархия / Г.Н. Шейкин. – Минск: Свято-Петро-Павловский собор, 1997. – 95 с.
2. Кривонос, Ф. Очерк из истории Витебска 20 – 30-х гг. ХХ ст. / Ф. Кривонос // Витебские епархиальные ведомости. – №1. – 2001. – С. 23 – 29.
3. Кривонос, Ф. У Бога мертвых нет. Неизвестные страницы из истории Минской епархии (1917 – 1939 годы) / Ф. Кривонос. – Минск: МФЦП, 2007. – 240 с.
4. Цыпин, В. История Русской Православной Церкви: Синодальный и новейший периоды / В. Цыпин. – М.: Изд-во Сретенского монастыря, 2007. – 816 с.
5. Шеленок, Д. Из истории Православной Церкви в Белоруссии (1922 – 1939) / Д. Шеленок. – М.: Крутицкое подворье, 2006. – 218 с.
6. Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці (ДАВВ). – Фонд 332. – Воп. 1. – Спр. 3.
7. ДАВВ. – Фонд 10050-п. – Воп. 1. – Спр. 410.
8. Горидовец, В. К истории обновленческого раскола в Витебске / В. Горидовец // Вестник церковной истории № 3(7). – 2007. – С. 157 – 166.
9. Православная церковь на Витебщине (1918 – 1991): док. и материалы / ред.-кол.: М.В. Пищуленок; сост. В.П. Коханко – Минск: НАРБ, 2006. – 365 с.
10. ДАВВ. – Фонд 332. – Воп. 1. – Спр. 1.
11. Левитин-Краснов, В. Очерки по истории русской церковной смуты / В. Левитин-Краснов, В. Шавров. – М.: Крутицкое подворье 1996. – 670 с.
12. Занальны дзяржаўны архіў у г. Полацку. – Фонд 51. – Воп. 1. – Спр. 116.
13. ДАВВ. – Фонд 332. – Воп. 1. - Спр. 9.
14. ДАВВ. – Фонд 1821. – Воп. 1. – Спр. 693.
15. ДАВВ. – Фонд 332. – Воп. 1. – Спр. 10.
16. Гавриил (Свидерский). Русское Православие [Электронный ресурс] / ред. Андреев Г., Web-мастер. Щерба К. – Электрон.дан. – М.: SK Communication International, 2008. – Режим доступа: http://www.ortho-rus.ru/cgi-bin/ps_file.cgi?2_824, свободный. – Яз. рус.
17. ДАВВ. – Фонд 332. – Воп. 1. – Спр. 13.
18. ДАВВ. – Фонд 10051-п. – Воп. 1. – Спр. 380.
19. Александр (Щербаков). Русское Православие [Электронный ресурс] / ред. Андреев Г., Web-мастер. Щерба К. – Электрон.дан. – М.: SK Communication International, 2008. – Режим доступа: http://www.ortho-rus.ru/cgi-bin/ps_file.cgi?2_223, свободный. – Яз. рус.
20. Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5. Беларусь у 1917 – 1945 гг. / А. Вабішчэвіч [і інш.]; рэдкал. М. Касцюк (гал.рэдактар) [і інш.] – Мінск: Экаперспектыва, 2006. – 613 с.
21. ДАВВ. – Фонд 10051-п. – Воп. 1. – Спр. 809.
22. Маракоў, Л.У. Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна- і царкоўнаслужыцелі Беларусі 1917 – 1967. // Л.У. Маракоў. – У 2 т. Т. 2. Лабяк-Яскевіч. – Мінск: Беларускі Экзархат, 2007. – 464 с.
23. Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусі (НГАБ). – Фонд 2786. – Воп. 1. – Спр. 467.
24. Пищуленок, М.В. Православная церковь на Витебщине в 1920-х – начале 1930-х годов (по материалам государственного архива Витебской области) / М.В. Пищуленок // Веснік Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта. – 1996. – №1. – С. 12 – 16.
25. ДАВВ. – Фонд 10050-п. – Воп. 1. – Спр.747.

26. Занальны дзяржаўны архіў у г. Полацку. – Фонд 104. – Воп. 1. – Спр. 62а.
27. Нацыяльны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ) – Фонд 4-п. – Воп. 1. – Спр. 4592.
28. Житие Святого священномученика Николая, пресвитера Витебского / Сост. иерей Горидовец В. – Витебск: 2007. – 15 с.

## МІЖКАНФЕСІЙНЫЯ АДНОСІНЫ Ў ПОЛАЦКІМ ВАЯВОДСТВЕ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XVI – ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVII СТАГОДДЗЯ: ГІСТАРЫЯГРАФІЧНЫ АНАЛІЗ

**канд. філасоф. навук, дац. *І.А. БОРТНІК***
***(Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт)***

*Даследуецца гістарыяграфія міжканфесійных адносін у Полацкім ваяводстве ў другой палове XVI – першай палове XVII стст. Разглядаюцца розныя гістарыяграфічныя традыцыі ў вывучэнні пазначанай праблемы, перадусім расійская, польская і беларуская, на розных этапах развіцця гістарычнай навукі. Адзначаюцца дасягненні ў межах розных гістарычных школ ў даследаванні розных пытанняў канфесійнай гісторыі Полаччыны. У той жа час вызначаецца адсутнасць комплекснага аналізу міжканфесійных адносін рэгіену на працягу другой паловы XVI – першай паловы XVII стст. Таксама паказана, што гістарычны аналіз пазначанай праблемы паступова эвалюцыянаваў ад канфесійнай заангажаванасці, характэрнай для прац расійскіх і польскіх навукоўцаў XIX – пачатку XX стст., да аб'ектыўнага аналізу праблем у сучаснай гістарыяграфіі, прадстаўленай рознымі метадалагічнымі накірункамі.*

**Уводзіны.** Праблема міжканфесійных адносін у Полацкім ваяводстве ў другой палове XVI – першай палове XVII стст. да гэтага часу не была прадметам глыбокага комплекснага даследавання. У той жа час згадкі пра пэўныя аспекты канфесійнай гісторыі рэгіена прысутнічаюць у розных навуковых працах.

**Асноўная частка.** Пачаткам гістарыяграфіі праблемы можна лічыць рэлігійна-палемічную літаратуру XVII ст., у якой асвятляліся пераважна падзеі, звязаныя з вострым канфліктам паміж праваслаўнымі і уніятамі ў Полацкай епархіі падчас знаходжання на чале яе Іасафата Кунцэвіча (1618 – 1623 гг.). Пры гэтым дадзеная літаратура мела не навуковы, а канфесійна-прапагандысцкі характар. У яе межах ставілася задача паказаць у пазітыўным святле дзеянні і ўчынкі аднаверцаў і, наадварот, дэманізаваць дзеянні і ўчынкі праціўнікаў. Таму ў праваслаўнай літаратуры галоўная ўвага канцэнтруецца на фактах прымусу ўніятаў і рымскіх каталікоў адносна праваслаўных, а таксама на трываласці ў веры праваслаўных [1 – 3], а ва ўніяцкай і рымска-каталіцкай літаратуры – на факце пакутніцтва архіепіскапа І. Кунцэвіча, а таксама жортскасці і бунтаўнічасці праваслаўных [4 – 7]. У XVIII ст. першая гістарычная праца, прысвечаная развіццю каталіцызму ў ВКЛ, была падрыхтавана езуітам С. Растоўскім. У ей разглядаюцца падзеі, звязаныя са з'яўленнем езуітаў у Полацку, заснаваннем імі калегіума і звязанымі з гэтым канфліктамі ў горадзе [8]. Дадзеная праца мае ў большай ступені апавядальны, а не навуковы характар і накіравана на абарону канфесійных інтарэсаў.

Пачатак навуковага разгляду міжканфесійных адносін у Полацкім ваяводстве ўзыходзіць да XIX ст. У гэты час складваюцца дзве асноўныя нацыянальныя традыцыі ў гістарыяграфіі рэлігійна-царкоўных адносін у Рэчы Паспалітай – расійская і польская.

У другой палове XIX – пачатку XX стст. з'яўляецца вялікая колькасць прац расійскіх даследчыкаў, прысвечаных гісторыі міжканфесійных адносін у Рэчы Паспалітай. Буйнейшымі сярод іх выступаюць творы В. Беднова, С. Голубева, П. Жуковіча, М. Каяловіча, Г. Кіпрыяновіча, Ю. Крачкоўскага, Макарыя, К. Харламповіча, І. Чыстовіча [9 – 21]. Узнікненне гэтых твораў адбывалася сінхронна з актыўнай археаграфічнай працай і шырокім выданнем крыніц, на якія абапіраліся ўзгаданыя творы. Перавага ў даследаваннях належала гісторыі праваслаўнай царквы, яе адносін з іншымі канфесіямі, канфліктаў паміж уніятамі і праваслаўнымі ў XVII ст. Усе працы гэтага перыяду мелі ў большай або меншай ступені тэндэнцыйны, канфесійна-апалагетычны характар. Іх мэтай выступала абгрунтаванне наступных тэзісаў:

– праваслаўе з'яўляецца спрадвечнай рэлігіяй для ўсходнеславянскага насельніцтва Рэчы Паспалітай («Заходняй Русі» паводле тэрміналогіі царысцкай расійскай гістарыяграфіі);

– праваслаўная царква пасля прыняцця ўладамі ВКЛ каталіцызму знаходзілася ў прыніжаным, дыскрымінуемым становішчы;

– увядзенне Берасцейскай царкоўнай уніі было выклікана агрэсіўнымі планамі каталіцкай царквы і ўлад Рэчы Паспалітай, накіраванымі на паланізацыю і акаталічванне ўсходнеславянскага («заходнерускага») насельніцтва, і ажыццяўлялася пераважна прымусовымі і гвалтоўнымі сродкамі;

– ніякія канфесіі, акрамя праваслаўнай, не мелі трывалых пазіцый сярод усходнеславянскага насельніцтва Рэчы Паспалітай; праваслаўныя непахісна і паслядоўна трымаліся сваей веры.

Нягледзячы на тэндэнцыйнасць, аўтарамі гэтых твораў была ўведзена ў навуковы зварот вялікая колькасць фактычнага матэрыялу. У дачыненні аналізу гісторыі праваслаўнай царквы на Полаччыне найбольш інфарматыўнай з'яўляецца праца Макарыя. У яе межах адлюстроўваюцца асаблівасці функцыянавання Полацкай праваслаўнай епархіі, месца і роля полацкіх епіскапаў у сістэме праваслаўнай іерахіі

Рэчы Паспалітай, эканамічнае і юрыдычнае становішча праваслаўнага духавенства, некаторыя факты, якія датычаць узаемаадносін паміж духавенствам, шляхтай і мяшчанствам у Полацкім ваяводстве ў XVI ст. Таксама ў дадзенай працы змяшчаюцца звесткі пра дзейнасць праваслаўных культавых устаноў у Полацку, асобных праваслаўных епіскапаў. Макарый аналізуе працэсы замацавання езуітаў на Полаччыне і іх ўзаемадачыненняў з праваслаўнай супольнасцю. У дадзенай працы маюцца звесткі пра «каляндарныя беспарадкі» у Полацку ў сярэдзіне 1580-х гг.; пры гэтым адзначаецца, што канфлікт быў выкліканы менавіта імкненнем праваслаўных да таго, каб католікі адзначалі святы паводле старога стылю, што выклікала санкцыі з боку цэнтральнай дзяржаўнай улады. Асвятляецца ў асноўных рысах становішча праваслаўнай царквы на Полаччыне пасля Берасцейскай уніі. Выразна вылучаюцца пры гэтым перыяд да заняцця пасады полацкага уніяцкага архіепіскапа Іасафатам Кунцэвічам, калі прызнанне уніі ў Полацкай епархіі мела чыста намінальны характар, і перыяд прымусовага навяртання праваслаўных Полаччыны ва ўніяцтва, пачынаючы з дзейнасці І. Кунцэвіча [17 – 18].

Станаўленне ўніяцкай царквы ў Рэчы Паспалітай ўпершыню ў расійскай гістарыяграфіі было дастаткова падрабязна даследавана ў творах М. Каяловіча [14; 15]. Нягледзячы на тое, што М. Каяловіч адзначае спалучэнне гвалтоўных і мірных сродкаў пры распаўсюджанні ўніяцтва [15, с. 38 – 39], увага акцэнтуецца ім на фактах прымусу і ўціску ў дачыненні праваслаўных. Даследаванне міжканфесійнай сітуацыі ў Полацкім ваяводстве абмяжоўваецца аналізам праваслаўна-уніяцкага канфлікту падчас дзейнасці І. Кунцэвіча (1618 – 1623).

Неабходна адзначыць, што супярэчлівая асоба І. Кунцэвіча выклікала значны інтарэс для расійскіх гісторыкаў. Патлумачана гэта можа быць, з аднаго боку, імкненнем да канструявання прапагандысцкага вобразу «фанатычнага ворага праваслаўя», у дзейнасці якога канцэнтравана адлюстравалася сутнасць уніяцтва як сістэмы гвалту над праваслаўным «заходнерускім» насельніцтвам, з другога боку, задачамі палемікі з каталіцкай думкай, у межах якой яшчэ з XVII ст. ствараўся і шырока прапагандаваўся міф пра І. Кунцэвіча як галоўнага ўніяцкага святога-пакутніка. Рэлігійна-царкоўная дзейнасць І. Кунцэвіча, асабліва на пасадзе полацкага уніяцкага архіепіскапа стала прадметам даследаванняў К. Гаворскага, П. Жуковіча, М. Каяловіча, Г. Кіпрыяновіча, А. Хайнацкага [22 – 26].

Супярэчнасці паміж праваслаўнымі і ўніятамі ў Полацку разглядаліся ў фундаментальным даследаванні С. Голубева [10; 11], прысвечаным дзейнасці кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы. У працы ўзгадваюцца канфлікт паміж полацкім ўніяцкім архіепіскапам Антоніем Сялявам і магілеўскім праваслаўным епіскапам Сільвестрам Косавым, барацьба паміж праваслаўным і ўніяцкім мяшчанствам за права займання пасад у «рускай» частцы полацкага магістрату ў 1630-1640-я гг.

У працы П. Жуковіча [12] даследуецца змаганне праваслаўнай шляхты ў парламенцкіх установах Рэчы Паспалітай за палітычныя правы сваей канфесіі. П. Жуковіч упершыню праводзіць аналіз інструкцыі полацкага сойміка 1597 г. [12, с. 239 – 241]. У працы разглядаюцца таксама ў дастаткова сціслай форме маемасны канфлікт паміж часткай полацкай шляхты і езуітамі, удзел полацкай, у тым ліку праваслаўнай, шляхты ў рокашы 1606 – 1609 гг. [12, с. 441, 487].

Гісторыя іншых канфесій не знаходзіла дастатковай увагі з боку расійскіх гісторыкаў. Асобныя звесткі пра становішча каталіцкай канфесіі на Полаччыне змешчаны ў працах М. Любовіча, Д. Талстога [27 – 29]. Кароткая інфармацыя пра дзейнасць полацкага кальвінісцкага збору маецца ў артыкуле К. Гаворскага [30, с. 22 – 28]. Некаторыя звесткі пра ўзнікненне іўдзейскай абшчыны ў Полацку рэпрэзентуе праца С. Бершадскага [31].

Ва ўсіх вышэй узгаданых працах гісторыя міжканфесійных адносін на Полаччыне разглядалася ў кантэксце агульнай гісторыі Рэчы Паспалітай або Вялікага Княства Літоўскага, а таму яе даследаванне мела пераважна фрагментарны характар; аналізаваліся пераважна найбольш вядомыя факты з канфесійнай гісторыі Полаччыны ў якасці дэманстрацыі прыкладаў для абгрунтавання тэзісаў, змешчаных у дадзеных працах.

Першай спробай даследавання, прысвечанага непасрэдна канфесійнай гісторыі Полаччыны, з'яўляецца артыкул І. Бяляева [32]. У ім разглядаецца гісторыя полацкай праваслаўнай царквы да Берасцейскай уніі, ў прыватнасці палітыка-прававое і сацыяльна-эканамічнае становішча полацкіх епіскапаў, а таксама саборных і прыходскіх цэркваў, манастыроў, брацтваў. Аўтар адзначае паступовы заняпад палітычнай і эканамічнай ролі полацкіх епіскапаў у рэгіене на працягу XV – XVI стст., вылучае сутнасныя статусныя адрозненні культавых устаноў на дзяржаўных землях і ў прыватнаўласніцкіх маентках, паказвае значную ролю свецкіх асоб у царкоўным жыцці. Разам з тым дадзеная праца абапіраецца на дастаткова вузкую факталагічную базу; многія тэзісы абапіраюцца на факты, якія датычаць гісторыі царквы ў іншых рэгіенах ВКЛ. Так, напрыклад, параграф, прысвечаны даследаванню брацтваў, уключае ў сябе аналіз устаўнай граматы віленскаму брацтву, на падставе чаго робіцца спрэчная выснова аб існаванні такога ж брацтва ў Полацку [32, с. 298 – 306].

Істотнае значэнне для вывучэння гісторыі міжканфесійных адносін на Полаччыне мела навуковая дзейнасць А. Сапунова. Яму належыць шэраг прац, у якіх даследуюцца розныя аспекты развіцця праваслаўнай, рымска-каталіцкай, уніяцкай канфесій на тэрыторыі Полаччыны і іншых земляў паўночна-усходняй часткі ВКЛ [33 – 35]. У іх на аснове вядомых на той час крыніц адлюстраваны асноўныя факты канфесійнай гісторыі Полаччыны. У асобнай працы [33] А. Сапуноў даследуе ўзнікненне езіуцкага ася-

родка ў Полацку і выкліканыя гэтым міжканфесійныя канфлікты. У той жа час амаль па-за ўвагай А. Сапунова заставаліся пытанні міжканфесійных узаемаадносін у асяроддзі шляхты, мяшчанства, канфесійнага аблічча ўладных структур розных узроўняў. Аўтар у сваіх працах аддаваў перавагу канстатацыі фактаў і адносна няшмат прысвячаў увагі тэарэтычнаму аналізу пастаўленых праблем.

Гісторыя езуітаў на Полачыне і іншых тэрыторыях усходняй часткі ВКЛ стала прадметам даследавання І. Мітрашэнкі [36]. У ім на аснове крыніц з расійскіх бібліятэк праведзены аналіз працэсаў станаўлення і ўмацавання езуіцкай арганізацыі ў Полацку. Важнае месца надаецца выяўленню прычын і механізмаў канфліктнай сітуацыі паміж езуітамі і праваслаўным насельніцтвам Полацка напрыканцы XVI ст., а таксама вызначэнню істотнай ролі органаў вышэйшай дзяржаўнай улады ў падтрымцы езуітаў падчас дадзенага канфлікта. Разглядаючы гісторыю полацкіх езуітаў у XVII ст., І. Мітрашэнка вызначае шэраг фактараў, якія, на яго думку, садзейнічалі колькаснаму і якаснаму росту ўплыву дадзенага ордэна на Полаччыне і ў цэлым на ўсходзе ВКЛ: шырокая матэрыяльная і ідэалагічная падтрымка з боку органаў дзяржаўнай улады і ўплывовых магнатаў; развіцце езуіцкай сацыяльна-культурнай інфраструктуры (калегіум, тэатр, ідовішчныя працэсіі, дабрачынная праца); выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу ў прыватных уладаннях каталіцкай шляхты; непаўнапраўнае юрыдычнае і гаротнае матэрыяльнае становішча праваслаўнай царквы, якая, такім чынам, не магла нароўні канкураваць з езуітамі і г.д. Агульныя высновы аўтара наконт ролі езуітаў у гісторыка-культурным развіцці Полаччыны характарызуюцца вострай антыкаталіцкай скіраванасцю, прадыктаванай ідэалагічнымі, а не навуковымі меркаваннямі.

У XIX – пачатку XX стст. фарміруецца польская гістарыяграфічная традыцыя ў даследаванні канфесійнай гісторыі Рэчы Паспалітай. У адрозненне ад расійскай галоўная ўвага надавалася ў ей гісторыі рымска-каталіцкай і ўніяцкай канфесій. У сярэдзіне XIX ст. звесткі пра дзейнасць каталіцкіх культавых устаноў на тэрыторыі былога ВКЛ змяшчаюцца ў гісторыка-статыстычнай працы М. Баліньскага; у тым ліку там пададзена інфармацыя пра Полацк, Дзісну, Глыбокае, Беразвечча, Друсу, Прыдруйе [37, с. 486 – 490].

З другой паловы XIX – пачатку XX ст. неабходна вылучыць працы С. Залэнскага, Я. Курчэўскага, Э. Лікоўскага, А. Прахаскі, Ю. Пелеша [38 – 42]. Як і даследаванні расійскіх гісторыкаў, яны мелі пераважна тэндэнцыйны, канфесійна заангажаваны характар. Можна ў сціслым выглядзе вылучыць іх асноўныя тэзісы:

– каталіцызм з'яўляўся галоўным фактарам замацавання на землях ВКЛ асноў заходнееўрапейскай цывілізацыі і культуры, іх пераходу на новы этап гістарычнага развіцця;

– праваслаўная царква напярэдадні Берасцейскай уніі знаходзілася ў стане ідэйнага, арганізацыйнага і духоўнага крызісу, адзіным выйсцем з якога выступала толькі аб'яднанне з рымска-каталіцкай царквой;

– увядзенне ўніяцтва на ўсходніх землях Рэчы Паспалітай стала вынікам разважлівых крокаў праваслаўных епіскапаў і прынесла дабратворны ўплыў на сацыяльна-культурнае жыцце грамадства;

– умацаванне пазіцый рымска-каталіцкай і ўніяцкай царквы адбывалася мірнымі сродкамі; далучэнне да гэтых канфесій насіла выключна добраахвотны характар; у той жа час дзейнасць праваслаўнай супольнасці ў адносінах да рымскіх католікаў і ўніятаў мела крайне інталерантны і нярэдка гвалтоўны характар.

Што датычыць разгляду міжканфесійных адносін на Полаччыне ў першай палове XVII ст., то ен пераважна канцэнтраваўся на дзейнасці І. Кунцэвіча, які прэзентаваўся як узор святога пакутніка, што быў створаны яшчэ ў літаратуры XVII ст. Пры гэтым акцэнтавалася жорсткасць і бесчалавечнасць ягоных забойцаў. Агульнапрынятым таксама становіцца сцвярджэнне пра істотны штуршок у распаўсюджанні уніі на тэрыторыі Полацкай епархіі пасля пакутніцкай смерці І. Кунцэвіча. Неабходна адзначыць, што цікавасць да асобы І. Кунцэвіча была абумоўлена не ў малой ступені патрэбамі палемікі з расійскімі гісторыкамі. Гэта выклікала з'яўленне прац апалагетычнага характару, прысвечаных жыццю і дзейнасці І. Кунцэвіча [43; 44].

Важныя звесткі пра заснаванне і дзейнасць рымска-каталіцкіх і ўніяцкіх касцелаў і кляштароў на тэрыторыі Полаччыны змяшчаюцца ў даследаванні па гісторыі Віленскага каталіцкага біскупства, Я. Курчэўскага [38, с. 180, 220 – 222, 258 – 267, 269]. Гісторыя станаўлення езуіцкага калегіума ў Полацку разглядаецца ў працы Я.М. Гіжыцкага [45].

У сярэдзіне XIX ст. у польскай гістарыяграфіі з'яўляюцца працы пратэстанцкіх гісторыкаў В. Красіньскага [46], Ю. Лукашэвіча [47; 48], Г. Мерчынга [49], прысвечаныя гісторыі рэфармацыйнага руху ў Рэчы Паспалітай. У гэтых працах падаюцца звесткі аб дзейнасці евангеліцка-рэфармацкіх збораў у Полацку і Глыбокім у канцы XVI – першай палове XVII стст. на аснове аналізу актаў сінодаў Літоўскіх рэфармацкіх збораў.

У міжваенны перыяд (1920 – 1930-я гг.) даследаванні ў рэчышчы канфесійнай гісторыі Рэчы Паспалітай праводзіліся пераважна ў межах польскай гістарычнай навукі. У гэты перыяд паўсталі фундаментальныя працы К. Лявіцкага, К. Хадыніцкага, О. Халецкага, прысвечаныя гісторыі праваслаўя і ўніяцтва ў Рэчы Паспалітай [50 – 52]. Разам з тым полацкай тэматыцы ў іх не было прысвечана істотнага месца. К. Хадыніцкі ў сваей манаграфіі каротка ўзгадвае пра з'яўленне езуітаў у Полацку і супрацьдзеянне гэтаму мясцовых пратэстантаў, а таксама пра забойства І. Кунцэвіча [50, с. 230 – 231, 443 – 444]. Асаблівасцю ў параўнанні з ранейшымі даследаваннямі будзе тое, што дадзеная праца напісана з пазаканфесійных, аб'ектыўных пазіцый. У той жа час К. Хадыніцкі адстойвае тэзіс ранейшай польскай гістарыяграфіі пра тое, што пакутніцкая смерць І. Кунцэвіча прывяла да значнага павелічэння прыхільнікаў уніяцтва на ўсходніх землях ВКЛ [50, с. 444].

У расійскай гістарычнай навуцы пасля рэвалюцыі 1917 г. інтарэс да канфесійнай гісторыі значна зменшыўся. Гэта тлумачылася пераважна антырэлігійным характарам пануючай бальшавіцкай ідэалогіі, у сувязі з чым праблемы міжканфесійных адносін не лічыліся актуальнымі.

У першай палове XX ст. пачынае складвацца беларуская гістарыяграфічная школа. У межах яе знайшла адлюстраванне і канфесійная гісторыя ВКЛ. Аднак першыя працы мелі пераважна абагульняючы характар і не закраналі ў значнай ступені рэгіянальныя праблемы. Адзінай значнай працай па гісторыі Полаччыны ранняга Новага часу ў беларускай гістарыяграфіі міжваеннага перыяду з’яўляецца вялікі артыкул У. Пічэты, надрукаваны ў зборніку «Чатырохсотлецьце беларускага друку» 1926 г. [53, с. 76 – 113] і перадрукаваны пазней у зборніку твораў У. Пічэты ў 1961 г. Адзін з раздзелаў у ім прысвечаны становішчу праваслаўнай царквы ў Полацкай зямлі да сярэдзіны XVI ст. [54, с. 257 – 262]. Аўтар адзначае шырокую адміністрацыйна-судовую аўтаномію праваслаўнай царквы ў гэты перыяд, што пацвярджае, на яго думку, прывілей Полацкай зямлі, выдадзены Жыгімонтам Старым у 1511 г. У той жа час ен адзначае, што ў пачатку XVI ст. у Полацку ўжо з’яўляецца каталіцкая абшчына, якая карыстаецца падтрымкай з боку дзяржавы. Адносіны паміж дзвюма канфесіямі, паводле У. Пічэты, мелі да сярэдзіны XVI ст. раўнапраўны характар (у якасці яскравага прыкладу прыводзіцца парытэтная мадэль займання месцаў у гарадской радзе Полацка згодна з прывілеем гораду на магдэбургскае права).

У 1950 – 1980-я гг. з’явіліся працы па гісторыі каталіцкай экспансіі (Я. Мараша [55 – 57]), праваслаўнай царквы на землях Беларусі (М.Корзуна [58]). У гэтых працах, а таксама ў даследаваннях А. Грыцкевіча [59] і З. Капыскага [60], прысвечаных сацыяльна-палітычнай гісторыі гарадоў Беларусі ў часы ВКЛ, закраналіся некаторыя аспекты, звязаныя з міжканфесійнай сітуацыяй на Полаччыне ў другой палове XVI – першай палове XVII стст. Абагульненне звестак пра міжканфесійныя адносіны ў Полацку ў часы ВКЛ і Рэчы Паспалітай, вядомых з ранейшых даследаванняў, змяшчаецца ў гістарычным нарысе пра Полацк [61]. Характарыстыка рэлігійных адносін у Рэчы Паспалітай у працах беларускіх гісторыкаў у гэты перыяд фактычна грунтвалася на рэцэпцыі асноўных пастулатаў дарэвалюцыйнай расійскай гістарыяграфіі, дапоўненых метадалогіяй класавага падыходу. У такім рэчышчы дзейнасць рымска-каталіцкіх і ўніяцкіх устаноў інтэрпрэтавалася як «феадальна-каталіцкая рэакцыя», а праваслаўных – як «барацьба супраць феадальна-прыгонніцкага і нацыянальна-рэлігійнага прыгнету».

Дадзеныя погляды знайшлі вострую крытыку ў эміграцкай беларускай гістарыяграфіі. Аднак яна ў сваю чаргу таксама абапіралася на гістарычныя міфы і тэндэнцыйнае адлюстраванне рэчаіснасці. Яскрава гэта заўважна ў працы В. Пануцэвіча, прысвечанай дзейнасці І. Кунцэвіча [62], у якой аўтар выступае з выразна праўніяцкіх пазіцый і замоўчвае факты, што не ўпісваюцца ў ягоную ідэалагічную схему.

Сацыяльна-палітычныя змены ў беларускім грамадстве на мяжы 1980 – 1990-х гг. прывялі да значных трансфармацый у межах гістарычнай навукі. У гістарыяграфіі незалежнай Беларусі канфесійная гісторыя становіцца адной з прыярытэтных тэм. Пры гэтым цікавасць набывае і рэгіянальная тэматыка гісторыі рэлігійных адносін. Сярод іх трэба вылучыць манаграфію С. Тарасава [63], артыкулы В. Вароніна [64 – 66], В. Галубовіча [67 – 69], Л. Івановай [70; 71].

У працы С. Тарасава даследуецца гісторыя Полацка ў Сярэднявеччы і раннім Новым часе пераважна на аснове археалагічных крыніц. З іх дапамогай устанаўліваецца лакалізацыя шэрагу манументальных рэлігійных забудоў у горадзе ў XVI – XVI стст. [63].

У артыкуле В. Вароніна, прысвечаным палітычнаму ладу Полацкага ваяводства ў першай палове XVI ст., адзначалася вельмі важная роля праваслаўных архіепіскапаў у грамадска-палітычным жыцці ваяводства; указвалася на права ўдзелу мясцовых баяр-шляхты у абранні епіскапаў, а таксама ігуменаў мясцовых манастыроў [64]. У іншым артыкуле В. Варонін на аснове аналізу крыніц абагульняе інфармацыю пра дзейнасць праваслаўных цэркваў і манастыроў у Полацку ў XVI ст., падае кароткі агляд іх гісторыі з указаннем іменаў усіх вядомых святароў і ігуменаў [66]. Яшчэ адзін артыкул дадзенага аўтара прысвечаны даследаванню ідэйна-культурнага жыцця на Полаччыне ў XVI ст. [65]. Ен адзначае, што праваслаўная царква да канца XVI ст. адыгрывала надзвычай важную ролю ў захаванні полацкіх рэгіянальных традыцый: «Саматоеснасць палачан, іх рэгіянальная самасвядомасць падтрымліваліся тым фактам, што землі полацкіх манастыроў і цэркваў, а магчыма таксама архіепіскапаў, лічыліся ўласнасцю ўсяго полацкага грамадства, супольнасці «палачан» [65, с. 216].

У артыкулах В. Галубовіча даследавалася канфесійная праблематыка на сойміках Полацкага ваяводства, інструкцыі якіх захаваліся ў архівах. Дадзенаму аўтару належыць некалькі прац, у якіх падрабязна аналізуецца змест полацкіх інструкцый першай паловы XVII ст. Даследчык робіць выснову аб тым, што полацкая шляхта да сярэдзіны XVI ст. была амаль выключна праваслаўнай па канфесійнай прыналежнасці; прыхільнікі каталіцызму не ўтваралі для яе відавочнай канкурэнцыі. Распаўсюджанне рэфармацыйных ідэй на Полаччыне спрыяла таму, што пратэстанты папаўнялі свае шэрагі за кошт праваслаўнай шляхты. Наступ уніяцкай царквы на Полаччыне спачатку ўспрымаўся адмоўна. Мясцовы соймік на працягу першых чатырох дзесяцігоддзяў уніі выступаў у падтрымку праваслаўнай царквы і перыядычна – пратэстантаў. На працягу 1630 – 1640-х гг. адбыліся змены, у выніку якіх мясцовая ўстанова шляхецкага самакіравання апынулася пад кантролем уніятаў і рымскіх католікоў [67 – 69].

У артыкулах Л. Івановай на аснове сістэматызацыі вядомых на гэты час крыніц ажыццеўлена даследаванне працэсаў фарміравання і развіцця пратэстантызму на Полаччыне [70; 71].

Узгадкі пра рэлігійныя адносіны на Полаччыне ў разглядаемы перыяд маюцца таксама ў працах, прысвечаных агульнабеларускай гісторыі духоўнай культуры. Сярод іх неабходна адзначыць манаграфіі Т. Бліновай, Г. Галенчанкі, І. Марзалюка, С. Марозавай [72 – 75].

З часоў «перабудовы» актывізуецца інтарэс да канфесійнай гісторыі Рэчы Паспалітай у межах расійскай і ўкраінскай гістарычнай навукі. Аднак пра міжканфесійныя адносіны ў Полацкім ваяводстве ў іх амаль не ўзгадваецца. Выключэнне складаюць артыкулы расійскага гісторыка А. Вернікоўскай, якая звяртаецца да даследавання праваслаўна-уніяцкага канфлікту ў Полацкай епархіі ў 1618-1623 гг., спрабуе вызначыць яго прычыны і механізмы дзеяння [76; 77].

Канфесійная сітуацыя ў Полацку ў першай палове – сярэдзіне XVI ст. разглядаецца ў працы Д. Аляксандрава і Д. Валадзіхіна ў кантэксце аналізу геапалітычнага становішча Полацка ў супрацьстаянні ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы [78]. Істотная ўвага надаецца аўтарамі асэнсаванню канфесійнага аспекту кампаніі маскоўскіх войскаў зімой 1562/1563 г. падчас Інфлянцкай вайны, якая завяршылася захопам Полацка. Яны адзначаюць шырокае распаўсюджанне ідэй Рэфармацыі ў Полацку ў гэты перыяд і выкарыстанне дадзенага фактару маскоўскімі ўладамі ў ідэалагічных мэтах; апошнія абгрунтоўвалі дадзены паход як вызваленне праваслаўных з-пад няволі «ератыкоў». Таксама ў дадзенай працы закранаецца пытанне пра масавыя забойствы каталіцкіх манахаў – бернардзінаў і яўрэяў пасля захопу Полацка маскоўскімі войскамі; аўтары на аснове аналізу крыніц падвяргаюць сумненню факты пра сплانаваны рэлігійны генацыд, аднак, не выключаюць магчымасці шматлікіх забойстваў паводле рэлігійнай прыкметы ва ўмовах ваеннага хаосу.

У межах польскай гістарыяграфіі ў другой палове XX – пачатку XXI стст. выйшла вялікая колькасць прац, прысвечаных канфесійнай гісторыі Рэчы Паспалітай разглядаемага перыяду. Аднак у большасці з іх даследчыцкая ўвага сканцэнтравана на рэлігійных адносінах у Польскім каралеўстве, у меншай ступені – Вялікім Княстве Літоўскім. Значных прац, непасрэдна прысвечаных полацкаму рэгіену, няма. Аднак у той жа час канфесійная праблематыка ў Полацкім ваяводстве ў той ці іншай ступені закранала ся ў працах Г. Візнэра, Т. Жыхевіча, М. Космана, Т. Кэмпы, М. Ледке, А. Мірановіча, Л. Ярміньскага [79 – 91].

У першую чаргу ў гэтай сувязі неабходна адзначыць буйную манаграфію Т. Кэмпы [84], у якой прааналізаваны ўзаемаадносіны паміж пратэстанцкай і праваслаўнай супольнасцю ў Рэчы Паспалітай у канцы XVI – першай палове XVII стст., а таксама шэраг ягоных артыкулаў, прысвечаных канфесійным адносінам на ўсходніх тэрыторыях ВКЛ [79 – 83]. Даследуючы працэс фарміравання палітычнага саюзу праваслаўных і пратэстантаў у Рэчы Паспалітай дзеля абароны рэлігійных свабод, Т. Кэмпа адначасова паказвае тое, якім чынам дадзены працэс ажыццяўляўся ў рэгіенах. Галоўным матэрыялам для гэтага служылі інструкцыі шляхецкіх соймікаў. У манаграфіі прааналізаваны вядомыя інструкцыі полацкіх соймікаў 1597, 1598, 1606, 1607, 1611, 1632 гг. [84, с. 115, 143 – 144, 223, 239 – 240, 266 – 267, 403 – 404]. У іх змесце заўседы адлюстроўваліся патрабаванні захавання Варшаўскай канфедэрацыі, а таксама непарушнасці правоў праваслаўнай царквы. З гэтага можна зрабіць выснову пра цеснае супрацоўніцтва праваслаўнай і пратэстанцкай шляхты ў Полацкім ваяводстве пры пераважна талерантнай пазіцыі каталіцкай шляхты, што мела месца прынамсі да сярэдзіны 1630-х гг. Асабліва Т. Кэмпа адзначае ролю актыўнага палітычнага дзеяча на мяжы XVI – XVII стст., полацкага шляхціца П. Стаброўскага ў фарміраванні праваслаўна-пратэстанцкага палітычнага саюзу не толькі ў рэгіене, але і на агульнадзяржаўным узроўні [84, с. 150, 155, 205, 287]. Істотнае месца як у сваей манаграфіі, так і ў шэрагу асобных артыкулаў Т. Кэмпа прысвячае аналізу вядомага праваслаўна-уніяцкага канфлікту 1618 – 1623 гг., які даследуецца з аб'ектыўных, пазаканфесійных пазіцый. Ен адзначае, што да часоў уладыцтва І. Кунцэвіча ўніяцтва існавала ў Полацкай епархіі фактычна толькі намінальна. Шырокае звяртанне І. Кунцэвіча да адміністрацыйных метадаў, а таксама яго супрацьстаянне з прыхільнікамі альтэрнатыўнай праваслаўнай іерархіі, адноўленай у 1620 г., выклікалі глыбокі міжканфесійны канфлікт, які працягваўся і пасля забойства І. Кунцэвіча ў 1623 г., аднак у больш памяркоўнай форме. У сваіх працах Т. Кэмпа адмаўляе традыцыйны пастулат польскай гістарыяграфіі пра тое, што гібель І. Кунцэвіча выклікала хуткае развіцце ўніяцтва ва ўсходніх землях ВКЛ. На яго думку, нягледзячы на адміністрацыйныя і прапагандысцкія мерапрыемствы ўніяцкага духавенства ў 1620 – 1640-я гг., істотных поспехаў яно не дасягнула. Пацвярджэннем гэтаму выступае тое, што пасля пашырэння прававых свабод праваслаўнай царквы да яе хутка звярнулася значная колькасць крыптаўніятаў [79, с. 93 – 105]. У працах Т. Кэмпы таксама змшчаецца інфармацыя пра спаленне пратэстанцкага збору ў Полацку 1638 г., барацьбу за царкоўную маемасць паміж праваслаўнымі і ўніятамі ў Дзісне 1643 г.) [84, с. 464, 493].

Шэраг фактаў, якія ўказваюць на міжканфесійныя адносіны ў Полацкім ваяводстве разглядаемага перыяду, адзначаюцца ў працы А. Мірановіча па гісторыі праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай (канфесійная праблематыка ў інструкцыі полацкага сойміка 1611 г., дзейнасць І. Кунцэвіча на чале Полацкай епархіі і крытыка яго дзеянняў сучаснікамі, канфлікт паміж полацкім уніяцкім архіепіскапам А. Сялявам і магілеўскім праваслаўным епіскапам С. Косавым у другой палове 1630-х гг.) [88, с. 76, 84, 106 – 109]. У той жа час, у адрозненне ад Т. Кэмпы, А. Мірановіч салідарызуецца з традыцыйным тэзісам польскай гістарыяграфіі пра змены настрояў грамадскасці (прынамсі шляхты) пасля забойства І. Кунцэвіча на карысць уніі [88, с. 85].

У працы М. Космана, прысвечанай развіццю рэфармацыйнага і контррэфармацыйнага руху ў ВКЛ, прыводзяцца статыстычныя дадзеныя па функцыянаванню на Полаччыне пратэстанцкіх і каталіцкіх канфесійных устаноў у другой палове XVI – першай палове XVII стст. Калі дадзеныя па колькасці пратэстанцкіх збораў у Полацкім ваяводстве другой паловы XVI ст. паўтараюць вынікі ранейшых падлікаў В. Красіньскага і Г. Мерчынга, то дадзеныя па колькасці вучняў у Полацкім езуіцкім калегіуме і ксяндзоў у Полацку ў першай палове XVII ст. маюць значную каштоўнасць для даследавання праблемы міжканфесійных адносін у рэгіене [85, с. 53, 217 – 218].

У шэрагу прац польскіх даследчыкаў закранаецца пытанне адносін да канфесійных праблем полацкай шляхецкай супольнасці. У гэтай сувязі неабходна ў першую чаргу адзначыць працы Г. Візнэра, у якіх шырока асвятляецца барацьба паводле праблемы рэлігійных свабод у парламенцкіх установах Рэчы Паспалітай у канцы XVI – першай палове XVII стст. [89; 90]. Даследчык дастаткова падрабязна прааналізаваў змест інструкцый полацкіх соймікаў 1611, 1632, 1640 гг. у канфесійным пытанні, што дазваляе прасачыць эвалюцыю настрояў полацкай шляхты. Калі першыя дзве інструкцыі выступалі ў абарону Варшаўскай канфедэрацыі, правоў пратэстантаў і праваслаўных, то ў апошняй гучаць заклікі да прыняцця санкцый супраць пратэстантаў у сувязі з «тумультам» у Вільні 1639 г. – гэта сведчыць пра паступовы пераход большай часткі полацкай шляхецкай супольнасці на пазіцыі Контррэфармацыі [89, с. 94, 99, 161]. Змест інструкцыі полацкага сойміка 1598 г. разгледжаны ў манаграфіі Л. Ярміньскага ў кантэксце фарміравання пратэстанцка-праваслаўнага палітычнага саюзу ў Рэчы Паспалітай ў другой палове 1590-х гг. [86, с. 213 – 214].

Важнае значэнне для вывучэння міжканфесійных адносін на Полаччыне мае даследаванне М. Ледке, у якім сістэматызаваны дадзеныя пра рэлігійныя канверсіі шляхты ВКЛ у перыяд Рэфармацыі і Контррэфармацыі. У ліку іншага ў гэтай працы прыводзяцца факты пра эвалюцыю ад праваслаўя да каталіцызму праз часовае знаходжанне ў межах кальвінізму шэрагу прадстаўнікоў буйнейшага полацкага шляхецкага роду Корсакаў [87, с. 90, 119 – 120].

Сярод даследчыкаў міжканфесійных адносін у Полацкім ваяводстве варта адзначыць таксама сучаснага швейцарскага гісторыка Ш. Родэвальда, які вывучае механізмы міжканфесійных адносін у Полацку XVI – XVII стст. з выкарыстаннем тэорыі сацыяльнай камунікацыі. У сваім артыкуле ен даследуе кантэксты дзеянняў як межы складвання сацыяльных груп датычна дзейнасці праваслаўных Полацка ва ўмовах Контррэфармацыі; пры гэтым межы і формы супольных дзеянняў у пэўных кантэкстах разглядаюцца як фактары ўзнікнення і дэфініцыі сацыяльных адносін і сацыяльных груп [92]. Для даследавання дадзеных працэсаў Ш. Родэвальд выкарыстоўвае таксама папулярную ў сучаснай заходнееўрапейскай гістарычнай навуцы тэорыю канфесіяналізацыі. Разглядаючы фарміраванне канфесійных інстытутаў у праваслаўных Полацка (брацтваў), ен бачыць у іх перайманне прынцыпаў сацыяльнай арганізацыі католікаў, якія замацаваліся спачатку ў Заходняй Еўропе, а потым былі перанесены на землі Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Ш. Родэвальд робіць выснову, што праваслаўныя Полацка ў XVII ст. складалі групу, якая эксплiцытна выступала як супольнасць праваслаўных і непасрэдна абараняла іхнія інтарэсы, толькі ў рэлігійным кантэксце, будучы ў той жа час прадстаўнікамі надканфесійных гарадскіх аб'яднанняў ў найбольш важных пытаннях муніцыпальнай палітыкі, што сведчыць пра неразвітасць працэсаў канфесіяналізацыі.

**Заключэнне.** Праблема міжканфесійных адносін у Полацкім ваяводстве ў другой палове XVI – першай палове XVII стст. разглядалася прадстаўнікамі розных нацыянальных школ гістарычнай навукі. Гістарычны аналіз пазначанай праблемы паступова эвалюцыянаваў ад канфесійнай заангажаванасці, характэрнай для прац расійскіх і польскіх навукоўцаў XIX – пачатку XX стст., да аб'ектыўнага аналізу праблем у сучаснай гістарыяграфіі, прадстаўленай рознымі метадалагічнымі накірункамі. У той жа час адсутнічае прысвечаны ей комплексны аналіз, некаторыя аспекты праблемы закраналіся фрагментарна ў сувязі з разглядам іншых пытанняў, або даследаваліся асобныя лакальныя пытанні. Таму ў цэлым праблема патрабуе далейшага вывучэння на ўзроўні комплекснага даследавання.

ЛІТАРАТУРА

1 Smotrycki, M. Obrona Verificaciey od obrazy Maiestatu króla Jego Miłości (…) od zgromadzenia Cerkwie S. Troycy wydany (…) / M. Smotrycki – Wilno: b. m. dr., 1621. – 127 s.
2 Smotrycki, M. Verificatia niewinności (...) / M. Smotrycki // Архив Юго-Западной Россіи, издаваемый Временною коммиссіею для разбора древних актов: в 8 ч. – Кіев: Унив. тип, 1859 – 1914. – Ч. 1, т. 7: Памятники литературной полемики православных южно-руссцев с латино-униатами. – 1883. – С. 279 – 344.
3 Synopsis, albo krótkie spisanie praw, przywileiów, swiebod y wolności od naiaśnieyszych św. Pamięci Krolów Ich Miłości Polskich y Wielkich Xiążat Wielkiego Xięstwa Litewskiego y Ruskiego (...) Przezacnemu starowiecznemu narodowi Ruskiemu, pod posłuszeństwem św. Oyca Patriarchy Konstantynopolskiego stale y nieodmienne od okrzczenia się swoiego trwaiącemu nadanych y poprzysiężonych // Архив Юго-Западной Россіи, издаваемый Временною коммиссіею для разбора древних актов: в 8 ч. – Кіев: Унив. тип, 1859 – 1914. – Ч. 1, т. 7: Памятники литературной полемики православных южно-руссцев с латино-униатами. – 1887 – С. 532 – 576.

4 Birkowski, F. Głos krwie b. Iozofata Kuncewicza, archibiskupa połockiego (…) / F. Birkowski. – Kraków: Dr. A. Piotrkowczyka, 1629. – [2], 4, [2], 79 s.
5 Kreuza, L. Kazanie o światobliwym żywocie y chwalebney śmierci oyca Iosophata Kunewicza / L. Kreuza. – B. m. dr., 1625. – [10] k.
6 Morochowski, J. Relacia o zamordowaniiu okrutnym y osobliwey świątobliwości w Bodze (…) Iozofata Kuncewicza archiepiszkopa połockiego, krotko a prawdziwie opisana / J. Morochowski. – Zamość: [b. dr.], 1624. – [20] k.
7 Susza, J. Cursus vitae et certamen martyrii b. Josaphat Kuncevicii archiep. Polocensis, ep. Vitebscensis et Mstislaviensis ordinis d. Basilji magni / J. Susza. – Parisiis: Victor Palme, 1865. – XVI, 229 p.
8 Rostowski, S. Lithuanicarum Societatis Jesu historiarum. Libri Decem / S. Rostowski. – Parisiis – Bruxeliis, 1877.
9 Беднов, В.А. Православная церковь в Польше (по Volumina legum) / В.А. Беднов. – Минск: Лучи Софии, 2002. – 432 с.
10 Голубев, С. Киевский митрополит Петр Могила и его сподвижники (Опыт исторического исследования): в 2 т. / С. Голубев. – Киев: Типогр. Г. Т. Корчак-Новицкаго, 1883-1898. – Т. 1. – 1883. – 559, 576 с.
11 Голубев, С. Киевский митрополит Петр Могила и его сподвижники (Опыт исторического исследования): в 2 т. / С. Голубев. – Киев: Типогр. Г. Т. Корчак-Новицкаго, 1883 – 1898. – Т. 2. – 1898. – 524, 489 с.
12 Жукович, П. Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией (до 1609 года) / П. Жукович. – СПб.: Типогр. Главнаго Управления Уделов, 1901. – XXI, 594 с.
13 Киприанович, Г.Я. Историческій очерк православія, католичества и уніи в Белоруссіи и Литве с древнейшаго до настоящаго времени / Г.Я. Киприанович. – Вильна, 1895. – [16], 235 с.
14 Коялович, М.О. Литовская церковная уния: в 2 т. / М.О. Коялович. – СПб.: Типография Н. Тихменева, 1859 – 1861. – Т. 1. – 1859. – 316 с.
15 Коялович, М.О. Литовская церковная уния: в 2 т. / М.О. Коялович. – СПб.: Типография Н. Тихменева, 1861-1861. – Т. 2. – 1861. – 442 с.
16 Крачковский, Ю.Ф. Очерки униятской церкви / Ю.Ф. Крачковский // Оттиск из «Чтения в императорском обществе истории и древностей россисских при Московском университете». – М., 1871. – 404 с.
17 Макарий (Булгаков, М.П.). История русской церкви: в 9 т. / Макарий (М.П. Булгаков). – Москва: Издательство Спасо-Преображенского Валаамского монастыря, 1994 – 1997. – Т. 5: Период разделения русской церкви на две митрополии. – 1996. – 559 с.
18 Макарий (Булгаков, М.П.). История русской церкви: в 9 т. / Макарий (М.П. Булгаков). – Москва: Издательство Спасо-Преображенского Валаамского монастыря, 1994 – 1997. – Т. 6: История русской церкви в период ее самостоятельности (1589 – 1881). Патриаршество в России (1589 – 1720). – 1996. – 798 с.
19 Харлампович, К.В. Западнорусские православные школы XVI и начала XVII века / К.В. Харлампович. – Казань: Типо-лит. Имп. ун-та, 1898. – 525, 54 с.
20 Чистович, И.А. Очерк истории западнорусской церкви: в 2 ч. / И.А. Чистович. – СПб.: Типография Департамента Уделов, 1882 – 1884. – Ч. 1. – 1882. – 220 с.
21 Чистович, И.А. Очерк истории западнорусской церкви: в 2 ч. / И.А. Чистович. – СПб.: Типография Департамента Уделов, 1882 – 1884. – Ч. 1. – 1884. – 419 с.
22 Говорский, К. Иосафат Кунцевич, полоцкий униатский архиепископ / К. Говорский // Вестник Западной России. – Год 1. – 1862. – Т. 1. – Отд. 2. – С. 50 – 58; Год 1. – 1862. – Т. 2. – Отд. 2. – С. 75 – 92.
23 Жукович, П. О неизданных сочинениях Иосафата Кунцевича / П. Жукович // Известия отделения русского языка и словесности Императорской Академии наук. 1909. – Т. XIV. – 1910. – С. 199 – 231.
24 Киприанович, Г.Я. Архиепископ Полоцкий и Витебский Иосафат Кунцевич, западнорусский мученик за унию с Римом / Г.Я. Киприанович. – Вильна: Русский почин, 1912.
25 Коялович, М.О. Иосафат Кунцевич (Из истории литовской церковной унии) / М.О. Коялович // Православное обозрение. – 861. – Т. 5. – Отд. 2. – С. 50 – 66.
26 Хойнацкий, А.Ф. Православие и уния в лице двух своих защитников преподобного Иова Почаевского и Иосафата Кунцевича / А.Ф. Хойнацкий // Труды Киевской Духовной Академии. – Киев, 1882. – № 8 (август).
27 Любович, Н.Н. К истории иезуитов в Литовско-Русских землях / Н.Н. Любович. – Варшава: К. Ковалевский, 1888. – [2], 288 с.
28 Любович, Н.Н. Начало католической реакции и упадок реформации в Польше (по неизданным источникам) / Н.Н. Любович. – Варшава: К. Ковалевский, 1890. – 400, VIII с.
29 Толстой, Д.А. Римский католицизм в России: в 2 т. – СПб.: В.Ф. Демаков, 1876 – 1877. – Т. 1. – 1876. – 537 с.
30 Говорский, К. О введении, распространении и судьбе кальвинизма в Белоруссии / К. Говорский // Вестник Западной России. Год 2. – т. 4. – 1864. – Отд.2. – С. 19 – 28.
31 Бершадский, С.А. Литовские евреи. История их юридическаго и общественнаго положения в Литве от Витовта до Люблинской унии. 1388 – 1569 / С.А. Бершадский. – СПб.: М.М. Стасюлевич. – 431 с.
32 Беляев, И. Полоцкая православная церковь до Брестской унии / И. Беляев // Православное обозрение. – 1870. – № 1. – С. 103 – 128; 1870. – № 2. – 290 – 306.

33 Сапунов, А.П. Заметка о коллегии и академии иезуитов в Полоцке / А.П. Сапунов. – Витебск: Тип. губ. правл., 1890. – 34 с.
34 Сапунов, А.П. Исторические судьбы Полоцкой епархии с древнейших времен до половины XIX века: (Извлеч. из 5 т. Витебской старины) / А.П. Сапунов. – Витебск, 1889. – [2], 170, [4] с., [40] л.
35 Сапунов, А.П. Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии / А.П. Сапунов. – Витебск: Губ. типолитогр., 1896. – [2], 264, 144 с.
36 Митрошенко, И. Иезуиты в восточной части Белоруссии с 1579-го по 1772-й год / И. Митрошенко // Полоцко-Витебская старина. – Витебск, 1912. – Вып. II. – С. 1 – 120.
37 Baliński, M., Lipiński, T. Starożytna Polska pod względem historycznym, jeograficznym i statystycznym opisana / M. Baliński, T. Lipiński; w 4 t. – Warszawa: Druk. S. Olgerbranda synów, 1843-1846. – T. 4: Wielkie Ksiestwo Litewskie. – 1846. – 876, XIII s.
38 Kurczewski, J. Biskupstwo Wileńskie / J. Kurczewski. – Wilno: J. Zawadzki, 1912. – 614 s.
39 Likowski, E. Unia brzeska (r. 1596) / E. Likowski. – Poznań: Dr. Kuryera Poznańskiego, 1896. – [20], 424 s.
40 Pełesz, J. Geschichte der Union der ruthenischen Kirche mit Rom von den altesten Zeiten bis die Gegenwart / J. Pełesz; 2 bd. – Wien: W.Heintich, 1878 – 1880. – Bd. 1. – 1878.
41 Prochaska, A. Z dziejów unii brzeskiej / A. Prochaska // Kwartalnik Historyczny. – 1896. – R. 10. – S. 522 – 577.
42 Załęski, S. Jezuici w Polsce/ S. Załęski; w 2 t.: – Lwów: Drukarnia Ludowa, 1900 – 1901. – T. 1. – 1900. – 762 s.
43 Czerniewski, L. Św. Jozafat Kuncewicz 1580 – 1623 / L. Czerniewski. – Poznań etc.: Księg. Św. Wojciecha, [1935]. – 32 s.
44 Urban, J. Święty Jozafat Kuncewicz biskup i męczennik / J. Urban. – Kraków: Apostolstwo modlitwy, 1906. – VIII, 277 s.
45 Giżycki, J.M. Notatka o Akademii i szkołach jezuitów w Połocku / J.M. Giżycki. – Poznań: J. Leitgeber, 1884. – VIII, 28 s.
46 Krasiński, W. Zarys dziejów powstania i upadku reformacji w Polsce / W. Krasiński; wyd. J. Bursche; w 3 t. – Warszawa: Zwiastun Ewangelicki, 1903 – 1905. – T. 3. – 1905. – 263 s.
47 Łukaszewicz, J. Dzieje kościołów wyznania helweckiego na Litwie / J. Łukaszewicz; w 2 t. – Poznań: Nowa Księgarnia, 1842 – 1843. – T. 1. – 1842. – VIII, 414 s.
48 Łukaszewicz, J. Dzieje kościołów wyznania helweckiego na Litwie / J. Łukaszewicz; w 2 t. – Poznań: Nowa Księgarnia, 1842 – 1843. – T. 2. – 1843. – [4], 290 s.
49 Merczyng, H. Zbory i senatorowie protestanccy w dawnej Rzeczypospolitej / H. Merczyng. – Warszawa: [s. n.], 1904. – 139 s.
50 Chodynicki, K. Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska. Zarys historyczny 1370 – 1632 / K. Chodynicki. – Warszawa: Kasa im. Mianowskiego – Instytut popierania nauki, 1934. – 632 s.
51 Halecki, O. Od unii florenckiej do unii brzeskiej / O. Halecki; przeł. [z ang.] A. Niklewicz; [wprowadzenie J. Kłoczowski]; w 2 t. – Lublin: Instytut Europy Środkowo-Wschodniej; Rzym: Fundacja Jana Pawła II, 1997. – T. 2. – 1997. – 344 s.
52 Lewicki, K. Książe Konstanty Ostrogski a unia brzeska 1596 r. / K. Lewicki – Lwów: Archiwum Towarzystwa Naukowego we Lwowie, 1933. – 224 s.
53 Пічэта, В.І. Полацкая зямля ў пачатку XVI сталецьця / В.І. Пічэта // Чатырохсотлецьце беларускага друку: 1525 – 1925. – Мінск: Інстытут беларускай культуры, 1926. – С. 76 – 113.
54 Пичета, В.И. Полоцкая земля в начале XVI в. / В.И. Пичета // Пичета, В.И. Белоруссия и Литва. XV – XVI вв. – Москва: Изд. АН СССР, 1961. – С. 213 – 262.
55 Мараш, Я.Н. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века / Я.Н. Мараш. – Минск: Вышэйшая школа, 1974. – 288 с.
56 Мараш, Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569 – 1795) / Я.Н. Мараш. – Минск: Вышэйшая школа, 1971. – 272 с.
57 Мараш, Я.Н. Из истории борьбы народных масс Белоруссии против экспансии католической церкви / Я.Н. Мараш. – Минск: Вышэйшая школа, 1969. – 220 с.
58 Корзун, М.С. Русская православная церковь на службе эксплуататорских классов. X век – 1917 год / М.С. Корзун. – Минск: Беларусь, 1984. – 255 с.
59 Грицкевич, А.П. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI-XVIII вв.) / А.П. Грицкевич. – Минск: Наука и техника, 1979. – 152 с.
60 Копысский, З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII вв. / З.Ю. Копысский. – Минск: Наука и техника, 1975. – 186 с.
61 Полоцк. Исторический очерк / редколл.: П.Т. Петриков [и др.]. – Минск: Наука и техника, 1987. – 320 с.
62 Пануцэвіч, В. Сьвяты Язафат, архіяпіскап полацкі / В. Пануцэвіч. – Полацак: Сафія, 2000. – 268 с.
63 Тарасаў, С.В. Полацк, IX – XVII стст.: гісторыя і тапаграфія / С.В. Тарасаў. –Мінск: Бел. навука, 1998. – 182 с.
64 Варонін, В. Палітычны лад Полацкага ваяводства ў першай палове XVI ст. / В. Варонін // Беларускі гістарычны агляд. – Т. 5. – Сш. 1 (8). – Чэрвень 1998. – С. 27 – 66.
65 Варонін, В. Полаччына і палачане ў нацыянальна-культурным і рэлігійным жыцці Вялікага княства Літоўскага першай паловы XVI ст. / В. Варонін // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – Т. 17. – 2002. – С. 211 – 219.

Так пасля смерці Станіслава Дэнгофа ўрад полацкага гродскага сурагатара 4 мая 1729 г. атрымаў полацкі падчашы Антоні Цыпрыян Буйніцкі. Пасля яго смерці ў 1737 г. урад гродскага сурагатара 30 мая 1738 г. дастаўся сыну полацкага харужага Яна Казіміра полацкаму падстолію Антонію Яну Корсаку Залескаму. Пасля яго смерці ў 1748 г. урад гродскага сурагатара атрымаў Траян Корсак Бабыніцкі, які займаў яго да самага выбара полацкім ваяводай Аляксандра Сапегі (8 студзеня 1753 г).

Іншы сенатарскі ўрад кашталяна ў Полацкім ваяводстве ў панаванне Аўгуста III займала тры асобы. 16 сакавіка 1736 г. урад полацкага кашталяна атрымаў Валер'ян Жаба, які займаў яго да сваей смерці 16 лютага 1753 г. Валер'ян Жаба разам з сваім братам мінскім ваяводай Янам Казімірам Жабай меў значную колькасць сваіх прыхільнікаў у Полацкім ваяводстве. Аднак, Жабы ў панаванне Аўгуста III знаходзіліся на другіх ролях сярод полацкай эліты, нягледзячы на трыманне сенатарскіх урадаў ВКЛ. Моцы Валер'яна Жабы нават не хапала, каб перашкодзіць выбару полацкім ваяводай Аляксандра Сапегі. Да таго ж знаходзяўшыся пры ім шляхціц Лесьнеўскі абяцаў спрыяць Сапегам [8, p. 153v]. Ды і сам Валер'ян Жаба і не меркаваў перашкаджаць выбару полацкім ваяводай Аляксандра Сапегі і нават абяцаў сваю падтрымку і сваіх прыхільнікаў [9, p. 23 – 23v]. Яго брат мінскі ваявода Ян Казімір Жаба прыязна адносіўся да выбару полацкім ваявода Аляксандра Сапегі і нават даслаў на соймік для падтрымкі свайго малодшага сына з прыхільнікамі. Той, праўда, павінен быў прадставіць і некаторыя пастулаты Жабаў для будучага ваяводы [10, p. 1v – 2].

Пасля смерці Валер'яна Жабы Сапегі стараліся, каб урад полацкага кашталяна дастаўся ўплывоваму ў ваяводстве маркоўскага старосту Яну Шчыту [11, p. 1; 12, p. 42]. Схіляўся да яго кандыдатуры і канцлер ВКЛ Міхал Чартарыйскі, бо Шчыт часта служыў Фаміліі на мясцовых сойміках і на элекцыйным сойміку па выбару полацкага ваяводы ў 1753 г. і ўвогуле мае ў мясцовых абываценяў «міласць, крэдыт і павагу». Аднак не хацеў абяцаць урады раней каралеўскага прыезду ў Рэч Паспалітую [13, p. 151v]. Канкурэнтамі аб урад полацкага кашталяна былі шляхціцы, якія не мелі значных уплываў у Полацкім ваяводствам: пінскі гродскі староста Уладзіслаў Ельскі, смаленскі падкаморы Антоні Храпавіцкі, віленскі цівун Юзаф Тышкевіч [13, p. 152v]. Міхал Антоні Сапега ўвогуле загадаў, каб з гаспадарскага сойміка 1754 г. былі выпраўлены паслы да караля. У іх інструкцыі трэба было змясціць пункт аб тым, каб полацкая кашталянія дасталася толькі таму хто мае свае ўладанні ў Полацкім ваяводстве [14, l.110 – 110v].

У выніку ўрад дастаўся Канстанціну Людвіку Плятэру, які сваю дзейнасць у асноўным праводзіў у Інфлянтах, хаця меў і ўладанні ў Полацкім ваяводстве. Урад інфлянцкага кашталяна пасля яго атрымаў як раз Ян Шчыт. Такім чынам, яго прызначэнне на гэты ўрад быў сваесаблівым кампрамісам. Пасля перахода 18 мая 1758 г. Плятэра на ўрад мсціслаўскага ваяводы полацкім кашталянам 23 чэрвеня 1758 г. стаў даўгоўскі староста Адам Брастоўскі. Неабходна заўважыць, што асобы, якія займалі ўрад кашталяна не былі сярод самых уплывовых шляхціцаў Полацкага ваяводства. І гэта было яшчэ адной асаблівасцю Полацкага ваяводства. Увогуле толькі Валер'ян Жаба меў значную колькасць сваіх прыхільнікаў у Полацкім ваяводстве. Людвік Плятэр меў свае асноўныя ўладанні і ўплывы ў Інфлянтах, а ў Полацкім ваяводстве мог разлічваць толькі на нязначную падтрымку мясцовай шляхты. Адам Брастоўскі ўвогуле ня меў сваіх прыхільнікаў у Полацкім ваяводстве і мог разлічваць толькі на прыхільнікаў сваіх магнацкіх патронаў Радзівілаў. Увогуле ўрад полацкага кашталяна дастаўся яму ў падзяку за маршалкоўства Трыбунала ВКЛ 1758 г. Такім чынам, урад полацкага кашталяна ў панаванне Аўгуста III знаходзіўся ў асоб, якія не былі на вядучых ролях у Полацкім ваяводстве.

Яшчэ адной асаблівасцю Полацкага ваяводства было тое, што не былі заняты вышэйшыя земскія ўрады – падкаморыя і харужага. Пасля смерці ў 1731 г. полацкага падкаморыя Антонія Зяновіча ў панаванне Аўгуста III так і не быў заняты ўрад полацкага падкаморыя. Таксама пасля смерці ў канцы 1734 г. полацкага харужага Аляксандра Канстанціна Корсака Бабыніцкага ў панаванне Аўгуста III не быў заняты ўрад полацкага харужага.

Наступныя земскія ўраднікі (земскага суддзі, падсудка і земскага пісара) былі заняты прыкладана да сярэдзіны панавання Аўгуста III. Полацкім земскім суддзей ад 1726 г. да сваей смерці ў 1748 г. быў Траян Гласко. Да сваей смерці 20 лютага 1747 г. ад 1726 г. урад полацкага падсудка займаў Юзафат Антоні Сялява. Урад полацкага земскага пісара з 1726 г. займаў Базылі Рыпіньскі да сваей смерці ў 1744 г. У сітуацыі вольнага земства 21 кастрычніка 1748 г. полацкім земскім сурагатарам быў прызначаны Канстанцін Юзаф Свалынскі, які 9 мая 1750 г. саступіў гэты ўрад Яну Свалынскаму. Пасля смерці якога урад сурагатара 20 лістапада 1756 г. дастаўся полацкаму стальніковічу Антонію Пакашу, які і займаў яго да канца панавання Аўгуста III. Нягледзячы, што пасля выбара полацкім ваяводай у 1753 г. Аляксандра Сапегі існавалі шматлікія планы выбару земскіх ураднікаў, але яны не былі рэалізаваны з-за супярэчнасцяў паміж полацкай шляхтай.

Не на шмат лепш ад земства выглядала сітуацыя з полацкім гродам. Полацкім гродскім суддзей да сваей смерці ў 1741 г. быў Юзаф Падбіпента. Наступны гродскі суддзя быў ад 1755 г. (калі пасля выбараў ваяводы сфарміравалі новы грод) і да канца панавання Аўгуста III быў Сымон Тадэвуш Пжысецкі. Урад полацкага гродскага пісара ў панаванне Аўгуста III быў вольны да 1755 г., калі яго заняў віцебскі скарбніковіч Станіслаў Грабніцкі.

Полацкім войскім з 1712 г. быў Сымон Міхал Корсак Удзельскі. Ен адмовіўся ад ураду ў 1735 г. на карысць свайго сына Яна, але тытул ужываў надалей. Пасля яго смерці 8 верасня 1744 г. урад войскага атрымаў полацкі харужыц Фабіян Корсак Бабыніцкі, які калі хацеў заняць месца войскага пад час сойміку, то сустрэў супраціў з боку Сымона Міхала Корсака Удзельскага, які аб'явіў, што гэта ен з'яўляецца легітымным войскім. Толькі пасля пачатку справы ў асэсарскім судзе толькі 10 студзеня 1747 г. Сымон Кор-

сак Удзельскі адмовіўся ад сваіх прэтэнзій і прызнаў легітымным войскім Фабіяна Корсака Бабыніцкага [15, арк.686-687; 16, арк.76 – 77адв]. Пасля смерці якога ўрад войскага 23 кастрычніка 1752 г. дастаўся полацкаму стольніку Францішку Зяновічу, які займаў яго да передачы сыну Антонію ў 1762 г.

Урад стольніка з 1722 г. да сваей смерці 10 красавіка 1747 г. займаў Юзаф Пакаш. Пасля яго смерці Міхал Чартарыйскі вырашыў не спяшацца з вызначэннем будучага войскага, а лічыў неабходным спачатку ўзнадніць размеркаванне ўсіх урадаў у ваяводстве, дзе Фамілія мела дастаткова мала сваіх прыхільнікаў [17, s. 232]. У выніку прывілей 22 чэрвеня 1748 г. на ўрад полацкага стольніка быў падпісаны полацкаму гродскаму сурагатару Антонію Яну Корсаку згодна з жаданнем Міхала Чартарыйскага [18, l.219]. Прычым гэта, напэўна, кандыдатура не ўзгаднялася з уплывовымі ў Полацкім ваяводстве Сапегамі, бо Міхал Антоні Сапегі ў гэты час нават ня ведаў хто займае сурагатарскі ўрад у Полацкім ваяводстве [18, l.236]. Пасля адмовы 9 мая 1750 г. Антонія Яна Корсака Залескага ад урада полацкага стольніка гэты ўрад атрымаў іншы прыхільнік Фаміліі полацкі падстолі Францішак Зяновіч, які 23 кастрычніка 1752 г. перайшоў га ўрад полацкага войскага. У той жа дзень гэты ўрад атрымаў яшчэ адзін лідэр Фаміліі Ян Буйніцкі, які займаў яго да 1772 г. Як бачна фактычна з 1748 г. урад полацкага стольніка размяркоўваўся згодна жаданням Фаміліі.

Падобным чынам размяркоўваўся і наступны ва ўрадніцкай лесвіцы ўрад полацкага падстолія. Ім ад 1726 г. да свайго перахода 22 чэрвеня 1748 г. на ўрад полацкага стольніка быў полацкі харужыц Антоні Ян Корсак Залескі. Пасля яго да 9 мая 1750 г. (пераход на ўрад стольніка) урад полацкага падстолія займаў Францішак Зяновіч. Полацкім падстоліям пасля Зяновіча стаў полацкі земскі сурагатар Канстанцін Юзаф Свалыньскі.

Урад полацкага гараднічага 5 жніўня 1735 г. пасля смерці Францішка Гласкі дастаўся Базылію Корсаку Бабыніцкаму. Ен займаў гэты ўрад да самай сваей смерці ў 1752 г. Па ім урад гараднічага 7 чэрвеня 1752 г. атрымаў віцебскі скарбніковіч Адам Грабніцкі, які займаў яго да канца ўваходжання Полацкага ваяводства ў Рэч Паспалітую.

Такім чынам вышэйшыя земскія і гродскія ўрады Полацкага ваяводства ў панаванне Аўгуста III займалі прадстаўнікі шляхецкіх родаў, якія ўваходзілі ў мясцовую павятовую эліту: Корсакаў Бабыніцкіх, Корсакаў Удзельскіх, Корсакаў Залескіх, Буйніцкіх, Зяновічаў, Грабніцкіх, Пакашаў, Свалынскіх. У сітуацыі адстунасці падкаморыя, харужага, земскага суддзі, падсудка, земскага пісара фактычна вышэйшыя земскія ўрады (войскага, стольніка, падстолія і гараднічага) з канца 40-х гг. – пачатку 50-х гг. XVIII ст. аказаліся ў руках мясцовых лідэраў Фаміліі.

Урадніцкая эліта цалкам не адлюстроўвае склад найбольш уплывовай мясцовай шляхты. Да лідэраў мясцовай шляхты адносіліся асобы, якія займалі нязначныя павятовыя ўрады ці ўвогуле ніколі іх не мелі. Гэта былі маркоўскі староста Ян Шчыт, вайпунскі староста і полацкі ротмістр Міхал Сяліцкі, балдычэўскі староста Фларыян Рыпіньскі, рэтаўскі староста Крыштаф Тышкевіч. Ян Шчыт паходзіў з уплывовага ў Полацкім ваяводстве і Княстве рода Шчытоў. Быў сынам полацкага падсудка Канстанціна Шчыта. Пасля смерці бацькі быў пад апекай брата Антонія, а пасля яго смерці ўплывовых родзічаў смаленскага кашталяна Крыштафа Шчыта і мсціслаўскага кашталяна Юзафа Шчыта. Вайпунскі староста Міхал Сяліцкі быў сынам віцебскага падваяводы Рэмігіяна. Фларыян Рыпіньскі быў сынам полацкага чашніка Ігната. Крыштаф Тышкевіч быў сынам жмудскага старосты Юзафа Тышкевіча. Кожны з гэтых шляхціцаў шчыльна супрацоўнічаў з markrознымі магнацкімі родамі. Ян Шчыт і Фларыян Рыпіньскі з Фаміліяй, прычым Шчыт у першую чаргу з Сапегамі. Міхал Сяліцкі і Крыштаф Тышкевіч узначальвалі групоўку прыхільнікаў Радзівілаў у Полацкім ваяводстве.

Увогуле магнаты аказвалі значны ўплыў на суадносіны паміж рознымі шляхецкімі родамі ў Полацкім ваяводстве. Магнацкія групоўкі найбольш цікавілі выбары прыхільных паслоў і дэпутатаў на полацкіх сойміках. З пачатку панавання Аўгуста III асноўная барацьба ў Полацкім ваяводстве, як і ва ўсім Княстве, разгарнулася паміж магнацкімі групоўкамі Радзівілаў і Сапегаў.

Радзівілы валодалі найвялікшымі ўладаннямі ў Полацкім ваяводстве, якія складаліся з Невельскага і Себежскага графстваў. Аднак сярод іх прыхільнікаў, акрамя упамінаемага вышэй Міхала Сяліцкага, не было асобаў, якія належылі да мясцовай эліты. Сапегі валодалі ў Полацкім ваяводстве толькі ўладаннем Друя, якое ў пачатку панавання Аўгуста III увогуле прадалі. Як гэта недзіўна, але меўшы нашмат меньш уладанняў у Полацкім ваяводстве, чым Радзівілы, яны валодалі нашмат большымі ўплывамі сярод мясцовай шляхты.

Згодна захаваўшымся рахункам Сапегі выдзялялі на полацкі соймік у 1740 – 1742 гг. грошы Корсаку. Прычым кожны год гэта сума змяньшалася. У 1740 г. гэта было 480 злотых, у 1741 г. – 400 злотых, а ў 1742 г. – 320 злотых [19]. Як бачна колькасць сродкаў выдзяляемых на полацкі соймік змяньшалася і гэта прытым, што барацьба Сапег з Радзівіламі, а адпаведна і неабходнасць выбару прыхільных дэпутатаў, у 1741 і 1742 гг. значна ўзрасла ў параўнанні з 1740 г. Дэпутатамі на сойміку 1740 г. сталі Канстанцін Юзаф Свалынскі і крашуцкі староста Ян Буйніцкі. Абодва былі прыхільнікамі Сапег. У 1741 г. дэпутатамі былі абраны Антоні Нарніцкі і Ігнат Падвінскі. Нажаль нічога невядома пра іх стаўленне да змагаючыхся ў гэты час магнацкіх груповак.

Магчымай прычынай памяньшэння выдаткаў у 1742 г. бачыцца тое, што Сапегі лічылі, што на полацкім сойміку аб выбары прыхільных ім дэпутатаў будуць неварожыя Сапегам Агінскія. Сапраўды вядома, што Агінскія разглядалі магчымасць абраць на полацкім грамнічным сойміку 1742 г. дэпутатам абознага ВКЛ Ігната Агінскага ці яго брата і кандыдата на ўрад трыбунальскага маршалка віцебскага кашталяна Станіслава. Кандыдатура апошняга не задавальняла Радзівілаў. У выніку стала вядома аб планах

Радзівілаў перашкодзіць выбару дэпутатам Станіслава Агінскага сярод іншага і на полацкім сойміку. У выніку той адмовіўся старацца аб выбар дэпутатам як на полацкім сойміку, так потым і ўвогуле прэтэндаваць на выбар дэпутатам. Нягледзячы на гэта сярод іншых «рускіх соймікаў», дзе мог адбыцца выбар дэпутатам Агінскага, Радзівілы сарвалі і полацкі [20, р. 612 – 612v; 21, k. 133].

Невядома і пра выдаткі Сапегаў у наступныя гады. Магчыма яны часова павялічыліся, бо ў 1743 г. ім удалося правесці выбар дэпутатамі ў Полацку адразу двух сваіх прыхільнікаў полацкага ротмістра Фабіяна Корсака Бабыніцкага і сітнянскага старосты Юзафа Тадэвуша Рыпіньскага [22, р. 5]. Садзейнічала гэтаму пасылка Сапегамі на полацкі соймік свайго прадстаўніка (можа зноў быў ім Корсак), які павінен быў старацца аб выбар прыхільных дэпутатаў [20, р. 143v].

Больш дакладна вызначыць растаноўку асноўных шляхецкіх родаў у Полацкім ваяводстве дае выяўлены намі раней дакумент «Апазіцыя супраць канкурэнцыі літоўскага абознага Агінскага аб полацкае ваяводства», які адносіцца да 1742 г. [5, с. 124 – 125]. На сам рэч дакумент складаецца з двух частак. «Апазіцыі» і «Рэзультата на тыя апазіцыі» (маецца на ўвазе дзеянні, якія трэба прадпрыняць, каб удалося правесці выбары полацкага ваяводы Ігната Агінскага). У дакуменце ўпамінаюцца шляхецкія роды Корсакаў, Рыпіньскіх, Гласкаў, Свалынскіх, якія належылі да мясцовай эліты. Са слоў аўтара галоўным саюзнікам Агінскіх у Полацкім ваяводстве з'яўляўся полацкі земскі суддзя Траян Гласка [23, k. 25v]. Сапраўды Гласкі належылі да прыхільнікаў Агінскіх у Полацкім ваяводстве. Потым, аднак, з 1756 г. пачынаюць супрацоўнічаць і з Фаміліяй [24, k. 49].

Акрамя іншага ў вышэйзгаданым дакуменце даецца вельмі цікавая ацэнка ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў Полацкім ваяводстве з мэтай ўстанавіць наколькі магчыма правесці выбары Ігната Агінскага полацкім ваяводай. Заўважаецца, што галоўныя перашкоды выбару Агінскага маглі зыходзіць з боку лідэраў мясцовай павятовай эліты мсціслаўскага кашталяна Юзафа Шчыта і полацкага гродскага сурагатара Антонія Яна Корсака Залескага. Цікава, што аўтар дакумента заўважае, што яны былі ў першую чаргу не супраць Агінскага, а ўвогуле супраць выбараў полацкага ваяводы. Першы, бо трымаў у заставе некаторыя ўладанні полацкай эканоміі, якія мог бы забраць полацкі ваявода [23, k. 25]. Корсак жа згодна прывілею на полацкую гродскую сурагаторыю валодаў «усім горадам з жыдоўскім кагалам у тым горадзе знаходзячымся, мясцовымі правінтамі, каршчызнай, грунтамі і плошчай так як усе ўладары»[25, арк. 252 – 253]. Зразумела, што з выбарам полацкага ваяводы ен усе гэта губляў.

Прычым, калі Шчыт мог сфарміраваць значную партыю пасэсараў полацкай эканоміі (у першую чаргу з шляхецкага рода Рыпіньскіх). Тыя апасаліся, што новы полацкі ваявода захацеўбы вярнуць застаўленыя ўладанні полацкай эканоміі. Полацкі гродскі сурагатар са сваімі прыхільнікамі мог проста пастарацца, каб на гаспадарскім сойміку быў абраны дырэктарам адзін з братоў полацкіх харужычаў Корсакаў, якія былі варожымі Агінскім і таму былі супраць выбару паслоў да караля па ўніверсал на выбар полацкага ваяводы [23, k. 25 – 27v].

Каб Шчыт і Корсак не перашкаджалі выбару полацкім ваяводай Агінскага прапаноўваліся дыяметральна розныя шляхі. Шчыта меркавалі на будучым сойме ўгаварыць у прысутнасці караля пагадзіцца на кандыдатуру Ігната Агінскага на полацкае ваяводства і абяцаць пакінуць яму ў заставе ўладанні ад полацкай эканоміі [23, k. 25]. У сваю чаргу неабходна было ад імя горада распачаць справу ў асэсарскім судзе з полацкім гродскім сурагатарам, бо ен не пільнаваў і не абараняў крыўд горада. Гэта справа разам са справай падскарбія ВКЛ Янам Салагубам у Скарбовым Трыбунале з полацкім гродскім сурагатарам аб «няслушным выбіранні замкавага [падатку] са стругаў і чаўноў правам скасаванага» [23, k. 26]. Прыхільнікаў полацкага гродскага сурагатара Антонія Корсака полацкіх харужыцаў Корсакаў планавалася перацягнуць на свой бок паабяцаўшы ім полацкія ўрады, у першую чаргу гродскія ўрады [23, k. 26v]. Такім чынам, лічылася, што магчыма правесці выбар полацкага ваяводы, калі перацягнуць на свій бок наступныя роды: Гласкі (ужо былі прыхільнікамі Агінскіх), Шчытоў, Корсакаў Залескіх і Корсакаў Бабыніцкіх.

Пэўныя змены адбыліся ў Полацкім ваяводстве перад наступнымі выбарамі полацкага ваяводы ў 1753 г. Яе падрабязная апісанне мы маем з лістоў інстыгатара ВКЛ Мікалая Тадэвуша Лапацінскага, які і павінен быў забяспечыць выбар полацкім ваяводай Аляксандрам Сапегай. Зноў цяжкімі былі перамовы і з новым полацкім гродскім сурагатарам Траянам Корсакам Бабыніцкім (займаў урад ад 1 лютага 1749 г.), які проста не хацеў выбара полацкага ваяводы, бо тады губляў бы кіраўніцтва мясцовай адміністрацыяй [8, р. 152, 153]. Траян Корсак устанавіў з Мікалаем Тадэвушам Лапацінскім, што за сваю падтрымку ўрад для Аляксандра Сапегі атрымае ўрад полацкага падваяводы, а для свайго родзіча полацкага лоўчыца Ігната Корсака Бабыніцкага атрымае ўрад стольніка ад якога мусіць адмовіцца Ян Буйніцкі [8, р. 152v]. Апошняе было сумніўна, ведаючы непрыязныя адносіны паміж Буйніцкім і Траянам Корсакам, якія яшчэ больш абвастрыліся, калі Францішак Зяновіч і Ян Буйніцкі атрымалі для сябе адпаведна ўрады войскага і стольніка насуперак імкненням Корсакаў атрымаць гэтыя ўрады для прадстаўнікоў свайго рода [8, р. 152 – 152v, 153v]. Акрамя таго, канкурэнтам на ўрад падваяводы насуперак Траяна Корсака быў Міхал Сяліцкі [26, р. 1v]. Ды і Грабніцкія не хацелі бачыць Траяна Корсака на ўрадзе полацкага падваяводы [8, р. 153].

У 1753 г. выбар полацкага ваяводы, згодна поглядам Мікалая Тадэвуша Лапацінскага, быў магчымы толькі пры супрацоўніцтве шляхецкіх родаў Грабніцкіх і Корсакаў [8, р. 62 – 62v, 151 – 152v, 153 – 154v; 27, l.119 – 120]. Гэтыя дзве групоўкі і павінны былі паміж сабой узгадніць размеркаванне павятовых урадаў, бо «Полацк на

тыя дзьве партыі падзяліўся» [28, p. 176 – 176v]. Менавіта таму галоўнай задачай Лапацінскага было імкненне, каб прымірыць варагуючыя бакі, каб полацкі соймік не пачаўся з «крывавага канфлікту» Корсакаў з Грабніцкімі і саюзнікамі апошніх Буйніцкімі. Прычым групоўка Грабніцкіх і іх саюзнікаў была больш значнай [8, p. 151 – 151v]. Менавіта ўзвышэнне Грабніцкіх і выхад іх на вядучыя ролі ў Полацкім ваяводстве і было галоўным адрозненнем у параўнанні з пачаткам 40-х гг. XVIII ст.

Вялікае значэнне да фарміравання групоўкі сваіх прыхільнікаў і ўмацавання пазіцый свайго рода зрабіў уніяцкі метрапаліт Фларыян Грабніцкі (з 1746 г.). Менавіта ен садзейнічаў узвышэнню сваіх пляменікаў Станіслава, Адама і Мікалая Грабніцкага, якія былі сынамі віцебскага скарбніка Антонія (памер у 1741 г.). Другім рухавіком узвышэння рода было супрацоўніцтва з Фаміліяй. Грабніцкія былі даўно былі звязаны з Міхалам Чартарыйскім і Міхалам Антоніям Сапегай. Адам Грабніцкі знаходзіўся на двары Чартарыйскага. Таксама адзін з Грабніцкіх (магчыма, што і тойжа Адам) быў на двары Міхала Антонія Сапегі [29, p. 9, 10]. На двары Юзафа Станіслава Сапегі дваранінам быў і саюзнік Грабніцкіх Буйніцкі (напэўна полацкі стольнік Ян Буйніцкі) [30, p. 8]. Менавіта таму самымі ўплывовымі для рэалізацыі сваіх планаў у Полацкім ваяводстве Міхал Чартарыйскі бачыў ўніяцкага метрапаліта Грабніцкага і полацкага стольніка Буйніцкага [30, p. 10]. Далучэнне іншых значных родаў да групоўкі Грабніцкай і было трэцім рухавіком узышэння іх пазіцый у Полацкім ваяводстве. Саюзнікам Грабніцкіх былі Буйніцкія і Рыпіньскія [8, p. 148]. Хугчэй за ўсе з Грабніцкімі былі звязаны і іншыя прыхільныя Фаміліі шляхецкія роды. Так, ксендз Ян Дамінік Лапацінскі напярэдадні грамнічнага сойміка 1753 г. бачыў сітуацыю наступным чынам. Поспех сойміка мог адбыцца, клаі ўдасца дамовіцца аб тым хто павінен распачаць соймік двум галоўным групоўкам. Да першай належылі полацкі лоўчыц Ігнат Корсак, полацкі гродскі сурагатар Траян Корсак і полацкага падстолія Канстанціна Свалынскага. Да другой полацкі войскі Францішак Зяновіч і полацкі стольнік Ян Буйніцкі [8, p. 142].

У выніку толькі згода паміж Корсакамі і Грабніцкімі забяспечыла выбар полацкім ваяводай Аляксандра Сапегі. Прычым папярэдне былі размеркаваны гродскія і земскія ўрады. Па атрыманню каралеўскага прывілею Аляксандр Корсак доўга не мог прыехаць у Полацк і афіцыянае заняцце ўрада полацкага ваяводы адбылося толькі ў 1755 г. Менавіта тады былі размеркаваны гродскія ўрады. Полацкім падваяводай стаў Траян Корсак Бабыніцкі, які займаў яго да 1772 г. Грабніцкія яшчэ з канца 1752 г. прэтэндавалі на гродскі ўрад – пісара. Міхал Чартарыйскі падтрымаў жаданне Фларыяна Грабніцкага, каб адзін гродскі ўрад дастаўся Грабніцкім. Прычым Чартарыйскаму было вядома, што Фларыян Грабніцікі хоча ўрад гродскага пісара для полацкага гараднічага Адама Грабніцкага [30, p. 10]. Яшчэ адным канкурэнтам на гэты ўрад быў полацкі лоўчыц Ігнат Корсак Бабыніцкі. Разглядаўся варыянт, каб ен адмовіўся ад сваіх прэтэнзій на гэты ўрад за эгзулянцкі урад (смаленскі ці старадубскі) і грашовую кампенсацыю [31, l.239 – 239v]. Не вядома ці гэта было зроблена, але ў выніку гродскім пісарам стаў брат Адама Мікалай Грабніцкі. У той жа час урад гродскага суддзі дастаўся полацкаму канюшаму Сымону Тадэвушу Пжысецкаму, які пачынаў сваю палітычную дзейнасць як прыхільнік Радзівілаў. У 1755 г. разам з полацкім скарбнікам Людвікам Корсакам у Полацку быў абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ [8, p. 25v]. Іх выбар адбыўся дзякуючы ранейшаму ўзгадненню іх кандыдатур з лідэрамі Фаміліі. Пад час гэтага Трыбунала ВКЛ Пжысецкі падкуплены падскарбіям ВКЛ Юрыям Флемінгам пераходзіць на бок Фаміліі [32, s. 580, 593]. Напэўна, сярод іншага за гэта атрымаў ен і ўрад полацкага гродскага суддзі.

Неабходна звярнуць увагу, што выбар Аляксандра Сапегі полацкім ваяводай слаба паўплываў на полацкія грамнічныя соймікі, якія зрываліся як да выбара выяводы, так і пасля яго. Сарваны былі полацкія грамнічныя соймікі 1751, 1752, 1753 і 1754 гг. Прычынай было не толькі змаганне магнацкіх груповак Радзівілаў і Фаміліі, але і канфлікты ўнутры мясцовай полацкай эліты. Так вядома, што ў 1751 г. канкурэнтам на выбар дэпутатам быў адзін з Грабніцкіх. Яго кандыдатура была падтрымана каралеўскім дваром і лідэрам прыдворнай партыі падканцлер ВКЛ Міхал Чартарыйскі. Ігнат Агінскі лічыў сумніўным яго выбар, калі разам з ім дэпутатам не стане радзівілаўскі прыхільнік Рэвут. Іншыя радзівілаўскія прыхільнікі Снарскія збіралі шляхту для зрыва сойміка. Акрамя таго, сумніўна было, што дапусцяць выбар Грабніцкага полацкія іезуіты (напэўна з-за іх судовай справы з уніяцкім метрапалітам Фларыянам Грабніцкім) [33, k. 107, 135]. У сваю чаргу полацкі грамнічны соймік 1753 г. быў сарваны з-за канкурэнцыі аб выбар дэпутатам Сіпайлы, Пжысецкага і Людвіка Корсака, якія не саступілі адзін аднаму [8, p. 147]. Магчымай прычынай былі старанні маршалка ВКЛ Ігната Агінскага сарваць гэты соймік [18, p. 464]. У 1754 г. сітуацыя паўтарылася. Яшчэ перад соймікам Міхал Чартарыйскі схіляўся да выбара дэпутатаў з 4 кандыдатаў: полацкага падстолія Канстанціна Юзафа Свалынскага, полацкага каморніка Сіпайлы (напэўна старадубскага каморніка Станіслава Сіпайлы), полацкага скарбніковіча Пжысецкага (напэўна Сымона Тадэвуша Пжысецкага) і скарбніка Селявы (напэўна смаленскі скарбнік Станіслаў Селява) [34, l.247]. Міхал Антоні Сапега хацеў, каб абавязкова дэпутатам быў абраны Свалынскі, а яго калегай стаў адзін з вышэй пералічаных кандыдатаў [14, l.108v – 109, 110]. У выніку полацкая шляхта пагадзілася без супраціваў на выбар дэпутатам Свалынскага, а два іншых кандыдата Сымон Тадэвуш Пжысецкі і Людвік Корсак павінны былі вырашыць хто з іх саступіць. Аднак не прыйшлі да згоды і соймік быў сарваны. Корсакі лічылі, што да зрыву прывяла дзейнасць мясцовага лідэра радзівілаўскіх прыхільнікаў вайпунскага старосты Міхала Сяліцкага, які загадаў Пжысецкаму не саступаць [12, p. 86 – 86v]. Тым больш, што

перад соймікам была інфармацыя аб дзейнасці на сойміку прыхільнікаў наваградскага ваяводы Юрыя Радзівіла. Існавалі падазрэнні, што і самі Корсакі прывялі соймік да зрыва [12, р. 81]. Цікава, што ў гэты час Мікалай Тадэвуш Лапацінскі лічыў, што неабходна мацней прывязаць да Сапегаў полацкага лоўчыца Ігната Корсака Бабыніцкага атрымаўшы для яго ўрад полацкага чашніка пасля смерці папярэдняга чашніка Ігната Банавентуры Рыпіньскага. Тым больш, што Корсак быў папулярным ў Полацкім ваяводстве, актыўна дзейнічаў на сойміках, але не меў ураду. Магчымай перашкодай да гэтага ўраду для Корсака магло толькі стаць старанне аб ім сына памершага сітнянскага старосты Юзафа Тадэвуша Рыпіньскага. У такім выпадку Сапегам сварыцца за ўрад для Корсака з сваімі прыхільнікамі Рыпіньскімі Лапацінскі лічыў немэтазгодным [12, р. 84].

Не было вырашана і пытанне аб выбары земскіхураднікаў, што цягнула канфлікты паміж рознымі родамі полацкай ваяводскай эліты. Фларыян Грабніцкі імкнуўся, каб Сапегі на далі ўрад аднаму з яго пляменікаў. У такой сітуацыі Мікалай Тадэвуш Лапацінскі апасаўся, каб не быў пакрыўджаны полацкі падстолі Свалынскі і лічыў, што Грабніцкім хопіць і ўрада суддзі [8, р. 148]. Атрымоўваецца, што Грабніцкі стараўся аб вышэйшы ўрад за ўрад суддзі – падкаморыя ці харужага. Лапацінскі бачыў на адным з гэтых урадаў Канстанціна Юзафа Свалынскага.

Увогуле асоба Лапацінскага і яго дзейнасць у Полацкім ваяводстве выклікае выклікае вялікую цікавасць. Роля полацкай эліты ў ВКЛ і ў Рэчы Паспалітай не была значнай. Да асоб, якія адыгрывалі значную ролю ва ўсім ВКЛ і Рэчы Паспалітай, з вышэй пералічаных родаў полацкай эліты можна толькі ўспомніць менавіта Мікалая Тадэвуша Лапацінскі. Прычым ен належыў да рода, які паходзіў з Мсціслаўскага ваяводства. З маладых гадоў знаходзіўся на двары Сапегаў. Як іх прадстаўнік рабіў рэвізію сапежынскіх уладанняў як Друйская графства і Іказань. Менавіта тады і распачаў сваю дзейнасць у Полацкім ваяводстве, дзе набыў сабе вялікія ўладанні ўздоўж Заходняй Дзвіны: Чурыловічы. Сам шмат часу праводзіў у Лявонпалю (названы ў гонар яго бацькі).

Сітуацыя ў Полацкім ваяводстве значна змянілася пасля разрыва Міхала Антонія Сапегі ў канцы 1758 г. з Фаміліяй і пераходам Сапегаў да саюза з каралеўскім дваром і групоўкай Радзівілаў. Згодна спісу прыяцеляў рода Сапегаў падканцлера ВКЛ Міхала Антонія Сапегі (складзены канец 1759 – пачатак 1760 гг.) у Полацкім ваяводстве такімі прыхільнікамі былі: інфлянцкі кашталян Ян Шчыт, Корсакі (полацкі падваявода Траян Корсак Бабыніцкі, кушліцкі староста Юры Корсак Бабыніцкі з братамі Юзафатам і Францішкам (сыны памершага гараднічага полацкага Базылія Корсака Бабыніцкага), полацкі лоўчыц (гэта мог быць Тадэвуш Корсак Удзельскі, хаця больш верагодна на ўвазе маецца полацкі лоўчы Ігнат Корсак Бабыніцкі)), рэтаўскі староста Крыштаф Тышкевіч, гусарскі харужы Яўстах Храпавіцкі, полацкі падстолі Канстанцін Юзаф Свалынскі, полацкі гродскі суддзя Сымон Тадэвуш Пжысецкі, полацкі ротмістр Ігнацы Есман, полацкі земскі сурагатар Антоні Вінцэнт Пакаш з братамі Янам і Казімірам (быў полацкім канюшым). Аналіз гэтага спісу дае некалькі цікавых высноў. Крыштаф Тышкевіч, у першую чаргу, вядомы, як прыхільнік каралеўскага двара і Радзівілаў. Сапегі пасля разрыву ў 1758 г. з Фаміліяй і ўсталяванню супрацоўніцтва з каралеўскім дваром і Радзівіламі лічылі і Тышкевіча сваім прыхільнікам. Аднак, мы хутчэй можам лічыць яго прыхільнікам каралеўскага двара і Радзівілаў. Звяртае ўвагу, што сярод прыхільнікаў Сапег няма ўплывовых мясцовых ураднікаў войскага Францішка Зяновіча, стольніка Яна Буйніцкага, гараднічага Адама Грабніцкага, гродскага пісара Мікалая Грабніцкага. Атрымліваецца, што яны засталіся ў шэрагах Фаміліі, як і ўсе роды Зяновічаў, Буйніцкіх і Грабніцкіх. Найбольш уплывовымі сярод сапежынскіх прыхільнікаў былі Траян Корсак, Яўстах Храпавіцкі і Канстанцін Юзаф Свалынскі. Менавіта з імі раіў Міхалу Антонію Сапегу скласці план выбараў на полацкім грамнічным сойміку 1760 г. Мікалай Тадэвуш Лапацінскі, які выдатна ведаў сітуацыю ў Полацкім ваяводстве [35, р. 208v – 209]. Мікалай Лапацінскі лічыў, што на полацкім сойміку можна правесці выбар прыхільных ім дэпутатаў. Праблема заключалася ў тым, што ніхто з сапежынскіх прыхільнікаў, акрамя шляхціца Есмана, не хацеў стаць дэпутатам. Полацкі ваявода Аляксандр Сапега прасіў мясцовую шляхту падтрымаць аднаго з трох кандыдатаў: полацкага падстолія Канстанціна Свалынскага, полацкага гродскага суддзю Сымона Тадэвуша Пжысецкага і полацкага лоўчага (Ігната Корсака ці Яна Храпавіцкага) [36, р. 93]. Праўда, Лапацінскі заўважаў і слабую зацікаўленасць сапежынскіх прыхільнікаў старацца аб выбар дэпутатамі ў Полацку, бо не хочуць быць суддзямі ў Трыбунале ВКЛ пры непрыязным Сапегам трыбунальскім маршалку Андрэю Агінскаму [35, р. 211v – 213].

Увогуле ў сітуацыі абвастрэння ўнутрыпалітычнай барацьбы паміж прыдворнымі прыхільнікамі Радзівіламі і антыкаралеўскай апазіцыяй Чартарыйскіх у канцы панавання Аўгуста III полацкія грамнічныя соймікі 1756, 1757, 1758, 1759, 1760, 1761 і 1762 гг. скончыліся безвынікова. Прычым прычыны былі рознымі. На полацкім грамнічным сойміку 1756 г. Міхал Чартарыйскі хацеў правесці выбар дэпутатам полацкага гараднічага Адама Грабніцкага. Падканцлер ВКЛ напісаў да сваіх кліентаў, каб яны падтрымалі кандыдатуру Грабніцкага. Такім чынам меркавалася супакоіць апазіцыю і пазбегнуць «крывавага сойміку». Воўчынскі прыхільнік Буйніцкі раіў перацягнуць на свой бок шляхецкі род Гласкаў, якія маглі паслужыць інтарэсам Фаміліі на сойміках і ў іншых справах у Полацкім ваяводстве [7, с. 402]. Гэта не дапамагло і ў сітуацыі апагею барацьбы паміж Чартарыйскімі і Радзівіламі полацкі соймік быў сарваны. У 1758 г. Міхал Антоні Сапега лічыў магчымым правесці выбар дэпутатам у Полацку полацкага падстолія Канстанціна Юзафа Свалынскага. Магчымым калегай яму бачыўся шляхціц Кубліцкі. Пагаджаўся на гэта і вялікі маршалак ВКЛ Ігнат Агінскі, што давала магчымасць пазбегнуць

супрацiваў з боку прыхільнікаў Агінскіх у Полацкім ваяводстве [14, р. 186]. Аднак гэта не дапамагло і полацкі соймік быў сарваны. У 1759 г. полацкая шляхта пагадзілася, каб дэпутатам быў абраны полацкі ротмістр Ігнат Есман, але з-за вялікай колькасці іншых канкурэнтаў на выбар яго калегі соймік быў сарваны [37, р. 5 – 5v]. Праўда, у 1760 г. былі абраны дэпутаты прыхільнікі Сапег Лянкевіч і Есман (напэўна полацкі ротмістр Ігнат Есман). Аднак пакрыўджаны на Сапег віленскі ваявода Міхал Казімір Радзівіл на рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ на падставе меўшыхся пратэстаў не прызнаў іх выбар легітымным [38, k.162; 39, l.790 – 791v; 40, k. 62]. Мясцовая шляхта збіралася на пасольскім сойміку 1760 г. «напужаць» шляхціцаў, якія сфабрыкавалі пратэстацыю супраць выбара законнаабранных дэпутатаў [36, р. 130]. На полацкім грамнічным сойміку 1762 г. полацкі ваявода Аляксандр Сапега хацеў абраць дэпутатам полацкага падстолія Канстанціна Юзафа Свалынскага, а калегай яму бачыў шляхціца Кубліцкага. Зразумела, што супраць выбара апошняга будуць Корсакі і таму пачаліся перамовы з полацкім падваяводай Траянам Корсакам аб згодзе на выбар дэпутатам Кубліцкага [41, l.44 – 44v]. Гэта не дапамагло выратаваць соймік ад зрыва. Такія вынікі грамнічных соймікаў 1756 – 1762 гг. у Полацкім ваяводстве былі выкліканы тым, што сярод мясцовай эліты знаходзілася значная колькасць прыхільнікаў розных магнацкіх родаў: Чартарыйскіх, Сапег, Радзівілаў і Агінскіх. Да барацьбы паміж імі далучалася супрацьстаянне паміж мясцовымі шляхецкімі родамі Корсакаў з Грабніцкімі, Буйніцкімі і Зяновічамі. Такім чынам, барацьба паміж магнацкімі групоўкамі і ўплывовымі шляхецкімі родамі прывяла а таго, што ў канцы панавання Аўгуста III (ад 1756 г.) полацкія грамнічныя соймікі сканчваліся безвынікова.

Лепш выглядала сітуацыя з полацкімі пасольскімі соймікамі. Пасламі ў 1758 г. былі абраны полацкі лоўчы Ігнат Корсак і прыхільнік Фаміліі полацкі стольнік Ян Буйніцкі. Як бачна выбар адбыўся шмат у чым дзякуючы захаванню парытэту Корсакаў з Грабніцкімі і іх саюзнікамі. У 1760 г. пасламі былі абраны прыхільнік Радзівілаў рэтаўскі староста Крыштаф Тышкевіч і прыхільнік Фаміліі балдынеўскі староста Фларыян Рыпіньскі [7, с. 479, 538, 558]. Пасля смерці Міхала Антонія Сапегі некаторыя яго прыхільнікі, напрыклад, як Мікалай Тадэвуш Лапацінскі працягвалі актыўна супрацоўнічаць з прыдворнай партыяй і іх прыхільнікамі ў ВКЛ – Радзівіламі. Падобным чынам паступалі і іншыя сапежынскія прыхільнікі. У выніку ў планах Радзівілаў за полацкі соймік у 1761 г. адказваў полацкі падваявода Траян Корсак, які павінен быў дапамагчы стаць паслом пяцігорскаму харужаму Лускіне і гусарскаму харужаму Яўстаху Храпавіцкаму [42, k. 185]. У 1761 г. полацкі соймік быў сарваны Зяновічамі па загаду Міхала Чартарыйскага [1, s. 207; 43, k. 327; 44, k. 8]. Такім самы лес мог напаткаць і полацкі пасольскі соймік 1762 г. з-за канфлікту прыхільнікаў Фаміліі Зяновічаў з прыхільнікамі Сапегаў і Радзівілаў Корсакаў аб урад полацкага войскага. Корсакі не хацелі прызнаць перадачу ўрада войскага Францішкам Зяновічам сыну Антонію і самі прэтэндавалі на яго. Полацкі ваявода Аляксандр Сапега для выбара паслом Мікалая Тадэвуша Лапацінскага бачыў толькі адзін шлях – прымусіць Корсакаў саступіць і даць Зяновічу заняць месца войскага пад час пасольскага сойміка [41, l.47v – 48]. Напэўна так і адбылося і пасламі былі абраны прыхільнік каралеўскага двара Мікалай Тадэвуш Лапацінскі і былы прыхільнік Радзівілаў, а зараз прыхільнік Фаміліі рэгент канцылярыі ВКЛ Міхал Сяліцкі [7, с. 571; 45, k. 23, 24; 46, арk. 895].

Такім чынам магчыма зрабіць наступныя высновы. Шляхецкая эліта Полацкага ваяводства ў панаванне Аўгуста III складалася з небольш, чым пятнадцаці шляхецкіх родаў. Урад полацкага ваяводы ў панаванне Аўгуста III быў вольным да 1753 г., калі ваяводай быў абраны Аляксандр Сапега. У адсутнасць полацкага ваяводы кіраўніцтва адміністрацыяй было ўскладзена на спецыяльна прызначанага каралем гродскага сурагатара. У панаванне Аўгуста III гэту ўрад знаходзіўся ў руках толькі прадстаўнікоў мясцовай эліты. Другі сенатарскі ўрад полацкага кашталяна займалі асобы, якія не валодалі значнымі ўплывамі ў Полацкім ваяводстве. Вышэйшыя земскія ўрады ў Полацкім ваяводстве падкаморыя і харужага ў панаванне Аўгуста III не былі заняты. З 1744 па 1748 гг. памерлі і ўсе ураднікі земскага суда і да канца панавання Аўгуста III гэтыя ўрады былі занятыя. З 1741 г. да 1755 г. не было ўраднікаў і гродскага суда. Вышэйшыя земскія і гродскія ўрады Полацкага ваяводства ў панаванне Аўгуста III займалі прадстаўнікі шляхецкіх родаў, якія ўваходзілі ў мясцовую павятовую эліту: Корсакаў Бабыніцкіх, Корсакаў Удзельскіх, Корсакаў Залескіх, Буйніцкіх, Зяновічаў, Грабніцкіх, Пакашаў, Свалынскіх. У сітуацыі адстунасці падкаморыя, харужага, земскага суддзі, падсудка, земскага пісара фактычна вышэйшыя земскія ўрады (войскага, стольніка, падстолія і гараднічага) з канца 40-х гг. – пачатку 50-х гг. XVIII ст. аказаліся ў руках мясцовых лідэраў магнацкай групоўкі Фаміліі. Да лідэраў мясцовай шляхты адносіліся асобы, якія займалі нязначныя павятовыя ўрады ці ўвогуле ніколі іх не мелі. Да лідэраў мясцовай шляхты адносіліся асобы, якія займалі нязначныя павятовыя ўрады ці ўвогуле ніколі іх не мелі (маркоўскі староста Ян Шчыт, вайпунскі староста і полацкі ротмістр Міхал Сяліцкі, балдычэўскі староста Фларыян Рыпіньскі, рэтаўскі староста Крыштаф Тышкевіч). Сярод шляхецкіх родаў у пачатку 40-х гг. XVIII ст. у Полацкім ваяводстве дамініравалі шляхецкія роды Шчытоў, Корсакаў Залескіх і Корсакаў Бабыніцкіх (апошнія два роды выступалі разам у групоўцы Корсакаў). Магнаты аказвалі значны ўплыў на суадносіны паміж рознымі шляхецкімі родамі ў Полацкім ваяводстве і актыўна ўмешваліся ў выбары прыхільных паслоў і дэпутатаў на полацкіх сойміках. Найбольш сваіх прыхільнікаў сярод Полацкай шляхты мелі Сапегі. Пасля іх далучэння да Фаміліі ў 1748 г. прыхільнікі гэтых двух груповак аб'ядналіся і мелі яўную перавагу ў Полацкім ваяводстве. Прыхільныя ім групоўкі Корсакаў (складалася з розных галін рода) і Грабніцкіх (складалася з родаў Грабніцкіх, Буйніцкіх, Рыпіньскіх і інш). Апаненты Сапегаў і

Чартарыйскіх Радзівілы мелі самыя вялікія ўладанні ў Полацкім ваяводстве Себежскае і Невельскае графства. Аднак іх уплывы былі значна меншымі за ўплывы Сапегаў, а потым і Фаміліі. Іх сілы толькі хапала на зрывы полацкіх соймікаў. У выніку з 1750 па 1763 гг. выбарам дэпутатаў скончыўся толькі грамнічны соймік 1755 г. Не паўплывала на гэта не выбар полацкім ваяводай у 1753 г. Аляксандра Сапегі, не разрыў Сапегаў з Фаміліяй у канцы 1758 г. Існавала две прычыны частага зрыва соймікаў – абвастрэння барацьбы паміж магнацкімі групоўкамі і шматлікія канфлікты унутры шляхецкай эліты Полацкага ваяводства. Лепш выглядала сітуацыя з полацкімі пасольскімі соймікамі. З 1750 г. з васьмі пасольскіх соймікаў сарваны была палова: соймікі 1752, 1754, 1756 і 1761 гг. Прычым пасля 1756 г. з чатырох пасольскіх соймікаў быў сарваны толькі соймік 1761 г. астатнія соймікі ўдавалася скончыць кампрамісам. Гэта адбывалася пры актыўным ўдзеле магнацкіх груповак, якія дасягалі кампрамісу не толькі на сойміку, але і ў вырашэнні спрэчных пытанняў паміж рознымі шляхецкімі родамі полацкай павятовай эліты. У гэты час вядучыя ролі сярод полацай эліты адыгрывалі групоўкі Корсакаў (складалася з розных галін рода) і аб'яднаная групоўка прыхільнікаў Фаміліі (складвалася з родаў Зяновічаў, Буйніцкіх і Грабніцкіх).

ЛІТАРАТУРА

1. Konopczyński, W. Polska w dobie wojny siedmioletniej. T. 1 – 2. Warszawa, Kraków, 1909 – 1911.
2. Czeppe, M. Kamaryla pana z Dukli. Kształtowanie się obozu politycznego Jerzego Augusta Mniszcha 1750 – 1763. Warszawa, 1998.
3. Мацук, А. Традыцыя выбараў полацкага ваяводы ў XVIII ст. (паводле Метрыкі ВКЛ) / А. Мацук // Актуальныя пытанні даследвання і выдаўніцтва Метрыкі ВКЛ. – Мінск, 2006. – С. 55 – 61.
4. Мацук, А. Роль М. Чорторийського під час розподілу повітових урядів у ВКЛ в 40-х рр. XVIII ст. / А. Мацук // Український історичний збірник. – К., Інститут історії України НАН України. – 2007. – Вип. 10. – С. 65 – 76.
5. Мацук, А. Адносіны магнатаў і шляхты да выбараў полацкага ваяводы. / А. Мацук // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Матэрыялы V міжнароднай канферэнцыі. – Полацк, 2009. – С. 120 – 128.
6. Macuk, A. Udział wojskowców w wyborach do Trybunału Głównego WKL za panowanie Augusta III / A. Macuk // Studia Historzcyno-wojskowe. T. III. Armia a spoleczeństwo. Pod red. T.Ciesielskiego. – Zabrze, 2009. – S. 221 – 232.
7. Мацук, А. Барацьба магнацкіх груповак у ВКЛ (1717 – 1763 гг.) // А. Мацук. – Мінск, 2010.
8. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139. B. 2559.
9. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139. B. 1526.
10. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139. B. 2253.
11. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139. B. 5249.
12. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139. B. 2561.
13. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139. B. 4982.
14. Lietuvos valstybės istorijos archyvas F. 1135. Op. 14. B. 24.
15. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 34.
16. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 35.
17. Zielińska Z. Walka «Familii» o reforme Rzeczypospolitej, 1743 – 1752. Warszawa, 1983.
18. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139. B. 4063.
19. Vilniaus universiteto biblioteka. F. 4. B. 35780.
20. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139, B. 4061.
21. Archiwum Główne Akt Dawnych. Archiwum Radziwiłłów. Dz. IV. Sygn. 638.
22. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139. B. 2203.
23. Biblioteka PAN i PAU w Krakowie 5999.
24. Biblioteka Narodowa 3285, cz. 1.
25. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Фонд Кмф-18. Вопіс 1. Справа 171.
26. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139. B. 4517.
27. Lietuvos valstybės istorijos archyvas F. 1135. Op. 14. B.3.
28. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139. B. 2554.
29. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139. B. 4088.
30. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139. B. 4983.
31. Lietuvos valstybės istorijos archyvas F. 1135. Op. 14. B. 22.
32. Matuszewicz M. Diariusz życia mego. T. 1. Warszawa, 1986.
33. Archiwum Główne Akt Dawnych. Archiwum Radziwiłłów. Dz. V. Sygn. 17702, cz. 3.
34. Lietuvos valstybės istorijos archyvas F. 1135. Op. 14. B. 18.
35. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139. B. 2556.
36. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139. B. 4046.
37. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F. 139. B. 4193.

38. Archiwum Główne Akt Dawnych. Archiwum Radziwiłłów. Dz. V. Sygn. 17702, cz. 4.
39. Lietuvos valstybės istorijos archyvas. SA 127.
40. Archiwum Główne Akt Dawnych. Archiwum Radziwiłłów. Dz. V. Sygn. 2147, cz. 3.
41. Lietuvos valstybės istorijos archyvas F. 1135. Op. 14. B. 23.
42. Archiwum Główne Akt Dawnych. Archiwum Radziwiłłów. Dz. IVa, ks. 18.
43. Biblioteka Czartoryskich 3843.
44. Archiwum Główne Akt Dawnych. Archiwum Radziwiłłów. Dz. V. Sygn. 2150.
45. Archiwum Główne Akt Dawnych. Archiwum Radziwiłłów. Dz. V. Sygn. 16680.
46. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 49.

## «ВИТЕБСКОЕ ЦЕРКОВНО-ОБЩЕСТВЕННОЕ СЛОВО» КАК ИСТОЧНИК ПО ИСТОРИИ РЕЛИГИОЗНОЙ И ОБЩЕСТВЕННО-ПОЛИТИЧЕСКОЙ ЖИЗНИ (12.06 – 19.08.1918 Г.)

***О.Г. РИМКО***
***(Республиканский институт высшей школы, г. Минск)***

*Проводится анализ периодического печатного издания «Витебское церковно-общественное слово» как источника по истории религиозной и общественно-политической жизни в период с 12 июня по 19 августа 1918 г. Газета издавалась в указанное время на территории Полоцко-Витебской епархии, деятельность которой она и призвана была освящать, однако, кроме этого, данное издание представляет собой широкую информационную базу по истории важнейших и наиболее значимых событий из жизни России и некоторых европейских государств (в частности Италии, Финляндии, Германии, Чехии и Богемии). Так, наряду с традиционными публикациями религиозно-нравственного, духовного и историко-краеведческого содержания, в газете присутствуют также заметки на общественную и политическую тематику, печатаются новости из экономической, военной, международной жизни. Рассмотрены все представленные в газете рубрики и статьи, составлен подробный обзор информационного поля издания, показана источниковедческая значимость газеты.*

**Введение.** После Октябрьской революции 1917 г. официальный печатный орган Полоцко-Витебской епархии «Полоцкие епархиальные ведомости», выходившие с 1874 г., были ликвидированы. В 1918 г. в Витебске начали выходить два религиозных издания с новыми заголовками, которые продолжили традицию «Полоцких епархиальных ведомостей» – «Витебское церковно-общественное слово» (далее – «ВЦОС») и «Витебская церковно-общественная жизнь» [1, с. 39].

Уже в № 1 – 2 «ВЦОС» от 12(25).06.1918 г. говорится о том, что журнал «Витебская церковно-общественная жизнь» был закрыт Чрезвычайной комиссией по борьбе с контрреволюцией. В редакции журнала и в домах ее сотрудников были произведены обыски. Состоялись аресты членов редакционного комитета, которым предъявлялось обвинение в клевете на партию коммунистов-большевиков. Редактор журнала Кудрявцев объявлялся вне закона, в случае неявки в революционный трибунал в течение 7 дней [2, с. 14].

С этого момента единственным изданием церковно-религиозного характера на территории полоцко-витебского региона оказалась газета «ВЦОС». Ее примечательной особенностью являлось то, что авторы статей и редакторы газеты все внимание уделяли проблемам и событиям текущего момента. Это, впрочем, было закономерным, так как в указанный период (12.06 – 19.08.1918 г.) продолжалась первая мировая война, страна пережила кардинальную смену государственного строя, церковь оказалась в новых неблагоприятных условиях. Все это отвлекало редакцию от публикаций документов и статей, касающихся давних исторических событий и в частности истории греко-католической церкви. Поэтому в отличие от «Полоцких епархиальных ведомостей», которые вмещают в себя огромное число разнообразных по форме и содержанию статей по униатству, в «ВЦОС» мы находим только две небольшие публикации: ««К вопросу о соединении церквей Востока и Запада»: опубликование письма Льва Сапеги И. Кунцевичу о вреде насильственного навязывания унии» и «К вопросу о соединении церквей Востока и Запада»: повествование об убийстве и дальнейшем следствии по делу И. Кунцевича».

**Основная часть.** Впервые газета «ВЦОС» вышла 12(25) июня 1918 г. в виде объединенного № 1 – 2 на 22 страницах. До 19 августа 1918 г. вышли также № 3 от 1(14) июля – 14 с.; № 4 8(21) июля – 16 с.; № 5 от 15(28) июля – 16 с.; № 6 от 22 июля (4 августа) – 18 с.; № 7 от 29 июля (11 августа) – 16 с.; № 8 от 5(18) августа – 16 с.; № 9 от 12 (25) августа – 16 с.; № 10 – 11 от 19 августа (1 сентября) – 16 с. [2 – 10]. Все указанные номера газеты на данный момент представлены в фондах Национальной библиотеки Республики Беларусь.

Редакция «ВЦОС» располагалась в г. Витебске на углу улиц Рождественская и Резницкая, д. 14/17. Печаталось издание в витебской типографии «Труд» (ул. Смоленская, д. № 26). Редактором № 1 – 2 был протоиерей С.А. Артоболевский, а №№ 3 – 10 – 11 – священники С.А. Артоболевский, Н.Н. Богородский и Н.К. Махаев. Газета выходила 4 раза в месяц с подписной ценой за год – 18 руб., за полгода – 10 руб. с пересылкой. Подписка принималась у благочинных епархии и в редакции [2, с. 1, 22].

Каждый номер газеты состоял из нескольких традиционных разделов-рубрик под следующими названиями: «Вести о Всероссийском церковном соборе», «Среди журналов и газет», «Епархиальная жизнь», «Иноепархиальная жизнь», «Официальные известия». Начиная с № 4, появляются еще два постоянных раздела – «Из местной жизни» и «Общественно-политическая жизнь». Благодаря этим двум рубрикам газета стала полностью соответствовать своему названию, так как в них появляются заметки и

Апошняе ўважліва сачыла за дзейнасцю ўпаўнаважаных Віцебскага губернскага аддзялення абласнога ўпраўлення па справах літаратуры і выдавецтваў Заходняй вобласці РСФСР і фіксавала іх памылкі, каб паказаць некампетэнтнасць гэтага органа ў справах папярэдняй і паследуючай цэнзуры, асабліва ў дачыненні да губернскіх газет [10]. Тым самым аддзяленні Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення прэтэндавалі на самастойнае ажыццяўленне ўсіх відаў цэнзуры.

**Заключэнне.** У мэтах упарадкавання кіраўніцтва мясцовымі органамі цэнзуры ў лістападзе 1923 г. аблітзап быў скасаваны. З таго часу Віцебскі губліт падпарадкоўваўся непасрэдна Галоўліту РСФСР. У сакавіку 1924 г. было вырашана пытанне аб вяртанні БССР тэрыторыі з пераважна беларускім насельніцтвам. У выніку да Беларусі адыйшлі 15 паветаў і некаторыя воласці Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў. Адпаведна адразу адбыліся структурныя змены – Віцебскі губліт быў ліквідаваны, а ўсе справы перададзены ўпаўнаважанаму Галоўнага ўпраўлення па справах літаратуры і выдавецтваў БССР па Віцебскай акрузе. Зноў адбылася перарэгістрацыя выдавецтваў, перапраўераны бібліятэкі і кнігарні, абноўлены склад цэнзараў з улікам нацыянальнай прыналежнасці.

ЛІТАРАТУРА

1. «На службе родине: страницы истории» / В.И. Дементей [и др.]. – Витебск: Витебск. обл. типография, 2004. – С. 55 – 57.
2. Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці (ДАВВ). Фонд 246. – Воп.1. – Спр. 318. Аб стане і выніках працы губліта (1923 – 1924 гг.). – Л. 22.
3. ДАВВ. Фонд 246. – Воп.1. – Спр. 316. Аб стане і выніках працы губліта (1923 – 1924 гг.). – Л.44.
4. ДАВВ. Фонд 170. – Воп. 1. – Спр. 433. Аб выпуску выдавецкай прадукцыі і справаздача ўпаўнаважанага Галоўліта па Віцебскаму павету (1923 -1924 гг.). – Л.3.
5. ДАВВ. Фонд 246. – Воп.1. – Спр. 318. Аб стане і выніках працы губліта (1923 – 1924 гг.). – Л. 209.
6. ДАВВ. Фонд 246. – Воп.1. – Спр. 318. Аб стане і выніках працы губліта (1923 – 1924 гг.). – Л. 209.
7. ДАВВ. Фонд 246. – Воп.1. – Спр. 318. Аб стане і выніках працы губліта (1923 – 1924 гг.). – Л. 25.
8. ДАВВ. Фонд 246. – Воп.1. – Спр. 318. Аб стане і выніках працы губліта (1923 – 1924 гг.). – Л. 25.
9. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Фонд 42. – Воп. 1. – Спр. 134. Праект пастановы аб Галоўліце БССР і пратаколы пасяджэнняў Галоўлітбела (15 лістапада – 28 снежня 1922 г.). – Л. 4.
10. ДАВВ. Фонд 170. – Воп. 1. – Спр. 433. Аб выпуску выдавецкай прадукцыі і справаздача ўпаўнаважанага Галоўліта па Віцебскаму павету (1923 –1924 гг.). – Л. 3.

## ПОЛАЦКІ ГІСТАРЫЧНЫ НАРАТЫЎ НА СТАРОНКАХ ЧАСОПІСАЎ «ВЕСТНИК ЮГО-ЗАПАДНОЙ И ЗАПАДНОЙ РОССИИ» І «ВЕСТНИК ЗАПАДНОЙ РОССИИ» К. ГАВОРСКАГА

***канд. гіст. навук С.А. ШЫДЛОЎСКІ***
***(Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт)***

*Праводзіцца аналіз публікацый перыядычных выданняў «Вестник Юго-Западной и Западной России» і «Вестник Западной России», прысвечаных гісторыі Полаччыны. Разглядаецца роля беларускага гісторыка і грамадска-палітычнага дзеяча Ксенафонта Антонавіча Гаворскага (1821 – 1871), як даследчыка і выдаўца, у вывучэнні і папулярызацыі гісторыі Полаччыны. Даецца класіфікацыя публікацый часопіса, прысвечаных гісторыі Полацка. Прыводзіцца іх пералік адпаведна храналогіі выхаду нумароў часопіса, якія прысвечаны гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Полацкай зямлі. Даецца анатацыя полацкіх гістарычных сюжэтаў, якія прысутнічаюць на старонках часопіса. Адзначаецца, што нягледзячы на палітычную ангажаванасць гістарычных даследаванняў К. Гаворскага, яны ўтрымліваюць унікальны фактаграфічны матэрыял і захоўваюць навуковую каштоўнасць у вывучэнні канфесійнай гісторыі полацкага рэгіёна, гісторыі архітэктуры Полацка і гісторыі полацкіх баярскіх радоў.*

Полацкая тэма стала прысутнічае на старонках гісторыка-літаратурнага часопіса «Вестник Западной России» (да 1864 года – «Вестник Юго-Западной и Западной России»). Галоўны рэдактар і выдавец часопіса Ксенафонт Антонавіч Гаворскі, колішні палачанін, прафесійна цікавіўся гісторыяй Полацка. Большасць апублікаваных у часопісе матэрыялаў былі напісаны К. Гаворскім пад час яго гістарычных і археалагічных росшукаў на Полатчыне ў 50-ых гадах XIX стагоддзя. Можна ўмоўна вызначыць тры блока «полацкіх» матэрыялаў, якія сустракаюцца на старонках «Весніка»: гістарычныя крыніцы (старажытныя актавыя дакументы, мемуарныя нататкі), навуковыя даследаванні і грамадска-палітычныя допісы карэспандэнтаў з Полацка [1].

Сярод актавых матэрыялаў, змешчаных у часопісе, знаходзяцца як перадрукоўкі з іншых выданняў (АЮЗР і інш.), так і арыгінальныя публікацыі. К. Гаворскі падрыхтаваў да друку шэраг дакументаў, вы-

яўленых ім у архіве полацкага Барысаглебскага манастыра, архіве былых уніяцкіх метрапалітаў, архіве полацкай духоўнай кансісторыі, прыватных архівах. Да перадрукаваных з іншых выданняў матэрыялаў дадзены разгорнутыя каментарыі. Тэматыка дакументаў – усталяванне ўніі на Полаччыне, міжканфесійныя канфлікты, пераслед праваслаўных у ВКЛ і Рэчы Паспалітай, супраціў праваслаўнага насельніцтва Полацка, гісторыя полацкіх манастыроў і цэркваў, гісторыя полацкіх праваслаўных радоў.

Каштоўнай гістарычнай крыніцай, надрукаванай у «Весніку», з'яўляецца работа Антонія (Зубко) «О греко-униатской церкви в Западной России», якая носіць мемуарны характар. У «Весніку» таксама быў апублікаваны ананімны артыкул «Из воспоминаний о почившем митрополите Иосифе Семашко» (перадрукоўка з «Літоўскіх епархіальных ведамасцяў»).

Гісторыя Полаччыны на старонках «Весніка» прадстаўлена работамі К. Гаворскага «Кунцевич. Полоцкий униатский архиепископ», «Жизнь преподобной княжны полоцкой, св. Евфросинии», «Археологические розыскания в окрестностях Полоцка. Отрывок из писем в Императорское Археологическое Общество», «Историческия сведения о полотском Софийском соборе», «Историческое описание полоцкого Борисоглебского монастыря». Некаторыя з гэтых работ ужо друкаваліся раней у «Витебских губернских ведомостях» («Историческия сведения о полотском Софийском соборе», «Историческое описание полоцкого Борисоглебского монастыря», «Археологические розыскания в окрестностях Полоцка. Отрывок из писем в Императорское Археологическое Общество») [2].

На старонках часопіса друкаваліся допісы карэспандэнтаў з Полацку, у якіх асвятляліся актуальныя гарадскія падзеі, змяшчаліся справаздачы дзейнасці полацкіх грамадскіх арганізацый. У большасці выпадкаў дадзеныя допісы з'яўляюцца перадрукоўкамі матэрыялаў з газеты «День».

У *першай кнізе*[18] «Весніка» змешчана работа К. Гаворскага «Кунцевич. Полоцкий униатский архиепископ» (1862, кн. 1, Отд. 3, С. 51 – 58). Заканчэнне публікацыі – у наступным нумары «Весніка» (1862, кн. 2, Отд. 3, С. 75 – 92). У рабоце падрабязна раскрываецца адзін з полацкіх эпізодаў дзейнасці І. Кунцэвіча – захоп уніятамі праваслаўнага Барысаглебскага манастыра. Разглядаюцца абставіны, якія папярэднічалі пераходу мясцовага полацкага праваслаўнага набілітэту ў каталіцкую веру. Апавядаецца аб гісторыі заснавання ў Полацку пры Сафійскім саборы жаночага ўніяцкага манастыра. У першай і *другой кнізе* «Весніка» змешчаны архіўныя дакументы, звязаныя з дзейнасцю І. Кунцэвіча.

У *трэцей кнізе* «Весніка» друкуецца «Жалованная грамота полоцкого князя Ярослава Изяславича полоцкому Борисоглебскому монастырю на мельницу на реке Бельчице 1396 года» (1862, кн. 3, Отд. 1, С. 122 – 123).

У *чацвертай кнізе* «Весніка» друкуецца «Жалованная грамота полоцкого великого князя Андрея Ольгердовича полоцкому Троицкому монастырю на бобровые гони в реке Звоне» (1862, кн. 4, Отд. 1, С. 13 – 14), «Вкладная грамота полоцкаго великаго князя Онуфрия полоцкому Предтеченскому монастырю на бортные земли и угодья с освобождением игумена и братии от подсудимости епископу. Около 1399 года» (1862, кн. 4, Отд. 1, С. 15 – 16), «Наказ полоцкого воеводы Станислава Довойны полоцким боярам Василию и Ивану Михайловичам Зиновьевичам Корсакам дабы явились в суд воеводы для дачи объяснения по исковой жалобе на них нареченного полоцкого владыки Глеба Ивановича Корсака, 1559 г., мая 6» (1862, кн. 4, Отд. 1, С. 21 – 26), «Письменный акт дворянина полоцкого воеводства Ивана Стабровского об отдачи им братняго дома в г. Полоцке на устроение в нем временной православной церкви по случаю отнятия всех полоцких церквей на унию, 1621 г., месяца июня, 10 дня» (1862, кн. 4, Отд. 1, С. 32 – 33).

У каментарах да дакумента даецца падрабязная гістарычная даведка аб полацкіх праваслаўных манастырах, а таксама аб паходжанні полацкага роду Корсакаў.

У *пятай кнізе* «Весніка» друкуюцца «Наказ короля Владислава IV православному архиепископу Сильвестру Коссову, чтобы не смел приезжать в Полоцк и Витебск и совершать в этих городах богослужение и другие святительские обязанности. 1634 г., мая 1-го дня» (1862, кн. 5, Отд. 1, С. 51 – 54), «Копия универсала Януша Кишки полоцкого воеводы и прочее жителям г. Полоцка, чтобы не смели строить новую церковь в г. Полоцке, совершать общественное православное Богослужение, и не отпадали от унии в православие. 1643 г., сентября 14 дня» (1862, кн. 5, Отд. 1, С. 63 – 66), «Указ короля Михаила начальству полоцкого воеводства, чтобы отняли на унию у православных их церковь с монастырем и передали в ведение полоцкого униатского архиепископа Гавриила Коленды. 1670 г., месяца мая 20 дня» (1862, кн. 5, Отд. 1, С. 66 – 68), «Увещательное письмо короля Яна III полоцкому Богоявленскому монастырю и всем православным жителям города Полоцка, чтобы не смели возобновлять православную церковь. 1683 г., апрель 16 дня» (1862, кн. 5, Отд. 1, С. 68 – 70).

У *восьмай кнізе* «Весніка» друкуецца «Выпис из градских книг витебского воеводства протекции униатского митрополита Антония Селявы на полоцкий магистрат и мещан, что они почти все отпали от унии в православие. 1646 г.» (1863, кн. 8, Отд. 1, С. 33 – 36).

[18] У артыкуле выкарыстоўваецца скразная нумарацыя кніжак часопіса адпаведна храналогіі выхада нумароў.

У *дзесятай кнізе* «Весніка» друкуецца «Грамота короля Александра полоцкому епископу Луке на отчину и проч. 1503 г.» (1863, кн. 10, Отд. 1, С. 12 – 15). Даецца кароткая даведка аб полацкіх праваслаўных епіскапах XV стагоддзях, аб гісторыі полацкага Сафійскага сабора.

У *адзінаццатай кнізе* «Весніка» пачынаецца друкавацца работа К. Гаворскага «Жизнь преподобной княжны полоцкой, св. Евфросинии» (1863, кн. 11, Отд. 2, С. 22 – 42). У першай частцы нарыса змешчаныя біяграфічныя звесткі, у каментарах разглядаюцца пытанні гістарычнай тапаграфіі Полацка, выказваюцца гіпотэзы аб лесе Эфесскай іконы, даецца крыніцазнаўчая даведка жыццяпісанняў Еўфрасінні. У другой частцы работы К. Гаворскі палемізуе з каталіцкімі і ўніяцкімі аўтарамі, якія адстойвалі гіпотэзу аб каталіцкім веравызнанні Еўфрасінні і Параскевы.

У *дванаццатай кнізе* «Весніка» друкуецца заключная, трэцяя, частка работы К. Гаворскага «Жизнь преподобной княжны полоцкой, св. Евфросинии» – «Полоцкий Спасо-Евфросиниевский монастырь» (1863, кн. 12, Отд. 2, С. 88 – 100). У дадзенай кнізе змешчаны літаграфічная выява крыжа Еўфрасінні Полацкай. Дадзена яго апісанне і гісторыя стварэння. У дванаццатай кнізе «Весніка» таксама друкуецца «Жалованная грамота короля Стефана Батория г. Полоцку на разные права и вольности. 1580» (1863, кн. 12, Отд. 1, С. 57 – 64).

У *чатырнаццатай кнізе* «Весніка» друкуецца работа «Археологические розыскания в окрестностях Полоцка. Отрывок из писем в Императорское Археологическое Общество» К. Гаворскага (1863, кн. 14, Отд. 4, С. 129 – 140). Апісваецца экспедыцыя 1852 года да Альгердавай дарогі, а таксама вывучэнне каменных крыжоў у ваколіцах Экімані і Бяздзедавічаў. Даецца справаздача археалагічных росшукаў у ваколіцах Рудні, Ветрына і іншых населеных пунктаў Полаччыны.

У *васемнаццатай кнізе* «Весніка» друкуюцца дакументальныя матэрыялы па гісторыі Полацка – выпісы з полацкіх магістратскіх кніг «Оповедане его милости пана Яна Лисовскаго подвоеводего Полоцкаго на некоторых мещан Полоцких о бунте. 1633», «Протестация велебнаго ксендза Иана Филиповскаго казнодзеи колеюм Полоцкого на всих схизматиков у Полоцку будучих иж они образы лжут и о панне насвентшой блузнят. 1643», «Выконане присеги на мескую от Стефана Бурдынскаго. 1638» (1863, кн. 18, Отд. 1, С. 17 – 22).

У *дваццатай кнізе* «Весніка» друкуецца работа «Историческия сведения о полотском Софийском соборе» К. Гаворскага (1864, кн. 20, Отд. 2, С. 77 – 89). К. Гаворскі з пахвалой адзываецца аб знешнім і вонкавым выглядзе Сафійскага сабора пасля яго адбудовы ў XVIII стагоддзі ўніятамі. Аўтар лічыць архітэктара геніальным мастаком, аднак, відавочна, не ведае яго імя і блытае стыль, у якім быў адбудаваны сабор, называя яго «легкім гатычным стылем». К. Гаворскі дапускае, што пачатак будаўніцтва сабора мог прыходзіцца на часы Ізяслава Уладзіміравіча. Па аналогіі з Кіевам і Ноўгарадам, К. Гаворскі выказвае меркаванне, што полацкі Сафійскі сабор мог быць пабудаваны на месцы капішча Перуна. К. Гаворскі мяркуе, што ў Полацку, як самым незалежных ад Кіева з усіх усходнеславянскіх гарадоў, епіскапская кафедра магла з'явіцца раней вядомай па летапісах даце. Аўтар падкрэслівае, што полацкія князі былі моцнымі валадарамі і з'яляліся старэйшымі прадстаўнікамі нашчадкаў св. Уладзіміра, бо паходзілі ад яго старэйшага сыны Ізяслава.

К. Гаворскі прыводзіць асноўныя гістарычныя звесткі, звязаныя з Сафійскім саборам, – дзейнасць у яго сценах Еўфрасінні Полацкай, аблогу войскамі польскага караля Стэфана Баторыя, канфлікт расійскага цара Пятра I з мясцовымі базыльянскімі манахамі, публічнае агалашэнне акта аб скасаванні грэка-каталіцкай уніі ў 1839 годзе. К. Гаворскі карыстаецца работамі Тацішчава, Карамзіна, Бантыш-Каменсага, Нясецкага, Сцябельскага, Альшэўскага, Кульчынскага, Стрыйкоўскага, дакументальнымі крыніцамі, у прыватнасці, прывілеем С. Баторыя на заснаванне ў Полацку езуіцкага калегіума.

У *дваццаць трэцяй* кнізе «Весніка» быў змешчаны ананімны артыкул «Мысль об учреждении общества святой Евфросинии, княжны полоцкой, в северо-западном крае России» (1864, кн. 23, Отд. 4, С. 230 – 235). Таварыства меркавалася стварыць для матэрыяльнай падтрымкі праваслаўных прапаведнікаў, друкавання брашур гістарычнай тэматыкі, распаўсюджання праваслаўнай атрыбутыкі, выплочвання стыпендый святарству, дапамозе народным школам, падтрымцы праваслаўных брацтваў. У каментарыі да дадзенай прапановы маскоўскай газеты «День», змешчанай ў часопісе, адзначалася, што ў дадзенай ініцыятыве заўважны «рутынны і афіцыйны» падыход, што можа пашкодзіць праекту.

У *дваццаць чацвертай* кнізе «Весніка» змешчаны перадрук з газеты «День» нататкі «Вести из Полоцка», падпісанай псеўданімам «Русский» (1864, кн. 24, Отд. 4, С. 351 – 255). У матэрыяле апавядаецца аб адміністратыўных перашкодах, якія зазналі ініцыятары заснавання ў Полацку праваслаўнага брацтва пры Свята-Пакроўскай царкве. Таксама згадваецца беспаспяховае хадайніцтва полацкага сялянства аб вяртанні ў горад мошчаў Еўфрасінні Полацкай. Апісваецца становішча полацкага дзявочага пансіену.

У *дваццаць семай* кнізе «Весніка» змешчаны перадрук з газеты «День» допіса «Письмо из Полоцка» (1864, кн. 27, Отд. 4, С. 402 – 407). Аўтар нататкі расказвае аб дзейнасці полацкай «Бесплатной женской школы», якая рыхтавала настаўніц для вясковых школ. Настаўнікамі ў школе працавалі выкладчыкі кадэцкага корпуса, а таксама «образованные девицы». У школе налічвалася 66 навучэнак, сярод якіх было 5 каталічак і 2 яўрэйкі. Карэспандэнт выказваў спадзевы, што падобныя школы будуць спрыяць фарміраванню сярод беларускага сялянства праваслаўнай рускай ідэнтычнасці. Аўтар заўважае, што сялянства Полацкага і Лепельскага павета з цяжкасцю вызначае сваю этнічную прыналежнасць. Аўтар звяртаецца са старонак «Дня» да велікарускага грамадства з просьбай матэрыяльна дапамагчы полацкай школе.

У *дваццаць восьмай* кнізе «Весніка» пачынаецца публікацыя работы архіепіскапа Антонія (Зубко) «О греко-униатской церкви в Западной России». У сваіх нататках аўтар, згадаўшы аб сваіх дзіцячых гадах, праведзеных у Полацку, апавядае аб выпадках пераследу мясцовых яўрэяў вучнямі полацкага езуіцкага калегіума, высмейвання імі праваслаўнага святарства. На думку аўтара, польскамоўны пісьменнік Ян Баршчэўскі, далекі сваяк епіскапа, выхадзец з сям'і ўніяцкага святара Мурагоўскай царквы, пасля выхавання ў полацкіх езуітаў стаў саромецца свайго паходжання, (езуіты вучылі, што дзеці ўніяцкіх светароў з'яўляюцца незаконнанароджанымі) і называў сябе надалей шляхціцам. Аўтар асуджае дух нецярпімасці і фанатызму, які гартавалі сярод каталіцкіх вернікаў кляштарныя школы. Епіскап Антоні сцвярджаў, што гэты настрой стаў асабліва прыкметны пад час польскага паўстання, калі вернікі выходзілі з касцелу ўзбуджаныя «пасля спеваў рэвалюцыйных песен». Епіскап Антоній апісвае побыт грэка-уніяцкага святарства, распавядае аб дзейнасці полацкіх архіепіскапаў Лісоўскага, Красоўскага, Мартусевіча, разглядае дзейнасць полацкай епархіяльнай уніяцкай семінарыі (1864, кн. 28, Отд. 2, С. 203 – 231). Заканчэнне работы архіепіскапа Антонія (Зубко) «О греко-униатской церкви в Западной России» друкуецца ў *дваццаць дзевятай* кнізе «Весніка» (1864, кн. 29, Отд. 2, С. 22 – 64).

У *дваццаць дзевятай* кнізе змешчана таксама работа К. Гаворскага «Историческое описание полоцкого Борисоглебского монастыря» (1864, кн. 29, Отд. 2, С. 1 – 22). У сваім даследаванні аўтар абапіраецца на дакументы архіваў Барысаглебскага манастыра, Сафійскага сабора, полацкай духоўнай кансісторыі і павятовага суда, прыватнага архіва памешчыка лепельскага павета Людвіка Корсака, спасылаецца на работы Стрыйкоўскага, археалагічныя росшукі на Падзвінні Тышкевіча і Шчыта. К. Гаворскі, салідарызуючыся з Стрыйкоўскім, нагоду з'яўлення Барысавых камянеў тлумачыць жаданнем князя Барыса адзначыць удалую дастаўку па Дзвіне з Рыгі будаўнічага матэрыялу на ўзвядзенне манастыра. Аўтар указвае на існаванне даўняй традыцыі сярод полацкага баярства апекавацца манастыром. Пасля ўзяцця Полацка ў 1563 годзе Іванам IV манастыр разам са сваімі зямельнымі ўладаннямі быў аддадзены ва ўласнасць Корсакам, Шчытам і Тышкевічам. Гэтыя полацкія баяры абавязваліся сачыць за станам пабудоў манастыра і апекавацца яго дабрабытам. Аднак вынікам гэтага рашэння, як лічыць К. Гаворскі, стаў заняпад манастыра.

К. Гаворскі прытрымліваецца распаўсюджанага меркавання, што тэрыторыя Барысаглебскага манастыра ўяўляла сабой крэпасць, за сценамі якой знаходзілася рэзідэнцыя князеў «Владимирова дома».

К. Гаворскі згадвае аб адзінаццацідзеннай аблозе манастыра ўніятамі пад ачолай Е. Кунцэвіча. Пасля ўзяцця манастыра, па звестках К. Гаворскага, былі канчаткова знішчаны абарончыя ўмацаванні Барысаглебскай абіцелі. К. Гаворскі называе Барысаглебскі абіцель першым беларускім уніяцкім манастыром.

У асобным раздзеле аўтар апісвае стан манастырскіх пабудоў. К. Гаворскі згадвае цэрквы св. Параскевіі, Іаана-Багаслоўскую, у імя Успенія Пр. Багародзіцы, св. Барыса і Глеба. Самай старой каменнай царквой манастыра К. Гаворскі лічыў царкву ў імя св. Параскевы. Аўтар меркаваў, што гэтая царква па свайму плану была блізкая да Спаскай царквы Спаса-Еўфрасіньеўскага манастыра. К. Гаворскі згадвае аб пахаванні ў сценах манастыра парэшткаў уніяцкіх архімандрытаў. Аўтар пераказвае полацкую легенду, якая апавядала аб існаванні падземнага тунэля ад царквы св. Параскевы праз Дзвіну да Верхняга замка.

Асобны раздзел работы прысвечаны жыццяпісу настаяцеляў Барысаглебскага манастыра.

У *трыццаць першай* кнізе «Весніка» друкуюцца матэрыялы па гісторыі полацкай архіепіскапіі: «Инвентарь полоцкой архиепископии 1588 г.» (1865, кн. 31, Отд. 1, С. 33 – 40) и «Инвентарь имений полоцкой архиепископии, составленный при передаче их во владение архиепископу Гедеону Брольницкому в 1661 г.» (1865, кн. 31, Отд. 1, С. 40 – 43).

У *трыццаць трэцяй* кнізе «Весніка» друкуецца матэрыял «Корреспонденция из Полоцка», падпісаны псеўданімам «Полоцкий Старожил» (1865, кн. 33, Отд. 4, С. 48 – 52). Мясцовае беларускае насельніцтва, па сведчанні аўтара, займаецца скураным рамяством, будаўнічымі работамі і ганчарствам, стараверы займаюцца садаводствам і агародніцтвам, астатнія промыслы і гандль амаль цалкам знаходзіцца пад яўрэйскім кантролем. Аўтар допіса разважае аб «вялікіх зменах», якія адбыліся ў горадзе за некалькі дзесяцігоддзяў, – культурнай асіміляцыі яўрэйскага насельніцтва, колькаснага росту праваслаўнай грамады і праваслаўных храмаў. Па сведчанню аўтара, у Полацку ў 1865 годзе налічвалася шэсць праваслаўных і адзін каталіцкі храм. Аўтар гаворыць аб вялікім значэнні кадэцкага корпусу для фарміравання мясцовага адукаванага праваслаўнага грамадства. Асяродкам нефармальнай камунікацыі для апошняга з'яўляўся дваранскі клуб. Пры клубе ладзяцца танцавальныя і літаратурныя вечарыны, самадзейныя канцэрты, дзейнічае аматарскі тэатральная група, якая паставіла «народную пьесу». На павятовых пасадах палякаў замянілі праваслаўныя чыноўнікі. Польскамоўная шляхта адасобілася ад полацкага дваранства і стала ладзіць уласныя з'езды ў Дзісне.

У *трыццаць пятай* кнізе «Весніка» друкуецца «Жалованная грамота полоцкому боярину Глебу Корсаку на преемство полоцкой архиепископии, по кончине тамошняго владыки Германа. 1558 г.» (1865, кн. 35, Отд. 1, С. 25 – 26), «Жалованная грамота полоцкого Предтеченскаго монастыря иноку Арсению Шишке на полоцкую архиепископию. 1562 г.» (1865, кн. 35, Отд. 1, С. 28 – 29). У гэтай жа кнізе надрукавана нататка «Несколько слов о пребывании г. главного начальника северо-западного края в г. Полоцке, Витебской губернии» (1865, кн. 35, Отд. 4, С. 303 – 305). У нататцы апавядаецца аб наведванні Полацка 3 ліпеня 1865 года К. П. Кауфманам. Да К. П. Кауфмана была накіравана дэлегацыя мясцовага дваранства.

Як аказалася, з 27 прысутнічых дваран 14 знаходзілася пад надзорам паліцыі з-за іх удзелу ў польскім паўстанні 1863 года. К. П. Кауфман сустракаўся таксама з беларускімі сялянамі, якія скардзіліся яму на злоўжыванні памешчыкамі пры састаўленні ўстаўных грамат.

У *трыццаць дзевятай* кнізе «Весніка» друкуецца «Жалованная подтвердительная грамота, данная королем Стефаном Баторием полоцким иезуитам на владение вотчинами и всякими угодьями, принадлежавшими тамошним монастырям и церквам. 1584 г.» (1866, кн. 39, Отд. 1, С. 26 –74).

У *сорак другой* кнізе «Весніка» друкуецца ананімны этнаграфічны нарыс «Нечто о поверьях белорусцев Полоцкого уезда» (1866, кн. 42, Отд. 4, С. 270 – 274). Даецца кароткі агляд міфалагічных вераванняў і народных святаў беларускага сялянства Полаччыны.

У *пяцьдзесят восьмай* кнізе «Весніка» друкуюцца зварот полацкага епіскапа Савы «От преосвященного Саввы, епископа полоцкаго и витебскаго, приглашение к благотворительным приношениям в пользу бедствующих церквей полоцкой епархии» (1867, кн. 58, Отд. 4, С. 88 – 89).

У *шасцідзесятай кнізе* «Весніка» друкуецца «Выпис из полоцких ратушных книг королевских указов против не-унитов: 1) чтобы православного епископа Смотрицкаго не впускали в Полоцк; 2) какие монастыри должны оставаться за униатами; 3) никому высшия должности не должны быть даваемы без митрополита и 4) православные не смеют строить и починять церкви, совершать публично богослужение и церковныя требы» (1867, кн. 60, Отд. 1, С. 63 – 71).

У *шэсцьдзесят першай* кнізе «Весніка» друкуецца «Речь начальника полоцкой учебной дирекции А. А. Попова. 18-го сентября, 1867 года» (1868, кн. 61, Отд. 4, С. 67 – 72). Прамова была прымеркавана да адкрыцця ў Полацку новага праваслаўнага храма.

У *шэсцьдзесят другой* кнізе «Весніка» друкуецца «Увязчий (вводный) лист дворянина Годебскаго епископу Полоцкому Афанасию Терлецкому на владение имениями архиепископии, с инвентарем. 1588 г.» (1868, кн. 62, Отд. 1, С. 60 – 74).

У *шэсцьдзесят трэцяй* кнізе «Весніка» друкуюцца «Королевская грамота витебскому воеводе Николаю Сапеге о явке на суд для расправы по жалобе полоцкаго архиепископа Германа Загорскаго за удержание им некоторых даней, издавно пожалованных витебским церквам Успенской и Михайловской с королевских волостей. 1597 г.» (1868, кн. 63, Отд. 1, С. 75 – 77), «Инвентарь имений полоцкой архиепископии. 1601 г.» (1868, кн. 63, Отд. 1, С. 78 – 85), «Послание Мелетия, архиепископа полоцкаго, виленскому Свято-Духовскому братству о принятии им иеродиакона Филиппа. 1621 г.» (1868, кн. 63, Отд. 1, С. 93 – 94).

У *шэсцьдзесят чацвертай* кнізе «Весніка» друкуюцца «Жалованная грамота литовскаго великаго князя Александра городу Полотску на магдебургское право. 1498 г.» (1868, кн. 64, Отд. 1, С. 5 – 10), «Уставная грамота литовскаго великаго князя Александра полотским боярам и мещанам о наместничьем и войтовском суде и проч. 1499 г.» (1868, кн. 64, Отд. 1, С. 10 – 14), «Уставная грамота литовскаго великаго князя Александра городу Полотску о сельских путниках, приписанных к Полотскому замку, службе их и повинностях и о суждении горожан, ремесленников и церковных отчинных людей по магдебургскому праву. 1500 г.» (1868, кн. 64, Отд. 1, С. 14—17), «Судная королевская грамота полотским мещанам по жалобе на наместника Станислава Глебовича о чинимых им обидах и притеснениях вопреки дарованному им магдебургскому праву. 1503 г.» (1868, кн. 64, Отд. 1, С. 17 – 19), «Судная грамота литовскаго великаго князя Александра полотскому епископу Луке об отчуждении его от владения софийскими селами, данными князем Скиргайлом тамошним крылошанам. 1499 г.» (1868, кн. 64, Отд. 1, С. 20 – 21), «Жалованная подтвердительная грамота полотскому епископу Луке на архиерейскую отчину, отчужденную полотскими боярами и софийскими крылошанами. 1503 г.» (1868, кн. 64, Отд. 1, С. 21 – 23).

У *шэсцьдзесят семай* кнізе «Весніка» друкуецца «Жалоба полацкаго лянтвойта Есмана на полотскаго скорняка Федора Алексеевича, утверждавшаго, что уния — порождение диавола (из книг Полоцкой ратуши). 1646 г.» (1868, кн. 67, Отд. 1, С. 10 – 11).

У *семдзесят другой* кнізе «Весніка» друкуюцца «Сведения о Полоцком Базилианском Софийском монастыре. Акты этого монастыря, начатыя в 1746 году по повелению Ираклия Лисовскаго, прото-консультора литовской базилианской провинции, главнаго викария и оффициала полоцкой архиепископии» (1868, кн. 72, Отд. 1, С. 39 – 61).

У *семдзесят чацвертай* кнізе «Весніка» друкуюцца «Заявление полотскаго архиепископа Антония Селявы о покушении на его жизнь полотских мещан. 1633 г.» (1869, кн. 74, Отд. 1, С. 39 – 42), «Жалоба иезуита на полотских мещан католиков, пожелавших быть православными, и потому неисполняющих латинских обрядов. 1645 г.» (1869, кн. 74, Отд. 1, С. 42—43).

У *семдзесят семай* кнізе «Весніка» друкуецца «Вкладная грамота полоцкого великого князя Онуфрия полоцкому Предтеченскому монастырю на бортныя земли и угодья. 1399 г.» (1869, кн. 77, Отд. 1, С. 30 – 31).

У *восемдзесят чацвертай* кнізе «Весніка» друкуюцца «Жалованная грамота московскаго патриарха Иоакима полоцкому Богоявленскому братскому монастырю с предоставлением непосредственной зависимости от патриаршаго престола и с благословением тамошнему игумену Игнатию Жихмонтову и его преемникам освящать в Белорусском крае православные церкви. 1686 г.» (1869, кн. 84, Отд. 1, С. 40 – 43), «Подтвердительная грамота могилевскаго епископа Серапиона Полховскаго об исключительном праве полоцкому Богоявленскому и ви-

тебскому Марковскому монастырям отправлять монахов в Ригу для совершения богослужения и отправления христианских треб. 1699 г.» (1869, кн. 84, Отд. 1, С. 43 – 45), «Благословенная подтвердительная грамота наместника и администратора белорусской епископии Сильвестра Волчанскаго полоцкому Богоявленскому и витебскому Маркову монастырям о предоставлении им права по прежним архипастырским грамотам отправлять монахов своих в Ригу поочередно для совершения богослужений и христианских треб, также для милостиннаго сбора. 1686 июля 8» (1869, кн. 84, Отд. 1, С. 45 – 47).

У *восемдзесят пятай* кнізе «Весніка» друкуецца «Акт празднества церковнаго братства во имя святителя Николая и преподобной Евфросинии, княжны полоцкой, в г. Полоцке по случаю второй годовщины существования братства в 25-е мая 1869 года» (1870, кн. 85, Отд. 1, С. 1 – 11). Прыводзіцца справаздача работы брацтва.

У *дзевяноста шостай* кнізе «Весніка» перадрукоўваецца артыкул «Из воспоминаний о почившем митрополите Иосифе Семашко», які быў змешчаны ў «Літоўскіх епархіальных ведамасцях» (1870, кн. 96, Отд. 4, С. 88 – 94). У артыкуле апавядаецца аб наведванні І. Семашкам Полацка.

Публікацыі «Весніка» ў поўным аб'еме даюць уяўленне аб навуковым і грамадска-палітычным характары дзейнасці К. Гаворскага, а таксама аб агульным стане полацказнаўства ў 60 – 70-ых гадах XIX стагоддзя. Ксенафонт Антонавіч Гаворскі – адзін з першых айчынных гісторыкаў, які пачаў сістэматычнае вывучэнне і паслядоўную актуалізацыю гістарычнага мінулага Полаччыны. «Веснік» з'яўляўся адзіным гісторыка-літаратурным часопісам, на старонках якіх полацкая гістарычная тэма з'яўлялася адной з асноўных. Нягледзячы на канфесійную ангажаванасць часопіса, у прыватнасці работ К. Гаворскага, публікацыі «Весніка» захоўваюць навуковую каштоўнасць. Дзякуючы археаграфічнай і даследчыцкай дзейнасці К. Гаворскага захаваўся каштоўны фактаграфічны матэрыял са страчаных полацкіх архіваў.

ЛІТАРАТУРА

1. Алексеев, Л.В. Археология и краеведение Беларуси XVI – 30-е годы XX в. / Л.В. Алексеев. – Минск: Беларуская навука, 1996. – С. 90 – 93.
2. Сороко, С.М. «Витебские губернские ведомости» (официальная и неофициальная часть) / С.М. Сороко. – Москва – Новополоцк : Научный центр славяно-германских исследований, 2004. – С. 67.

## ЖИТЕЛИ ВИТЕБЩИНЫ И БОРЬБА ЗА НОВЫЙ СОВЕТСКИЙ БЫТ В 1920-Х гг.

***канд. ист. наук, доц. Г.Н. ЯКОВЛЕВА***
***(ВГУ им. П.М. Машерова, Витебск)***

**Введение**. В первые годы после установления советской власти происходили сложные процессы адаптации населения к новым политическим реалиям, усвоения хотя бы азов новой идеологии, усвоения новых норм жизни, стилей поведения и стратегий выживания. Кардинально менялся уклад жизни «бывших», с трудом вписывавшихся в новые реалии. Изменялся социальный статус прежних социальных низов. Партийно-государственная власть агрессивно вторгалась в традиционный уклад жизни миллионов людей. Происходившие изменения хорошо прослеживаются на региональном уровне, которые можно проанализировать на основе документов, отложившихся в Государственном архиве Витебской области.

**Основная часть**. Одной из первых попыток подойти к бытовым нуждам пролетариата с классовых позиций стало решение жилищного вопроса. Началась известная «война этажей» – переселение рабочего люда из подвалов на более высокие этажи, принадлежавшие до революции обеспеченным жильцам. Известно, что одним из первых решений большевиков Витебска стала национализация недвижимости в декабре 1917 года. Однако это решение пришлось отменить в апреле 1918 г. из-за неспособности властей обеспечить обслуживание жилого фонда [1, с. 172]. Городское хозяйство постепенно приходило в упадок и переживало особенно трудные времена в течение 1918 – 1921 годов. В июне 1919 года вопрос о жилищной политике и необходимости выселения буржуазии из квартир обсуждался на заседании губкома РКП (б). Возникли споры о нормах наделения жильем, потом утверждалось, что трудно не переселить рабочих, а отапливать жилье в условиях разрухи и нехватки всего необходимого. Дискуссии вызвал вопрос о том, кого считать рабочим и как выселить «бывших», многие из которых уже «устроились в советские учреждения и к ним не подойдешь». Классовый принцип решения жилищного вопроса пришел в противоречие с производственными интересами и создавал трудности для рабочих, так как им приходилось бы из центра добираться на окраины, где располагались предприятия, на которых они работали, и где они жили ранее [2, л. 36]. Гораздо решительнее решался вопрос о выселении, когда надо было освободить помещение под партийные или советские нужны. Поиски решения жилищного вопроса нашли свое отражение в «Инструкции по переселению и уплотнению в городе Велиже», разработанной местными партийно-советскими руководителями. Инструкция предлагала выделять рабочим и советским служащим

«здоровую квартиру» по возможности в центре города, «дабы она могла быть поближе к клубам, читальням, театрам, службе, а их детям к школам, которые будут располагаться в центре». Жизнь трудящихся в новых квартирах необходимо было «обставить возможно удобнее», для чего в инструкции предусматривались очень ограниченные нормы мебели и домашней обстановки, которую буржуазия, переселяясь, могла оставить себе. Все дома были разделены по качеству на четыре категории, закрывались подвалы; при переселении, чтобы рабочий люд не испытывал дискомфорта от совместного проживания с буржуазией, надо было селить его с равными себе. Граждане должны были обеспечить в квартирах чистоту и порядок, иначе грозил штраф или выселение в худшую квартиру, а также, начиная с 18 лет, по очереди, очищать прилегающие улицы и дворы [3, л. 9, 10об., 11]. Характерно, что интеллигенция, стремясь уменьшить издержки классового решения жилищного вопроса, «самоуплотнялась» так, чтобы тоже жить с людьми своего круга, что хоть как-то гарантировало мирное сосуществование.

Характерной чертой нового советского быта была его коммунализация. Предполагалось, что рабочие будут жить в домах-общежитиях с общими яслями, столовыми, прачечными, появятся машины, которые облегчат домашний труд, и освободят время для культурного досуга и самообразования. Появилось жилье нового типа: жилище пролетариев, дом-коммуна, жилищный комбинат и т.д. В 1927 – 1929 гг. в Витебске по ул. М. Горького, д. 36/25 был построен дом-коммуна, отражавший процесс поиска как новых форм быта, так и новых архитектурных форм. Это четырехэтажное здание было первым в БССР зданием подобного типа, построенным с целью обеспечения рабочих удобным экономичным жильем. Дом был рассчитан на 280 – 300 жильцов, имел комнаты для несемейных и малосемейных рабочих. Каждая группа комнат на 18 – 24 чел. была объединена холлом для занятий и отдыха, имела кухню, туалеты. На первом этаже центральной части здания располагались общественные помещения (зал, холл, читальный зал, магазины), а в цокольном – коммунально-бытовые ( душ, прачечная, сушилка) [4, с. 171].

Однако дома-коммуны так и не стали повсеместно распространенной формой жилья. Сначала ограниченные возможности государства в социальной сфере, а затем индустриальный рывок, сопровождавшийся урбанизацией и резким ростом численности рабочего класса, сорвали красивые, но утопические планы о массовом строительстве домов-коммун. На десятилетия нормой стал быт в коммуналках.

Серьезные изменения происходили в области семейно-брачных отношений, где в предшествующий период накопилось значительное количество проблем и реально существовало неравенство между мужчиной и женщиной, мужем и женой. В серии декретов советской власти провозглашалось, что дети находятся под охраной государства, предпринимались попытки облегчить положение беременных и кормящих матерей. Со временем стала создаваться гинекологическая служба и стали появляться детские сады и ясли. Уже в первые месяцы существования новой власти ВЦИК РСФСР издал ряд декретов, которые закрепили приоритет светского (гражданского) брака, т.е. брака, зарегистрированного в соответствующем государственном учреждении – ЗАГСе, без церковного обряда венчания. Официально церковный брак считался частным делом граждан и не гарантировал прав мужа и жены. Начинают распространяться браки без официальной регистрации отношений. Советское законодательство также упростило разводы и семейные переделы земель, что повлекло за собой сокращение средних размеров семьи. Появилось значительное количество матерей-одиночек. Утверждение светских браков быстрее проходило в городе и гораздо тяжелее – в деревне. Крестьянство вплоть до 30-х годов не приветствовало браков без церковного сопровождения, воспринимая их как блуд и голый разврат. Отрицательным было и отношение к разводам. И все же новые веяния охватывали горожан и крестьян. В «Песне молодухи», опубликованной в 1925 году «Крестьянской газетой», некая Алена писала: «Не хочу венчальных колец // Не пойду за мельника // Мой миленок комсомолец // А сама я – ленинка // Выйду замуж без иконы // Без богомоления // По советскому закону // За мое почтение» [5, л. 143об.]. Сельские активисты сообщали в газету о примерах «свадеб без попов» в своих деревнях.

Формирование нового советского быта шло параллельно с усвоением новой идеологии. Бытовые традиции, связанные с религиозными праздниками и старыми семейно-брачными отношениями, заменялись советскими праздниками-заместителями (красными крестинами, революционными октябринами, красными сейдерами и др.). Губком РКП (б) (с 1924 г. – окружком) с помощью партячеек, губполитпросвета, женотделов, комсомола организовывал борьбу с религиозными праздниками и религиозно-бытовыми обычаями, а также проводил работу по внедрению новых. При формировании нового быта приходилось учитывать и национальные традиции. Евреи составляли значительную часть населения Витебска. В 1925 г. их насчитывалось 39 714 человек (белорусов – 26 418, великороссов – 17 791) [6, л. 67]. Еврейские рабочие преобладали в кожевенном, швейном, строительном и печатном производстве, а в металлической, пищевой и химической отраслях процент еврейских рабочих колебался от 40 до 50 %. Они составляли 33 % всех членов профсоюзов [6, л. 72а, 73]. Еврейское население не хотело работать по субботам, праздновало иудейские праздники, соблюдало традиционные ограничения в еде, школьники не посещали уроки по праздникам. На бытовом уровне проявлялся антисемитизм. Еврейский подотдел при губотделе по делам национальностей, действовавший в 1921 – 1922 гг., вел борьбу «с клерикализмом путем выяснения вредного влияния субботнего отдыха на развитие местного хозяйства» и постепенного вытеснения

хедеров [7, л. 5]. Руководство женотдела губкома РКП (б), в значительной степени состоявшее из евреек-коммунисток, стремилось максимально втянуть женщин в строительство нового быта.

Женотделы разных уровней, бытовые комиссии предприятий губернии рекомендовали родителям называть своих детей новыми советскими именами и придерживаться новых, пролетарских обрядов. В 1924 году на фабрике «Двина» состоялось общее собрание трудового коллектива в связи с проведением красных крестин. После доклада, осуждавшего старые религиозные обряды и традиции, исполнения «Интернационала», родителям новорожденной предложили назвать девочку «Лениной» в честь Ленских событий 1912 года, рекомендовали воспитывать дочку в коммунистическом духе и подарили многочисленные подарки. Малышка была зачислена в члены профсоюза текстильщиков без уплаты членских взносов до поступления на работу, получила кусок ткани для своего гардероба, ей была обещана материальная помощь на ближайшие шесть месяцев. Комсомольцы и пионеры зачислили ее в свои ряды, а женотдел выписал для молодой семьи журнал «Женщина-работница» [8, с. 5]. Бытовая комиссия совместно с ответственным организатором по работе среди женщин и секретарем ячейки КП (б)Б металлистов рассмотрев вопрос «Об октябринах», постановила подготовить клуб, организовать спектакль и оркестр, прочитать доклад о новом быте и устроить торжественное заседание по поводу октябрин. Бытовая комиссия в данном случае рекомендовала для новорожденных имя «НИНЕЛ» [9, л. 16]. Некая активистка, скрывшаяся под псевдонимом «Инокиня Марфа», радовалась в написанном ею стихотворении «Октябрины»: «И младенцу кумовья // Дали имя в честь вождя // А родители собою // Горды, счастливы без меры // Юный сын их стал героем // И записан в пионеры // И как лед весною тает // От палительных лучей // Быт отживший исчезает // В пламени грядущих дней» [5, д. 332, л. 123].

В советском обществе частное и общественное все больше переплеталось. Поведение в семье, воспитание детей, взаимоотношения мужа и жены переставали быть приватным делом рабочих и крестьян. Особенно пристальным было внимание к членам партии и комсомольцам. В 1924 г. в комсомольских ячейках города «… удалось ставить отчеты отдельных комсомольцев о личной жизни и о работе». «Мы, таким образом, сумеем выявить личную жизнь каждого комсомольца»,- считало местное комсомольское руководство [9, л. 31]. В том же году из городской парторганизации было исключено из партии шесть партийцев – рабочих от станка, которые были членами Ленинского призыва. Им вменялось в вину не только нежелание голосовать за решения своих бюро, но и пьянство, наличие дома икон и совершение обряда крещения [15, л. 16, 17]. У ответственных работников местного уровня проявлялись другие недостатки: они проявляли «комчванство», неуважительное отношение к беспартийным, беспардонность по отношению к прислуге, которая, как в старые времена, тут же появилась у партийных бонз.

Многие из мужчин не хотели мириться с изменением социального статуса своих жен. Партийцы неоднократно высказывались о том, что своим женам они бы не позволили работать в партии. Недовольны мужчины были и тем, что женщины вовлекались в общественную жизнь, так как из-за собраний и заседаний жены надолго отлучаются от детей и некому разогреть и подать ужин. Даже в 1926 году на собрании жен рабочих-строителей Витебска один рабочий заявил: «Пусть меня исключат из союза, но в делегатки свою жену не пущу» [10, л. 53об.]. Закономерно поэтому то, что основную массу женской части партийно-комсомольского актива составляли молодые девушки.

Одной из распространенных форм борьбы с нормами, обычаями и привычками старой традиционной жизни стали знаменитые политсуды 1920-х гг. В ходе этих судов люди разных возрастных категорий, но чаще рабочая молодежь и женщины, подвергались общественному презрению. Для боящихся людского осуждения женщин, сформировавшихся еще в дореволюционной России, эти мероприятия были чрезвычайно неприятны. Страх общественного позора в данном случае выступает в качестве мотивации активности. В Витебске зафиксированы политсуды «над вечеринкой», над еврейскими комсомольцами за приготовление мацы, «над обрядом Пасхи» и показательные политсуды над антисемитами.

Значительную роль в пропаганде черт нового быта играла печать. «Крестьянская газета» и «Заря Запада» (издания ОК КП (б) Б) публиковали материалы о правильном уходе за детьми, о чистоте жилища, сообщали на своих страницах о примерах внедрения элементов нового быта. В рубрике «К новой жизни» «Крестьянская газета» публиковала сообщения с мест о проведении красных крестин, октябрин, красных вечеринок, антирелигиозных вечеров, борьбы с пьянством. Из дер. Боровляны Высочанского района сообщалось: « Взялись энергично наши деревенские комсомольцы за уничтожение самогонки и одновременно с этим начали устраивать красные вечеринки. На вечеринках что – сельдей в бочке» [5, л. 144]. В народном доме села Высочаны беспартийный крестьянин Г. «октябрил» своего ребенка. «Много народу собралось посмотреть, как по-советски «крестят» детей. Отвечая на приветствия партии, комсомола и других организаций, Г. сказал: «Отрекся я от богов и чертей, и к этому призываю всех граждан». Селькор М. Т-ский сообщал в газету следующее: «В деревне Мазолово новый быт постепенно завоевывает себе право. Не прошло еще года, как у нас была свадьба, трое октябрин и двое похорон и все без попа… Молодежь в церковь не ходит, и не только молодежь, но даже такие, которым лет 30 и больше». Автор констатировал, что в церковь, как правило, не ходят мужчины, но понемногу и женщины идут вслед за ними. Другой корреспондент, рассказывая об успехах местного женского движения, сокрушался: «Наши делегатки не любят, когда докладчик касается, хоть бы мимоходом, религии и бога. Пора уже понять, что бог ни

на одну каплю не облегчил женской доли, что улучшить свою жизнь могут только сами женщины, тесно сплотившись вокруг своей организации» [5, л. 175об.].

Партийно-государственными инстанциями предпринимались попытки изменить традиционные формы досуга рабочих и крестьян. На местных фабриках и заводах создавались рабочие клубы с библиотеками, хоровыми, драматическими, художественными кружками. Стало более доступным кино. Летом 1924 года в Витебске был торжественно открыт рабочий сад, где летними вечерами и в выходные дни можно было провести свободное время. В деревнях и местечках появились избы-читальни, народные дома. Однако рабочие и крестьяне руководствовались прежними представлениями о том, что есть труд, и что есть отдых. Многие мероприятия, проводимые в клубах, сопровождались традиционными возлияниями, выяснениями отношений на кулаках. Вместо скучных лекций на политические или научные темы молодежь хотела традиционных, но так не любимых властями «танцулек». Появились общегородская комиссия по борьбе с танцами, от клубов требовали не танцев, а реальной кружковой работы, организации культурного досуга пролетарских масс города [14, л. 22]. Однако реальная и каждодневная жизнь рабочих окраин и слобод мало изменилась. Нередко здесь по-прежнему процветали преступность, хулиганство, алкоголизм и проституция.

На борьбу со старым бытом население страны мобилизовали различные советские учреждения. Общество по борьбе с неграмотностью учило граждан читать, Общество воинствующих безбожников внедряло в массовое сознание атеизм. Дома санитарного просвещения и ячейки Красного Креста прививали рабочим и крестьянам санитарно-гигиенические навыки, боролись с антисанитарией.

Включилась в процессы формирования новых социальных норм и правил поведения и школа. Деятельность советской школы и педагогов в этом направлении была неоднозначной. Под прямым воздействием западных теорий и практики возник гигиенический уклон в воспитании детей (строгое соблюдение чистоты наряду с эмоциональной сдержанностью, а также скрупулезное наблюдение за физическим и умственным состоянием ребенка). Как на Западе, так и в Советской России складывается новый идеал ребенка – энергичного, эмоционально независимого, инициативного. Культивируются такие качества как физическое здоровье, опрятность, решительность, трудолюбие. Одежда пионеров 1920-х гг. удивительным образом по форме и стилю совпадала с «рациональной одеждой» в британской детской культуре этого же времени. Советские девочки, также как и их британские сверстницы, отвергали бантики, брошечки, рюши, воланы, пытались избавиться от слезливости, сентиментальности и игры в куклы. Как отмечает К. Келли: «Приезжающие в СССР журналисты, педагоги и медики, как ни тревожила их практиковавшаяся там, но их мнению, «индоктринация» детей, в целом горячо одобряли усилия Советского государства по преобразованию традиционной системы их воспитания. Критике подвергался не характер гигиенического идеала, а его неполное осуществление на практике» [11, с. 399 – 400].

Наблюдавшаяся тенденция к усилению «мальчишеских» черт в одежде и манерах советских девочек, проникавшая в детскую культуру под влиянием школы и пионерского движения, закреплялась достаточно сложно. Многие девочки и их родители противились происходившей унификации. Раздельное обучение мальчиков и девочек в дореволюционной России, строгие гендерные стереотипы поведения и внешнего вида в предшествующий период сдерживали быстрое насаждение новых бытовых практик и манер поведения. Так, в 1925 г. руководителей Витебского окружного отдела народного образования беспокоила сохранявшаяся в школах города «отделяемость мальчиков и девочек». В «Плане проведения Международного дня работниц в школах семилетки» предлагалось провести с 4 по 7 марта 1925 г. конкурс на лучший класс данной школы, «больше всего изживший отделяемость мальчиков от девочек». В устных газетах в юмористическом духе отметить отдельных учащихся или отдельные классы, придерживающиеся отделяемости и прочих «буржуазно-мещанских взглядов на женщину». Особая комиссия должна была выявить лучший класс на основе следующих критериев: «Лучшим классом считается тот, в котором меньше всего мальчиков и девочек, отделяющихся друг от друга. В котором больше всего девочек втянуто в общественную работу, в котором меньше всего девочек, сохранивших привычки «барышень» [12, л. 20].

В реальности наблюдались серьезные трудности и с внедрением правил гигиены, и культа физической культуры и мужественности. Только самые прогрессивные родители, знакомые с трудами педагогов, рационально выстраивали систему воспитания своих детей, отказывались от использования физических наказаний и так называемого «сюсюканья». Попытки же школы вести борьбу за привитие правил гигиены, здорового образа жизни часто сталкивались с жестокими реалиями жизни детей из заводских районов и вековых традиций быта крестьянских семей.

Протоколы заседаний школьных Советов Витебского округа за 1927 г. полны констатаций о том, что дети не просвещены в плане санитарии и гигиены, не снимают шапок в классах, курят в школе, матерятся [13, л. 309 об.]. Заведующий десятой школой-семилеткой вынужден был признать, что ученик третьего класса П. «…ведет себя возмутительно, рассылает записки с нецензурными словами, дерется. Мысли безнравственные, понятия развращенные, обижает каждого, уничтожает чужое – типичный пример дефективного ребенка» [13, л. 37 об.].

В сознание и поведение подрастающего поколения «впечатывались» новые жизненные приоритеты и ценности, нормы поведения в школе, семье, на улице. Школа играла важную роль в вытеснении религиозного сознания и привитии новых поведенческих норм. В 1924 г. Окроно рекомендовал провести антипасхальную кам-

беларускай этнаграфіі [9, с. 40; 34, с. 58, с. 398; 26, с. 460; 41, с. 150; 36, с. 101]. Такая каляндарная прывязка абраду да Тройцы ў пазнейшых працах тлумачыцца спасылкай іх аўтараў на ўжо згаданыя больш раннія публікацыі Я. Баршчэўскага [6], Я. Тышкевіча [7], М. Дзмітрыева [13].

Наступная версія аб часе памінання памерлых продкаў на Стаўроўскія Дзяды адносіць гэту традыцыю да Узвіжання (14/27 верасня). Так, па сведчанню праваслаўнага святара А. Троіцкага, сяляне в. Гняздзілава (сучасны Докшыцкі раен) спраўлялі Стаўроўскія Дзяды якраз напярэдадні (13 верасня па ст.ст.) Узвіжання [15, с. 153]. Як вынікае з матэрыялаў палявых даследаванняў, сучасныя вяскоўцы таксама адзначаюць Стаўроўскія Дзяды у гэты час. «*– Ну а што тыя за Стаўры?* – Перад Уздвіжанням <...> Перад Уздвіжаннем, гэтыя Стаўры былі»[34]. «*– А вот увосень, перад Узвіжаннем?* – Ну вот это і есць <...> (В.В.) – Стаўры называюцца (Л.М.)»[35]. Нярэдка, у якасці часу правядзення абраду рэспандэнтамі ўказваецца наступны дзень пасля Узвіжання: «Ну Стаўры, гэта так, атмічаюць Дзяды. Такі празнік Узвіжання называецца, гэта вужакі хаваюцца. А тады назаўтра гэтыя Дзяды»[36]. Ю. Гурская схільная бачыць прычыну такіх разыходжанняў у лакальных адрозненнях. Па словах даследчыцы, такая традыцыя была характэрна для жыхароў в. Маргавіца [5, с. 80]. Згодна з нашым меркаваннем, такая сітуацыя можа тлумачыцца не толькі лакальнай спецыфікай (прытым, што разыходжанні праяўляюцца ў межах нават аднаго населенага пункта), але і разбурэннем абраду і выпадзеннем з памяці вяскоўцаў яго першапачатковай тэмпаральнай прывязкі.

Разважаючы над разыходжаннямі, якія існуюць у этнаграфічнай літаратуры адносна часу правядзення Стаўроўскіх Дзядоў, можна зрабіць дапушчэнне, што першапачаткова Стаўроўскія Дзяды святкаваліся напярэдадні Тройцы, а потым пад уплывам пэўных фактараў (у першую чаргу царквы) былі перанесены на іншыя дні (напярэдадні Узвіжання, на Дзмітраўскія Дзяды). Падобнага меркавання прытрымліваецца і С. Санько. Аналізуючы артыкул у «Весніку Заходняй Расіі», у якім дадзены абрад на Полаччыне адносіцца да Дзмітраўскай памінальнай суботы [12, с. 274], аўтар прыходзіць да высновы, што на Полаччыне Стаўроўскія Дзяды спачатку святкаваліся вясной, а потым былі перанесены на восень [26, с. 460]. Аднак праяўляць катэгарычнасць у дачыненні дадзенага пытання, на нашу думку, ня варта. Справа ў тым, што апісанні, на аснове якіх можна зрабіць падобныя высновы, адносяцца не толькі да розных перыядаў, але і да розных рэгіенаў. Да таго ж, існуюць пытанні адносна дакладнасці саміх крыніц. З пэўнай доляй ўпэўненасці можна толькі гаварыць аб святкаванні Стаўроўскіх Дзядоў на Докшыччыне з апошняй трэці XIX ст. і да нашых дзен напярэдадні Узвіжання. Дз. Вінаходаў увогуле лічыць, што прымеркаванне дадзенага абраду на Полаччыне да Дзмітрыеўскай памінальнай суботы з’яўляецца следствам памылковага атаясамлення аўтарам артыкула ў «Весніку Заходняй Расіі» Стаўроўскіх Дзядоў з Дзмітрыеўскімі [30].

**Структура і ход абраду.** У параўнанні з іншымі каляндарнымі памінкамі, а перадусім з Восеньскімі Дзядамі, Стаўры адзначаліся з меншай урачыстасцю, пра што пісалі аўтары XIX ст. Па іх меркаванню, такая сітуацыя звязана з аб’ектыўным недахопам прадуктаў харчавання ў сялян у час гэтых памінак. М. Дзмітрыеў, які адносіў святкаванне Стаўроўскіх Дзядоў да Тройцы, адзначаў, што недахоп ў хлебе і прадуктах харчавання вясной бывае паўсюдным, а таму і свята спраўляюць не так багата. Аўтар згадваў, што некаторыя сяляне на пытанне, чаму яны не запрашаюць у гэты дзень сваіх продкаў на Дзяды, адказваюць: «нашто іх зваці, калі нечага даці» [13, с. 219]. А. Троіцкі адзначаў, што ў верасні (менавіта да гэтага часу аўтар адносіць святкаванне Стаўроўскіх Дзядоў) селянін хоць і сабраў ураджай з поля, але яшчэ не паспеў скончыць усе гаспадарчыя работы, а да Асянін ужо скончыў [15, с. 153]. Таму, па словах аўтара, гэтыя Дзяды адзначаліся не так «гучна» як Асяніны [15, с. 153]. Падобным чынам адзначаюць і сучасныя вяскоўцы: «А ўжо после Стаўроў тады ўжо ідуць Асяніны, к Асянінам ужо абычна кабаноў колюць, і мяса гатовюць, і гэдак сама абрад называецца на Дзяды, і гэдак сама памінаюць, капусту варуць, гэдак сама мяса, калбаса. *Ну Асяніны, гэта ўжо большыя Дзяды* <...>«[37].

Тэмпаральныя рамкі свята ахопліваюць другую палову дня: «Ну Дзяды Стаўры вечар такі» [5, с. 313]. Калі ў першай палове дня яшчэ можна было працаваць, то ў другой яго палове адбываецца само святкаванне. Напярэдадні адбывалася стараннае прыгатаванне да свята. А. Троіцкі адзначаў, што ўсялякі гаспадар стараўся да Стаўроўскіх Дзядоў абмалаціць некалькі снапоў пшаніцы, змалоць зерне на пірагі і «прыняць» са свайго статку адну маладую авечку; гаспадыня 13 верасня ўжо варыць квасок і крупнік з баранінай і пячэ пірагі роўна столькі, колькі душ у сям’і і яшчэ па адной жабракам і ў царкву [15, с. 154]. Выпяканне «булачак» на гэта свята па колькасці членаў сям’і ў другой палове XIX ст. было распаўсюджана і на Бягомльшчыне [42, с. 207]. Такая традыцыя, як сведчаць рэспандэнты, была шырока распаўсюджана на Докшыччыне яшчэ ў першай палове XX ст. і характэрна не толькі для Дзядоў, але ўвогуле для

[34] Зап. Лобачам У.А. у 2007 г. ад Ардынскай М.Ф., 1924 г.н. у в. Буй.
[35] Зап. экспедыцыяй ПДУ у 2009 г. ад Мікіневіч Л.М., 1926 г.н., Карніловіч В.В., 1950 г. н. у в. Дзедзіна.
[36] Зап. аўтарам у 2009 г. ад Хілько Л.Г., 1926 г.н. у в. Бірулі.
[37] Зап. экспедыцыяй ПДУ у 2009 г. ад Кавалевіч З.І., 1936 г.н. у в. Дзедзіна.

ўсіх каляндарных памінак: «Перад Троіцай, у цэркві памінаюць. Гэта ж даўней бабушка такая ходзіць ей *курыц*[38] спякуць невялікі. Хлеба дасі ей і яшчэ што і гэта яна памінаець[39].

На Докшыччыне і зараз існуе традыцыя напярэдадні Стаўроўскіх Дзядоў мыцца ў лазні [5, с. 312, с. 313]. У рэгіене такая асаблівасць характэрна для ўсіх Дзядоў. Як абавязковы момант адзначаецца пакіданне вады і веніка ў лазні дзядам, а таксама адмысловае іх туды запрашэнне: «Баню абізацельна нада тапіць на Дзяды, баню нада тапіць на Дзяды. Прыходзіш первым дзелам у баню, бярэш венік, макаеш у ваду і кружку ліеш на печку і венікам. І завеш дзядоў паіменна ўсіх: «Хадзіце ў баню мыцца». Первым дзелам пака самому памыцца, нада абязацельна дзядоў пазваць <...> Адходзіш з бані, нада паставіць у таз вады халоднай, другі – гарачай, і ім астаўляеш усе мыцца. І мыла ложыш, і палаценца ложыцца ў бані, усе астаўляецца і прыходзяць дзяды мыцца»[40].

Цэнтральнае месца ў памінанні памерлых на Стаўроўскія Дзяды займае абрадавая вячэра. Даследчыкі падаюць мала звестак пра яе ход. У пераважнай ступені аўтары звярталі ўвагу толькі на адрозненне Стаўроў ад іншых каляндарных памінак. У якасці такога адрознення яны прыводзяць цікавае абрадавае дзеянне, калі на пачатку вячэры гаспадар, узяўшы частку страў, спускаецца пад стол і тры разы паўтарае: «Стаўры, Гаўры, гам, прыхадзіце к нам!» [6, с. 139; 7, s. 376]. Падобным чынам апісвае гэты момант і М. Дзмітрыеў. Перад пачаткам вячэры «старык, або гаспадар сям'і спускаецца з лаўкі так, каб твар яго быў на ўзроўні са стравамі, і гаворыць: «стаўры, гаўры прыхадзіце к нам!» [13, с. 219 – 220]. Па словах В. Ластоўскага, гэта абрадавае дзеянне адбываецца непасрэдна ў час вячэры. Гаспадар, узяўшы місу з куццей, кланяўся на покуць і тры разы казаў: «Стаўры, Гаўры, гам, прыходзьця к нам» [21, с. 3]. Захаваліся звесткі, што ў другой палове XIX ст. на Бягомльшчыне гэтае запрашэнне мела структуру дыялога: «Стаўры гаўры» (кажа гаспадар) – «Гамм!» (адказваюць усе члены сям'і) [42, с. 207]. Аднак у некаторых працах існуюць даволі істотныя разыходжанні ў апісанні дадзенага моманту абраду. Так, ананімны аўтар артыкула ў «Весніку Заходняй Расіі» пісаў, што ў Полацкім павеце «перад абедам стол адсоўвалі на сярэдзіну хаты і ўсе сямейства з аднастайным прыпевам «шаўры, гаўры, сам прыбывай дзе к нам», прымаліся поўзаць на каленях вакол стала; зрабіўшы тры кругі садзіліся за абед» [12, с. 274]. Праўда, аўтар адносіць гэтае абрадавае дзеянне да Дзмітраўскіх Дзядоў [12, с. 274]. А.А. Кіркор адзначаў, што яшчэ ў 1855 г. у весцы Полаў народ старанна хаваў ад духавенства нейкага ідала, вакол якога ў вызначаныя дні скакаў, паўтараючы словы: «Гаўры, гаўры – гам!» [17, с. 42].

У гэтай частцы абраду бачым рытуал запрашэння памерлых продкаў на вячэру, а ў словах «Стаўры, Гаўры, гам, прыхадзіце к нам!» – саму рытуальную формулу запрашэння. Аднак, па ўсей верагоднасці, такое «запрашэнне» датычыла не агульнай катэгорыі дзядоў, а нейкай канкрэтнай яе часткі. Даследчыкі разыходзяцца адносна таго, каго ж менавіта клікалі на гэтыя Дзяды. Апроч версіі пра сабак (Стаўры і Гаўры), якая бярэ свой пачатак з апісання Я. Баршчэўскага [6, с. 139], існуюць і іншыя меркаванні. Дз.К. Зяленін зрабіў дапушчэнне, што Стаўры і Гаўры з'яўляюцца не сабакамі, а заложанымі памерлымі. Даследчык адзначаў, што ў некаторых частках Расіі заўчасна памерлыя, тапельцы і тыя, хто загінуў у пажары, не пазбаўляюцца агульнага памінання і «частавання», але так як яны не заслугоўваюць сядзець за агульным сталом, то для іх стравы ставяцца пад стол [43, с. 41 – 42]. У гэтым Дз. Зяленін бачыць падабенства са Стаўроўскімі Дзядамі, калі памінальныя стравы таксама ставіліся пад стол. На карысць свайго меркавання даследчык прыводзіць і той факт, што час правядзення абраду Стаўроўскія Дзяды супадае з памінкамі па заложаных памерлых – напярэдадні Семухі (тут аўтар спасылаецца на працы Я. Тышкевіча і М. Дзмітрыева, якія і адносілі Стаўроўскія Дзяды да гэтага свята [13, с. 219; 7, s. 376]) [43, с. 42]. У свой час яшчэ В. Ластоўскім было выказана меркаванне пра сувязь Стаўроўскіх Дзядоў з уласнымі іменамі *Ставер*, *Стаўро*, *Ставр* [21, с. 3]. Падобнай пазіцыі прытрымліваецца і Ю. Гурская, якая лічыць Стаўроўскія Дзяды сямейна-родавым святам носьбітаў прозвішча *Ставер* [37, с. 13]. У сувязі з гэтым можна выказаць меркаванне, што вышэй прыведзеная рытуальная формула запрашэння на Дзяды можа датычыць якраз памерлых дадзенага роду.

Пры апісанні Стаўроўскіх Дзядоў А. Троіцкі не згадвае гэтай часткі абраду. Ен прыводзіць словы «стаўры гаўры гам!» толькі ў якасці лаянкі каталіцкіх ксяндзоў і польскай шляхты на Стаўры як на «адбітак праваслаўнага памінання памерлых» [15, с. 153]. Сам жа абрад, па словах аўтара, пачынаўся з плачу сялянак з галашэннямі па памерлых родзічах. «Пасля гэтага плачу накрываецца стол, на стале страва і гарэлка, запальваецца васковая грамнічная свечка, чытаюцца малітвы, сярод якіх і заўпакойная, гаспадар абводзіць вакол налітай стравы тройчы свечку, прымацоўвае яе да абраза і ўся сям'я прымаецца есці і піць. Пасля гэтай вячэры чытаюцца тыя ж малітвы, што і перад вячэрай, і свечка тушыцца, але стол з астаткамі ежы і прыборамі не прыбіраецца, а пакідаецца непрыбраным да раніцы, згодна з павер'ем, што прыйдуць за гэты стол на стаўры душы памерлых сваякоў» [15, с. 154]. Памінанне памерлых працягвалася і на наступны дзень пасля Дзядоў. «Раніцай 14 верасня гаспадары з

[38] У некаторых месцах рэгіёну такая булачка мела назву «*курац*» ці «*курыц*».

[39] Зап. аўтарам, студ. ПДУ Шыпіла У. і Путронкам К. у 2009 г. ад Падбярэзка Л.М., 1934 г.н., Карніловіч К.І., 1933 г.н. у в. Дзедзіна.

[40] Зап. экспедыцыяй ПДУ у 2009 г. ад Кавалевіч З.І., 1936 г.н. у в. Дзедзіна.

перапечкамі, а гаспадыня з кавалкамі палатна, ручайкамі ільну і жменяй воўны выпраўляюцца, як кажуць, «на кермаш» у тую царкву, храм якой прысвечаны ў імя ўзвіжання крыжа Гасподня, дзе перад царквой у два рады рассаджваюцца жабракі. Ідучы ў царкву паміж радоў жабракоў сяляне дзеляць ім перапечкі, просячы памянуць сваіх родных, і тут на розныя лады чуваць прычытанні жабракоў <...> У царкве сяляне на прыгатаваны стол кладуць перапечкі, сялянкі на вынесены абраз вешаюць кавалкі палатна, кладуць ручайкі ільну і жмені воўны <...> Пасля набажэнства сяляне накіроўваюцца ў карчму ці ў царкоўнай агароджы рассаджваюцца гуртамі і закусваюць прынесенымі з сабой з дому пірагамі і маслянікамі[41] і п'юць гарэлку. Гэтым і заканчваюцца стаўры, а разам з тым і кермаш узвіжанскі» [15, с. 154]. Для сучаснага перыяду таксама характэрна царкоўнае памінанне памерлых на наступны дзень пасля Стаўроўскіх Дзядоў: «Ну, курыцу засекчы, ці петуха і варыць. Назаўтра памінаюць, памінальнае. Ідуць у цэркву, нясуць запіскі і памінаюць. Яду кладуць, свечы ўстаўляюць»[42].

П. Шпілеўскі прыводзіць іншае апісанне абраду, якое, па ўсім відаць, характэрнае для шляхецкага саслоўя. «З надыходам вечара ў хаце багатага сем'яніна збіраецца мноства народа і ўсякі прыносіць з сабой ляльку чалавека, зробленую з цеста. Пры гэтым іграе музыка і скокі працягваюцца да поўначы. Апоўначы накрываюць стол, на які ставяць як мага больш пірагоў, каржоў і крыху вадкіх страў. Народ есць і п'е датуль, пакуль, нарэшце, пакуль не пастукаюць у акенца. Стукае хто-небудзь з гасцей. У гэты час усе ўстаюць з-за стала і, адкрыўшы акенца, кідаюць у яго чалавечыя лялькі з цеста і што есць моцы крычаць: «Стаўры, Гаўры, дзе вы там? Прыходзьце да нас!» Той, хто стукаў у вакно, абавязаны сабраць усе лялькі і прынесці ў пакой. Гэтыя лялькі вяртаюцца да сваіх ранейшых гаспадароў, якія сушаць цеста і потым раздаюць іх сваім парабкам (прыслузе), думаючы, што ад гэтага служкі прывязваюцца да хаты і робяцца адданымі» [11, с. 152 – 153].

**Сучасны стан абраду.** Як сведчаць матэрыялы сучасных палявых этнаграфічных даследаванняў, жыхары шэрагу населеных пунктаў Докшыччыны захоўваюць традыцыю святкавання Стаўроўскіх Дзядоў. Аднак дадзены абрад да нашага часу дайшоў значна рэдукаваным, з яго зніклі асобныя элементы і абрадавыя дзеянні.

Пры апытанні рэспандэнты не заўседы могуць дакладна ўказаць час правядзення абраду. *«– А калі Стаўроўскія Дзяды былі?* – Ай, гэта ж недзе ўвосень ці зімой яны бываюць»[43]. *«– А вот ці есць тут такія Стаўроўскія Дзяды?* – Восенню есць. *– А вот калі яны бываюць восенню: у сенцябрэ ці пазней?* – Ці яны ў наябрэ <…> Стаўроўскія, а патом Дзмітраўскія»[44]. Такая сітуацыя з'яўляецца сведчаннем разбурэння народнай традыцыі, калі адбываецца выпадзенне з памяці вяскоўцаў яе дакладнай тэмпаральнай прывязкі. Часам, калі рэспандэнты не могуць узгадаць дакладны час правядзення абраду, яны прывязваюць яго да канкрэтных сезонных гаспадарчых работ («Я вот помню начыналі бульбу браць на гэтыя Стаўры»[45]) або іншых каляндарных святаў («Гэтыя [стаўроўскія – *А.У.*] Дзяды атмечаюць у сенцябрэ пасля Спасу, Макавея. Гэткія Дзяды есць»[46]).

У сучасны перыяд абрад Стаўроўскія Дзяды не праяўляе якіх-небудзь прынцыповых спецыфічных рысаў у параўнанні з іншымі Дзядамі. Амаль не адзначаюць адрозненняў і рэспандэнты. У якасці такіх адрозненняў нярэдка ўказваецца толькі назва абраду: «*А вось Стаўры такія, можа гаварылі, чым яны атлічаюца?* – Кожныя Дзяды названія, вот Грамнічныя, тады Масленыя, мусіць есць Дзяды во гэтакія во»[47]. Падобную асаблівасць адзначаюць і рэспандэнты з суседніх весак, дзе Стаўроўскія Дзяды не адзначаюцца: «Гэта Дзяды лічацца, а ў ніх Стаўры, толькі называюцца Стаўры»[48]. У асноўным, абрад праводзіцца па тому ж сцэнарыю, што і астатнія Дзяды. Бадай, адной з адрозных асаблівасцей дадзенага абраду з'яўляецца асартымент страў на стале падчас памінальнай вячэры. Як характэрная асаблівасць дадзенай вячэры з'яўляецца наяўнасць на стале прыгатаваных страў з пеўня ці курыцы (адсюль і існаванне адной з назваў гэтых Дзядоў – «*Петушыныя*» ці «*Курыныя*» – гл. вышэй).

Абавязковым момантам падчас абрадавай вячэры застаецца «частаванне» памерлых продкаў, якія, як лічыцца, прыходзяць у гэты дзень у свае хаты. Яшчэ і сення захавалася традыцыя, перад тым як прыступаць да трапезы, адкладваць ў асобную міску крыху ежы дзядам, а таксама адліваць ім гарэлкі: «*– А як іх* [Стаўроўскія Дзяды – *А.У.*] *правіць?* – Ну, курыцу засекчы, ці петуха і варыць <...> Ставяць петуха на стол, капусту свежую, адліваюць капусту. І што ў капусце эта варыцца петушына, адкладаваюць, гарэлку п'юць, адліваюць, дзядоў памінаюць. А як адліваюць, адразаецца кусочак хлеба, вакруг місачкі абводзіцца [і запрашаюць дзядоў – *А.У.*]: «Хто гэту зямлю старажаваў, хлеб соль нажаваў, хадзіце к нам у Дзяды, там, тата, мама». Усіх па іменах, братоў, сясцер, усіх завуць, называюць. <...> А кусочак гэты хлеба адкладавалі, цалікам на тарэлку, як раньшей, хадзілі памінальныя бабкі старыя, аддавалі гэты хлеб

[41] Маслянікі – камы, які гатуюцца з тоўчанага ў ступе маку з мёдам [15, с. 154].
[42] Зап. экспедыцыяй ПДУ у 2009 г. ад Кавалевіч З.І., 1936 г.н. у в. Дзедзіна.
[43] Зап. Філіпенкам У.С. у 2009 г. ад Васілевіч Г.І., 1927 г.н. у в. Несцераўшчына.
[44] Зап. аўтарам у 2009 г. ад Патэза І.Ф., 1934 г.н. у в. Стараселле.
[45] Зап. Лобачам У.А. у 2007 г. ад Модэль М.М., 1930 г.н. у в. Козікі.
[46] Зап. аўтарам у 2009 г. ад Скурат С.П., 1926 г.н. у в. Сценка.
[47] Зап. аўтарам і студэнтамі ПДУ Путронкам К. і Шыпіла Н. у 2009 г. ад Дранковіч Г.С., 1934 г.н. у в. Тумілавічы.
[48] Зап. Лобачам У.А. у 2007 г. ад Чучман В.У., 1922 г.н. у в. Буй.

бабкам гэтым, а с кажнага кусочка, с каждай міскі адкладавалі ў місачку, і стаіць на стале, гэта самым нанач стаіць на стале. Пасуду не ўбіралі, на стале ўсе слажавалі, міска на міску ставілі і закрывалі»[49].

Даволі цікавай падаецца формула запрашэння памерлых продкаў на Стаўроўскія Дзяды, прыведзеная ў дадзеным апісанні абраду. У гэтым запрашэнні можна бачыць сляды архаічнага ўяўлення аб сувязі гэтых памінак з міфічнымі сабакамі Стаўры і Гаўры. Само ж паданне, праўда ў значна спрошчаным і скарочаным выглядзе, таксама можна яшчэ і сення пачуць сярод вясковага насельніцтва Докшыччыны (гл. вышэй).

Сярод сучасных вяскоўцаў Докшыччыны фіксуецца і даволі архаічная формула-запрашэнне на Стаўроўскія Дзяды («Стаўры, Гаўры, гам, прыхадзіце к нам!»), характэрная для абраду XIX ст. Праўда, захавалася толькі частка формулы, а яе функцыя змянілася. Яна ўжо не ўжываецца падчас рытуальнага запрашэння дзядоў на абрадавую вячэру. Як слушна адзначыла Ю. Гурская, «рытуальная формула ў выніку кандэнсацыі абрадавага тэксту развіла энантыясемію, перайшла з сакральнай сферы ў прафанную» [5, с. 87]. Яна стала ўжывацца як прыказка з жартоўным сэнсам, якую часам выкарыстоўвалі для насмешак над тымі, хто спраўляе Стаўроўскія Дзяды: «Выдумалі, шуцілі так, таму і дабаўлялі: «Стаўры, гаўры гам». Гэта ў нас так гаварылі, што там Крыпулі, Вітахмо ня гэтак, як у нас робяць, гэта так смяяліся, ад старых чула» [5, с. 311]. Як адзначаюць рэспандэнты з в. Бірулі, гэты выраз выкарыстоўваўся ў якасці насмешкі з боку пана: «Стаўроўскія, гэта Стаўры называюцца. А дык даўна ж казаў пан старасельскі, гэны Шадзеўскі, казаў: «Стаўры, гаўры, гам!» Гэта як усе роўна сабаку. А яны паны ні панімалі гэтых ні Дзядоў, нічога. Яны ня робілі паны, гэта толькі дзеравенцы»[50]. Праўда, у шэрагу месцаў Докшыччыны ў сучасны перыяд выраз «Стаўры, гаўры, гам» мае і значэнне самой памінальнай вячэры [5, с. 84].

Нягледзячы на тое, што ў сучасны перыяд у адносінах да святкавання Стаўроўскіх Дзядоў не назіраецца такой строгасці і прынцыповасці, як на Восеньскія Дзяды, у народнай свядомасці працягваюць захоўвацца ўяўленні аб магчымых наступствах у выніку невыканання якіх-небудзь абрадавых дзеянняў у гэты дзень. У наш час найбольш характэрнымі з'яўляюцца ўяўленні аб тым, што ў такім выпадку будуць сніцца памерлыя. «Вот гэта будуць Дзяды, Стаўры называюцца. Гэта яны будуць недзека ў сенцябры месяцы, алі числа ня помню якога. І тожа гэдак сама на гэныя Дзяды мне было. На ферме рабіла, ні знала, напрымер, што сення Дзяды. Вот і нічога не прыстроіла. Дажа на стале як усігда, вячэраіш і стол убіраіш, то кот каб ні лазіў. Тады вечарам гэдак я лігла спаць і віжу ў ва сне, што ня тудака я жыву, а яшчэ на бацькаўшчыне, у Стараселлі. Ідзець дзед, барадаты-барадаты, чорная барада, і рабяткі за ім бягуць-бягуць. А я як увідзяла, стала хавацца. А ен будзіць казаць: «Ні хавайся, ты ж наеўшысі, мы ж галодныя-прыгалодныя» <...> А назаўтра я тады карову на пасту прыганяю і старушка тутака ідзець і я ей баю. «Ай, – кажыць, – варона ты. Учора ж Дзяды былі. А ты, – кажыць, – не спраўляла дзяды?» А я кажу: «Бабка, я ні знала нічога. Я, – кажу, – на фермі робіла, нікога ня відзіла старэйшых, ніхто ні сказаў». Ну дык яна мне гэдак і кажыць: «Дзяды вот за гэта табе прысніліся, што стол быў парожні»«[51].

Навуковы аналіз пісьмовых крыніц і палявых этнаграфічных матэрыялаў дазваляе зрабіць наступныя **высновы**:

1) Гісторыя вывучэння абраду Стаўроўскія Дзяды ў навуковай літаратуры мае даўнюю традыцыю. Першыя працы з'явіліся яшчэ ў сярэдзіне XIX ст., але ўласна навуковы аналіз дадзенай праблематыкі (бадай, за выключэннем прац У. Мілера і Ю. Галомбэка) пачаўся толькі напрыканцы XX ст. Пры гэтым, пераважная ўвага даследчыкаў была з'арыентавана на аналіз і рэканструкцыю міфа, у той жа час як абраду адводзілася другараднае значэнне. Працы, у якіх усе ж удзялялася ўвага разгляду самога абраду, характарызуюцца разнабоем, а, часам, і павярхоўнасцю ў выкладанні матэрыялу. Усе гэта абумовіла неабходнасць у больш дэтальным і цэльным аналізе абраду.

2) Пры намінацыі абраду існуе некалькі назваў. Найбольш пашыранымі сярод іх з'уляюцца назвы *Стаўроўскія Дзяды* і *Стаўры*. Сярод вяскоўцаў сустракаюцца таксама назвы абраду, вытворныя ад слоў «стаўры» і «стаўроўскія» (*Стаўровы*, *Стаўрыны* і г.д.). У якасці назвы абраду існуюць і такія варыянты, як «*Петушыныя*» і «*Курыныя*» Дзяды, што звязана з асартыментам страў на памінальным стале.

3) Абрад Стаўроўскія Дзяды мае вузкалакальны характар. Арэал абраду лакалізуецца на тэрыторыі сучаснага Докшыцкага раена Віцебскай вобласці. Усе іншыя геаграфічныя прывязкі абраду, якія сустракаюцца ў этнаграфічнай літаратуры не мелі дадатковага пацвярджэння падчас палявых даследаванняў.

4) У этнаграфічнай літаратуры сустракаюцца тры меркаванні аб часе правядзення абраду – напярэдадні Тройцы, напярэдадні Узвіжання, на Дзмітраўскую памінальную суботу. Аднак дастаткова аргументаванай і пацверджанай палявымі матэрыяламі з'яўляецца толькі версія аб прымеркаванні Стаўроўскіх Дзядоў да Узвіжання (14/27 верасня).

5) Стаўры з'ўляюцца часткай агульнага памінальнага комплексу Дзяды. Як і на іншыя Дзяды, абраду папярэднічала стараннае прыгатаванне, якое ўключала шэраг абавязковых працэдур (мыцце ў

[49] Зап. экспедыцыяй ПДУ у 2009 г. ад Кавалевіч З.І., 1936 г.н. у в. Дзедзіна.
[50] Зап. аўтарам у 2009 г. ад Хілько Л.Г., 1926 г.н. у в. Бірулі.
[51] Зап. аўтарам у 2009 г. ад Хілько Л.Г., 1926 г.н. у в. Бірулі.

лазні і г.д.). Цэнтральнае месца ў структуры абраду займала памінальная вячэра, на якую запрашалі памерлых продкаў. На наступны дзень пасля Стаўроўскіх Дзядоў адбывалася царкоўнае памінанне памерлых продкаў. Адметнай асаблівасцю дадзенага памінальнага абраду з’яўляецца рытуал запрашэння памерлых на вячэру і сама рытуальная формула такога запрашэння («Стаўры, Гаўры, гам, прыхадзіце к нам!»).

6) Як сведчаць матэрыялы сучасных палявых этнаграфічных даследаванняў, жыхары шэрагу населеных пунктаў Докшыччыны яшчэ захоўваюць традыцыю святкавання Стаўроўскіх Дзядоў. Аднак да нашага часу абрад дайшоў значна рэдукаваным, з яго зніклі асобныя элементы і абрадавыя дзеянні. У сучасны перыяд Стаўроўскія Дзяды амаль не маюць адрозненняў ад іншых Дзядоў. Разам з тым, у народнай свядомасці жыхароў Докшыччыны захоўваюцца надзвычай архаічныя элементы (паданне пра паходжанне абраду, частка рытуальнай формулы запрашэння дзядоў), характэрныя яшчэ для абраду XIX ст.

ЛІТАРАТУРА

1. Тайлар, Э.Б. Первобытная культура / Э.Б. Тайлар; пер. с англ. – М.: Политиздат, 1989. – 573 с.
2. Традыцыйная мастацкая культура беларусаў. У 6 т. Т. 2. Віцебскае Падзвінне / Т.Б. Варфаламеева, А.М. Боганева, М.А. Козенка [і інш.]; складальнік Т.Б. Варфаламеева. – Мінск: Бел. навука, 2004. – 910 с.
3. Никифоровский, Н.Я. Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи... Витебской Белоруссии / Н.Я. Никифоровский. – Витебск: Губерн. Типо-Литограф., 1897. – 307 с.
4. Дунін-Марцінкевіч, В. Творы / В. Дунін-Марцінкевіч; уклад., прадм. і камент. Я.Янушкевіча. – Мінск: Маст. літ., 1984. – 527 с.
5. Гурская, Ю.А. Древние фамилии современного белорусского ареала на славянском и балтийском фоне / Ю.А. Гурская. – Минск: Белорус. гос. пед. ун-т, 2007. – 360 с.
6. Баршчэўскі, Я. Выбраныя творы / Я.Баршчэўскі; укладанне, прадмова і каментарыі М. Хаустовіча. – Мінск: «Беларускі кнігазбор», 1998. – 480 с.
7. Tyszkiewicz, E. Opisanie powiatu Borisowskiego pod wzgledem statystycznym, geognostycznym, historycznym, hospodarowym, przemyslowo-handlowym i lekarskim / E. Tyszkiewicz. – Wilno: Druk. Marcinowskieso, 1847. – 489, IV s.
8. Шейн, П.В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края / П.В. Шейн. – СПб.: Тип. имп. акад. наук, 1890. – Т. I. – Ч. II. – 586 с.
9. Пахаванні. Памінкі. Галашэнні / Рэд. кал. А.С. Фядосік (гал. рэд.) [і інш.]; Укладанне тэкстаў, уступ. артыкул і камент. У.А. Васілевіча; Артыкул, сістэматызацыя і камент. напеваў Т.Б. Варфаламеевай. – Мн.: Навука і тэхніка, 1986. – 615 с.
10. Каханоўскі, Г.А. Беларуская фалькларыстыка 50-х гадоў XIX ст. (В. Дунін-Марцінкевіч, Я. Тышкевіч, К. Тышкевіч, Ул. Сыракомля, І. Крашэўскі, П. Шпілеўскі, Е. Паўлоўская) / Г.А. Каханоўскі // Беларуская фалькларыстыка: Эпоха феадалізму / Г.А. Каханоўскі, Л.А. Малаш, К.А. Цвірка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – С. 192 – 276.
11. Шпілеўскі, П.М. Беларусь у абрадах і казках / П.М. Шпілеўскі; пер. з рус. Аляксандра Вашчанкі. – Мн.: Літаратура і Мастацтва, 2010. – 301 с.
12. Нечто о поверьях белорусцев Полоцкого уезда // Вестник Западной России. – Вильна, 1866. – Кн. VI. – Т. II, – С. 270 – 274.
13. Дмитриев, М.А. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края / М.А. Дмитриев. – Вильно. Печатня А.Г.Сыркина, 1869. – 264 с.
14. Крачковский, Ю.Ф. Быт западно-русского селянина / Ю.Ф. Крачковский. – М.: Изд. имп. Общ-ва истории древностей России при Москов. ун-те, 1874. – 212 с.
15. Троицкий, А. Уклад / А. Троицкий // Литовские епархиальные ведомости. – 4 мая 1875. – № 18. – С. 153 – 155.
16. Миллер, В.Ф. По поводу одного литовского предания / В.Ф. Миллер // Древности: Труды Московского археологического общества. – 1880. – Т. VIII. – С. 166 – 175.
17. Киркор, А.К. Литовский язык и литовская мифология / А.К. Киркор // Живописная Россия. Отечество наше в его зем., ист., плем., экон. и быт. Значении: Лит. и Белорусское Полесье: Репринт. воспроизведение изд. 1882 г. – Минск: БелЭН, 1993. – С. 27 – 42.
18. Романов, Е.Р. Белорусский сборник. Вып. IV: Сказки космогонические и культурные / Е.Р. Романов. – Витебск: Тип. Г.А. Малкина, 1891. – 220 с.
19. А. Л. Беларускі гутарнік Піліп Смуры / А. Л. // Гадавік Беларускага навуковага таварыства. Кн. I. – Вільня, 1933. – С. 188 – 189.

20. Верэшчака, Ю. Беларускі радавод / Ю. Верэшчака // Наша ніва. – 26 красавіка 1913. – № 16 – 17. – С. 3.
21. В. Л. С пад праху векоу / В. Л. // Наша ніва. – 12 сьнежня 1914. – № 49. – С. 2 – 3.
22. Легенды і паданні. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 544 с.
23. Gołobek, J. Dziady białoruskie / J. Gołobek // Lud. – 1925. – T. 4, seria 2, ogulnego zbioru t. 25. – S. 1 – 40.
24. Санько, С. Бай / С. Санько // Міфалогія беларусаў: Энцыкл. сл. – Мінск: Беларусь, 2011. – С. 39.
25. Санько, С. Белаполь / С. Санько // Міфалогія беларусаў: Энцыкл. слоўн. – Мінск: Беларусь, 2011. – С. 43 – 44.
26. Санько, С. Стаўры і Гаўры / С. Санько // Міфалогія беларусаў: Энцыкл. слоўн. – Мінск: Беларусь, 2011. – С. 460.
27. Санько, С. Архаічныя беларускія міфалагічныя наратывы / С. Санько // Гісторыя філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі. У 6 т. Т. 1. Эпоха Сярэднявечча / В.Б. Евароўскі [і інш.]; рэд. кал.: В.Б. Евароўскі [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т філасофіі. – Мінск: Беларус. навука, 2008. – С. 159 – 196.
28. Санько, С. Белорусское этногоническое предание в свете ведийской близнечной мифологии [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://kryuja.org/artykuly/sanko/sanko_bielaruskaje_etnahanicznaje_etnahanicznaje_padannie.html. – Дата доступа: 25.05.2011.
29. Цітавец, А.В. Стаўры і Гаўры / А.В. Цітавец // Беларускі фальклор: Энцыклапедыя: У 2 т. Т. 2: Лабараторыя традыцыйнага мастацтва – «Яшчур» / Рэдкал.: Г.П. Пашкоў [і інш.] – Мінск: БелЭн, 2006. – С. 561.
30. Виноходов, Д. Этногенетический миф белорусов[52] [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://urfinwe.livejournal.com/19656.html. – Дата доступа: 25.05.2011.
31. Лобач, В. Потомки Белополя. Новый взгляд на происхождение народа / В. Лобач, А. Шишков // Родина. – 2001. – №1 – 2. – С. 46 – 49.
32. Иванов, В.В. Деды / В.В. Иванов, В.Н. Топоров // Мифы народов мира. Энциклопедия: В 2 т. Т.1: А – К. / Гл. ред. В.А. Токарев. – М.: Советская Энциклопедия, 1980. – С. 363 – 364.
33. Strzelczyk, J. Stawr i Gawr / J. Strzelczyk // Mity, podania i wierzenia dawnych słowian. – Poznań, 1998. – S. 192.
34. Земляробчы каляндар: Абрады і звычаі / Уклад., класіфікацыя, сістэматызацыя матэрыялаў і камент. А.І. Гурскага; Уступ. арт. А.І. Гурскага, А.С. Ліса. – 2-е выд., выпр. – Мінск: Беларуская навука, 2003. – 429 с.
35. Лозка, А.Ю. Беларускі народны каляндар / А.Ю. Лозка; 2-е выд., перапрац. і дап. – Мінск: Полымя, 2002. – 240 с.
36. Ліцьвінка, В.Д. Святы і абрады беларусаў / В.Д. Ліцьвінка; 3-е выд. – Мінск: Беларусь, 2001. – 190 с.
37. Гурская, Ю.А. Имя собственное: этимология, национально-культурный потенциал, концептуализация: автореф. дис. ... д-ра филол. наук: 10.02.19 / Ю.А. Гурская; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2009. – 42 с.
38. Романов, Е.Р. Белорусский сборник. Вып. IX: Опыт словаря условных языков Белоруссии / Е.Р. Романов. – Вильно: Тип. А.Г. Сыркина, 1912. – 124 с.
39. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 12. С. / уклад. Р.М. Мінько, Г.А. Цыхун; гал. рэд. Г.А. Цыхун. – Мн.: Беларус. навука, 2008. – 366 с.
40. Лобач, У. Некаторыя вынікі этнаграфічных дасьледваньняў Беларускага Падзьвіньня (экспедыцыі ПДУ 1995 – 1997 гг.) / У. Лобач // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі (21 – 23 красавіка 1997 г.). – Полацк: Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік, ПДУ, 1998. – С. 160 – 164.
41. Дучыц, Л. Дзяды / Л. Дучыц, І. Швед // Міфалогія беларусаў: Энцыкл. слоўн. – Мінск: Беларусь, 2011. – С. 150 – 151.
42. Яшкін, І.Я. Мясцовая беларуская лексіка 1851 – 1874 гадоў у матэрыялах фондаў аддзела рукапісаў навуковай бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта / І.Я. Яшкін // Acta Baltico-Slavica. – Warszawa, 1994. – XXII. – S. 147 – 220.
43. Зеленин, Д.К. Избранные труды. Очерки русской мифологии: Умершие неестественной смертью и русалки / Д.К. Зеленин; вступ. ст. Н.И. Толстого; подготовка текста, коммент., указат. Е.Е. Левкиевской. – М.: Индрик, 1995. – 432 с.

Артыкул падрыхтаваны пры фінансавай падтрымцы БРФФД. Грант «Наука (НАНБ-вузы) – 2011» Дамова № Г 11ОБ-023

[52] Гэты артыкул, па словах самога аўтара, плануецца да публікацыі ў пятым выпуску «Белорусского сборника», які чакаецца ў чэрвені 2011 г., як раз да XIX канферэнцыі «Санкт-Петербург и белорусская культура». Назва артыкула будзе: «Этногонический миф белорусов в источниках XIX – начала XX века».

# ТРАНСФАРМАЦЫЯ ТРАДЫЦЫЙНЫХ УЯЎЛЕННЯЎ БЕЛАРУСАЎ ПРА ПАЛЯВАННЕ НА СУЧАСНЫМ ЭТАПЕ

***А.Ю. БАБІЧ***
***(Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ім. К. Крапівы НАН Беларусі, Мінск)***

*На падставе палявых фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, сабраных аўтарам на тэрыторыі Віцебскай, Брэсцкай і Гродненскай абласцей, а таксама этнаграфічых звестак канца XIX – першай паловы XX ст., разглядаецца трансфармацыя традыцыйных уяўленняў беларусаў аб паляванні на сучасным этапе. Прадстаўлены асобныя групы паляўнічых прыкмет і павер'яў, прафесійная этыка, народныя ўяўленні аб асобе паляўнічага і паляванні ў цэлым. Паказаны асаблівасці захавання і бытавання паляўнічай культуры беларусаў.*

Паляўніцтва, як адна з этнакультурных форм традыцыйнага лесакарыстання беларусаў, у другой палове XX – пачатку XXI ст. падверглася зменам, якія, у сваю чаргу, паўплывалі на трансфармацыю народных уяўленняў аб асобе паляўнічага і паляванні ў цэлым. Выкарыстанне фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, сабраных аўтарам у 2008 – 2010 гг. у Віцебскай, Брэсцкай і Гродзенскай абласцях, дазваляе раскрыць этнакультурныя асаблівасці паляўніцтва ў Беларусі на сучасным этапе.

У традыцыйным светаўспрыманні асобы, прафесійная дзейнасць якіх была звязана з лесам і залежала ад яго, вылучаліся адметным статусам (палажэннем) у сельскай грамадзе. Згодна з народнымі ўяўленнямі, дадзеныя асобы валодалі звышнатуральнымі ўласцівасцямі і здольнасцямі, што набліжала іх да чараўнікоў. Такое стаўленне да прадстаўнікоў «лясных прафесій», і ў прыватнасці да паляўнічых, было абумоўлена некалькімі прычынамі.

Па-першае, прыналежнасць да прафесійнага занятку, адрознага ад земляробства, прадугледжвала валоданне спецыялізаванымі ведамі: як тэхналагічнымі (практычна-ўтылітарныя веды), так і прафесійна-магічнымі («таемныя» веды з выразнай рытуальнай прагматыкай).

Па-другое, лес ва ўяўленнях беларусаў выступае як надзвычай сакралізаваны і адухоўлены локус, мае статус прасторы, якая выконвае памежныя або медыяльныя функцыі паміж «гэтым» і «іншым» светам і адначасова выступае як месца знаходжання (з'яўлення) розных дэманічных істот (лесавік, русалка, змяіны цар, чорт). Веданне таемных спосабаў камунікацыі са звышнатуральнымі сіламі забяспечвалі абазнанаму чалавеку поспех у сваей сферы дзейнасці.

Па-трэцяе, пэўную ролю тут адыгрываў сацыяльны фактар. Паляўнічыя, якія ўваходзілі ў катэгорыю «лясных службоўцаў» (асочнікі, ляснікі, лоўчыя, стральцы і інш.), акрамя уласна паляўнічых выконвалі і ахоўныя функцыі (пільнаванне лясоў). З аднаго боку такой службай яны падвышалі свой сацыяльны статус (падатковыя паслабленні, фіксаваны заробак і інш.), з другога – рабіліся «чужымі» ў асяродку сваіх аднавяскоўцаў.

Адасобленнасць паляўнічых, неадназначнасць стаўлення да іх промыслу ў сялянскай грамадзе падкрэсліваецца ў беларускіх прымаўках, якія прэзентуюць паляванне як занятак несур'езны, няздольны пракарміць паляўнічага і яго сям'ю: *«Без ахоты хватаець работы»*, *«Рыба і зайцы вядуць у старцы»*, *«Харошы стралец – дурны хазяін»* гд. Супрацьпастаўленне паляўніцтва занятку асноўнай часткі насельніцтва – земляробству – вельмі красамоўна адлюстравана ў апявяданні «Стралец і рыбак» [1, с. 42 - 44], запісанае А. Сержпутоўскім на Случчыне. Напрацягу ўсяго сюжэту паляванне і рыбалоўства прадстаўляецца як дарэмнае марнаванне часу *(«У стральца дым густы, ды абед пусты, а рыбак як памочыцца, так і есці ня хочацца»; «… зьверына ў лесі, а рыба ў рацэ ды не ў руцэ. Стралец страляе, а гаспадарка гуляе»; «Цягаецца стралец, аж у яго жылы рвуцца, а прыбытку няма ніякога, бо ен пук, дзесяць грошэй з рук, дым густы, а абед пусты»)* і параўноўваюцца з земляробствам, якое стала корміць руплівага і працавітага гаспадара *(«Гаспадар на сваем агародзе раўня ваеводзе»*). Паляўнічы азарт, запал, празмернае жаданне займацца паляўнічым промыслам ва ўспрыняцці прагматычнага селяніна-земляроба – адхіленне ад нормы, «хвароба», што каментуецца наступным чынам -*«ахвота горэй неволі»* і *«ліхі налог».* Адзначым, што асуджэнне гучыць менавіта ў адносінах да празмернага захаплення паляўнічай і рыбацкай справай, калі гэта наносіць бачную шкоду ўласнай гаспадарцы, а не як катэгарычнае адмаўленне дадзеных промыслаў *(«страляюць тагды, як звер пабежыць, а рыбу ловяць, як яна сама ў коўш лезе»*).

Магчыма, на сітуацыю ў адносінах да паляўніцтва, паўплывала таксама скарачэнне лясных плошчаў і змяншэнне лясной фаўны, калі паляванне ўжо не прыносіла гарантаванага і істотнага прыбытку: *«… добры гаспадар ня будзе здабываць паляўнічыя і рыбацкія прылады і губіць час і сродкі на пустую справу»* [2, с. 70].

Уяўленне пра паляўнічага як нядбайнага гаспадара фіксуецца сення эпізадычна, у адзінкавых палявых запісах (разважанні вясковых жыхароў аб тым, што чалавек, які займаецца паляваннем, не можа быць добрым гаспадаром, займацца ў поўнай меры ўласнай гаспадаркай). Самімі паляўнічымі часам згадваюцца адпаведныя прыказкі: *«Хлібэ, хлібэ, када ты на стале будзеш?» «Еслі, - гаворыт, - кінеш*

*стрэльбу і і вуду, тада я на стале буду.» Эта ш такая прытча есь…»* [53] альбо *«Рыбак і ахотнік – дома не работнік. Эта када з дому не пускают на ахоту, такое гаворят»* [54].

У мінулым важнае значэнне ў сістэме дачыненняў чалавека з лесам мела вера ў існаванне міфалагічнага гаспадара і апекуна лясной прасторы: *«Над лясамі і ўсім, што ў іх, валадарыць Лешы»* [3, с. 64]. Заканамерна, што паляўнічы павінен быў паважаць «гаспадарскі» статус духа локуса, пытацца дазволу знаходзіцца ў дадзенай прасторы і займацца там пэўнай справай. Лесавік, паводле народных ўяўленняў, не толькі валадарыў лесам, але і апекаваўся над яе насельнікамі – звярамі і птушкамі. Таму паляўнічы мог атрымаць здабычу са згоды самога «гаспадара», для чаго мусіў папярэдне звярнуцца да яго з просьбай: *«Лесавіку ахвотнікі, як ідуць на хвоту, дак яму молютца»* [4, с. 95]. Паўплываць на паляўнічае шчасце, якое звязвалася з воляй звышнатуральных сіл, чалавек імкнуўся праз ушанаванне і ўлагоджванне духа ляснога локуса, у тым ліку з дапамогай ахвярапрынашэнняў: *«А ахотнікі када ухадзілі у лес, і еслі ані убівалі там зайчыкі ілі што-небудзь, ані абавязкова … кусочэк мяса лажылі на то месца, гдзе яны забілі этага зайца, ані благадарілі значыт этага Лесавога, што ен памог ім убіць…»*[55] Разам з тым, Лесавік, паводле народных уяўленняў, уяўляўся як «звярыны пастух», які клапаціцца аб захаванасці свайго «статку» і ў сувязі з гэтым можа варагаваць з паляўнічымі, *«усяляк адводзячы іх у бок ад дзічыны і дапамагаючы заблукаць»* [5, с. 289]. Сення звесткі аб персаніфікацыі лясной прасторы практычна не сустракаюцца. Замоўныя тэксты, якія ў мінулым лічыліся неабходным і найбольш эфектыўным сродкам уздзеяння на паляўнічае шчасце, мусілі прадухіліць небяспечныя выпадкі на паляванні, а таксама абараніць паляўнічага і яго зброю ад уздзеяння звышнатуральных сіл, палявымі даследаваннямі аўтара не былі зафіксаваны. Звяртае на сябе ўвагу мінімальная колькасць паляўнічых «малітваў» у этнаграфічных крыніцах XIX – XX стст., у параўнанні з іншымі замовамі, што «указвае на таемны характар магічных ведаў паляўнічага, якія выкарыстоўваліся толькі для атрымання індывідуальнай выгоды і перадаваліся выключна ў спадчыну» [6, с. 347]. У той жа час асобныя паляўнічыя і сення адзначаюць, што дзякуюць лес за яго дары, за ўдалае паляванне, прамаўляючы словы ўслых альбо моўчкі (пра сябе): *«Ну всегда, после охоты когда охотники собираются, всегда благодарят, независимо от того: добыли что-то-не добыли, есть тост такой за природу, что побыли, благодарится природа, лес…»* [56].

Пад уплывам сацыяльна-эканамічных працэсаў, што мелі месца ў беларускай весцы ў XX – пачатку XXI стст. традыцыйныя ўяўленні аб паляванні трансфармаваліся. Істотна змянілася сацыяльныя функцыі паляўнічага промыслу. На працягу стагоддзяў паляванне для сялянства выконвала ролю асноўнага ці дадатковага занятку, які прыносіў прыбытак і меў найчасцей прафесійны характар. Сення паляванне з'яўляецца ў значнай ступені актыўным адпачынкам, які патрабуе ўкладання ўласных сродкаў і мае спартыўна-аматарскі характар. Большасць паляўнічых, апытаных аўтарам, адмаўлялі нават магчымасць атрымання прыбытку ад палявання, аргументуючы высокімі коштамі на зброю і рыштунак, выдаткамі на атрыманне ліцэнзій і пуцевак. Аднак, нягледзячы на змяншэнне ролі паляўніцтва ў традыцыйным прыродакарыстанні, прагматычны бок занятку для беларусаў захаваўся і сення. Паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца павелічэнне/памяншэнне «папулярнасці» палявання на той ці іншы від жывелы ў залежнасці ад попыту і камерцыйнай выгоды. Нерэнтабельнасць палявання на асобныя віды жывелы, нярэдка выклікае павелічэнні іх колькасці. Так, напрыклад, змяншэнне коштаў на футру лісы, а таксама попыту на яго, спрыяла ўзрастанню папуляцыі жывелы з 29,5 тыс. асобін у 1995 годзе да 46 тыс. асобін у 2009 годзе [7].

Як сведчаць палявыя даследаванні, у асяроддзі сучасных паляўнічых захаваўся багаты комплекс прафесійных павер'яў (як у актыўнай, так і ў пасіўнай формах). Адной з прычын гэтага з'яўляецца тое, што паляванне адносіцца да тых сфер дзейнасці, поспех у якіх у значнай ступені залежыць ад выпадку, шанцунку. Паўплывала і тое, што падчас палявання нярэдка ўзнікаюць небяспечныя сітуацыі, чалавек свядома і дабраахвотна рызыкуе, а спецыяная веды з складаючымі як утылітарна-практычнага, так і магічнага характару забяспечваюць яму псіхалагічны камфорт. Прыгадаем таксама, што лясная прастора ў народнай культуры ўспрымалася як «чужая», але не заўседы варожая для чалавека, што спрыяла захаванню адмысловых спосабаў камунікацыі з ей.

Зыходзячы з этнаграфічных матэрыялаў, сабраных падчас экспедыцый, сучасныя паляўнічыя прыкметы і павер'і можна ўмоўна падзяліць на 3 групы. Першая ўключае прадпісанні, якія тычацца паводзінаў перад паляваннем (напярэдадні), а таксама павер'і (прыкметы), звязаныя з прадказаннем яе магчымых вынікаў (удача/няўдача).

Да гэтай групы адносіцца забарона каітуса, «палавога акта, які расцэніваўся ў народнай культуры як нячысты і небяспечны, а таму ў пэўных сітуацыях табуіраваўся і пазбягаўся з мэтай абярэга» [8, с. 524]. Ся-

---

[53] *Зап. Бабіч А.Ю. 08.2010 г. ад Скраўца Сяргея Сяргеевіча (займаецца паляваннем з1974 года), 1954 г. нар. у г. Пінску (нар. у в. Купяцічы Пінскага р-на) Брэсцкай вобласці*

[54] *Запісана 04.2011 г. ад Дзіковіча Дзмітрыя Анатольевіча, 1983 г.нар. (нар. у в. Радзюкі Шаркаўшчынскага р-на), спецыяліста па паляўніцтву Віцебскага ДВЛГА , у г. Віцебску.*

[55] *Зап. Бабіч А.Ю. 08.2010 г. ад Сілік Надзеі Рыгораўны, 1930 г. нар. (з 1960 г. жыве ў в. Клятышча, з 1952 г. – на Брэстчыне, нар. у в. Бель Крычаўскага раёна Магілёўскай вобласці) у в.Клятышча Кобрынскага р-на Брэсцкай вобласці.*

[56] *Зап. Бабіч А.Ю. 08.2010 г. ад Навасада Сяргея Мікалаевіча, 1975 г. нар., інжынера па паляўнічай гаспадарцы Кобрынскага лясгаса, у г. Кобрыне Брэсцкай вобласці.*

род сучасных паляўнічых (нярэдка – ў жартоўнай форме) бытуе павер'е, што дачыненні з жанчынай напярэдадні палявання непажаданыя: *«Если завтра на охоту, то до жены не ходи»*[57], *«Если не везет, спрашивают «Кто грешил?»* [58].

Адпраўляючыся ў лес, паляўнічы сення, як і сто гадоў таму, імкнецца застацца няўбачаным: *«Еслі на ахоту, то ідзеш ... стараешся абхадзіць цэнтральные дарогі, штоб так во за сараямі ідзеш, такімі непріметнымі местамі, дзе меньшэ вераятнасць встрецiць чэлавека»*[59]. Асабліва непажаданай лічыцца сустрэча з жанчынай: «*Еслі жэньшчына дарогу перэходзіт, я сразу ухажу, ... я ўжэ на ахоту не іду»* [60], *«Женьшчына – эта беда всегда»*[61]. Некаторыя сучасныя паляўнічыя імкнуцца рацыянальна абгрунтаваць дадзеныя уяўленні і тлумачуць: *«А на самам дзеле эта большэ связана с тем, што нада выхадзіць параньшэ на ахоту, када народ ішчо спіт в аснавном. А в эта врэмя самы пахучый сьлед у зверя, каторый толькі што ушол на лежку, на днеўку, прошчэ і сабаку і ўсе астальное»* [62].

Беспаспяховае паляванне прадказвае сустрэча з зайцам: *«Встретишь зайца – к неудаче»* [63]. Па меркаванню даследчыкаў, тое, што «у народнай міфалогіі заяц належыць памежнай зоне паміж светам (космасам) і нясветам (хаосам) як гэткім» [9, с. 187], прадвызначае яго адмысловыя прадказальніцкія ўласцівасці, прычым найчасцей заяц вяшчуе нядобрае для людзей. (Параўнай: *«Калі воўк дарогу перабяжыць – добры знак, калі заяц – благі»* [10, с. 417], 1903 год, выданне Wisla).

Зычэнне ўдачы ў паляванні, па меркаванні некаторых паляўнічых, мае супрацьлеглае дзеянне: *«Если пожелал удачи, говорят: «Спасибо, можно ехать домой»* [64]. (Параўнай: *«Тым, хто выпраўляецца на паляванне, не трэба жадаць поспеху і з імі развітвацца, бо з нічым вернуцца»* [10, с. 418], 1903 год, выданне Wisla). Бытуе сярод паляўнічых агульнавядомае павер'е, што непажадана вяртацца дамоў, калі нешта забыў:*»... все взяць не забыць і не вернуцца, назад штобы не возврацiцца, а ежэлі возврацiшся – все не повезет. Эта вот у меня так»* [65].

Яшчэ раз падкрэслім, што ў паляўнічай справе істотную ролю грае элемент шанцунку, таму чалавек імкнецца ўбачыць і зразумець на сімвалічным узроўні, які вынік яго чакае. Прадказаць паспяховы альбо беспаспяховы зыход палявання могуць не толькі знакавыя сустрэчы, але і сны. Паляўнічы з Верхнядзвіншчыны распавядае: *«Ну вот мне сон другой рас, сьніца сон – я пракцічэскі магу сказаць: как заб'ем, каво заб'ем і сколька дажэ. Как вешчы сон усе раўно… Я ужэ сны разгадываю. Другой раз не саабражу сразу , тоісць начылі такіе сны сьніца. Ну эта, наверна, із-за даўнасьці ахоты. Сільна многа я ужэ ахочусь… Ну часта прадсказываў. Дажэ спрашываюць мальцы інагда: «Што табе сьнілась?» – када на ахоту. Гавару: «Сеньня нічо не заб'ем.» Точна – нічыво»* [66]. Дзякуючы шматгадоваму вопыту, навучыўся тлумачыць такія сны, раскрываць іх сімвалічны сэнс наступным чынам: *«Перад кабаном воўк сьніцца. А перад ваўкамі там заяц сьніцца абычна»* [67] (аб вобразнай і сюжэтнай лініі такіх сноў паляўнічы распавядае з неахвотай, што, верагодна, сведчыць аб «таемнасці», закрытасці дадзеных ведаў).

Другая група паляўнічых уяўленняў датычыць паводзін чалавека непасрэдна ў працэсе палявання.

Надзвычай распаўсюджанай з'яўляецца забарона пазычаць (даваць) патроны на паляванні: *«Разгаворы былі такіе, што вот іменна патронаў на ахоце не даваць. Хто-та вот карцеч, дапусцім, дома забыў ілі там пулі. «Дай.» От еслі даст ахотнік, тот каторы дал, то ему не павезет, тот каторы дал. Тот, каму далі, тот можэт эцім патронам папасць, дапусцім, а этаму не павезет…»* [68]. Каб не згубіць удачу (шанцунак), патроны перадаюць не з рук у рукі, а кідаюць на зямлю. Шырокае бытаванне дазенага ўяўлення сярод сучасных паляўнічых тлумачыцца, верагодна, прыналежнасцю дадзенага прадмету да зброі з аднаго боку і семантычнай сувяззю са стыхіяй агню з другога.

---

[57] *Глядзі спасылку 4*

[58] *Зап. Бабіч А.Ю. 11.2010 г. ад Кіселя Мікалая Мікалаевіча, 1963 г. нар., вядучага інжынера па паляўнічай гаспадарцы Навагрудскага лясгаса, у г. Наваградку Гродненскай вобласці*

[59] *Зап. Бабіч А.Ю. 07.2010 г. ад Лазюка Уладзіміра Іванавіча, 1973 г.н. у в. Горталь Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобласці*

[60] *Глядзі спасылку 1*

[61] *Зап. Бабіч А.Ю. 11.2010 г. ад Фурса Віктара Леанідавіча, 1957 г.нар. у в. Валеўка Навагрудскага р-на Гродненскай вобласці*

[62] *Зап. Пашкевіч І.Э, Бабіч А.Ю. 10.2008 г. ад Пашкевіча Эдуарда Уладзіміравіча, 1946 г.н. у в. Валынцы Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобласці*

[63] *Глядзі спасылку 6*

[64] *Глядзі спасылку 6*

[65] *Зап. Бабіч А.Ю., Хрол В.А., Зенько В. 08.2008 г. ад Габовіча Мікалая Кузьміча, 1947 г.н. (зараз жыве ў г. Мінску, нар. у в. Ляхавічы) у в. Ляхавічы Лепельскага р-на Віцебскай вобласці*

[66] *Зап. Пашкевіч І.Э, Бабіч А. 10.2008 г. ад Вішнеўскага Аляксандра Дзмітрыевіча (нар. у в. Ермакі), 1956 г.н. у в. Валынцы Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобласці*

[67] *Глядзі спасылку 14*

[68] *Глядзі спасылку 10*

*джаць, што вобраз балота характарызуецца амбівалентасцю, што выяўляецца як на фальклорным (ментальным) узроўні, так і ў рэальным жыцці. Сутнасць полісемантычнасці балота заключаецца ў тым, што, з аднаго боку, яно рэпрэзентуе інфернальную сферу, суадносіцца з чортам і хваробамі, але ў сітуацыі лакальнага культурнага ландшафту можа ўвасабляць сакральную зону і выконваць медыятыўныя функцыі паміж вясковай супольнасцю і сферай свяшчэннага. Паказальнай у гэтым плане з'яўляецца лакалізацыя значнай колькасці культавых крыніц менавіта ў балоцістых мясцінах.*

Балота, як адзін з вельмі частотных прыродных топасаў беларускай этнічнай прасторы, знайшло вельмі шырокае адлюстраванне як на ўзроўні фальклорных вобразаў, так і ў сістэме сімвалічных формаў паводзінаў. Міфалагічны генезіс балота, як «чортава стварэння» і яго геамарфалагічныя асаблівасці (сумясь вады і зямлі, пакрытая характэрнай расліннасцю) ляжаць у аснове трывалага суаднясення гэтага прыроднага локуса з ідэяй хосу і нячыстай сілай. «*Чорт, ен і ў балоце. Дзе балота такое во, дзе гусцяк самая такая. Ен, казалі, на гэнага, на абязьянку пахожы. Такі касматы*»(Чашніцкі р-н)[99]; «*Нас тожа запугівалі, што не хадзіце ў балота – там чэрці сядзяць. Яны такія, кажуць, – даўгія насы ў іх і зубы вострыя, і рогі. І як ты только правініўся, і ен увідзіць, ен цябе схваціць і зразу з'есьць*»(Глыбоцкі р-н)[100]. Дэманічная іпастась балота карэлюецца з ідэяй хаосу, знішчэння, дэструкцыі, якую яно ўвасабляе. Пры гэтым, балота, як канцэнтраванае ўвасабленне дэструктыўных патэнцый, ландшафтна апрадмечаная «рэпліка» тагасвету ў структуры жыццевай прасторы займае сутнасна важнае месца ў культурным ландшафце і, адпаведна, міфапаэтычнай карціне свету беларусаў Падзвіння.

Негатыўныя ацэначныя стэрэатыпы міфалагічнага мыслення датычацца не толькі вобраза балота ў цэлым, што адлюстравана ў шматлікіх парэміях («Балота без чорта не бывае», «дзе балота, там і чорт»), але і яго асобных рэпрэзэнтантаў. Паказальным у дадзеным выпадку з'яўляецца ўстойлівае перакананне вясковых жыхароў у наркатычных уласцівасцях буякоў – балотных ягад, якія маюць паказальныя дыялектныя назвы: *п'яніцы, дурніцы, дурнап'янкі, галаваболь*.

Найбольш рэльефна міфалагічная прагматыка балота рэалізуецца ў сістэме народнай медыцыны, дакладней, у сімвалічным сегменце яе лекавальных практык. Калі здароўе з'яўляецца парадкам, *нормай*, то хвароба – дэвіяцыяй парадку, *антынормай*, але абодва гэтых полюса з'яўляюцца неад'емнымі часткамі цэльнай карціны свету, бо любая норма ідэнтыфікуецца як такая толькі не тле парушэнняў. У сваю чаргу, і норма, і антынорма на тле скразной метфарычнасці сусвету маюць свае дакладнае *месца*, вызначанае на ўзроўні як саматычнага, так і ландшафтнага кода. Такім чынам, парушэнне касмічнага парадку можна прадставіць як парушэнне адпаведнасці формы і зместу, месца і змесціва. Аднаўленне ж нормы заключаецца ў аднаўленні гэтай адпаведнасці ў структуры светабудовы. Адсюль, зусім невыпадкова, што ў абсалютнай большасці выпадкаў, калі балота фігуруе ў замоўнай практыцы, размова ідзе не пра ліквідацыю хваробы як такой, але пра яе дэпартацыю з неадпаведнага (чалавек) у адпаведны (балота) локус. Пры гэтым, што вельмі важна, гэтая працэдура гарантуе аднаўленне парадку і гармоніі не толькі чалавеку ці хатняй жывеле (здароўе), але і ўласна хваробе, якая вяртаецца на «*свае месца*»: «*Каўтун, цябе прашу, цябе малю, не садзіся на гэтай галаве, ідзі на мхі, на балоты, дзе вецер ня веіць, дзе сонца ня грэець, дзе петухоў голас не даходзіць. Вот там твае месца*»[101]; «*Спутнік, спутнік, у целе ў Вані не бывай, касьцей не ламі, сэрца не знабі, з ног, із галавы, із белага цела, із краснай крыві. Ідзі, спутнік, на балоты, пад асінавыя калоды – там тваі бацькі, маткі гуляюць, кубкі налівaюць, цябе дажыдаюць*» (Лезненскі р-н) [1, с. 98].

Паказальна, што гарантам сусветнага парадку, пры якім хваробы не толькі лакалізуюцца, але і жывуць (размнажаюцца) менавіта ў балоце, у замовах можа выступаць і прадстаўнік боскай сферы: «*Ішла Насвенчая Матка залатымі масточкамі, падперазаўшыся шаўковым шнурочкам. – Куды ідзеш, Насвенчая Матка? – Іду на мхі, на балоты, размнажаю прыдзівы, прымыслы, прыгаворы, супоры, спужанне, уліканне*» (Барысаўскі р-н) [2, с. 192].

Значна радзей, выкарыстоўваўся спосаб застрашвання хваробы, калі суб'ект замовы пагражаў знішчыць не ўласна віноўніка немачы, але яго месца пражывання, г.зн. пазбавіць анталагічнай апоры ў структуры светабудовы: «*Гад Якаў, гадзіца Якавіца! Гад, гад! Вазьмі свой яд. А ня возьмеш свайго яду, я пайду на Кіян-мора. На Кіяні-моры ляжыць Латыр-камінь. Я з Латыра-камня вазьму агню, выжгу ўсі мхі, усі балоты, усі крутыі берагі. Ня будзіць вам ні прыстанішча, ні прыбежышча*» [3, с. 143].

Віртуальны спосаб рэструктурызацыі свету, увасоблены ў замоўных тэкстах, мае і акцыянальныя аналагі, калі хвароба сімвалічным чынам адасабляецца ад чалавека і перамяшчаецца ў локус балота. Так, пры ліхаманцы хвораму «раяць адкідваць яйка не на ростані, а куды-небудзь у балота, пад азярыну. Адкінутае з такой мэтай яйка нікому не трэба падымаць, бо да падняўшага абавязкова пяройдзе ліхаманка» [4, с. 131]; «Барадаўкі перявязывала і атвязывала, нешта малілася. Каждую нада перавязаць, а нітку ў балота ці ў гразь укінуць. Як нітка згніець, тады і барадаўкі вон» [5, с. 305].

[99] Архіў Гісторыка-філалагічнага факультэта ПДУ (АГФФ): Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. ад Чэрвінскай Надзеі Іванаўны, 1926 г. н., у в. Забор'е Чашніцкага р-на.
[100] АГФФ: Зап. Клопава С. і Путронак К. у 2010 г. ад Забелы А. С., 1920 г. н. у в. Шо Глубоцкага р-на.
[101] АГФФ: Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Пахомчык Юліі Іванаўны, 1931 г. н. у в. Брадок Докшыцкага р-на.

Аднак, негатыўны вобраз балота рэпрэзентуе толькі адзін полюс яго валентнасці ў традыцыйнай карціне свету беларусаў. Больш глыбокі аналіз этнаграфічных і фальклорных крыніц паказвае, што «манаполія» чорта і іншых прадстаўнікоў нячыстай сілы на балота не з'яўляецца абсалютнай. Характэрна, што шэраг элементаў біясферы балота маюць у народнай сістэме вобразаў пераважна станоўчае значэнне. Калі легендарныя сюжэты адназначна прывязваюць паходжанне балота, як пэўнай катэгорыі ландшафту, да крэацыйнай актыўнасці чорта, то фальклорная гісторыя канкрэтных балотных локусаў, актуальная, перадусім, для лакальнай супольнасці і яе жыццевай прасторы, можа ўказваць на семантычна процілеглых персанажаў. У позняй міфалагічнай традыцыі з'яўленне балотаў магло інтэрпрэтавацца, як вынік дзейнасці Бога, калі ен карае людзей за парушэнне маральна-этычных ці рэлігійных нормаў. Пры гэтым, размова ідзе не пра часы першастварэння, але міфалагічныя часы ў больш шырокім сэнсе, калі Бог (яго займеннік) займаўся «карэкцыяй» новастворанага свету і стварае балота не з пачатковых субстанцый (зямлі і вады), але замяшчае ім ужо існуючы аб'ект, як правіла, прыналежны да культурнай прасторы (паселішча, капліца, храм).

Падобны сюжэт зафіксаваны ў Докшыцкім р-не адносна балоцістага ўрочышча Пагулянка: «*Пагулянка – гэта сюды вот... Урочышча есьць такое. На Пасху пайшлі маладыя гуляць туды. Ну, і гулялі яны тамака на Пасху, пілі гарэлку. Ну, а быў абычай такі, што на первы дзень нікуды не хадзілі. І вот, быў такі бацька, што чатыры сыны ў яго было. Значыць, пабег дамоў, што нільзя, запрышчаў ім. Нільзя, такі дзень, што пцічка гняздо ня ўець. Пасха, первы дзень. А яны пайшлі тамака гуляць, там, тое-другое, ўсе. Значыць, не паслухалі яны, і ен сказаў: «Каб вы правалiлiся!» І вот тамака такая лажбіна. Можа, каб зьмерыў, метраў пяць-шэсьць, упадзіна такая. У ей стояла вада. Там правал здзелаўся, і ўвобшчэм, яны правалiлiся ўсе, што гулялі…*»[102]. Часам, правіна людзей можа ўказвацца абстрактна, але сама ідэя пакарання за грэх, асабліва, калі балота ўтвараецца на месцы храма, апелюе да вышэйшай сакральнай сілы. «*Эта ў Гарбачэве … балота такоя, там цэрква правалiлася. Канешна, награшылі. Такім ніколі не вязець*»(Талачынскі р-н)[103]; «*Каля Заборыцы, бацька мой гаварыў, а яму дзед расказваў, гэна там Царкавішча завецца. Там цэрква, гаворaць, утапілася. Утапілася ў балоце... Даўно, даўно! Яно там, балота, і было*»(Полацкі р-н)[104].

Звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што паданні падобнага тыпу датычацца пераважна невялікіх балот ці балотных урочышчаў, якія, верагодна, утварыліся ў выніку канчатковага забалочвання маленькіх беспраточных азер і маюць характэрныя назвы. «*Знаю, балота, каторае находзіцца ўблізі дзярэўні Дварышчэ. Якабы даўным-даўно, здесь была церковь, каторая правалiлась пад землю. На ее месце паявілась возера, каторае са врэменем зарасло і сталі балотам*»[105] (Полацкі р-н). На думку Л. Дучыц і Э. Зайкоўскага, гэтыя фактары могуць сведчыць на карысць колішніх культавых функцый згаданых аб'ектаў. «Аб колішнім культавым прызначэнні балот (магчыма былых азер) сведчаць назвы – Балваны, Бажніца, Капішча, Ігрышча, Янкаўшчына і інш. Многія балоты, як і азеры, завуць Святое, Свяцец, Святая лаза і да таго падобнае» [6, с. 67].

Аднак, як паказалі палявыя даследванні, балотныя ўрочышчы, з якімі звязваецца паданне пра патанулы храм, могуць мець сакральны статус не толькі на ўзроўні фальклорнай памяці, але і рэальных рытуальных практыках вясковай супольнасці XX ст. У такім выпадку, сюжэт пра «царкву, што правалiлася», выступае даволі канкрэтным тапаграфічным маркерам месца тэафаніі, ці, прасцей кажучы, легендарным чынам вылучае рэальны культавы аб'ект у структуры лакальнага культурнага ландшафту. «*Ну вот, была цэркаўка ў гэтым Замаку (назва ўрочышча – У. Л.), там нідзе ніхто не зойдзець, а тутака скрозь балота, і вот яна там і правалiлася. І маліліся, і іконы былі – усе. Прыйшлі людзі, а яна ўжо правалiлася. А Бог яе ведаець чаго, мая ты дзетка дарагая, ну хто гэта знаець – ноччы ж гэта было. Там крынічка была святая пад тым Замкам. Там, каля берага была. Людзі хадзілі да яе, маліліся*»(Полацкі р-н)[106]; «*Раньшы там, дзе во тут крынічка была, дык цэрква стаяла, дык я ж не знаю, гэта старыя мае бацькі гаварылі. Дык яе знясло бурай на ніз, гэту цэркву, цяпер там балота. Правалiлася і ўсе. Балоцца, яно бальшоя, гэта як яго, вакно было*» (Лепельскі р-н)[107].

І нават безадносна наяўнасці / адсутнасці легендарнай атрыбутацыі культавых крыніц іх тапаграфія вельмі часта суадносіцца з балотам і, як правіла, лакалізуецца ў ментальнай карце мясцовых жыхароў у *цэнтры* балотнага ўрочышча. «*Святая крыніца і ў нас када-та была. Яна ў тую сторану, чэраз гару. Гэта кілометра пашці пад два, а можа два троху нет. Ну, там такое азярцо було. Яно называлася тое азярцо Ліньня. І там, у гэтым Ліньні рыба была – ліны гэты, во там на балоце. І там стаяла каплічка. Кругом балота такое, а там стаяла такая каплічка. У гэтай капліцы там людзі малілісі Богу, на празьнік... Там балота. Ну толькі маленькая баравіначка, ну можа як на нашу хату, большая яна не была, дзе каплічка гэтая стаяла. Дык тут балота, а тут крыніца ў гэтым калодзежы*» (Ушацкі р-н) [7, с. 218];

---

[102] Зап. Глушко А. і Малышава В. у 1993 г. ад Коваля Міхаіла, 1927 г.н. у в. Баяры Докшыцкага р-на.

[103] Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Ступак Соф'і Міхайлаўны, 1926 г.н. у в. Лаўрэнаўка Талочынскага р-на.

[104] АГФФ: Зап. Лутава Г. у 2009 г. ад Шчарбаковай Алімпіяды Міхайлаўны, 1937 г.н. у в. Шастова Полацкага р-на.

[105] АГФФ: Зап. Лабанаў Д. у 2010 г. ад Лабанавай Віліі Пятроўны, 1940 г. н. у г.п. Расоны.

[106] Зап. аўтар у 2008 г. ад Ляновіч Таісы Уладзіміраўны, 1938 г. н. (нар. у г. Глыбокае), у в. Мётлы Полацкага р-на.

[107] АГФФ: Зап. Жолудзева П. і Шэпіла У. у 2007 г. ад Камзюк Васіліны Аляксееўны, 1927 г. н. у в. Бабча Лепельскага р-на.

«*Втарога аўгуста бывае Ілля. У лясу есць крыніца, там вада святая. Крыніца ў балоце знаходзіцца, а вадзічка там атлічная, дужа чыстая. Втарога аўгуста на Ілю тут усе збіраліся. Больш нідзе не было такога зборышча, уся акруга збіралася*»(Ушацкі р-н)[108]; «*Крыніца «Ізус» завецца. Ну, Ісус Хрыстос. Можа Ісус тую ваду асвяціў. Так гаварылі. Як раньшэ малыя былі, у школу хадзілі, дык там палаценцы віселі. Крэст такі стаяў, палаценца вісела і лажылі капейкі. Крэст і там полачка. І цяпер ложуць. Там з-пад зямлі б'е фантанчык і вада цераз балота і ў рэчку цячэ*»[109] (Чашніцкі р-н).

Прыведзеныя прыклады з'яўляюцца далека не адзінкавымі і фіксуюцца практычна на ўсей тэрыторыі Беларускага Падзвіння. Так, у балотным урочышчы ці ў непасрэднай блізкасці ад балота знаходзяцца: Святыя крыніцы ля в. Лісна, (Верхнядзвінскі р-н), в. Красналучка (Лепельскі р-н), в. Вілейка (Докшыцкі р-н), крыніца Святая вада ля в. Дзехцяры (Мерскі р-н); Барыса-Глебская крыніца ля в. Наўліцы, Дзявічы калодзеж ля в. Жыхары (Полацкі р-н), Марозаў ключ ля в. Забор'е, крыніца Серабранка ля в. Якубава (Расонскі р-н), Святы калодзеж ля в. Лоўжа (Шумілінскі р-н) і шэраг іншых.

Факт наяўнасці сакральна вылучанай крыніцы ў канкрэтным балоце не толькі аўтаматычна нейтралізуе яго «дэманічны» вобраз у карціне свету мясцовай супольнасці, але і актуалізуе крэацыйныя патэнцыі прыроднага локуса. Па сутнасці, святая крыніца ў балоце адсылае да пачатковай фазы космагенэзу, калі стваральнай дзейнасці Бога папярэднічае аб'ектывацыя зыходнай кропкі (цэнтра) сатварэння на тле прасторы хаосу: «Калі свет яшчэ толькі зачынаўся, нідзе нічога не было. Усюды была мертвая вада, пасярод вады тырчэў нейкі камень» [8, 78]. Статычная прастора балота, у якой вылучаецца дынамічнае ядро (крыніца), увасабляе два полюса сатварэння сусвету – *in statu* і *in motu*. Ідэі нараджэння, абнаўлення, чысціні, руху і жыцця ў цэлым, якія звязваюцца ў традыцыйным светапоглядзе з крыніцай, у дадзеным выпадку прадметна і наглядна канкуруюць з ідэямі смерці, знікнення, нерухомасці, бруду, трывала суаднесеных з уласна балотам. Такая дыхатамія з'яўляецца аптымальнай у кантэксце сімвалічнай прагматыкі і функцыянальнасці вясковых святыняў падобнага тыпу: да іх ідуць, каб *пакінуць хваробу* і *атрымаць здароўе*.

Вобраз крыніцы ў балоце карэлюецца з сімволікай міфалагічнага цэнтра, якая ўласцівая не толькі аб'ектам культурнай прасторы (храм, дом, крыж), але і прыродным локусам. У немалой ступені гэта абумоўлена тым, што для чалавека традыцыйнай культуры, які і сам есць аўтацэнтрычным у міфапаэтычнай карціне свету, ідэя цэнтру прадметна актуалізуецца (у ментальнай альбо рэальнай прасторы) толькі ў цеснай сувязі з сімвалічнай прагматыкай самога чалавека. І ў выпадку, калі актуальным стае пазбаўленне чалавека ці хатняй жывелы ад хваробы, міфалагічны цэнтр, дзе і адбываецца акт санацыі, можа быць лакалізаваны менавіта ў балоце: «*А табе йці на мхі, на балоты; там стаіць сухі дуб, пад тым дубам стаіць цясовая карваць, у тэй карваці пуховыя пярыны і шаўковыя прасціры. У етай карваці табе ўлягацца, а такой-та скацінай не ўладаць. Як етаму сухому дубу веццем не махаць, так табе, чэмер, скаціну не марыць*»(Горацкі пав.); «*На балоце, на калодзе стаіць вярбовы куст, пад тым кустом сядзяць гады, яды, гадзюкі, вужы, вужаняты. Вужа, вужа, гукай свайго мужа, сваіх вужанят, сваю вужыху і ідзі з раба божага (імя) яд выбірай*» (Кармянскі р-н) [3, с. 79, 127].

У значэнні прасторы, дзе лакалізуецца міфалагічны цэнтр, у якім адбываецца пазбаўленне чалавека ад хваробы, балота тыпалагічна тоеснае такім ментальным топасам, як «мора» і «чыстае поле», агульнай характарыстыкай якіх з'яўляецца вельмі слабая структураванасць і набліжанасць да пачатковай стадыі космагенэзу.

Матыў міфалагічнага цэнтра, як падстававай прасторавай кропкі структурызацыі не толькі «тагасвету» (як гэта есць у выпадку з хваробамі), але і свету людзей, выразна прасочваецца і ў паданнях пра заснаванне вясковых паселішчаў у/пасярод балотнага масіву. Знакавай з'яўляецца і тая акалічнасць, што ў якасці заснавальніка ці культурнага героя, які дае назву весцы (што ў традыцыйнай карціне свету тоесна ўласна стварэнню), фігуруе прадстаўнік боскай сферы ці персанаж, асацыяваны ў народнай культуры з вышэйшымі прыступкамі сацыяльнай іерархіі (рыцар, генерал)». *Шоў Ісус Хрыстос па балоце, астанавіўся ў Бяседах, там веў бяседу так і назвалі дзярэўню. У Сітніках далі яму сітнага хлеба, так і стала дзярэўняназывацца. Гарадзец ен мінуў, бо шоў па балоту*»[110]; «*Ішоў цераз балоты рыцар са сваім атрадам. Выйшаў на сухое места пасярод леса, ну як бы на востраў і астаўся там жыць. Так і стала наша дзярэўня Вострава*»[111]; «*А Гарбаціца – гэта, што вайна тая, даўняя была, і французы адступалі. А рускія ішоўшы за імі. Прахадзілі балота, а там ужо гара, і адзін салдат сказаў генералу: «Гара, бацька». Вось адгэтуль і назва вескі*»[112].

[108] АГФФ: Зап. Касьмін М. у 2009 г. ад Пугача Сяргея Фёдаравіча, 1931 г. н. у в. Вялікія Дольцы Ушацкага р-на.

[109] АГФФ: Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Пятрашкі Міхаіла Емельянавіча, 1935 г н. у в. Баравыя Чашніцкага р-на.

[110] Зап. Тухта В. у 2008 г. ад Скорба Ксеніі Ільінічны, 1928 г.н., у в. Сітнікі Лепельск. р-на.

[111] Зап. Тухта В. у 2004 г. ад Садоўскага Леаніда Мікалаевіча, 1963 г. н., у в. Велеўшчына Лепельск. р-на.

[112] Зап. аўтар у 1999 г. ад Ясюк Ганны Лаўрэнцеўны, 1936 г.н. у в. Горы Ушацкага р-на.

Такім чынам, аналіз этнаграфічных і фальклорных матэрыялаў паказвае, што вобраз балота ў міфапаэтычнай карціне свету беларусаў характарызуецца полісемантычнасцю, якая выяўляецца ў рэактуалізацыі дэструктыўнай, крэацыйнай ці медыятыўнай функцыі ў строгай залежнасці ад канкрэтнага сітуатыўнага кантэксту, уласцівага таму ці іншаму фрагменту жыццядзейнасці лакальнай супольнасці. Пры гэтым, не варта пакідаць па-за ўвагай тую акалічнасць, што балота, хоць і можа сімвалічным чынам прыпадабняцца да хаатычнай прасторы, але ў рамках культурнага ландшафту (шырэй – карціне свету) хаосам не з'яўляецца, паколькі само есьць вынікам космагенэзу і выконвае абсалютна пэўныя функцыі як сімвалічнага, так і гаспадарча-утылітарнага зместу.

ЛІТАРАТУРА

1. Лобач, У.А. Полацкі этнаграфічны зборнік. Вып. 1. Народная медыцына беларусаў Падзвіння. У 2 ч. Ч. 1. / склад.У.А. Лобач, У.С. Філіпенка. – Наваполацк: ПДУ, 2006. – 148 с.
2. Васілевіч, У.А. Замовы / уклад.: У.А. Васілевіч, Л.М. Салавей. – Мінск: Беларусь, 2009. – 519 с.
3. Барташэвіч, Г.А. Замовы / Уклад., сістэм. тэкстаў, уступ. арт. і камент. Г.А. Барташэвіч; Рэдкал.: А.С. Фядосік (гал. рэд.)[ і інш.] – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 597 с.
4. Демидович, П.П. Из области верований и сказаний белорусов / П.П. Демидович // Этнографическое обозрение. – 1896. – № 1. – С. 91 – 120; № 2 – 3. – С. 107 – 145.
5. Валодзіна, Т.В. Народная медыцына: рытуальна-магічная практыка / уклад., прадм. і паказ. Т.В. Валодзінай. – Мінск: Беларус.навука, 2007. – 776 с.
6. Зайкоўскі, Э.М. Жыватворныя крыніцы Беларусі / Э.М. Зайкоўскі, Л.У. Дучыц. – Мінск: Ураджай, 2001. – 111 с.
7. Лобач, У.А. Полацкі этнаграфічны зборнік. Вып. 1. Народная медыцына беларусаў Падзвіння. У 2 ч. Ч. 2. / У.А. Лобач, У.С. Філіпенка. – Наваполацк: ПДУ, 2006. – 332 с.
8. Грынблат, М.Я. Легенды і паданні / М.Я Грынблат, А.І. Гурскі. Мінск: Бел. навука, 2005. – 2-е выд., дап. і дапрац. – 552 с.

Артыкул падрыхтаваны пры фінансавай падтрымцы БРФФД. Грант «Навука (НАНБ-вузы) – 2011» Дамова № Г 11ОБ-023

## ВОБРАЗ ЛІТОЎЦАЎ У БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ КУЛЬТУРЫ

***канд. гіст. навук, дац. У.А. ЛОБАЧ***
***(Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт)***
***канд. гіст. навук Ю.І. ВНУКОВІЧ***
***(Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ім. К. Крапівы НАН Беларусі, Мінск)***

*На падставе перш за ўсе палявых этнаграфічных і фальклорных матэрыялаў даецца характарыстыка вобразу прадстаўнікоў літоўскага этнасу ў народнай культуры беларусаў.*

Этнічны вобраз фарміруецца ў працэсе міжкультурнай камунікацыі і акумулюе ў сабе агульныя веды пра мову, рэлігію, звычаі, абрады, побыт, паводзіны, знешні выгляд і сацыяльную прыналежнасць этнічных суседзяў [1, с. 8; 2, с. 58 – 59; 3, р. 7 – 8]. Этнічны вобраз «суседа» звычайна найбольш выразна праяўляецца ў кантактных зонах этнічнага памежжа. Па-за межамі этнакантактнай тэрыторыі адбываецца размыцце гэтага вобразу, альбо ен набывае зусім іншыя характарыстыкі, звязаныя з асаблівасцямі мясцовых культурных рэалій. Як адзначае Б.Х. Бгажнокаў, міжэтнічныя зносіны – галоўны, дамінуючы спосаб існавання этнічных вобразаў, без якога ўсе іншыя спосабы былі б не толькі немагчымыя, але і, па-просту кажучы, непатрэбныя [4, с. 80]. Менавіта на этнічным памежжы на працягу доўгага часу розныя этнічныя супольнасці знаходзяцца ў найбольш цесным камунікацыйным узаемадзеянні.

Прадстаўнік іншага этнасу як у рэальным, так і ў фальклорным вымярэнні заўседы ўспрымаецца як «чужы», «іншы». Звычайна ен у той або іншай ступені адрозніваецца ад прадстаўнікоў дамінуючага этнасу. Для апошніх чужымі і незразумелымі могуць быць яго звычаі, рэлігія, мова, знешні выгляд, паводзіны і інш. [3, р. 8].

Варта адзначыць, што тэрыторыя беларуска-літоўскага памежжа з даўніх часоў была арэнай інтэнсіўных этнакультурных кантактаў паміж прадстаўнікамі розных этнічных супольнасцей (найперш, беларусаў, літоўцаў і палякаў). Вынікам гэтых кантактаў стала частковае сціранне і размыцце культурных межаў (этнічных маркераў) мясцовых беларускай, літоўскай і польскай этнічных груп. Галоўнай этнакультурнай прыкметай беларускага, літоўскага і польскага насельніцтва памежнага рэгіена ў наш час з'яўляецца іх родная мова. Гэта, безумоўна, не магло не паўплываць і на іх этнічныя вобразы (параўн. характэрныя адказы інфармантаў на пытанне «Чым адрозніваюцца мясцовыя літоўцы, беларусы і палякі?»: «*Анічым. Так як схадзіліся, вот і васэллі, і ўсякая, яны*

[літоўцы] *не сорыліся з намі палякамі. Не. Пойдзем мы ў касцел на Троіцу, так яны і гавораць з намі, і туляцца, бо іхная імша была першая. Літоўская. А польская ўжо была потым. … А так яны нічога не адлічаліся.* – А характар, які ў іх? Ці лепшы, ці горшы? – *А характар – як які чалавек. І палякі такія самыя, і літоўцы, і беларусы такія самыя. Мае вы мілыя, есць людзі гордыя, есць людзі болей панятлівыя, а есць трэпля абы што. Так жа?* … – А можа яны святы розныя святкавалі? – *Нет. Свята адзінакава.* – Можа як па-другому працавалі на полі? – *На полі працавалі тэж, як жыта жнуць, так жнуць. Таксама ўсе рабілі.* – Можа яны елі што другое? – *Нет! І елі, і ўсе елі. Во і цетка* [літоўка] *замуж прыйшла – тое самае. І верылі каждае свята. Як во Вельканоц разам і Каляды. Вот гэта ўжо цяпер, дапусцім, праваслаўныя – у іх ужо аддзельна, позжа нашаго. А літвіны адзінакава. Яны і цяпер святкуюць адзінакава. Во былі ў нас Зяленыя Свенткі, мае дзеці ўсе былі да мяне на госці* [з Літвы] *прыехаўшы, і ўнукі ўсе. І там свята. Гэта – іх нацыя адзінакавая*» (Астравецкі р-н)[113]; «Як пазнаць што літовец, што нелітовец? – *Ну як пазнаць? Па размове*» (Шальчынінкайскі р-н)[114] і інш.).

Ва ўмовах працяглага сумеснага пражывання на агульнай тэрыторыі, калі ў культурным, сацыяльным і канфесійным планах мясцовыя літоўцы ўспрымаліся як «свае», менавіта істотнае моўнае адрозненне паміж беларусамі і літоўцамі памежнага рэгіена і ўплывала на фарміраванне іх этнічнага вобразу. Больш таго, лінгвістычны аспект фігуруе як у насмешлівых мянушках літоўцаў з боку мясцовага славянамоўнага насельніцтва, заснаваных на прынцыпах гукапераймання і перадачы незразумелых слоў (*гіргуны*, *жагуны*, *клаўсы*, *лабусы* і інш.), так і ва ўяўленнях аб іх тыпе камунікацыйных паводзін і нават характары.

Найбольш яскрава міжэтнічныя зносіны беларусаў і літоўцаў памежнага рэгіена праявіліся ў населеных пунктах Астравецкага раена, дзе на працягу многіх стагоддзяў мірна суіснавала літоўскае і беларускае насельніцтва. Так, менавіта моўная адметнасць літоўцаў Астравеччыны лягла ў аснову іх калектыўнай мянушкі з боку мясцовых беларусаў – *гіргуны/гергуны*. Гэты мікраэтнонім адлюстроўвае асаблівасці гаворкі сваіх носьбітаў («*Нешта гергаюць, не разбярош як*..»[115]). Для мікраэтноніма *гіргуны,* распаўсюджанага пераважна ў Астравецкім, Ашмянскім, Смаргонскім, Вільнюскім і Шальчынінкайскім раенах, характэрна бадай выключна насмешлівая, зняважлівая, часам лаянкавая экспрэсіўная афарбоўка. Можна адзначыць таксама даволі часты перанос назвы «гіргуны» жыхарамі памежжа і на прадстаўнікоў літоўскага этнасу ўвогуле (параўн.: «– А дзе такія гіргуны жывуць? – *Гіргуны – ну літвіны. Гіргун.* – А дзе яны жывуць? – *Ну, дзе жывуць? У Літве жывуць, бываіць і тут есь. Тамка два сельсаветы есь*»[116]).

Этымалогія назвы *гіргуны* цесна звязана з літ. *gergėti*, *girgėti* «гагатаць, гагаць (пра гусей)», бел. *гергаць* «тое, што і гагаць (*гусі гергаюць*)», *гергеліць* «балбатаць» [5, с. 400], якія з'яўляюцца гукапераймальнага паходжання. Невыпадкова, што літоўская мова, як «чужая», незразумелая, суаднесена ў дадзеным выпадку з прыроднай, нечалавечай катэгорыяй – гагатаннем гусей. «*Гэты гіргуны, дык гэта разныя... «Гусямі» ў нас іх называюць.* – Як? – *Гусямі* [смяецца]. – А чаму? – *Ну, іхны разгавор як гусіны*»[117]. (Параўн. таксама запіс М. Федэроўскага, які, верагодна, нясе такую ж семантычную нагрузку: «На Жмуйдзі і куры людзі» [6, s.364]).

Прыналежнасць мясцовых літоўцаў да свету «антыкультуры» асабліва выразна маркіруецца надзяленнем іх яшчэ адной прыроднай (фізіялагічнай) якасцю – т.зв. «чорным паднябеннем» (маецца на ўвазе экспрэсіўная намінацыя «*гіргун/літвін/літовец з чорным паднябеннем*» у значэнні «дрэнны, злосны літовец»):

«– *Вот кажаць, што літвіны надта злыя. Кажаць: «Літоўка, ты, з чорным паднябеннем!». Што ў літвіноў чорнае паднябенне.*

– Гэта таму што злыя, кажаць?

– *Ну, вот злыя. Даўней сабакаў, шчанкоў выбіралі малых. Усе, разяўлялі рот, глядзелі, еслі паднябенне чорнае ў сабакі, сабака будзіць злы, а еслі белае, светлае – значыць… Так вот гэтыя літоўцы… злы, што могуць сказаць: «Літоўка, ты, літовец ці літоўка, з чорным паднябеннем!». Гэта значыць злы надта.*

– Так яны як – злыя? Сапраўды, ці як?

– *Яны не сапраўды. Ну, вот чалавек есь ужо, калі злы чалавек, калі такі, калі такі. Так літвін злы можа быць*» (Смаргонскі р-н)[118].

«– А ці казалі «гергун з чорным паднябеннем»?

---

[113] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Марыі Іванаўны Вайцюль (1927 г.н.) у в. Маркуны Астравецкага р-на.

[114] Зап. Унуковіч Ю. ў 2008 г. ад Баляслава Андрэевіча Шавэйкі (1925 г.н. у в. Кяйпуны) у м. Тургелі Шальчынінкайскага р-на.

[115] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Мар'яна Іванавіча Рогача (1938 г.н.) у в. Буякі Смаргонскага р-на.

[116] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Івана Іванавіча Сідарэвіча (1940 г.н.) у в. Буякі Смаргонскага р-на.

[117] Зап. Унуковіч Ю. у 2008 г. ад Зыгмунта Канстанцінавіча Бярозкіна (1934 г.н.) у в. Яцканы Шальчынінкайскага р-на.

[118] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Івана Іванавіча Сідарэвіча (1940 г.н.) у в. Буякі Смаргонскага р-на.

– [Смяецца]. *Ну, эта ругаяцца. Казалі.*

– А чаму з «чорным паднябеннем»?

*– Што злыя. Вот, глядзіця, у сабакі як чорна паднябенне, дык злы сабака. Дык і іх так празвалі.*

– А чаго, яны ж ня злыя?

– *Ня будзеш злаваць, дык ня злыя!*» (Смаргонскі р-н)[119].

«– А пра каго казалі так – «гіргун з чорным паднябеннем»?

*– А, так гэта як ругаліся. Тады гэтак казалі. А чаму гэта «чорна паднябенне», так я не знаю. Гэта гаварылі гэдак. Гэта так гаварылі, а дзе там якое ў яго паднябенне? Яны ні чорныя, а такія самыя як і мы. Літоўцы і ў Вільнюсе. Вот ужо есць там такія во распублікі, так есць жа чорныя там. Узбекі, таджыкі там якія. Есць жа такія людзі саўсем чорныя. А тут не. Літвіны і палякі – эта адзінакавыя былі. Адзінакавыя*» (Астравецкі р-н)[120].

«– А людзі яны якія? Літоўцы?

*– Казалі: «Літвін з чорным паднябеннем».*

– А чаму так казалі?

– *Бо яны злыя, благія людзі*» (Астравецкі р-н)[121].

Увогуле вобраз «чужога» вельмі часта надзяляецца асаблівымі цялеснымі прыкметамі, у тым ліку і «чорным паднябеннем». Так, напрыклад, згодна з павер’ямі палякаў, яго мелі русіны (карпацкія ўкраінцы). Апошнія ў сваю чаргу лічылі, што «U mazura czarna rura [глотка]». Аналагічную прыкмету прыпісваюць мазуры – «літвінам» і «жмудзінам», а кракавякі гуралям [1, с. 51].

Экспрэсіўнасць адзначанай намінацыі мясцовых літоўцаў, напэўна, вынікала таксама з практычнай выгады ў магчымасці выбару імі зразумелай/незразумелай мовы ў залежнасці ад канкрэтнай жыццевай сітуацыі. Іншымі словамі, літоўская мова часта выконвала функцыю «патаемнай мовы», незразумелай мясцоваму беларускаму насельніцтву, выкарыстоўваючы якую, літоўцы маглі легка ўзводзіць камунікацыйны бар’ер паміж сабой і беларусамі: «– А чаму гіргуном называюць? *– Ну, як па маім павер’і за то, што ен гаворыць не па-нашаму. Мы не панімаем вашай: «Гіргун ты!». Што гаворыш, а мы ні панімаем*» (Смаргонскі р-н)[122]; «*Ну, як яны гіргуны? Па-літоўску ж яны гавораць, а мы ж не панімаем. Нам кажыцца, што яны нас абгаварваюць. То «гіргун» на іх так гаворым*» (Астравецкі р-н)[123]; «*Я ж во работаў з хлопцамі, з літоўцамі. Еслі ані ўдваем ілі ўтраем, літоўцы, яны разгаварываяць на сваем языку, а еслі есь пастаронні, тады будуць на рускім гаварыць, штоб і ты панімаў*» (Смаргонскі р-н)[124]. Дзвюх, трох або нават чатырохмоўе мясцовых літоўцаў успрымалася славянамоўным насельніцтвам як пэўная іх перавага, з якой яны могуць мець карысць (параўн.: «*Але ім добра, хоць і жагуны яны* [«жагуны» – лакальная назва літоўцаў Івейшчыны і Дзявеністскай воласці. – аўт.]. *Яны ўмеюць і па-польску, а мы як пойдзем ужо, так на этай імшэ* [літоўскай] *як бараны. Ужо бывае, часта ходзіш, слова ведаеш сказаць, а што яно абазначае, то і не ведаеш*» (Шальчынінкайскі р-н)[125]; «*Літоўцы ўсяляк. І па-нашаму гавораць, і па-своему. Вот мы па-літоўску не ўмеем. Я не ўмею па-літоўску. А вот ужо мае ўнукі жывуць у Нова-Вільні, так яны ўжо балбочаць, былі на Зяленыя Свенткі тут, так яны саўсем як літоўцы. А я то не ўмею. А вот наша цетка гэта, Антаніна, яна тожа і па-польску ўмела гаварыць, і па-літоўску, і па-простаму так во як мы*» (Астравецкі р-н)[126]). Свае лінгвістычныя здольнасці нярэдка акцэнтуюць і самі беларускія літоўцы: «*Вот мы едзем у аўтобусе не раз, ну, як мы едзем пеляскі там, ці з тых вескаў, гаворым па-літоўску, ужо тыя пастаронныя, якія палякі, нас перадражніваюць – нашто-та мы па-літоўску гаворым? Так мы*

---

119 Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Вальдэмара Пятровіча Федаровіча (1940 г.н.) у в. Нестанішкі Смаргонскага р-на.

120 Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Марыі Іванаўны Вайцюль (1927 г.н.) у в. Маркуны Астравецкага р-на.

121 Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Соф’і Сімановіч (Казлоўскай) (1941 г.н.) у в. Малыя Свіранкі Астравецкага р-на.

122 Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Івана Іванавіча Сідарэвіча (1940 г.н.) у в. Буякі Смаргонскага р-на.

123 Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Эдуарда Міхайлавіча Пастэрнака (1943 г.н.) у в. Дубок Астравецкага р-на.

124 Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Вальдэмара Пятровіча Федаровіча (1940 г.н.) у в. Нестанішкі Смаргонскага р-на.

125 Зап. Багачунас С., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Яніны Міхайлаўны Жамойць (1930 г.н.) у в. Кракуны Шальчынінкайскага р-на.

126 Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Марыі Іванаўны Вайцюль (1927 г.н.) у в. Маркуны Астравецкага р-на.

*кажам: «Мы знаем і па-просту, і панімаем яшчэ і па-польску, а вы па-літоўску нам перагаварыце, што мы гаворым! Пачаму вы не знаеце?*» (Воранаўскі р-н)[127].

Між тым, магчымасць мясцовых літоўцаў пераходзіць на незразумелую мову і карыстацца гэтым у штодзенным жыцці не толькі ўзмацняла пачуцце іх «іншасці», але і спараджала ўяўленне аб іх, як людзях даволі «хітрых» і «не вартых даверу».»*Между сабой яны на сваім языку, а з табой будуць гаварыць па-просту. Я раз паехаў на базар, нада было купіць мне на семяна ячменя, ну падышоў да гэтага, да гергуна. А ў іх тры пуды гэта называюць яны цэнтнер, у нас цэнтнер – сто кілаграм. А ў іх пяцьдзесят кілаграм цэнтнер. Ну і пытаюся: «Слухай, ячмень можа чэраз сушылку прапушчаны? Он не ўзайдзет». Як раскрычаўся эты гяргун: «Што ты!» Казаў: «Самагонка як начнець ісці, ідзець, ідзець і астанавіць нягможна». Ну, купіў я ў яго. Гэты цэнтнер атмерыў. Прывез дахаты, насыпаў у баначку, наліў вады – каб табе хоць адно прарасло! Ен сушаны. А еслі б я у зямлю кінуў – спорціў бы. Во зараза якая!*» (Смаргонскі р-н)[128].

Чужая мова часта ўсведамляецца як «незразумелая», «немілагучная», «смешная», «непаўнавартасная» і інш. Не стала выключэннем у гэтым плане і літоўская мова, якая нярэдка выступае прадметам кпінаў, насмешак і жартаў з боку мясцовага славянамоўнага насельніцтва. «*Майго брата дзед каровы пасціў. Паздароўкаўся з ім* [ліцьвяк]. *«Лаба дзена», - там сказаў. Ну, гэты дзед глухаваты быў: «Шабулдых! Шабулдых!» Ну, так падалося, што «шабулдых». Кажа, ехаў ліцьвяк, карову на пашу веў. Ехаў ліцьвяк, сказаў мне «шабалдых» і я яму – «шабалдых». Не «лаба дзена» сказаў дзед, а «шабалдых». Здалося так. Глухі стары*» (Вільнюскі р-н)[129].

Варта адзначыць, што мясцовым беларускім насельніцтвам падкрэсліваецца ***маргінальнасць*** тутэйшых літоўцаў у дачыненні да астатніх прадстаўнікоў літоўскага этнасу. Такі статус мясцовых літоўцаў ізноў жа вынікае пераважна з асаблівасцяў іх гаворкі, у якой шырока прадстаўлены беларускія моўныя элементы, неўласцівыя і нетыповыя для літаратурнай літоўскай мовы.

«– А чаму так празывалі [гіргунамі]?

*– Іхны разгавор не такі, як этых во літоўцаў. Гвар у іх саўсем другі. Акцэнт. Напрыклад, па-літоўску лапата – «кастува», а яны гавораць – «лапатэўс»* « (Вільнюскі р-н)[130].

«– Тут беларусы жывуць, ці палякі, ці літоўцы можа?..

*– Літоўцаў у нас тут няма, літоўцы тока во за рэчкай, за Вяйллей. Там есь нескалька весак літоўскіх.*

– А як іх празываюць тых літоўцаў?

*– У нас? Гергуны.*

– А чаму так?

*– Бо ў іх ліцературны язык з літоўскім не сходзіцца. У іх троха ламаны такі, не так.*

– А як?

– [Смяецца].

– Так ад чаго слова такое – «гергун»? Ад чаго яно пайшло?

*– Ну, вот так празываюць – гергуны. Вот глядзі, якая разніца? У нас па-беларуску – «малаток», там на Літве – «плактукас», а гэтыя гергуны ўжо завуць «куяліс». …*

– А ў Літве ўжо – не гіргуны?

*– Не, там ужо чыстакроўныя літоўцы.*

– А гэтыя – так яны «нечыстакроўныя»?

*– Не.*

– А чаму?

– *Перамяшаныя ўжо*» (Смаргонскі р-н)[131].

«*А вот, кажа, што яны эці нашыя, дапусцім яны цяпер літвіны, але яны па-чыста, так як па-віленскаму гэта ўжо не гавораць так. Яны мяшана гавораць, яны болей па-своему. Яны – літвіны. … А «чысты» літовец, так ані разгаворацца з гэтымі літоўцамі, но эці нашыя ўсяго не панімаяць, еслі па-граматнаму. Да. Еслі па-граматнаму – ані дагадаюцца, чы як там, чы гэтыя, можа, ім перакажаць як гавораць. Но ані свой такі язык. Як во як нашы просты цяпер. Мы ж палякі, а чы мы па-польску гаворым? Па-сваім, во месны. А вот ужо за Вяльлей, як мы называем, так там як беларусы гэдак гавораць*» (Астравецкі р-н)[132].

[127] Зап. Унуковіч Ю. у 2006 г. ад Тафілі Казіміраўны Шымялевіч (Комінч) (1935 г.н.) у в. Пеляса Воранаўскага р-на.

[128] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Вальдэмара Пятровіча Федаровіча (1940 г.н.) у в. Нестанішкі Смаргонскага р-на.

[129] Зап. Унуковіч Ю. у 2009 г. ад Фелікса Іванавіча Францкевіча (1930 г.н.) у в. Кена Вільнюскага р-на.

[130] Зап. Унуковіч Ю. у 2006 г. ад Досі Спірыдовіч (Лукшык) (1944 г.н.) у м. Лаварышкі Вільнюскага р-на.

[131] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Вальдэмара Пятровіча Федаровіча (1940 г.н.) у в. Нестанішкі Смаргонскага р-на.

«*Гіргун, так эта… ен як падстава літоўцаў. Ен хоча літоўцам быць, но языка ні панімае харашо*» (Астравецкі р-н)[133].

У дадзеным выпадку прадуктыўнай, на нашу думку, можа быць катэгорыя «іншы», якая займае прамежкавы стан паміж паняццямі «свой» – «чужы». Яна як бы спалучае іх, выступаючы для акрэслення той групы людзей, якія яшчэ не настолькі блізкія, каб быць «сваімі», але ўжо не настолькі далекія, каб быць «чужымі» [7, с. 181]. (Параўн.: «*Ну тут яны* [мясцовыя літоўцы] *ужо, знаеце, такія і на нас ужо пахожыя такія яны. Культура, усе. А там у Вільнюсе, канешна…*» (Астравецкі р-н)[134]; паказальна таксама ўжыванне ў размовах інфармантаў выразу «*нашыя літвіны*», гл. вышэй). Варта падкрэсліць, што пачуцце «іншасці» фігуруе і ў інтравобразе саміх беларускіх літоўцаў: «*Гуды – гэта беларусы, яны сьчытаюцца палякі і пішуцца палякі, але як мы па-просту, па-літоўску гаворым няшчыра, па-жмудзку як во Вільнюс там, ці за Вільнюсам, так яны няшчырыя палякі, яны ніхто ня ўмеюць па-польску гаварыць*» (Воранаўскі р-н)[135].

На гэтым фоне вобраза мясцовых, «сваіх» літоўцаў, якія гістарычна пражывалі па-суседству з беларусамі памежнага рэгіена (параўн. «*Літоўцы былі яны здаўна. Гэтыя гіргуны ў нас здаўна былі. Гярвяцкія гіргуны то былі яны даўно, як я стала помніць*» (Астравецкі р-н)[136]) і з'яўляліся часткай іх рэальнай жыццевай прасторы, вылучаецца вобраз «акаянных», «заядлых», «чыстакроўных» літоўцаў – выхадцаў з розных этнаграфічных рэгіенаў Літвы, актыўнае знаемства з якімі адбылося пераважна ў другой палове XX ст. у выніку ўзросшай мабільнасці насельніцтва памежнага рэгіена. Своеасаблівай кропкай адліку фарміравання гэтага вобразу можна лічыць гістарычныя падзеі 1939 – 1940 гг., калі частка Віленскага краю паводле дамовы паміж Літоўскай Рэспублікай і Савецкім Саюзам увайшла ў склад літоўскай дзяржавы. Як вядома, пры ўсталяванні дзяржаўнай мяжы паміж Літвой і Беларуссю ў разлік браліся выключна палітычныя інтарэсы кіраўніцтва СССР, этнічныя ж межы, якія склаліся тут натуральным чынам, улічаны не былі. Узнікшая новая дзяржаўна-палітычная мяжа, якая рэальным чынам падзяліла жыццевую прастору мясцовага насельніцтва на «гэты» і «той» бакі і непасрэдна ўздзейнічала на яго далейшы лес, не магла не паўплываць і на вобраз суседняга народа. Гэтая, па-сутнасці траўматычная для свядомасці мясцовага славянамоўнага насельніцтва падзея не магла застацца без адпаведнай ацэнкі і інтэпрэтацыі: «*Літвін бег, бег, бег, бег і столп паласаты паставіў, каб болей сабе граніцы. Паваліўся і чуць не памер. А беларус вышаў, самагоначку гоніць, падняў, паглядзеў і ўсе. Беларусы – добрыя людзі, літвіны – благія. Яны – захватчыкі, каб ім пабольшэ, пабольшэ. І злыя, благія. … Каб зямлі большай хапіць, столп паласаты на плячах* [нес]*, каб болей. Бег, бег, бег, бег – чым болей загнаць кол, загнаў калок, паваліўся і памер на мейсцы пры калку*» (Астравецкі р-н)[137].

Не менш негатыўны характар маюць ацэнкі розных эпізодаў кароткай, але першай, таму даволі эмацыйнай камунікацыі з прадстаўнікамі новай літоўскай адміністрацыяй у 1939 – 40 гг., што нярэдка фігуруюць ва ўспамінах старэйшых жыхароў памежнага рэгіена (у дадзеным выпадку «чужынскаць» літоўцаў узмацнялася яшчэ і надзеленасцю іх уладнымі функцыямі):

«*Тут была літоўская* [адміністрацыя]*, дажа, еслі во як ідзеш па ўліцы ў Шумску, напрымер, «лабас» не скажаш, так яшчэ завязуць там, «пастарунак» называўся. … Эта ў гадзе можа было ў саракавых, ну да сорак першага году. Да вайны яшчэ было гэта. Я яшчэ, помню, маленькая была. Як паехалі ў касцел у Шумску і едзім, там пастарунак. Бо еслі тока ўмееш хоць адно слова па-літоўску. А очарадзі былі, стаялі там, нада там нейкія дзеньгі плацілі, нейкія пайкі давалі людзям. Ну, і ты стаіш, можаш стаяць трое сутак, а скажы адно слова па-літоўску – зразу пускаяць без очарадзі. І Літва была такая акаянная Літва, страшна людзей білі. Божа, Божа! А патом после вайны ўжо пашла Расія, пашлі камуністы, пашлі піянеры…*» (Вільнюскі р-н)[138].

«*А на Літве! На Літве аж, я знаю, раньша ж і Вільнюс быў польскі город. А літовцы ані как-то запалзлі в саракавым гаду. Здзелалі граніцу, Бог іх знает пачаму. Я жыла там, гдзе я жыла, дома, на самай граніцы – во, з горкі скоціся і з гэтай рэчкі ваду бралі. І так нам было цяжэло. А ані ідут там асматрівают. Курыца інагда пры-ы-ыг і праляцела праз эту рачушку. А рачушка што там? Во, такая*

[132] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Марыі Іванаўны Вайцюль (1927 г.н.) у в. Маркуны Астравецкага р-на.

[133] Зап. Вайткявічус В., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Станіслава Адамавіча Кіндара (1944 г.н.) у в. Быстрыца Астравецкага р-на.

[134] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Марыі Іванаўны Свілы (Рандановіч) (1935 г.н.) у в. Мужылы Астравецкага р-на.

[135] Зап. Унуковіч Ю. у 2006 г. ад Тафілі Казіміраўны Шымялевіч (Комінч) (1935 г.н.) у в. Пеляса Воранаўскага р-на.

[136] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Марыі Іванаўны Вайцюль (1927 г.н.) у в. Маркуны Астравецкага р-на.

[137] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Соф'і Сімановіч (Казлоўскай) (1941 г.н.) у в. Малыя Сіранкі Астравецкага р-на.

[138] Зап. Унуковіч Ю. у 2009 г. ад Генуэфы Юльянаўны Валковіч (Родзь) (1936 г.н.) у в. Віндзюны Вільнюскага р-на.

*во, як во за Вяйлею ту есць – па калена. Ну і што? Каровы пасем, а карова – што ей, будзіць стаяць около рэчкі? Мы стаім на гарэ, а ана вазьмет і прашла за рэчку. А мы баімся прайці, бо ані там шнырают эці пагранічнікі. Ані былі праціўныя літовцы. Ой, подлый народ! ... Цяжэло нам была. Патом смотрым тока эці кабылы такія – у іх жаж герб. Слупы такія, сталбы былі памаляваны, пакрашаны. Такія – красны, чырвоны пояс ілі как. Так смотрым ужэ снялі эці кабылы! Божа, как нам весело было! Але Літва так і асталася ў нас Літва. Хоць не было. Патом рускія зашлі, все-раўно ў нас – Літовская Рэспубліка называлася. Вот*» (Астравецкі р-н)[139].

Гэты першы, у асноўным негатыўны вопыт камунікацыі жыхароў памежжа з «прышлымі» літоўцамі меў свой працяг і ў часы ваеннага ліхалецця 1941 – 45 гг., калі літоўцы нярэдка выступалі памагатымі мясцовай нямецкай акупацыйнай улады:

«*Раньша-то, браце, у Эйшышках павез дровы за немцамі. Гэта вайна была. А яны* [літвякі] *тэж памагалі немцам. Не ўмееш па-літоўску, то, браце, эй... Не дастанеш, мусіш наймаць, там цукру ці хлеба… А поляк, рускі – які бы не прышоў, і так, і так гаварыць, знайшліся б. Тэраз тут па-польску гаворань, ужо літвякоў няма, ужо Эўропа завладзеўшы*» (Шальчынінкайскі р-н)[140].

«*Яны ж тут ехалі праз веску* [літоўцы]. *Вот этыя чырвоныя колышкі. Літоўская сіня-цемная эта форма. Ну, а потым тут былі два іх – Юлюш такі, астаўшыся, і Казіс. Адзін – велькі, другі – малы. І хадзілі па хатах. Прышлі да хаты, а дзеці, як калісьці, тэраз ужо крэсла, там у хаце калісьці лавы былі, стол. Ну, і хлапцы хадзілі наўкола іх. А куры ў хаце былі. Раньшы ж куры былі зімой. Ну, гэта будзе, дастае эты кара́бін, будзе страляць. Мама гавора, а яны ж – па-літоўску, нашага языка не панімалі. Мама гавора: «Дык што? Дзеці пастраляеш?» Гавора, што будзе куры страляць...*» (Шальчынінкайскі р-н)[141]

«*Ну, літоўцы былі толька ў паліцыі. Паліцыянты былі літоўцы пры немцах*» (Шальчынінкайскі р-н)[142].

«*…так літоўцы пайшлі ж туды памагаць немцам. Тут аж былі аддалі аж па Катлоўку. Не па Катлоўку, а аж у Свір. Аддалі. Аж Свір быў літоўскі. Аж Вішнева. А Вішнева там ужо зрабілі Беларусь*» (Астравецкі р-н)[143].

Безумоўна, у гэтым выпадку літоўцы ўспрымаліся не проста як «чужыя», але яшчэ і як элемент варожай сістэмы, якая стварала пагрозу для існавання мясцовага сялянскага соцыума і адпаведна ўзмацняла негатыўныя адносіны да іх.

Такім чынам, з’яўленне ў «сваім» камунікацыйным асяроддзі прышлага «чужынца» («*Літвякі ў сябе жылі. А потым тэж да Вільні прыйшлі*» (Шальчынінкайскі р-н)[144]), ад узаемаадносінаў з якім наўпрост пачынаў залежаць жыццевы лад мясцовага селяніна, што апынуўся па той «бок» мяжы, непазбежна вяло да яго пастаяннай ацэнкі і інтэпрэтацыі з улікам канкрэтных жыццевых сітуацый. Гэты аспект узаемадачыненняў славянамоўнага і літоўскага насельніцтва паўднева-ўсходняй Літвы патрабуе, на нашую думку, асобнага грунтоўнага даследавання.

У савецкія гады вобраз літоўцаў у народнай свядомасці беларусаў памежнага рэгіена набые свае новае адценне і характарыстыкі. Сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні, якія ажыццяўляліся ў саюзных рэспубліках у 50 – 80-я гг. ХХ ст., вялі да развіцця інтэнсіўных міграцыйных і ўрбанізацыйных працэсаў. Цэнтрам актыўнай міграцыі насельніцтва памежнага рэгіена ў гэты час стаў горад Вільнюс («*А там усе змяшана, там палавіна беларусаў у Літве. Усе ж ехалі, у Мінск далей, а што тут да Вільні? Шэйсят кіламетраў. Вот усе і лезлі ў Вільню. Свабода была, куды хочаш. Цяперака, дык візы трэба. А тут ж едзь куды хочаш, на край света*» (Смаргонскі р-н)[145]; «*Там палавіна з нашай вескі толькі там. Мусі, чалавек пятнаццаць, а можа і болей у Вільнюсе. Во ў іх во тры, дачка і два сыны, у Літве. Вун там тожа ў Літве. А, Божа! Вун і з тэй у Літве… –* А чаму яны ехалі ў Літву? *– Работы там было многа, ехалі тады як саюз быў адзінакавы. Тутака. Там зарабатывалі. Сталіца ўсе такі, блізка. Ну і ехалі на заработкі*» (Астравецкі р-н)[146] і інш.). У гэты перыяд узрасла

---

[139] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Галіны Зюзанны Казіміраўны Матусевіч (Гульбіновіч) (1932 г.н.) у в. Даўнорышкі Астравецкага р-на.
[140] Зап. Багачунас С., Вайткявічэне Д., Унуковіч Ю. у 2008 г. ад Юзафа Вайцяховіча (1924 г.н. у в. Бутрыманцы) у в. Жлоўкты Шальчынінкайскага р-на.
[141] Зап. Мяшкова Н., Саладоўнік Н. у 2008 г. ад Яніны М. (1927 г.н.) у в. Паўлова (Мяркіс) Шальчынінкайскага р-на.
[142] Зап. Унуковіч Ю. у 2008 г. ад Баляслава Андрэевіча Шавэйкі (1925 г.н. у в. Кяйпуны) у м. Тургелі Шальчынінкайскага р-на.
[143] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Станіслава Матвеевіча Пазлевіча (1922 г.н.) у в. Маркуны Астравецкага р-на.
[144] Зап. Багачунас С., Вайткявічэне Д., Унуковіч Ю. у 2008 г. ад Юзафа Вайцяховіча (1924 г.н. у в. Бутрыманцы) у в. Жлоўкты Шальчынінкайскага р-на.
[145] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Івана Іванавіча Сідарэвіча (1940 г.н.) у в. Буякі Смаргонскага р-на.
[146] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Соф’і Сімановіч (Казлоўскай) (1941 г.н.) у в. Малыя Свіранкі Астравецкага р-на.

колькасць як кароткатэрміновых (наведванне родзічаў, набыцце неабходных тавараў, экскурсіі, адпачынак і інш.), так і доўгатэрміновых (сезонная праца, вучоба, служба ў войску і інш.) паездак беларусаў у Літву. Вядома, што апазіцыя «свой»-»чужы» асабліва ўзмацняецца калі чалавек пакідае межы «сваей» прасторы і сутыкаецца з нечым новым, незвычайным, незнаемым. Вяртаючыся з такіх падарожжаў, чалавек, як правіла, прывозіў павярхоўныя ўражанні, у якіх адлюстроўваліся яскравыя моманты «іншасці» наведаных мясцін, іх насельнікаў. Гэтыя ацэнкі часта катэгарычныя, глыбока абумоўленыя аксіялагічнай шкалою, уласцівай «свайму» лакальнаму свету [7, с. 195].

Менавіта ў гэты час у вобразе літоўцаў з'яўляецца матыў няправільна паказанай дарогі альбо адмовы ўвогуле яе паказаць, які ў вачах лакальнага чалавека з'яўляецца яскравым сведчаннем «іншасці», «іншых» альбо нават «чужых людзей» [7, с. 201]. «[Спытаеш] *дарогу ў Вільнюсе: «Скажыце, пажалуста, как выйці на Зарэччу?» Как і ні чуіць! І пашла! Вот какіе вы, літоўцы…*» (Астравецкі р-н)[147]; «*Што мы з імі* [літоўцамі] *нагаворым? Ім папытайся па-беларусоў, так яны змахлююць і не пакажуць у той бок, дзе магазін. У другі бок саўсем пакажуць. Мы ім не верым. Яны не любілі, што мы ездзілі да іх па муку, па хлеб, па ўсе*» (Астравецкі р-н)[148]; «*Я вот часта ездзіла ў Вільнюс за камунісцічэскія врэмена, па муку ездзілі. І вот, знаеце, мала каго там устрэціш, калі каторы адкрыта скажа: дзе магазін, дзе муку можна купіць. Нагергечуць, і зойдзеш у такі камыш, што ледзь выйдзеш. А ў нас гэтага няма. У нас спрасіў на беларускім языку – як не знае, то не знае, а як знае, так і скажа*» (Ашмянскі р-н) [8, с. 512 – 513].

Як правіла, камунікацыя з «чужым» абмежаваная да моманту крайняй неабходнасці [7, с. 188]. У аповядах старэйшых жыхароў памежнага рэгіена, якія ў савецкія гады нярэдка наведывалі Літву, такія моманты ў асноўным звязаныя са знаходжаннем у гарадской прасторы або дарозе. Гэта нядзіўна, бо менавіта там прадстаўніку лакальнай сялянскай супольнасці згубіцца было прасцей за ўсе, а падзел свету на «сваіх» і «чужых», які кожны раз выбудоўваўся падчас такой камунікацыі, дазваляў яму аднавіць пачуцце арыентацыі ў прасторы. Паказальны ў гэтым плане наступны вопыт кантакту з этнічнымі літоўцамі, набыты жыхаром памежжа пад час падарожжа па Літве: «*Па горам ехалі, пашлі вады да студні. Ну, да калодзеца вады набраць. І вядро забрала* [літоўка], *і не дала вады дажа. На Літве там. Ну, тады… «Э! – на мяне гавора, – Француз!» Называлі мяне. Францкевіч – так «французам» празывалі. «Ідзі ты! Ты ж там умееш па-літоўску». Я: «Гір-гір-гір». І вядро дала, і кружку дала, і ўсе! «Саво жмогус», «саво жмогус»!* [літ. *savo žmogus* «свой чалавек». – аўт.] *… Кружкі не давалі вады папіць. Народ такой, знаеш, акаянны!*»[149]. Як бачым, у дадзеным выпадку пасіўнага валодання лексікай «чужынца» было дастаткова, каб патрапіць пад катэгорыю «свой» іншаэтнічнага прадстаўніка і такім чынам атрымаць неабходную дапамогу ў «чужой» прасторы.

Аднак, моўны бар'ер, які ўзнікаў у час зносін беларусаў з этнічнымі літоўцамі (неадаптаванымі ў адрозненні ад сваіх супляменнікаў-літоўцаў памежнага рэгіена ў славянамоўнае асяроддзе), ствараў значныя перашкоды для іх эфектыўнай камунікацыі. Гэта вяло да далейшага развіцця негатыўнага вобразу «акаяннага», «заядлага» літоўца, які «наўмысна» не гаворыць на зразумелай мове:

«*Заядлы літовец, ен надта сваю нацыю любіць, не па-польску не гаворыць, не па-руску, не па-якому*» (Шальчынінкайскі р-н)[150].

«*Я ішоў з работы. Ну ўзялі з хлопцам бутылку, ідзем ужо ў абшчэжыція, ну я гавару, пайду за хлебам, а ты ідзі ў абшчэжыціе. Я прышоў за хлебам, за прылаўкам стаіць дзеўка-літоўка.*

– *Хлеба дай.*

*Глядзіць на мяне.*

– *Хлеба дай!*

*Глядзіць. На прылаўку ляжыць баханка, я за баханку і да дзвярэй. Яна:*

– *А кур? А кур?!* [літ. *kur* «куды». – аўт.]

*Куда! «А кур-куда?» – начала кудахтаць. Я варачуюся, кажу:*

*– Скока?*

– *Сяпцінoліка.*

*Сямнаццаць капеек. Я дастаю тры капейкі, лажу на прылавак. Тады крычыць:*

*– Мала даў. Сямнаццаць капеек.*

– *Нада было зразу казаць, - кажу.*

[147] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Марыі Іванаўны Свілы (Рандановіч) (1935 г.н.) у в. Мужылы Астравецкага р-на.

[148] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Соф'і Сімановіч (Казлоўскай) (1941 г.н.) у в. Малыя Свіранкі Астравецкага р-на.

[149] Зап. Унуковіч Ю. у 2009 г. ад Фелікса Іванавіча Францкевіча (1930 г.н.) у в. Кена Вільнюскага р-на.

[150] Зап. Багачунас С., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Генуэфы Канстанцінаўны Антановіч (1935 г.н.) у в. Кракуны Шальчынінкайскага р-на.

*Яна ўжо не панімаіць. Ах, ты зараза!*» (Смаргонскі р-н)[151].

«*Літоўцы то ненадта такія. Літоўцы надта такія заядлыя*» (Вільнюскі р-н)[152].

Асабліва паказальна гучыць аповяд пра «акаяннага» літоўца ў кантэксце гісторыі паказанай/непаказанай дарогі вуснамі беларускай жа літоўкі з Астравецкага раена: «*Ну, гэты каторы акаянны літовец, ен, значыцца, любя толькі Літву, а ўжо другіх, гэта, ужо не надта любя. Я калі паехала ў Коўна і так, ужо знаеш, даўно быўшы, думаю... Ну, гэта ўжо даўно... Гэта ўжо многа гадоў... Гэта гадоў ужо, можа, дваццаць якіх, а можа і болей. І думаю, даўно быўшы, ну хто яго знае? Можа, што памянялася, можа аўтобусы памяняліся ці што. Пашла на астаноўку. Стаю і ўжо ж чакаю аўтобуса. Падышоў аўтобус і я ну так пытаю, што вот: «На такую, на такую ўліцу, ну на які аўтобус сядаць?». Пытаю – маўчыць. А я па-руску ці па-беларуску, я так вот спрасіла. Маўчыць, нічога не кажа. Ну, усе. Я далей маўчу, ужо ж чакаем аўтобуса. Тая сабе стаіць, я сабе стаю. Ну, думаю, а што ж я цяпер? Ну, як гэта? Яшчэ трэба як пытацца. Ну, думаю, значыцца, не панімае, еслі ўжо нічога не атвічае. Значыцца, яна – акаянная! Я вот па-беларуску спрасіла, яна мяне ўжо не любя. Яна мне ні слова не сказала, дажа нічыво абсалютна. Няхай бы сказала, ну там: «Аш нясупранту»* [літ. *aš nesuprantu* «я не разумею». – аўт.] *ці што... А то нічаво! Патом я пастаяла-пастаяла – тут ужо і аўтобус. І я думаю: «Ну, буду спрашываць па-літоўску». Спрасіла я па-літоўску. Яна мне кажа, што і я на гэтую ўліцу еду! Я табе пакажу і дзе вылазіць. Па-літоўску як спрасіла. Усе! Даехалі. Яна мне паказала, дзе вылезці і пашла*»[153].

Тым не менш, штодзенныя зносіны беларусаў і літоўцаў у межах асобных працоўных калектываў, навучальных устаноў, сем'яў спрыялі разбурэнню негатыўных стэрэатыпаў адносна адзін аднаго. Добрае стаўленне да літоўцаў тлумачылася іх асабістымі якасцямі (працавітасцю, стараннасцю, гасціннасцю, адданасцю нацыянальным ідэалам і інш.), сяброўскімі кантактамі. «*Я на рабоце рабіў на «пяцерках» у Вільні, дваццаць пяць гадоў. Там і літоўцы, і яўрэі, і стараверы былі, якой тока нацыі! І з усімі ладзілі, і з усімі рабілі нармальна*» (Вільнюскі р-н)[154]; «*Як мы сразу прыехалі, літоўцы нам былі як радныя браты і сестры. Добрыя людзі. Няма што гаварыць. А потым як стала нейкая бунтаўніна, разваліўся эты Савецкі Саюз, дык тады і сталі адзін аднаго разбіраць. А так – самы дружны народ. Беларус беларуса так дружна не аднасіўся як гэтыя літоўцы. Ну, я рабіла ў Вілейцы* [Нова-Вільні. – аўт.], *так, о, Божа, дружны народ які!*» (Вільнюскі р-н)[155]; «*Як перш была граніца адкрыта, так я ў Вільнюс. Мала каторы дзень не былі ў Вільнюсе. Бывае, як скора з работы прыдзеш, раз – з'ездзіў.* -І як літоўцы? *– Харошыя людзі. Нічога дрэннага. Мне нравяцца, очань харошыя людзі*» (Смаргонскі р-н)[156]; «– А літоўцы ці добры народ? – *Ен мне кажыцца добры за тое, што ен стаіць за свае. Есць нейкае ў яго свае такое. А беларус ен неспасобен на гэта ваабшчэ. Яны во зрабілі. І так удалося*» (Вілейскі р-н)[157].

У адрозненні ад сітуацыі этнічнага памежжа, калі прадстаўнік суседняга этнасу з'яўляецца неадменным чыннікам традыцыйнай карціны свету, у астатніх рэгіенах Беларусі вобраз літоўцаў у народнай культуры складваўся толькі там, дзе мела месца прысутнасць апошніх як у рэальным (жыццевым), так і ў фальклорным вымярэнні. Трэба адзначыць, што інфармацыя пра літоўцаў (Літву), якая транслюецца сучаснымі СМІ, з'яўляецца нерэлевантнай для традыцыйнай свядомасці, арыентаванай, перадусім, на прадметна-пачуццевае ўспрыняцце рэчаіснасці, а не на афіцыйныя клішэ інфармацыйных агенстваў. Адсюль, адсутнасць вопыту рэальнай камунікацыі з прадстаўнікамі літоўскага этнасу можа азначаць і нулеморфнасць вобразу літоўцаў у канкрэтнай лакальнай культуры («*Мы не жылі, мы не знаем як яны там, тыя літоўцы. Не зра ж гаворуць, што каб пазнаць чалавека нада з ім паработаць ці пажыць. А мы не жылі, мы не знаем якія яны*»[158]). Падобная сітуацыя ўласцівая і для выпадку, калі мела месца адзінкавае і непрацяглае ўзаемадзеянне, што ў сваю чаргу не давала магчымасцяў для шырокіх абагульненняў адносна этнічнага характару: «*Быў жа адзін тут літовец. Вот этот каторы, ну гэта ўжо ва врэмя перастройкі па-моему, Косця такі са Светкай з гэтай Раінай жыў, быў яе жэніхом. Ну, а патом ен што та там наладзіўся і уехаў ен у сваю Літву. Ну хлопец быў нармальны, а хто іх там* [знае]. *А так я*

---

[151] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Вальдэмара Пятровіча Федаровіча (1940 г.н.) у в. Нестанішкі Смаргонскага р-на.

[152] Зап. Унуковіч Ю. у 2009 г. ад Ванды Іванаўны Баслык (1930 г.н.) у в. Паненская Касіна Вільнюскага р-на.

[153] Зап. Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Гэлены Браніслаўны Мацко (Рэміс) (1938 г.н.) у в. Мацкі Астравецкага р-на.

[154] Зап. Унуковіч Ю. у 2009 г. ад Франца Мілевіча (1942 г.н.) у в. Гяйбулі Вільнюскага р-на.

[155] Зап. Унуковіч Ю. у 2006 г. ад Досі Спірыдовіч (Лукшык) (1944 г.н.) у м. Лаварышкі Вільнюскага р-на.

[156] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Марыі Ігнацьеўны Сідарэвіч (Вайцяховіч) (1940 г.н. у в. Рымдзюны) у в. Рымшаненты Смаргонскага р-на.

[157] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Канстанціна Пятровіча Чараповіча (1921 г.н.) у в. Чапельшчына Вілейскага р-на.

[158] Архіў гісторыка-філалагічнага ф-та ПДУ (АГФФ): Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Іваноўскай Ніны Уладзіміраўны (1934 г.н.) у в. Азарцы Докшыцкага р-на.

*літоўцаў не знаю*» (Докшыцкі р-н)[159]; «Былі тут [літоўцы], жылі? *-Вот і была адна, ужо пахаронена. …* – А літоўцы – яны добрыя ці дрэнныя? – *А чаго гэта была... Геня! Яны ж нармальныя.* – А чым яны атлічаюцца ад беларусаў літоўцы? – *А я не знаю чым. Такі самы народ. Па-мойму. Такі самы народ. Есьлі не знаеш, дык і не пазнаеш, што яна літоўка*» (Вілейскі р-н)[160].

Аднак, у тых выпадках, калі вобраз літоўцаў займае пэўнае месца ў карціне свету лакальнай супольнасці, яго вытокі, у залежнасці ад сітуацыі, могуць істотным чынам адрознівацца. Асобны блок наратываў пра «літву» рэпрэзентуе фальклорную візію гісторыі і ўяўляе сабой шэраг тапанімічных паданняў пра аднайменныя пагоркі, гарадзішчы і пахавальныя помнікі. Практычна ва ўсіх паданнях падобнага тыпу (найбольш распаўсюджаных на паўночным захадзе Беларусі), літоўцы фігуруюць як прышлыя воіны (часам, волаты), што ваявалі (загінулі) у даўнюю вайну. Так, адносна гары Літоўка, што на Верхнядзвіншчыне, было зафіксавана наступнае паданне: «Я чула, што старыя расказывалі, што калісь даўно, гавораць, былі прыйшоўшы літоўцы сюды, за тое назвалі Літоўкай гэту гару. Дык гавораць, што літоўцы тыя – бальшыя людзі очэнь былі, асілкі. Яны ж, як тут ваявалі, дык з гэтай гары кідаліся каменнымі малаткамі. А мы малыя яшчэ сьмяяліся, што малатком ваявалі. І тыя малаткі, а яны ж цяжкія, гэтыя даўнія людзі закідвалі аж на Заточынскую гару. А гара тая ў Дабраплесе, за ракой, за Свольнай»[161].

Падобны тапанімічны пласт і яго фальклорная інтэрпрэтацыя ўласцівыя і для паўночна-заходніх рэгіенаў Расіі. Так, прафесар А.І. Папоў адзначае, «што датычыцца назваў, якія адносяцца да Літвы, то ў Азерным краі есць шмат паданняў, якія звязваюць гэтае імя з сопкамі, могільнікамі, а часам і гарадзішчамі. Найбольшая колькасць паданняў адносіцца да Пскоўскай вобласці, што цалкам зразумела з улікам яе геаграфічнага становішча і шэрагу вынікаючых адсюль прычын» [9, с. 110].

Так, напрыклад, «у Дольскай воласці Невельскага павета каля возера Дамыса паблізу вескі Калесава есць гара, якая называецца Серай, бо на ей шэры пясок. Кажуць, што гара гэта нібыта насыпана ў час нашэсця Літвы літоўскім войскам і нібыта ў сярэдзіне есць склеп, у якім захаваны вайсковая зброя і грошы» [10, с. 249].

Вобраз ваяўнічых літоўцаў, ландшафтна апрадмечаны археалагічнымі помнікамі і фальклорнымі вытлумачэннямі паходжання апошніх, мае пад сабой рэальны гістарычны грунт. У прыватнасці размова ідзе пра шматлікія набегі літоўскіх дружын на Полацкія і Пскоўскія землі ў XII – XIII стст. [11, с. 27 – 28]. Пры гэтым адзначым, што эпічны вобраз літоўцаў можа абсалютна не карэлявацца з уяўленнямі пра літоўцаў у сінхронным зрэзе. Дакладней, цэльныя ўяўленні пра літоўцаў, як этнічных суседзяў беларусаў на сучасным этапе, могуць адсутнічаць цалкам ці мець тэзісны, неразгорнуты характар.

Прынцыпова іншае ацэначнае гучанне мілітарны вобраз літоўцаў набывае ў кантэксце гісторыі Другой сусветнай вайны ў яе лакальным вымярэнні. Размова ідзе пра сітуацыю, калі адзінае па-сутнасці знаемства вяскоўцаў з літоўцамі адбывалася ў экстрэмальных ваенных умовах, дзе літоўскія і латышскія калабаранты фігуруюць у якасці жорсткіх і бязлітасных акупантаў. «*І літоўцы, і латышы. Яны ад немцаў былі. Ну, бывала, вот мы з сястрой выйдзем з хаты, хата ж на хутары, ідзем у кусты па брусніцы, а бацька: «Сядзіце ў хаце, ня швэндайце!» Насілавалі баб, маладых дзевак літоўцы гэтыя, латышы. Немцы так не рабілі, толькі калі адступалі. Былі, у часцях у іхных і літоўцаў было многа, яны дужа былі зверскія. Яны ў нас дзярэўні палілі, людзей жыўем палілі. Сабяруць людзей згоняць у хлеў нейкі, сабяруць і падпаляць*»[162]. Пры гэтым падкрэслім, што падобныя характарыстыкі літоўцаў не з'яўляюцца агульна распаўсюджанымі і есць актуальнымі толькі для рэгіенаў, дзе пакінулі пра сябе нядобрую славу карныя падраздзяленні літоўскай (латышскай) паліцыі. Больш таго, дакладная ідэнтыфікацыя «чужынцаў», як гэта есць у прыведзенай цытаце, можа адсутнічаць, а этнонімы «літовец» і «латыш» фігуруюць для рэспандэнта як сінанімічныя.

Сутнасна адрознае напаўненне і значна большую ступень дэталізацыі мае вобраз літоўцаў, які сфарміраваўся не на зломе жыццяладу, у сітуацыі вайны (апошняй, якая рэальна адбілася ў памяці старэйшага пакалення, ці гістарычна аддаленай, адлюстраванай на фальклорным узроўні калектыўнай памяці), але ва ўмовах мірнага супражывання беларусаў і літоўцаў-перасяленцаў. Даволі масавае перасяленне літоўцаў у Беларусь, галоўным чынам ва ўсходнія яе раены, адбылося ў канцы XIX ст. Асноўнай прычынай з'явілася праблема малазямелля ў Віленскай і Ковенскай губернях, а таксама магчымасць прыдбаць зямельныя надзелы на Беларусі па значна ніжэйшых коштах [12, с. 56]. Паводле матэрыялаў Першага ўсеагульнага перапісу Расійскай імперыі 1897 г., найбольш літоўцаў пражывала ў Магілеўскай губерні – у Аршанскім (1450 чал.), Сенненскім (797 чал.), Чавускім (459 чал.), Чэрыкаўскім (276 чал.) і Магілеўскім (252 чал.) паветах, у Віцебскай губерні – у Полацкім (308 чал.), Віцебскім (284 чал.) і Лепельскім (258 чал.) паветах, у Мінскай губерні – у Барысаўскім павеце (423 чал.) [12, с. 58].

---

[159] АГФФ: Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Чучман Ліліі Пятроўны (1936 г.н.) у в. Гняздзілава Докшыцкага р-на.

[160] Зап. Вайткявічус В., Сакалавайтэ Л., Унуковіч Ю. у 2007 г. ад Івана Іванавіча Яўгеля (1925 г.н.) у в. Кастыкі Вілейскага р-на.

[161] АГФФ: Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Чарнавок Валянціны Пятроўны (1916 г.н.) у в. Чарнавокі Верхнядзвінскага р-на.

[162] АГФФ: Зап. Філіпенка У. у 2009 г. ад Васілевіч Галіны Іосіфаўны (1927 г.н.) у в. Несцераўшчына Докшыцкага р-на.

Такім чынам, з канца XIX ст. у пазначаных вышэй рэгіенах літоўцы-перасяленцы становяцца для беларускіх сялян часткаю *рэальнай прасторы*, «якую сяляне могуць убачыць, засведчыць і штодзенна з ей судатыкнуцца» [13, s. 131]. Пры гэтым з'яўленне чужынцаў у межах «свайго» свету, жыццевай прасторы беларускіх сялян, прыводзіць і да зменаў семантычнай канфігурацыі традыцыйнага культурнага ландшафту. Дамы, паселішчы, угоддзі перасяленцаў, урочышчы, звязаныя з іх жыццядзейнасцю, а таксама сама іншаэтнічная група, яе мова і культура ствараюць новую рэальнасць прыродна-культурнай прасторы, якія тэрытарыяльна ўваходзяць у жыццевы абшар мясцовага насельніцтва, але яму не належаць, з'яўляючыся «чужой» як па сваім паходжанні, так і паводле прыналежнасці.

Адным з прыярытэтных для тутэйшых земляробаў з'яўляўся менавіта **сацыяльна-гаспадарчы вобраз літоўцаў**, які ўключаў у сябе шырокае кола уяўленняў не столькі аб сацыяльнай прыналежнасці «чужынцаў», колькі аб спосабах арганізацыі, прыемах і эфектыўнасці гаспадарання на зямлі. Менавіта функцыянальныя адносіны іншаэтнічных груп да зямлі – «маці-карміліцы» – шмат у чым прадвызначала базавы характар уяўленняў пра іх у беларусаў, якія яшчэ ў канцы XIX ст. у большасці сваей з'яўляліся сялянамі.

У адзнаках літоўскіх перасяленцаў паўсюдна і аднолькава ўстойліва пераважаюць такія якасці, як працавітасць, практычнасць, схільнасць да сельскагаспадарчых інавацый. «*Гэта так называўся Літоўскі Завулак. У двацатым гаду яны, калі прыехалі, купілі тут зямлю. Ну вот сколькі іх было: Шумельніс, Антанавічус, Губілус. І яшчэ чацверты... За грошы купілі тут зямлю. Было, а зарас толькі два чалавекі. Яны добрыя былі хазяева. О, што ты! У іх во тут, каля кладбішча, так, каб сена ўзяць, зробілі плаціну, а тады ужо пад сенакос ваду спускаюць і тады косюць. Разумныя такія былі*» (Глыбоцкі р-н)[163]; «*Адно то што знаеце, што ў нас было, яны былі такія, як вам сказаць… Ну… Умелі! У іх дажа… самі вот… сельхоз этыя інвентары самі гатовілі. І ўсе. Дажа вот мы, палякі этыя – эта гультаі былі!* – А літоўцы яны вот? – *А барані Бог! Такія рабацягі, такія рабацягі былі*» (Полацкі р-н)[164].

У сваю чаргу, заможнасць літоўскіх гаспадароў магла павялічваць сацыяльную дыстанцыю з тымі мясцовымі сялянамі, што ў маемасным плане саступалі перасяленцам. Падобнае адмежаванне ўспрымалася карэннымі жыхарамі, як праява ганарлівасці перасяленцаў. «*Яны такія самалюбівыя. Ну яны такія гордыя. Чалавека прыняць ці ўгасціць – гэта значыць, што ты ніжа іх. Ну гордыя. Яны, напрымер, знаді, які ты быў, а яны былі многазямельныя. А в то ўрэмя зямля была… у тое врэмя, хто зямельны, можат чалавек качэствам і не варты, а раз ты зямельны значыць... Многа зямлі было ў іх*»[165].

У рэгіенах, дзе пераважала праваслаўнае насельніцтва, канфесійная прыналежнасць літоўцаў выступала адначасова і як этнаідэнтыфікацыйны маркер: «*Ну там адны такія лецвякі былі, звалі іх лецвякі, а што гэта такая за парафія, лецвякі, я не знаю. Абыкнавеныя людзі былі, толькі яны па-польску ў касцел хадзілі, а мы ў цэркаў*»[166]. Канфесійнае і этнакультурнае адрозненне літоўцаў пачаткова ўтварала бар'ер і для міжэтнічных шлюбаў, што было характэрна для першых пакаленняў перасяленцаў. Аднак, з цягам часу гэтыя фактары перасталі адыгрываць функцыю адмежавання літоўскай этнічнай групы ад мясцовага насельніцтва. «–А вот скажыце, літоўцы, ці жаніліся яны між сабой, ці і з палякамі тожа, і з беларусамі? - *Вы знаеце што, раньшы, прымерна і палякі, і літоўцы, гэта папробуй толькі праваслаўны бы ўзяць паляка. Бацькі сразу – развод!* – А літоўцы з палякамі ці жаніліся? – *Барані Бог!* – Толькі паміж сабой? – *Толькі между сабой!* – Так усяго ж пяць сямей было? Пяць фамілій? – *Ну так яны, ужо ж дзеці тады сталі. А во ўжо тады посьлі, тады паявіліся там і польскія, і дажа і яўрэі. Дажа адзін у нас літовец, дык дажа на яўрэйцы жаніўся*» (Полацкі р-н)[167]; «– А не было вот такога, што яны [літоўцы] з меснымі ці жаніліся, ці бралі жонак, ці можа замуж выхадзілі? – *Палячык ці гэтых бралі? Бралі, хоць бацькі і не хацелі, што не адный веры, но але ж як палюбяць адзін аднаго, на бацькоў не глядзелі. А вот ужо крэсціць, рабенка, ужо еслі бацька польскі, то ўжо будут толькі дзеці польскія, па яго, па бацьку*» (Глыбоцкі р-н)[168]; «*–Я ж вам гавару: маей мамы брат, што жаніўся на літоўскай, на літвячке.* – І як іх звалі? – *Дэгіс. Яе фамілія – Дэгіс. А маей мамы брата – Сіліванаў. Во што мае два дваюрадныя браты пабралі родныя сясцер. Адна звалася Юля, а другая Тэфіля.* – А гаварылі яны на якім? – *А гаварылі яны так, як і мы, па-беларуску*» (Ушацкі р-н)[169].

Як і латышскія перасяленцы, літоўскія сяляне не мелі праблем з моўнай адаптацыяй у асяродку беларускіх сялян і цудоўна авалодвалі мясцовай гаворкай. Выключная адданасць роднай літоўскай мове была ўласцівая толькі для старэйшых пакаленняў перасяленцаў: «*Ну яны, знаеце што, гэта яны ўжо старыкі – яны ўсе врэмя на сваем*

[163] АГФФ: Зап. Аўсейчык У. у 2010 г. ад Скарбатуна Антона Лявонавіча (1927 г.н.) у в. Рускі Завулак Глыбоцкага р-на.
[164] Зап. Вайткявічус В., Вайткявічэне Д., Унуковіч Ю. у 2006 г. ад Бардашэвіч Казіміры Міхайлаўны (1921 г.н.) у в. Усомля Полацкага р-на.
[165] АГФФ: Зап. Аўсейчык У., Круткін А., Пятроў І. у 2010 г.ад Радзюша Васілія Філіпавіча (1928 г.н.) і Радзюш Марыі Емельянаўны (1938 г.н.) в. Рускі Завулак Глыбоцкага р-на.
[166] АГФФ: Зап. Аўсейчык У. у 2010 г. ад Анашкевіч Любові Мікалаеўны (1935 г.н.) у в. Шо Глыбоцкага р-на.
[167] Зап. Вайткявічус В., Вайткявічэне Д., Унуковіч Ю. у 2006 г. ад Бардашэвіч Казіміры Міхайлаўны (1921 г.н.) у в. Усомля Полацкага р-на.
[168] АГФФ: Зап. Аўсейчык У. у 2010 г. ад Анашкевіч Любові Мікалаеўны (1935 г.н.) у в. Шо Глыбоцкага р-на.
[169] АГФФ: Зап. Аўсейчык У., Круткін А. і Селях А. ад Мацюшонак Юліі Мікалаеўны (1924 г.н.) у в. Зерчаніцы Ушацкага р-на.

*языке, а посьля, калі паявіліся этыя школы, патом ужо свой язык – беларускі*» (Полацкі р-н)[170]. Аднак, калі латышская мова нярэдка ўспрымалася беларускімі вяскоўцамі як падкрэслена «чужая», таемная і практычна не з'яўлялася аб'ектам перайманння [14, с. 55], то беларуска-літоўскае моўнае ўзаемадзеянне можна ахарактарызаваць як сітуацыю ўзаемнага ўзбагачэння, што было і вынікам, і гарантам прыязных, сяброўскіх адносінаў. «*Ай, у нас усякіх было! Былі літвіны, і я умею па-літоўску гаварыць. Была цэлая дзярэўня гэтых літвінаў, усі літоўцы. Літоўка была ў мяне падруга, дык я гэтак па-літоўску умею гаварыць тожа. Хлеб гэта – «долгус», «валгаць» – везці, «пенус» – малако, «карвіс» – карова, «аркліс» – конь, «кумяла» – кабыла, «бяр'юкіс» – малец, «маргейта» – дзяўчына, «гыржу» – красівая. Мы пайдзем на вечарынку, а каторыя ж ня ўмеюць гаварыць гэтак па-літоўску, мы кажам «гыржу маргейта», гэта «красівая дзеўка» мы кажам, а ніхто ж ні знаіць, што мы гэтак кажым*» (Мерскі р-н)[171]; «*Ну і вот тады сабяромся мы ўжо такой ня то што… алі мы ўжэ – любапытства. Ну вот – как то называецца, как то называецца? Вот, прымерна, вот: «Ва шыту бярнюку». «Ва шытас бярнюкас лабэй гражус!» Эта ўжэ: «Вот этат парэнь очань харошы!». «А, ва шыту мярготас…»* [усе смяюцца]. -Так і Вы многа слоў па-літоўску знаеце? – *Ну, пражывалі, ну так жаж…* – Так вот паміж сабой як разгаварывалі – літоўцы, беларусы, палякі? На якім языке? – *Не. Адзін язык – беларускі*» (Полацкі р-н)[172].

Моўнае ўзаемадзеянне закранула нават знахарскія веды, прынцыпова не прыназначаныя для шырока кола людзей. У прыватнасці, на Полаччыне й дагэтуль бытуюць замовы, літоўскія паводле свайго паходжання, але адаптаваныя ў моўным плане для тутэйшых карыстальнікаў: «Перкунова страла, адшыбі проч злых духаў ад маей скацінкі»; «Перкуна-Перкунса, бегі чырэй, бегі вперод, беры весь нéдуг. Перунсо, сваімі дзевяцьцю сынавьямі, буду (будзе?) гнаць цябе, ісчэзні. Амін!» [15, с. 93, 112].

Разам з тым, нягледзячы на збольшага пазітыўныя характарыстыкі, вобраз літоўцаў, як «сваіх чужых» мог мець і спецыфічнае негатыўнае прачытанне, суаднесеная з міфалагічнай небяспекай усіх «чужынцаў» у традыцыйнай карціне свету. Іншасць літоўцаў, на думку мясцовых жыхароў, магла выяўляцца не толькі ў побытавых адрозненнях (традыцыйная кухня, адзенне), але і ў тым, што «чужынцы» выступаюць як носьбіты (прычына) хваробы: «*Па другому ядуць, што ты, адзежа другая. Яны мыліся, і я пасля іх пайшоў у баню. Так як пашлі часацца ў мяне і па целе* [прышчы]. *Гэта ад літоўцаў, канешне ад іх. Але яны нічога* [да нас], *і мы да іх нічога, у нас хутар атдзельны ніякіх гэтых свар з імі не мелі*» (Глыбоцкі р-н)[173].

Аднак, калі падобныя выпадкі ў адносінах з літоўцамі-суседзямі былі адносна рэдкімі і не здольнымі колькі-небудзь істотна паўплываць на пераважна станоўчы іх вобраз, то ў дачыненні да наезжых літоўцаў, якія з'яўляліся ў межах «свайго» свету ў сакральна вылучаны прамежак часу (свята, фэст) маглі выкарыстоўвацца скрайне негатыўныя характарыстыкі. «Яно і было, мусіць, фтарога пастаянна [фэст у Будславе]. І, казала [бабуля расказчыцы], гэдак з'їжаліся ліцьвякі – яна ўсе казала – і дужа кралі рабят. Ну, літоўцы. Ну, дык казала, гэткія благія гэтыя літоўцы былі, гэдак кралі рабят, на гэтым жа ж, як з'їжаліся. Казала, дужа вялікія сьезды былі, прыізжалі.., прадавалі там, і ружанцы, і кнішкі, ну, словам, усякае касьцельнае, і пячэнне там прадавалі, як панаізжаюць, і, кажыць, кралі рабят. Што яны з рабятамі рабілі? Рабілі на калек. Выпалівалі вочы, сьляпыя. А тады вазілі па гэткіх кірмашах, панімаіш? Кажыць, як выйдзіш с касьцела, тык многа-многа рабят сядзіць, той там абы-які рабенак – гэдак дарылі іх, гэдак надарывалі гэтых рабят людзі, каторыя на сьезды прыязжалі. Вот, кажыць, укралі яны дзевачку. Гэта ужо йіна, казала, відзіла, як білі йіх. А як папрыйізжаюць жа ш на кірмаш – тока ш на конях, панастаўляюць коней і гэтыя аглоблі, аглоблі. І вот, кажыць, дарыла баба дзевачку і кажыць: «А што табе?». А йіна кажыць: «Мяне ўкралі і вочкі мне выпалілі, і ат мамы ат маей і атвязлі, і возюць мяне па кірмашах». Дык казала баба, як сабраліся мушчыны, як пахваталі гэтыя аглоблі – сколька іх там было, аднаго, кажыць, на смерць забілі. А гэдак паламалі, усе ім пабілі, гэтым ліцьвікам. Бо толька ліцьвякі гэдак прыізжалі у Будслаў і гэдак во рабят кралі...» [16, с. 93, 112].

Такім чынам, аналіз этнаграфічных і фальклорных матэрыялаў паказвае, што вобраз літоўцаў у беларускай народнай культуры можа істотным чынам вар'іравацца ў залежнасці ад канкрэтнай сітуацыі рэпрэзентацыі гэтай катэгорыі «чужынцаў» у межах лакальнага культурнага ландшафту. З аднаго боку, размова можа ісці пра ваяўнічую «літву» легендарных часоў, прысутнасць якой у міфапаэтычнай карціне свету доказна апрадмечана археалагічнымі помнікамі. З другога боку, найбольш разгорнуты і пераважна пазітыўны вобраз літоўцаў сфармаўваўся ў выніку шчыльнага суседства і ўзаемадзеяння ў межах «свайго», вясковага свету, калі найбольш характэрнымі рысамі літоўскіх перасяленцаў лічацца працавітасць, гаспадарлівасць, камунікабельнасць і культурная адкрытасць, што, у сваю чаргу, не адменяе патэнцыйнай пагрозы з іх боку, якая мае хутчэй міфалагічны, а не рэальны характар.

[170] Зап. Вайткявічус В., Вайткявічэне Д., Унуковіч Ю. у 2006 г. ад Бардашэвіч Казіміры Міхайлаўны (1921 г.н.) у в. Усомля Полацкага р-на.

[171] АГФФ: Зап. Круткін А. у 2010 г. ад Карбоўскай (Шумуковіч) Любові Еўстаф'еўны (1922 г.н. у в. Баркоўшчына Мёрскага р-на) у в. Янкава Полацкага р-на.

[172] Зап. Вайткявічус В., Вайткявічэне Д., Унуковіч Ю. у 2006 г. ад Бардашэвіч Казіміры Міхайлаўны (1921 г.н.) у в. Усомля Полацкага р-на.

[173] АГФФ: Зап. Аўсейчык У. у 2010 г. ад Скрабатуна Антона Лявонавіча (1927 г.н.) у в. Рускі Завулак Глыбоцкага раёна.

ЛІТАРАТУРА

1. Белова, О.В. Этнокультурные стереотипы в славянской народной традиции / О.В. Белова. – М.: «Индрик», 2005. – 288 с.
2. Чеснов, Я.В. Этнический образ / Я.В. Чеснов // Этноязыковые функции культуры. – М.: Наука, 1991. – С. 58 – 85.
3. Anglickienė, L. Kitataučių įvaizdis lietuvių folklore / L. Anglickienė. – Vilnius : Versus aureus, 2006. – 278 p.
4. Бгажноков, Б.Х. Этнические образы, общение, личность / Б.Х. Бгажноков // Личность в системе национальных отношений / Актуальные проблемы национального и интернационального в духовном мире советского человека. Выпуск 3. – Баку: Элм, 1985. – С. 78 – 90.
5. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т.: уклад. Ю.Ф. Мацкевіч [і інш.]; рэд.: Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1980. – Т. 1: А – Г. – 511 с.
6. Federowski, M. Lud Białoruski na Rusi Litewskiej. Materjały do etnografji słowiańskiej zgromadzone w latach 1877 – 1905. – Warszawa, 1935. – T. IV: Przysłowia, żarciki, wyrażenia stałe oraz zagadki ludu, mieszczan i zagrodowców z okolic Grodna, Sokółki, Białegostoku, Bielska, Wołkowyska, Słonima, Nowogródka, Słucka, Lidy, Wilejki, Święcian i Oszmiany.
7. Мазько, Э. Падарожжа па-за лакальнасць: «нашыя» людзі паміж «сваім» і «чужым» светам / Э. Мазько // Pogranicza Białorusi w perspektywie interdyscyplinarnej = Памежжы Беларусі ў міждысцыплінарнай перспектыве / red. E. Smułkowa i A. Engelking. – Warszawa: DiG, 2007. – С. 179 – 208.
8. Традыцыйная мастацкая культура беларусаў. У 6 т. Т. 3. Гродзенскае Панямонне. У 2 кн. Кн. 2 / А.М. Боганева [і інш.]. – Мінск: Выш. шк., 2006. – 736 с.
9. Попов, А.И. Следы времен минувших. Из истории географических названий Ленинградской, Псковской и Новгородской областей / А.И. Попов. – Л.: Наука, 1981. – 206 с.
10. Легенды і паданні / Склад. М.Я. Грынблат і А.І. Гурскі; рэд. А.С. Фядосік. – 2-е выд., дап. і дапрац. – Мінск: Бел.навука, 2005. – 552 с.
11. Сасноўскі, Д.А. Да пытання аб ідэнтыфікацыі тэрміна «Літва» (канец XII – XIII ст.) / Д.А. Сасноўскі // Весці ПДУ. Серыя А. Гуманітарныя навукі. – 2000. – № 1. – С. 26 – 31.
12. Внуковіч, Ю.І. Літоўцы Беларусі: этналагічнае даследаванне / Ю.І. Внуковіч. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 170 с.
13. Pelcowa, H. Przestrzeń jako sposób postrzegania świata przez użytkowników gwary / H. Pelcowa // Przestrzeń w języku i w kulturze. Problemy teoretyczne interpretacje tekstów religijnych. – Lublin, 2005. – S. 125 – 135.
14. Лобач, У.А. Латвія і латышы ў традыцыйным светапоглядзе беларусаў Падзвіння XIX – першай паловы XX ст. / У.А. Лобач // Веснік ПДУ. Серыя А. Гуманітар.навукі. – 2009. – № 7. – С. 51 – 60.
15. Полацкі этнаграфічны зборнік. Вып. 1. Народная медыцына беларусаў Падзвіння. У 2 ч. Ч. 1. / склад. У.А. Лобач, У.С. Філіпенка. – Наваполацк : ПДУ, 2006. – 148 с.
16. Народныя скарбы: дыялекталагічны зборнік: да 80-годдзя А.А. Крывіцкага / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы; рэд. Л.П. Кунцэвіч. – Мінск : Правы і эканоміка, 2008. – 378 с.

## БЕЛАРУСКАЕ ПАДЗВІННЕ ПРАЗ КАНЦЭПТ «РАДЗІМА» Ў ПАЭЗІІ СЯРГЕЯ ПАНІЗНІКА

***канд. філал. навук, дацэнт С.М. ЛЯСОВІЧ***
***(Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт)***

*Даследуецца склад канцэпта «Радзіма» на матэрыяле паэзіі Сяргея Панізніка шляхам ад аналізу моўнага матэрыялу да фарміравання ўяўлення пра канцэпт. Выяўлены склад намінатыўнага поля канцэпта, вобразы, далучаныя ў ядро канцэпта (бераг, мацярык, Дзвіна), а таксама тыя, што прадстаўляюць яго перыферыю (вобразы памяці, мовы, радаводнага дрэва). Праз аналіз дыстрыбуцый устаноўлена значнае месца мясцін і культурных рэалій беларускага Падзвіння ў светабачанні паэта. Разгляд моўнай карціны свету мастака слова паказаў, што ў асэнсаванні сваей еднасці з роднай зямлей і сваіх вытокаў паэт суадносіць сябе з вобразамі абаронцы, сейбіта, ткача і ганчара. Устанаўліваецца сувязь сістэмы складнікаў канцэпта «Радзіма» з адметнымі рысамі традыцыйнай беларускай культуры.*

Канцэпт як адзінка сувязі мовы і культуры захоўвае ўяўленні народа, выконвае трансляцыйную функцыю. Цікавасць для даследавання ўяўляюць аўтарскія канцэпты, бо імі абагачаецца моўная карціна нацыянальнай мовы, і, акрамя таго, канцэпт дазваляе меркаваць пра знакавыя рэаліі для таго ці іншага аўтара. Радзіма – паняцце, якое не абміне ў сваей творчасці ні адзін выдатны паэт. Мэтай працы было прааналізаваць змест канцэпта

«Радзіма» на матэрыяле творчасці С. Панізніка. С. Панізнік нарадзіўся ў весцы Бабышкі Міерскага раена Віцебскай вобласці, таму цікавасць уяўляе прадстаўленасць Беларускага Падзвіння ў творчасці аўтара.

Даследаванне канцэпта прадугледжвае вызначэнне яго структурных элементаў. С. Варкачоў вылучае ў канцэпце паняційны складнік (прыметавая і дэфініцыйная структура), вобразны складнік (кагнітыўныя метафары, якія падтрымліваюць канцэпт у свядомасці) і значнасны складнік – этымалагічныя, асацыятыўныя характарыстыкі канцэпта, якія вызначаюць яго месца ў лексіка-граматычнай сістэме мовы [1, с. 7]. З. Папова і С. Стэрнін вылучаюць тры базавыя структурныя кампаненты канцэпта – вобраз, інфармацыйны змест і інтэрпрэтацыйнае поле [2, с. 106]. Відавочна, што розныя даследчыкі пазначаюць выразную трохчастковую структуру канцэпта, якая можа выявіць у поўным аб’еме яго змест.

Кожная з частак у розных аспектах прадстаўляе канцэпт. Вобразны кампанент у структуры канцэпта складаецца з двух элементаў – перцэптыўнага вобраза і кагнітыўнага (метафарычнага) вобраза, якія ў аднолькавай ступені адлюстроўваюць вобразныя характарыстыкі канцэптуалізаванага прадмета ці з’явы [2, с. 109]. Наяўнасць вобраза ў структуры канцэпта падмацоўваецца суаднесенасцю з прататыпам. Інфармацыйны змест – гэта звычайна дэфініцыйны мінімум прымет, якія вызначаюць сутнасць канцэпта, блізкі да слоўнікавага азначэння ключавога слова канцэпта. Інтэрпрэтацыйнае поле канцэпта ўключае кагнітыўныя прыметы, якія пэўным чынам інтэрпрэтуюць асноўны інфармацыйны змест канцэпта, вынікаюць з яго, уяўляюць сабой пэўныя выніковыя веды або ацэньваюць яго.

Выяўленне інфармацыйнага зместу канцэпта звычайна пачынаецца з высвятлення лексікагарфічнага значэння слова. У тлумачальным слоўніку прадстаўлена наступнае азначэнне лексемы радзіма: «1. Бацькаўшчына, родная краіна. 2. Месца нараджэння, узнікнення, паходжання каго-чаго-н.» [3, с. 533]. Удакладненне інфармацыйнага зместу канцэпта магчыма праз мадэляванне яго намінатыўнага поля. Па-першае, былі выяўлены прамыя намінацыі канцэпта шляхам вызначэння сінонімаў і сінанімічных спалучэнняў да ключавога слова «Радзіма»:

Айчына (айчына): «*І стане абнадзейнай, зямлей не на пастой, – **Айчынай** непадзельнай, Вялікаю, Сьвятой!*» [4, с. 20]; «*Столькі чорнага ў **Айчыне** роднай, Белай...*» [5, с. 98]; «*...варожая смялела раць і меншала сыноў **Айчыны***» [6, с. 25].

– старана (Старана): «*Мяне адплата не міне, калі ў **суроднай старане** зямлі не пакланіцца...*» [7, с. 70]. «*Хоць на калючым снезе – а ў **роднай старане***» [7, с. 60]. «*...я зь берагам і небам прывыкаю да новага сьвятла над **роднай Стараной***»[4, с. 48].

– зямля (ЗЯМЛЯ, зямелька): «*Я ў гэтую праменную **ЗЯМЛЮ** хачу лістом уткнуцца незжаўцелым*» [7, с. 67]. «*Стаю прад табою, мой Вою, крывіцкай зямлею каханы*» [5, с. 11] «*Чужой няма ніводнай краскі. На галасы **зямелькі** наскай сьцякае з пэндзля промня кроў...*» [4, с. 25]

– Беларусь: «*...і **Беларусь** пякучай ласкай шчабеча між чужых муроў*» [4, с. 25].

– Белая Русь: «*А што беларус выбірае – ці **Белую Русь**, ці скон?*» [7, с. 56].

– край (Край): «*Радзінны **край** – не дача, не кашалек тугі*» [7, с. 100]. «*...хоць і жыву з парушанай гармоніяй, ня рыпну – у мароз – на цэлы Край*» [4, с. 132].

– краіна: «*Адчуў: жыцьці векавыя пад небам Радзімы жывуць. **Краіне** ўваскрэсенай – праца. Айчыне – пачэсны пасад*» [4, с. 65].

– Бацькаўшчына: «*І **Бацькаўшчыну**, зь якой галее, ен піша зь літаркі малой*» [4, с. 144].

– прасторы: «*...бо **радаводныя прасторы** сівой гісторыяй жывуць*» [4, с. 41].

Праз азначэнні да сінанімічнага шэрагу выяўляюцца наступныя прыметы канцэпта: *святая, крэўная, «малая», (*радзіма*), радзінны, прыдзьвінскі* (край)*, праменная, крывіцкая, наская, слынная, богам дадзеная, абнадзейная, шчаслівая* (зямля)*, уваскрэсеная* (краіна)*, непадзельная, Вялікая, Сьвятая, родная, Белая* [Айчына), *суродная, родная, айчынная* (старана), *крывіцкая, вечная* (Беларусь).

Пры аналізе паэзіі С. Панізніка ў намінатыўнае поле канцэпта далучаліся не толькі прамыя намінацыі канцэпта (слова «радзіма» і яго сінонімы), але і геаграфічныя назвы, што непасрэдна звязаны з другім слоўнікавым азначэннем радзімы – месцам нараджэння паэта і бліжэйшым рэгіенам: Прыдзівінне, Бабышкі, Лявонпаль, Цінкаўцы, Мерыца, Волта, Дзісна, Дзісенка, Сар’я, Сар’янка, Дрыса, Асвея, Полацк, Жоўніна і інш. Па-рознаму найменнямі прадстаўлены блізкі паэту Лявонпаль: «***Лявонава поле** – айчынная песня мая*» [7, с. 92]; «***Лявонпаль** – радаводны маўзалей*» [4, с. 14]; *«О, **Leon Polis**! Вечна будзь мне і Прыдзвіннью за сталіцу!»* [4, с. 16]. Можна меркаваць, што апошняе найменне паэт выкарыстаў невыпадкова. Аўтар так ці інакш імкнецца суаднесці сваю радзіму з еўрапейскай прасторай: «*Эўропу распазнаць я змог, бо гэта ж Беларусь жывая... ...і ўсе – з мацерыка Эўропы!*» [4, с. 17]; «*Ток разбураны (наш Калізей) сто гадоў не гадуе гусей*» [4, с. 17].

Тапонім «Лявонпаль» натуральна далучаецца ў ядро канцэпта радзіма. Як прызнаецца С. Панізнік у адным з артыкулаў, «Бабышкі – Лявонпаль – мая Вялікая Радзіма.

Толькі ж няма адной песні на ўсю Беларусь, няма аднаго танца на ўсю Беларусь, а есць песня маей мамы з былых Бабышак, полька «на лен» з-пад Лявонпаля. ... Як няма і сонца па-над усей Беларусяй.

Я ўсе гэтыя гады жыву толькі тым сонцам, якое садзілася ў хвалі Дзвіны, уяўляю толькі тую поўню, якая вісела над борам па дарозе на Грудзінава» [8, с. 42]. Гэтая ж думка паўтараецца і ў вершаваных радках: «*Няма «малой» радзімы на Волце, на Дзьвіне*» [4, с. 19]; «*Была малой радзіма, а з намі – узрасла*» [4, с. 20]. Такое азначэнне месца нараджэння зразумелае, бо паводле А. Бельскага, «Радзіма – гэта бацькі, прашчуры, лад жыцця і побыту, той асяродак, дзе чалавек сталее і набывае ўнутраную еднасць з роднымі людзьмі, прыродай, усведамляе сваю непарыўную повязь з мілым кутом дзяцінства» [9, с. 5].

Аўтар акрэслівае сваю радзіму шляхам саманамінацыі: «*Я мерскі малец*»; «*Прыдзьвінскі малец...*» [4, с. 18]. У адносінах «чалавек – Радзіма» суб'ект мае вырашальнае значэнне як у вызначэнні межаў радзімы, так і ў існаванні гэтага паняцця: «*Без нас Радзімы не было б*» [5, с. 72]; «*А буду я н і ч ы й, – і белы боль адужае айчыннае ўзбярэжжа*» [4, с. 18]. Аўтар адчувае адказнасць за квітненне радзімы. Лірычны герой уяўляе сваю смерць з рэфлексіяй на мясцовасць, паэт быццам бы сцвярджае сувязь жыцця кожнага (свайго ў прыватнасці) з лесам радзімы, таму радзіма не можа не рэагаваць на страту сваіх адданых сыноў: «*Затоіцца Прыдзьвінне, калі я буду зыбацца ў смалістай дамавіне*» [4, с. 44].

Але варта згадаць пра тое, што асэнсаванне гістарычных каранеў роднага краю нараджае яшчэ і іншыя намінацыі як зямлі, народа, так і саманайменаванне аўтара: «*Мы – літва»; «Прыдзьвінна я крычу: «Ліцьвінна крывічу!*»« [4, с. 45]. У вершы «Вялікае княства Беларусь» паэт згадвае найменні, якімі называлі людзей беларускіх земляў у розны час: «*Засталіся бажніцы пры беразе. Паплылі крывічы – у маўчаньне*», «*Праплывалі ліцьвіны – сарматамі*». Рака тут – метафара плыні часу. Тым не менш аўтар перакананы, што «*Анікуды Айчына не дзенецца, не сплыве Беларусь у маўчаньне!*» [4, с. 38]. Прычыны такой упэўненасці ў тым, што не назва захоўвае Радзіму: «*Не засмуціцца ен, перназваны, край мой прыдзьвінскі: коціцца коўшыкам, круціцца збанам вершык ліцьвінскі*» [4, с. 37]; «*Мы суайчыннасьць, мы народ: у сугалосьсі над Дзьвіною гучыць лірычнаю струною і нашай крэўнасьці акорд*». Народ асэнсоўваецца менавіта як людзі адной зямлі. І важна захоўваць не столькі назвы, а адчуванне повязі з роднай зямлей.

Перыферыю канцэпта складае вобразны кампанент. Мяркуем, пры даследаванні на матэрыяле мастацкай літаратуры менавіта гэты складнік канцэпта ўяўляе найбольшую цікавасць. Варта вылучыць найбольш яскравыя вобразы, звязаныя з паняццем «радзіма» ў паэзіі С. Панізніка.

«*Ля Дзвіны карэнні роду*» [5, с. 38]; «*А родам я – прыдзвінскі*» [7, с. 108], – згадвае паэт, пазначаючы сувязь сваіх каранеў з ракой, якая займае ў вобразнай сістэме адно з цэнтральных месцаў. Зборнік паэзіі «Пры сьвячэньні...» складаецца з сямі ратаў, першая з якіх мае назву «На падкове Дзьвіны». Аўтар у першым жа вершы згадвае, што «*Рака – не мяжа...*» [4, с. 8]. Аднак менавіта рака разам з прыбярэжнымі мястэчкамі акрэслівае тэрыторыю, пра якую аўтар кажа, што «*У сьвеце падобнай няма стараны...*»: «*У Друю ўтыкаліся сьцеблы, у Дрысу, а стрэлы ўпіваліся ў сьцены Дзісны... Вы гляньце на карту, памацайце рысу: ляжыць мацярык на падкове Дзьвіны*». Аўтар невыпадкова ўжывае лексему «мацярык», якой называюць вялікую частку сушы, абмываемай марамі і акіянамі. Такім чынам, падкрэслівае значнасць для яго тэрыторыі, акрэсленай каардынатамі трох гарадоў: Друі – Дрысы (сучасны Верхнядзвінск) – Дзісны.

Адна з традыцыйных метафар «рака – шлях» сустракаецца і ў вершах аўтара: «*Дзьвіна – суседка бальшакоў – і нас на хвалі пасадзіла. Ці ж вернемся мы ў сьлед бацькоў...*» [4, с. 11]; «*Урасту я ў Дзьвіне у ільдзіну, а вясною і пакіну радзіму*» [4, с. 49]. Пры згадванні ракі С. Панізнік неаднаразова выкарыстоўвае прыем адухаўлення: «*Увішная Дзьвіна-сялянка для ўсіх разгортвае сувой...*» [4, с. 41]. Рака ўспрымаецца аўтарам як жывы персанаж, які суперажывае з паэтам: «*І я, і Дзьвіна ў засмучэньні: ня кожнаму сення па сіле плысьці уверх па цячэнні*» [4, с. 64]. Аўтар уключае Дзвіну ў працэс сваіх філасофскіх роздумаў. Гэта не выклікае здзіўлення, бо «*Дзьвіной падпяразаны праца і лес*» [4, с. 64]. Кагнітыўная метафара паса згадвае пра абмежавальную і сакральную ролю ракі ў свядомасці паэта.

Прыем адухаўлення ўзнікае невыпадкова ў арсенале моўных сродкаў паэта. Гэта вынік непасрэднай асацыяцыі ракі з жыццем, прычым з жыццем роднага народа: «*Жыве рака: веслы крыламі ўзлятаюць, нашы дні ў вякі плывуць, і суседзі нас вітаюць. Б е л а р у с а м і завуць*» [5, с. 38]. Лірычны герой падкрэслівае яе функцыю паядноўваць: «*Што лунала па Дзьвіне, – не сплылося, бо рака ня дзеліць нас, а злучае...*» [4, с. 156].

Дарэчы, аўтар надае сакральнае значэнне і іншым водным артэрыям свайго краю: «*На Дрысу, Лявонпаль цячэ Палата... Вы сеньня – у іх асьвячэньні*»; «*Там, дзе Волта, там, дзе Мерыца, дзе крынічная Дзвіна, – праца яшчэ болей спорыцца*» [7, с. 105]. Прадвызначае жыццевы шлях менавіта родная мясціна: «*Адмераная Мерыцай была хада ткача*» [4, с. 12]; «*Ня зморыцца Мерыца, дно не зьніцее...*» [4, с. 8]. Мерыца і Волта – таксама своеасаблівыя межы, якія акрэсліваюць сваю, родную прастору: «*Ад Мерыцы да Волты мае гады як волаты на араллей плывуць*» [7, с. 100]. «*Ад Мерыцы да Волты зігзагі ручаін*» [6, с. 61].

Зварот да Дзвіны непасрэдна звязаны з вобразам, які выступае часткай ядра канцэпта «Радзіма». Радзіма для С. Панізніка – гэта бераг. Менавіта так ен называе ў вершы «Прытулак бежанкі» родны край: «*Небам сінім злоўлена журавуліха Жоўніна... Пад крылом яе – наўсьцяж – наша Прышласьць, **Бераг наш***» [4, с. 42]. «*Быў краем свету прыбераг Дзвіны, дзе камянеў барысавых асколкі ўраслі ў мурог і шапаткі, і колкі. І вось я зноў ступіў на крохкі край. Ты не карай мяне, мой **бераг кроўны**, мой **самы першы бераг і галоўны**. Быў краем свету прыбераг Дзвіны, а стаў – любові, ростані, віны*» [6, с. 67].

Вобраз берага карэлюе з вобразам мацерыка, які стрыжнем праходзіць праз некалькі зборнікаў С. Панізніка: «*мае вякі кладуцца ў вякі* ***мацерыка***» [6, с. 17]; «*Каб чуць і звон мячоў, і маці крык (калі бяда была на перавесе), – ўзыходжу на гарачы* ***мацярык****: Прыдзвінне... Магілеўшчына... Палессе...*» [6, с. 7]; «*Вось і я,* ***мацерыка*** *насельнік, чую карані ў сваім народзе*» [6, с. 40]; «*Мы падмінаем пад сябе зямлю і на сады начэпліваем краны, і меншае журлівага «люблю», калі* ***мацерыку*** *наносім раны»* [7, с. 23]. Адзін са зборнікаў паэта так і называецца «Мацярык». Трэба адзначыць, што сувязь паміж словамі «бераг» і «мацярык» этымалагічная. Мацярык – гэта «высокі земляны бераг». Гэта не адзіна магчымае вытлумачэнне этымалогіі слова. Як варыянты разглядаецца сувязь са словамі «мацеры» (старажытны), «мацярынскі». Цяжка сказаць, якую менавіта этымалогію аўтар адчуваў як унутраную форму слова, але любая з прапанаваных бачыцца натуральнай падставай для сакралізацыі вобраза мацерыка.

Зямля продкаў – прадвызначае шлях чалавека і выхоўвае ў лірычным героі самыя лепшыя пачуцці: «*Хоць і там ня рай, дзе водмелі Дзьвіны і продкаў цені... Але* ***радзінны бераг****, небакрай наканавалі шлях у летуценьні*» [4, с. 18]; «*...Задзвіння радаводныя вятры. І* ***Беларусь крывіцкая*** *аберуч узважвае сыноўняе крыло: маю любоў, маю адданасць, веру, – усе, што вывела мяне за* ***родны бераг*** *і што назад на бераг прывяло*» [6, с. 59]. Неаднаразова С. Панізнік згадвае і Полацк, які таксама далучае ў прастору сваей роднай зямлі: «*Полацак! Ты* ***радаводны наш бераг****. Вечны, як наш Эўфрасіньнеўскі крыж!»* [4, с. 68].

Дзвіна, бераг, мацярык – вобразы з семай лакалізаванасці. Таму невыпадкова яны звязаны з радзімай, бо радзіма – гэта месца. Але сустракаюцца ў творчасці С. Панізніка вобразы, якія маюць атрыбутыўнае значэнне, выражаюць адносіны паміж чалавекам і яго радзімай. Такім сувязным вобразам з'яўляецца мова: «*Мы – слоў радня. І мова-каранік праносіцца цераз пякелле верша, ўрастаем у гарачы мацярык, пякучы ад улоння да завярша*» [6, с. 7 – 8]; «*Продкі – родзічы мовы маей – кнігі лесу стваралі вякамі*»[6, с. 9]. Мова яднае людзей паміж сабой, робіць іх роднымі. Таму мова – той чыннік, які лірычны герой бачыць як перадумову знікнення народа, так і аднаўлення Радзімы: «*Што ж, немата сціраe нацыю з мацерыка*» [7, с. 56]; «*Няхай хмурынкі на ілбе сканала не крычаць: Радзіму можна зноў пачаць са* ***Слова***» [7, с. 117]; «*Радзінныя песні – ратунак Зямлі*» [5, с. 55]. Мова разглядаецца як сакральны аб'ект: «*Прыняць прычасце* ***мовы кроўнай****...*» [6, с. 41]; «*Гукамі зямлі лячуся. Хай глядзіць Айчына горда: я ў кальчузе, ты ў кальчузе, – мы* ***сумоўная*** *кагорта!*» [4, с. 32]. На ўзроўні тропаў, у прыватнасці параўнанняў, выяўляецца сувязь «мова – месца»: «*Слова – як прывабны хутарок. А выслоўе – веска. ...Прымаўка – мястэчка над ракой*» [5, с. 29]. Аўтар такім чынам матэрыялізуе словы, робіць блізкімі як тыя ці іншыя мясціны для чалавека, акрамя таго, паказваючы на непарыўную сувязь мовы з пэўнай мясцовасцю.

Вобразам повязі з роднай зямлей з'яўляецца радаводнае дрэва. «*Углядаюся ў замружаную крону Радаводнага Дрэва...*» [4, с. 22], – згадвае лірычны герой у філасофскім роздуме над вытокамі і працягам. Прычым людзі адной зямлі параўноўваюцца з верхняй часткай дрэва, яго кронай: «*Хто зь мерскай зямлі? Уплятайцеся ў крону: аперся камель на падкову Дзьвіны!*» [4, с. 8]*; «І самі мы – Радзімы веццe: адно з другім бліжэй, бліжэй...»* [6, с. 51]; «*І мы – галіны таямнічых крон. І ў мацярык нам трэба урастацца, перад прыродай роднай прычашчацца і напрушны шанаваць закон*» [6, с. 58]. Неабходнасць яднання землякоў аўтар выражае ў формах дзеяслоўнага імператыва або формах са значэннем неабходнасці. Адчуванне сябе галінамі агульнага дрэва жыцця Радзімы – яшчэ адзін спосаб адчуць еднасць і перадумова плену бацькаўшчыны: «*Дзе атожылкі выйдуць з камля – радаводнаю будзе зямля!*» [4, с. 17]. Можна адзначыць сінкрэтызм улюбеных аўтарам вобразаў: «*Пазвоньвае ў* ***камель ракі*** *падкова...*» [6, с. 18]. Рака бачыцца як частка дрэва жыцця, духоўная аснова.

Памяць – ключавое паняцце ў сувязі аўтара з радзімай і продкамі: «*Ім Радзіма давала імя, іх праводзіла, сустракала. І нічога больш, акрамя светлай памяці не давала*» [6, с. 9]; «*Сыляды суродзічаў ня сцерці, калі есць памяці папас*» [4, с. 41]; «*Вось чаму кожны з нас – радовішча: каб Радзіме у сіле быць. Памяць – служба, і Памяць-здольшчына, запавет жыцця: «Н е з а б ы ц ь!*» [7, с. 121]. Памяць увасоблена аўтарам у вобразе календара: «*Мой чысьленнік! Рабоце пакідай дні памяці, бо зь імі – у хаўрусе Першадрукар, Сьвятар, Паэт, Ратай і мы, руплівцы вечнай Беларусі».* Невыпадкова аўтар надае такую ўвагу памяці: «Усе ўзвышанае, зберажонае будзе ўзвышаць і нас» [10, с. 42], – згадвае ен у адным са сваіх успамінаў. Такім чынам, памяць – крыніца духоўнага жыцця народа і Радзімы.

Важнасць памяці пра спадчыну, вытокі падкрэсліваецца зваротам да супрацьлеглага паняцця – забыцця, якое таксама займае значнае месца ў вобразнай сістэме аўтара: «*Так вузлы для трагедый и вяжуцца: забываем спачатку вякі, пасля бацькаўшчыны – тое, роднае, чым трымаецца род, сям'я. І знікае ўва мне народнае. І знікаю ў народзе я*» [7, с. 119]. З болем аўтар згадвае палітыку савецкіх часоў у дачыненні да беларускай культуры: «*А ў культуры савецкай адтуліны. Засібірана памяць матуліна*» [7, с. 118]; «*Мае вы Рэчышчы і Далягляды. Вялікадні, Купаллі і Каляды! Вы знішчаныя без жуды і злосці, патрушчаныя продкаў нашых косці*» [5, с. 64]. Вобраз в. Бабышкі неаднаразова паўстае пакінутым вуглом ці разараным полем: «*Даездак чэрствы і глухі у заараныя Бабышкі. Ды ... роднай стараны ня стала, калі на хутары, дарогі навіснуў зьнелюдзелы плуг...»* [4, с. 10]; «*А ў Бабышках спрах у холадзе вугал роднага лаўжа*» [7, с. 104]; «*З Бабышак з'ехалі бацькі...*» [4, с. 11]. Аўтар заклапочаны пакінутым родным гняздом, таму ў прыведзеных кантэкстах пераважае негатыўная эмацыянальна-экспрэсіўная афарбоўка.

Аўтар у сваіх кнігах не толькі разважае на тэму памяці і забыцця, а ўяўляе выдатныя прыклады, як трэба памятаць. Ен выдатны краязнавец, яго эпіграфы да вершаў з'яўляюцца каментарамі, якія выяўля-

юць веданне падзей і асобаў, звязаных з роднымі мясцінамі, і паэт дзеліцца гэтымі ведамі з чытачом. Памяць С. Панізніка ўвасабляецца ў вобразах слынных сыноў беларускай зямлі. Як згадвае А. Бельскі, «гісторыя зрабілася для Сяргея Панізніка асновай і метадам творчага мыслення» [9, с. 7]. Гісторыя, жыцце і плен такіх дзеячаў як Янка Купала, Францыск Скарына, Б. Тарашкевіч, Стэфан Баторый, Філон Кміта-Чарнабыльскі, Ю. Гаўрук, Ф. Сіўко, М. Крывіцкі і многіх іншых – нагода асэнсаваць іх здабыткі з пункту гледжання сучаснага дня і зрабіць рэфлексію ўласных жыццевых арыенціраў. Магчыма, такі падыход абумоўвіў рэалістычную паэтыку С. Панізніка, без асаблівай аздобы метафарычнасці. «Пазбаўляючы радок непатрэбнай квяцістасці, ен вымушае аўтара быць дакладным у перадачы самой рэальнасці жыцця», – згадвае А. Марціновіч. [11, с. 236]. Можна меркаваць, што падобныя адметнасці паэтыкі скарачаюць дыстанцыю паміж аўтарам і яго лірычным героем.

Сувяззю з роднай стараной часам аўтар робіць артэфакты традыцыйнай культуры, мясцовай культуры як то кажух або крыж, якія таксама выступаюць увасабленнем памяці: «*Пляменнік мой, я не багата – а кажушок на памяць дам, бо, кажуць, модная аўчына... Дык хай жа мода не міне, хай цепла чуецца айчына на ахаладжанай спіне*» [6, с. 33]. У вершы «Лен з васількамі» згадваецца крыж, аздоблены майстрамі Прыдзьвіння і перададзены бабуляй Альжбетай у Лявонпальскі касцел: *«...так родна на крыж твой маліцца»* [4, с. 13]. Вобраз радзімы непасрэдна звязаны з артэфактамі, цесна прывязанымі да яе.

Метафара ткацтва – яшчэ адно звяно ў повязі паэта з радзімай. Тым больш, што этымалогія прозвішча паэта звязана з гэтым заняткам. Як згадвае ў сваей аўтабіяграфіі С. Панізнік, «даведаўся, што ткача, які нацягваў аснову, звалі так: паніз» [10, с. 307]. Веска Панізьнікі – яшчэ адна назва, якую аўтар выкарыстоўвае як нагоду зрабіць экскурс у этымалогію свайго прозвішча разам з асэнсаваннем каранеў: «*Тут продкі ўсе адужалі, мне зьберагчы змаглі затканую на кужалі прасьвецінку зямлі*» [4, с. 12]. Аўтар адчувае адказнасць за захаваную продкамі праз сакральны рытуал ткацтва памяць. Вобраз ткацтва як спосаб далучыцца да радзімы сустракаецца неаднойчы: «*Я ў беларускі срэбраны уток уткнуся толькі пасмай невядомай*» [6, с. 76]; «*Беларусь – як дзіце спавіта летапісным прароцтвам сноў. Мы – уток для яе асноў*» [7, с. 44]; «*Са сьцежак **тчэцца радавод***» [4, с. 11]. Невыпадкова артэфактам, які лучыць чалавека з радзімай і продкамі, на думку аўтара, з'яўляюцца ручнікі: «*Ручнікі каля ракі мацярык стагодзяць, З палатна, бы жаўрукі, самі продкі-дзівакі карагод выводзяць*» [4, с. 39]. Ручнікі паяднoўваюць пакаленні – продкаў і нашчадкаў, транслююць культурную памяць: «*У прыдзьвінскія вякі я хачу ўглядацца. Адбялю ўсе вузялкі, – да нашчадкаў ручнікі будуць пры-ру-чац-ца*» [4, с. 39].

Важны для паэта клопат пра Радзіму сімвалічна передае вобраз сяўбы: «*Паміж бароў Крывіцкае зямлі, над хвалямі Дзьвіны – майго Рубона... Бог і ратай мацярык берaглі*» [4, с. 27]. Невыпадкова пачатак верша – алюзія на санет М. Багдановіча, якая разам са згадваннем старажытных назваў звяртае зноў да тэмы пераемнасці, культурнай памяці. «Але тое, што прамінула, ува мне не знікае, – заўважае С. Панізнік у сваей аўтабіяграфіі. – Мае радзіннае поле – у полі касмічнай інфармацыі» [10, с. 303]. Аўтар прадстаўляе сябе зернем, а сявенькай выступаюць то родная зямля, то каханне: *«Укарані мой голас у папар! Хачу ўскалосься! Тады ня ўвесь зжывуся на зямлі: з прытомнымі карэньчыкамі рэха зярняткам зьберагуся я ў сям'і расьліннасьці, а там няма прарэха. І па вясьне ўзыду»* [4, с. 32]; *«Усім у праўдзівым жыцці расці, расці, расці – каханню служыць сявенькай на нашай Зямлі сівенькай»* [7, с. 75]; *«Але вярнуцца: да бароў, Дзвіны, да роднае маей зямлі-сявенькі...»* [6, с. 46]. Згадваючы занядбанае роднае мястэчка, паэт тэмай сяўбы зноў як маркерам пазначае праблему памяці пра вытокі: «*Па Лявонавым Полі ня сеюць. Веру: людзі мястэчка населяць. І папросіць у Бога ратай: «Зерне памяці ў долю мне дай!*» [4, с. 17]. Кантэкст чытаецца двухпланава – ад рэалістычнага аспекту да сімвалічнага: калі людзі не дакранаюцца да роднай зямлі, яны губляюць духоўную сувязь са сваей культурай, традыцыямі.

Паэт прадстаўлены яшчэ адным вобразам, які мае сувязь з традыцыйнай культурай – вобразам ганчара: «*Ад берага свайго не адракуся. Тут Крывію яднаю зь Беларусяй. І на глябальны круг (паэт і есьць ганчар) этнаграфічнай гліны дабаўляю...*» [4, с. 20]. Атаясамліванне працы мастака слова і ганчара падкрэслівае стваральную функцыю паэта, яго вызначальную ролю на ніве айчынных традыцый.

Трэба адзначыць, што актыўная грамадзянская пазіцыя С. Панізніка абумовіла прысутнасць у яго вершах вобраза паэта-абаронцы сваей Радзімы: «*А пасьвятлее сілы пашукаю – меч утрымаць крывіцкаю рукой*» [4, с. 48]; «*Цяпер ідзе ў дазор мая любоў... І Бацькаўшчына за яе браней*» [6, с. 14]. Прычым, аўтар падкрэслівае свае пазіцыі абаронцы, а не ваяра: «*Не вараг я ваяўнічы – мечнік службы адмысловай. Мне пасуе да аблічча сьветлая кальчуга слова*» [4, с. 32]. Зноў-такі лірычны герой і ў гэтай ролі працягвае традыцыі продкаў: «*Я запалю сьвячу, каб на сям'ю глядзелі і продкі па мячу, і продкі па кудзелі*» [4, с. 22].

Як паказвае прааналізаваны матэрыял, акрамя сінонімаў і сінанімічных выразаў да наймення «Радзіма», у ядро канцэпта далучаюцца вобразы берага і мацерыка і мясціны Прыдзівіння. Па той прычыне, што гэтыя рэаліі асэнсоўваюцца ў непарыўнай сувязі з воднай прасторай, вобраз Дзвіны займае асобнае месца ў карціне свету аўтара. Перыферыя канцэпта прадстаўлена вобразамі памяці, мовы, радаводнага дрэва, якія цалкам звязаны з суб'ектам культуры. Такім суб'ектам у паэзіі, відавочна, выступае паэт. Інтэрпрэтацыйнае поле канцэпта складае інфармацыя пра тое, што Радзіма – аб'ект любові паэта, клопату, аховы, працэсу паяднання вакол яе «радні», прычына самаразвіцця і самаідэнтыфікацыі, але ча-

сам і віны. У асэнсаванні сваей еднасці з роднай зямлей і сваіх вытокаў вобраз паэта паўстае як абаронца, сейбіт, ткач і ганчар. Апошнія ўвасабленні непасрэдна звязаны з традыцыйнай беларускай культурай, дзе земляробства, ткацтва і ганчарства былі важнымі і нават сакральнымі заняткамі чалавека.

ЛІТАРАТУРА

1. Воркачев, С. Счастье как лингвокультурный концепт / С. Воркачев. – М.: ИТДГК «Гнозис», 2004. – 192 с.
2. Попова, З.Д. Когнитивная лингвистика. / З.Д. Попова, И.А. Стернин. – М.: АСТ: Восток – Запад, 2007. – 314 с.
3. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / Пад рэд. М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко. – Мінск: БелЭн, 1996. – 784 с.
4. Панізнік, С. Пры сьвячэнні...: Зб. Вершаў / С.Панізнік. – Вільня: Наша Будучыня, 2004. – 222 с.
5. Панізнік, С. А пісар земскі...: Вершы / С.Панізнік. – Мінск: Маст. літ., 1994. – 142 с.
6. Панізнік, С. Слова на дабрыдзень: Лірыка / С.Панізнік. – Мінск: Маст. літ., 1982. – 110 с.
7. Панізнік, С. Стырно: Вершы / С.Панізнік. – Мінск: Маст. літ., 1989. – 134 с.
8. Панізнік, С. Графскі бэз майго юнацтва // С. Панізнік, Беларуская мінуўшчына. – № 4. – С. 41 – 42.
9. Бельскі, А. І ўсе мае дні – Беларусі: літаратурны партрэт Сяргея Панізніка / А. Бельскі // Роднае слова. – 2002 – № 5. – С. 4 – 10.
10. Панізнік, С. Не толькі Гамеру... / С.Панізнік // З росных сцяжын: аўтабіяграфіі пісьменнікаў Беларусі; укладальнік Мікола Мінзер. – Мінск: Літаратура і мастацтва, 2009. – 464 с.
11. Марціновіч, А. Сувязь: Літ.-крытыч. арт. / А. Марциновіч – Мінск: Маст. літ., 1994. – 253с.

## КРЫВІЦКІ АРЭАЛ У АБРАДАВА-ПЕСЕННЫХ ТРАДЫЦЫЯХ: БЕЛАРУСКІ ФЕНОМЕН

***д-р мастацтвазн. З.Я. МАЖЭЙКА,***
***канд. мастацтвазн. Т.Б. ВАРФАЛАМЕЕВА***
***(Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ім. К. Крапівы НАН Беларусі, Мінск)***

*На грунце матэрыялу каляндарнай і сямейнай музычна-песенных традыцый раскрыта значэнне абрадава-песеннай культуры крывіцкага арэала ў фарміраванні этнакультурнага феномена беларусаў. На функцыянальным, жанрава-стылявым, тыпалагічным і структурным узроўнях акрэслены беларускі крывіцкі абрадава-песенны ландшафт; выяўлены адметнасці двух адгалінаванняў крывіцкага арэала – полацкага і віцебска-смаленскага; ў цэлым выяўлена спецыфіка беларускай часткі крывіцкага арэала, якая ўяўляе найбольш яскрава выражаную зону старажытнасці на тэрыторыі Беларусія. адначаную лінгвістамі як «архаічны пояс» у славянскім кантынууме.*

Крывіцкі арэал, які ў ходзе гісторыі апынуўся ў межах этнічных тэрыторый двух суседніх народаў – беларускага і рускага ўвесь час прыцягваў увагу вучоных, якія на аснове даных археалогіі, лінгвістыкі, этнаграфіі і музыказнаўства ставілі, дыскутавалі, і вырашалі пытанні, нашчадкі якой тэрыторыі крывічаў уваходзілі ў склад беларускай, роўна як і рускай, народнасцей.

У міждысцыплінарным асвятленні крывіцкага арэала свае месца павінна заняць таксама этнамузыкалогія, якая апелюе да музычнай мовы як да ўстойлівага кампанента духоўнай культуры.

Даследаванні этнамузыколагаў паказваюць, што ў дадзеным арэале ў найбольшай ступені захаваўся старажытны пласт песенна-абрадавага фальклору, токі якога пранізваюць беларускую песенную культуру ў цэлым, адлюстроўваючы абрадава-часавы модус мыслення носьбітаў беларускай народна-песеннай традыцыі.

У фарміраванні этнакультурнага феномена беларусаў найбольш важнае значэнне мае каляндарны і сямейны песенны фальклор. Вядома, што на аснове дадзеных каляндарнага фальклору акадэмік Н. Талстой у этналінгвістычных працах вызначыў тэрыторыю Беларусі як «архаічны пояс». Наша шматгадовае даследаванне песенных сістэм паўночнага (Паазер'е), паўднёвага (Брэсцкае і Гомельскае Палессе), заходняга (Панямонне) і ўсходняга (Падняпроўе) рэгіенаў паказвае, што трохслойная песенная сістэма беларускага календара (тыпавыя абрадавыя напевы-формулы, тыпавыя лірызаваныя напевы, раннетрадыцыйныя лірычныя і эпічныя напевы, прымеркаваныя да календара), у найбольш архаічным выглядзе караневага першага слоя абрадавых формульных напеваў паўстае менавіта на Паазер'і – тэрыторыі старажытнага рассялення крывічаў.

Дамінантная роля старажытных каляндарных напеваў-формул, якія на працягу стагоддзяў утрымлівалі, нібыта якар, «песенныя струмені» крывіцкага арэала, у дыяхронным зрэзе садзейнічалі цэнтраімклівай тэндэнцыі на дадзенай тэрыторыі, г. зн. перавазе тэндэнцыі да строгай замацаванасці напеваў за календаром (як і іх музычна-знакаваму статусу адпаведнага часу) над іх адмацаваннем ад каляндарнага сезона.

Такім чынам, цэласць крывіцкага арэала з пазіцый этнамузыкалогіі можна вызначыць у першую чаргу, як найбольш яскрава выражаную архаічную зону Беларусі (у цэлым адзначаную лінгвістамі як «архаічны пояс» у славянскім кантынууме). Пры гэтым валачобныя і восеньскія (у т. л. ярынныя) песні,

адзначаныя многімі даследчыкамі як беларускі каляндарна-жанравы феномен, выяўляюць сваім цэнтрам распаўсюджвання менавіта старажытны крывіцкі арэал.

Пры найбольшай шчыльнасці ў крывіцкім арэале абрадавых напеваў (у т. л. і каляндарных балад) і найбольшай іх тут дыферэнцыраванасці этнамузычны матэрыял, разам з тым, дастаткова выразна акрэслівае дзве часткі дадзенага арэала – полацкую (заходнедзвінскую) і віцебска-смаленскую (заходнедзвінска-дняпроўскую). У сферы каляндарнай гэта праяўляецца ў пераважэ ў полацкім або віцебска-смаленскім арэале тых ці іншых тыпаў калядных, валачобных, веснавых, купальскіх, жніўных, дажыначных, ярных, восеньскіх напеваў, а таксама ў наяўнасці асобных локусаў спецыфічных напеваў (ільнавых у полацкім, веснавой талакі ў віцебска-смаленскім арэале).

Сярод *калядных* напеваў[174] на тэрыторыі рассялення старажытных крывічаў выдзяляюцца тры тыпы. Першы, характэрны для полацкага арэала – гульнявы тып-лейтпапеўка як лейттэма каляднага гульнявога «вяселля для ўсіх» «Жаніцьба Цярэшкі». Усе этапы гэтага гульнявога каляднага вяселля асветлены мностам тэкстаў. І ўсе «цярэшкаўскія тэксты» знітаваны калядным музычным знакам «Цярэшкі» – устойлівым тыпавым напевам-формулай.

Калядныя тыпы II і III пашыраны ў віцебска-смаленскім арэале: першы аб’ядноўвае дынамічныя аднарадковыя напевы (у асноўным пентахордавыя) з пастаянным прыпевам «коліда, коліда» (вар.: «коліда, моліда», «коліда, молада»); рытмаформула другога – двойчы паўтораны пяцісkладовік з зацягваннем сярэдняга складу – зблізкае калядкі гэтага тыпу з карагоднымі напевамі «Стралы», распаўсюджанымі ва ўсходнім рэгіене Беларусі.

Як і абходныя калядныя *валачобныя* напевы маюць вызначальную жанравую прыкмету – устойлівы прыпеў «Зялены сад вішневы», «Зялена траўка-мураўка», «Спявайце, братцы, спявайце», «Зялен явар дуброва», «Вясна-красна на ўвесь свет» (больш позні пасхальны прыпеў «Хрыстос васкрос, сын Божы»).

Тэрыторыю рассялення старажытных крывічаў ахопліваюць два тыпы валачобных напеваў. Тып І мае шырокі арэал, канцэнтруючыся ў заходніх і усходніх раенах Віцебшчыны (з выхадам на паўднёвыя раены Пскоўшчыны, заходнія Смаленшчыны), паўночных і цэнтральных раенах Міншчыны. Тып ІІ характэрны для полацкай часткі крывіцкага арэала (Лепельскі, часткова Шумілінскі раены Віцебскай вобласці, Невельскі Пскоўскай вобласці).

Стылявыя і тыпалагічныя асаблівасці песень-заклікання веснавога календара найбольш яскрава праяўляюцца ў *«загуканнях»* вясны і *масленічных* песнях, што рэпрэзентуюць у беларускай традыцыі веснавую абраднасць. На тэрыторыі рассялення старажытных крывічаў распаўсюджаны тры тыпы напеваў гэтых песень. Тып І аб’ядноўвае ўласна загуканні вясны, якія найбольш яскрава адлюстроўваюць стылявыя і тыпалагічныя асаблівасці жанру ранневеснавых песень – своеасаблівую вяршыню-выток гукавой сферы клічаў звонкай абрадавай песеннасці ўсходняга рэгіена Беларусі. Тып II аб’ядноўвае масленічны напевы з жанрава вызначальнымі прыпевамі «Гу-та-та, гу-ля-ле», «Гу-ля-ле, рана мае», «Масленіца, масленіца», для музычнай рытмізацыі якіх тыповай з’яўляецца антыметабала (як у веснавых карагодах «Проса»). Тып III – гэта масленічныя напевы, у якіх клічавыя інтанацыі спалучаюцца з карагоднай рухальнай дынамікай (з прыпеўным словам «люлі»). Асноўны арэал гэтага масленічнага тыпу – цэнтральныя і паўднёвыя раены Пскоўшчыны. На Беларусі (ва ўсходніх раенах верхнядзвінска-дняпроўскага арэала) знаходзіцца яго перыферыйная зона.

*Купальскія* песні выяўляюць на тэрыторыі крывіцкага арэала найвялікшую шчыльнасць і найбольшую колькасць тыпавых напеваў. У арэале полацкіх і віцебска-смаленскіх крывічаў размеркаваны пяць асноўных тыпаў купальскіх напеваў. Тып І распаўсюджаны ва ўсходніх’ раенах Віцебшчыны і паўночна-ўсходняй Магілеўшчыне. Яго характэрная прыкмета – апаясваючы рэфрэн

Ў нас сягоння,
Ў нас сягоння Купалачка,
Купалачка...

Наступная тыпалагічная група (тыпы II, III, IV, V) аб’ядноўвае напевы больш песеннага характару, але з адчувальнай рухальнай рытмічнай асновай. Іх ладава-меладычная структура тэтрахордавая (з ніжняй квартай і секундай), петнахордавая (з апорай на кварту), заснаваная на счэпленых ячэйках (з трыхордавай пераменнасцю). Тып II канцэнтруецца галоўным чынам у паўночна-ўсходніх раенах Віцебскага Падзвіння. Тып III – пераважна ў паўночна-заходніх. Тып IV распаўсюджаны ў цэнтральных раенах паўночнабеларускага рэгіену і аб’ядноўвае акрамя купальскіх таксама юраўскія песні (з баладным сюжэтам «Кузьма і Ружа»). Тып V пашыраны ў розных раенах Віцебскага Падзвіння.

*Жніўныя* песні, як і купальскія, належаць да песень летняй прымеркаванасці. Але пры натуральных ладава-меладычных арках іх тыпавых напеваў яны, разам з тым, маюць розную функцыянальную накіраванасць і таму рознае кола інтанацыйна-вобразных асацыяцый. У жывой практыцы музычнага бытавання жніўныя і дажыначныя, ярынныя, ільнавыя і восеньскія песні ўзаемапераплятаюцца аж да поўнага зліцця асобных падцыклаў. Так, у паўночных раенах Беларускага Паазер’я па вызначэнні носьбітаў традыцый «ярыны, як лен ірвуць, і

[174] Апісанне тыпавых каляндарных напеваў гл.:: Мажэйка З.Я. Песні Беларускага Паазер’я. – Мінск, 1981. – С. 7 – 22.

восень – гэта адно і тое ж». У спеўнай практыцы асобных раенаў нярэдка зліваюцца паміж сабой мелодыі жніўных і ярынных, жніўных і дажыначных, дажыначных і ярынных. Тым не менш, менавіта на Паазер'і – тэрыторыі рассялення старажытных крывічаў – можна канстатаваць прынцыповую дыферэнцыяцыю жніўна-восеньскіх падцыклаў на ўзроўні тыпавых напеваў.

У цэлым напевы беларускіх жніўных песень – гэта стыхія манадыйнага распеву (незалежна ад аднагалосных ці сумесных гетэрафонных спеваў), шырыня якога дасягаецца гарызантальнымі сродкамі, дзякуючы гучанню на вялікім дыханні апорных гукаў на fermata, якімі завяршаецца кожная рэчытатыўна-меладычная фраза.

Пры надзвычай шырокім коле інтанацыйна-вобразных асацыяцый, гнуткасці інтанацыйных комплексаў «вакалізуемай» манодыі і нерэгулярнай часававымяральнай рытміцы (у стылі rubato), напевы жніўных песень маюць стабільныя структурныя паказчыкі, якія варыятыўна прадстаўлены на Паазер'і ў чатырох асноўных тыпах.

Тып I ахоплівае паўночныя і паўднева-ўсходнія раены Паазер'я, тып II распаўсюджаны ў цэнтральным Паазер'і, трэці і чацверты тыпы жніўных напеваў распаўсюджаны, адпаведна, у паўднева-ўсходніх раенах Віцебшчыны, Руднянскім раене Смаленшчыны.

Па два тыпавыя напевы маюць дажыначныя песні, ярынныя і восеньскія. Пры гэтым першы тып дажыначных напеваў распаўсюджаны ў полацкай і віцебска-смаленскай частцы крывіцкага арэала, другі пераважна ў полацкай. Першы тып ярынных ахоплівае цэнтральныя і некаторыя заходнія раены Віцебшчыны, другі – цэнтральныя і ўсходнія яе раены.

Першы тып восеньскіх напеваў распаўсюджаны ў цэнтральных і заходніх раенах Паазер'я, другі – у цэнтральных і ўсходніх.

Адным з найбольш яскравых і спецыфічных *вясельных* абрадаў крывіцкага арэала з'яўляецца стаўбавы. Аднак ен быў распаўсюджаны толькі ва ўсходніх раенах Паазер'я, г. зн. на тэрыторыі віцебска-смаленскіх крывічаў. Можна сказаць, што на тэрыторыі Беларусі знаходзіцца маргінальная зона стаўбавога абраду. Яго асноўны арэал – Смаленшчына.

Істотная асаблівасць вясельнага рытуалу тэрыторыі старажытнага рассялення крывічаў – абрад «зборнай (суборнай) суботы» («дзявоцкі вечар» «дзявічкі» «вянкі»), які ў заходняй зоне арэалу полацкіх крывічаў афармляецца ў разгорнуты абрад са мноствам песень. На астатняй тэрыторыі Віцебскага Падзвіння развітанне праходзіла ў форме вечарынкі ці вячэры для моладзі і не называлася зборнай суботай. На тэрыторыі віцебска-смаленскіх крывічаў абрад зборнай суботы, як і песні, што яго суправаджаюць, увогуле невядомы.

Яшчэ адна асаблівасць беларускага вяселля крывіцкага арэалу – адносна слабая, у параўнанні, скажам, з традыцыяй Палесся (асабліва заходняга) развітасць каравайнай цырымоніі і, адпаведна, невялікая колькасць каравайных песень. Напрыклад, з 505 каравайных песень, якія змешчаны у другім томе збору «Вяселле. Песні» (серыя БНТ), толькі 64 зафіксаваны ў крывіцкім арэале.

Спецыфіку мясцовага вясельнага рытуалу арэале яскрава адлюстроўвае і развітая тут традыцыя галашэння маладой і яе маці, што ў рашаючай ступені вызначае характар драматургіі вяселля дадзенага рэгіена, як датычнага да крывіцкай традыцыі. Беларускія вясельныя галашэнні сканцэнтраваны ў асноўным у трох зонах крывіцкага арэалу – паўночна-ўсходняй, паўночнай і паўднёвай.

Музычны кампанент паўночнабеларускага вяселля з тым выглядзе, як ен склаўся да пачатку XX ст., уяўляе сабой складаную але стройную сістэму, стабільнае ядро якой складаецца са старажытных тыпавых абрадавых напеваў, дакладна прымеркаваных у кожным мясцовым варыянце вясельнай гульні да пэўных момантаў абраду.

Прынцыпова важныя вынікі дае вывучэнне геаграфічнага распаўсюджвання песенна-меладычных тыпаў, што выяўляе наступную заканамернасць: на ўсей беларускай крывіцкай тэрыторыі распаўсюджвання таго ці іншага тыпу найбольш устойлівым аказваецца структурна-рытмічны комплекс, комплекс жа інтанацыйна-меладычны характарызуецца зменлівасцю, рухомасцю. Менавіта мабільнасць апошняга абумоўлівае дыялектна-стылявую дынаміку ўсіх паўсюдна пашыраных у крывіцкім арэале структурна-рытмічных тыпаў і з'яўляецца фактарам. які вызначае арэальныя адрозненні адзінага песеннага тыпу.

У напевах, зафіксаваных на тэрыторыі віцебска-смаленскіх крывічаў, найбольш дакладна прасочваецца вядучая роля структурна-рытмічнага комплексу. Стабільнасць часавых прапорцый у напевах віцебска-смаленскай часткі крывіцкага арэалу адназначна спалучаецца з дэкламацыйным тыпам мелодыкі і прыўзнятай манерай інтанавання напеваў.

У выніку змянення інтанацыйна-меладычнага комплексу шырока распаўсюджаных песенных тыпаў (па меры іх прасоўвання з тэрыторыі віцебска-смаленскіх крывічаў на тэрыторыю крывічаў полацкіх) у полацкай частцы дамінуючым становіцца іншы гукавы вобраз – лірыка-апавядальны. У вясельных напевах гэтай тэрыторыі істотна ўзмацняецца значэнне моўнага фактару, што перш за ўсе адбіваецца на характары рытмічнага малюнка: маторыка руху змяняецца тут рытмікай апавядальнага тыпу з зацягваннем заключных апорных гукаў напеву; меладычная лінія становіцца больш пластычнай, звужаецца дыяпазон напеваў пентахордавыя структуры змяняюцца тэтрахордавымі, умацоўваецца значэнне асноўнай ладавай апоры напеваў, больш спакойнай становіцца манера інтанавання.

У цэлым, матэрыял, які маецца ў нашым распараджэнні, дазваляе ўстанавіць на беларускай тэрыторыі старажытнага рассялення крывічаў дзесяць асноўных песенна-меладычных тыпаў, дзе ў якасці тыпізуючага дамінуе

структурна-рытмічны прынцып. Восем з іх характэрны для песенных тыпаў, дзевяты – для галашэнняў. Дзесяты тып, дзе вядучым выступае інтанацыйна-меладычны комплекс, абагульняе напевы вясельных і пахавальных галашэнняў.

Удзельная вага песенна-меладычных тыпаў неаднолькавая ў двух частках крывіцкага арэалу: калі ў віцебска-смаленскай частцы пераважаюць тыпы А, Б, Г, дык у полацкім – В, Д, Е. Пры гэтым на віцебска-смаленскай тэрыторыі напевам святочнага гучання процістаяць драматычныя галашэнні І тыпу, на полацкай тэрыторыі структурна афармленыя з больш песеннай манерай інтанавання галашэнні ІІ тыпу не ствараюць драматычнага кантрасту гучанню асноўных абрадавых напеваў[175].

Сваю карціну дынамікі крывіцкага арэалу раскрывае мелодыка беларускіх пахавальных галашэнняў. Музычны ландшафт, які акрэсліваецца тыпавымі напевамі пахавальнага абраду, будучы ў асноўных сваіх праявах блізкім да ландшафту, выяўленаму напевамі вяселля, мае і свае адрозненні. Галоўнае сярод іх – адсутнасць дакладнай прывязкі тых ці іншых тыпавых напеваў да полацкай ці віцебска-смаленскай частак арэалу крывічаў, як гэта мае быць на прыкладзе вясельных мелодый.

У крывіцкім арэале на тэрыторыі Беларусі зафіксаваны тры тыпы пахавальных напеваў, якія тычацца рэчытатыўнай традыцыі. Тып І распаўсюджаны выключна ў крывіцкім арэале, і, мяркуючы па публікацыях, з'яўляецца агульным для ўсіх трох частак крывіцкага племені – віцебска-смаленскай, полацкай і пскоўскай: займаючы паўночна-ўсходнюю частку тэрыторыі віцебска-смаленскіх крывічаў (Гарадоцкі, Віцебскі, Лезненскі, Шумілінскі раены), ен выходзіць таксама ў арэал полацкіх крывічаў (Расонскі і паўночная частка Полацкага раена) і потым працягваецца на тэрыторыі Пскоўшчыны і Смаленшчыны.

Тып ІІ распрасціраецца паласой з паўночнага захаду арэалу полацкіх крывічаў на паўднёвы ўсход арэалу віцебска-смаленскіх крывічаў.

На паўднёвым захадзе арэалу полацкіх крывічаў лакалізаваны тып ІІІ пахавальных галашэнняў[176].

У цэлым, праведзенае на беларускай тэрыторыі старажытнага рассялення крывічаў даследаванне функцыянальнай, структурнай, стылявой тыпалогіі каляндарна-земляробчых сямейна-абрадавых (вясельных, пахавальных) напеваў паказвае:

– пры найбольшай шчыльнасці ў крывіцкім арэале абрадавых напеваў і найбольшай іх дыферэнцыраванасці этнамузычны матэрыял разам з тым дастаткова выразна акрэслівае дзве часткі дадзенага арэалу – полацкую (заходнедзвінскую) і віцебска-смаленскую (заходнедзвінска-дняпроўскую):

– у сферы каляндарнай гэта праяўляецца ў перавазе ў полацкай або віцебска-смаленскай частках крывіцкага арэалу тых ці іншых тыпаў калядных (напрыклад, «цярэшкі» ў полацкай, абходных калядак у віцебска-смаленскай), валачобных, веснавых купальскіх, жніўных, дажыначных, яравых, восеньскіх напеваў. Таксама і ў наяўнасці асобных локусаў спецыфічных напеваў (напрыклад, ільнавых у полацкай, веснавой талакі ў віцебска-смаленскай частках);

– у сферы сямейна-абрадавай гэта адбіваецца на змяненні інтанацыйна-меладычнага комплексу ў васьмі агульнапашыраных структурна-рытмічных тыпаў вясельных напеваў па меры іх прасоўвання з часткі віцебска-смаленскіх у частку полацкіх крывічаў (урачыста-прыўзняты гукавы вобраз змяняецца лірыка-апавядальным). Пры гэтым на тэрыторыі полацкіх крывічаў распаўсюджаны спецыфічныя (песеннага характару) вясельныя галашэнні, на тэрыторыі крывічаў смаленска-віцебскіх вясельныя галашэнні тоесныя галашэнням пахавальным;

– беларуская частка крывіцкага арэала ўяўляе найбольш яскрава выражаную зону старажытнасці на тэрыторыі Беларусі, якая ў цэлым адзначана лінгвістамі як «архаічны пояс» у славянскім кантынууме;

– «беларускі стыль» выходзіць за межы адміністратыўна-дзяржаўных граніц Беларусі і паступоваразмываецца па меры яго набліжэння да перыферыі яе этнічных граніц.

## КОНЦЕПТЫ «ПУНЯ» И «ОДРИНА» В ТРАДИЦИОННОЙ МАТЕРИАЛЬНОЙ КУЛЬТУРЕ ВОСТОЧНЫХ СЛАВЯН

***канд.ист. наук, доц. С.А. МИЛЮЧЕНКОВ***
***(Институт искусствоведения, этнографии и фольклора им. К. Крапивы НАН Беларуси, Минск)***

*Исследуются происхождение и особенности семантики названий пуня и адрына, рассматриваются ареалы их распространения в Восточной Европе.*

Традиционная материальная культура белорусов, большей части русского и украинского народов развивалась в течение многих веков в близких природно-климатических условиях лесной полосы Восточной Европы на основе общего типа хозяйственной деятельности. Под влиянием потребностей первичного жизнеобеспечения в ней сформировался архитектурный комплекс сельских усадеб. В его состав входили постройки разного функционального назначения, среди которых повсеместно распространенными наряду с жилищем были сооружения

[175] Апісанне тыпавых напеваў беларускага вяселля гл.: Вяселле: Мелодыі. – Мінск, 1990. – С. 5 – 37.
[176] Апісанне тыпавых напеваў беларускага пахавальнага абраду гл.: Т.Б. Варфаламеева. Сямейна-абрадавы цыкл // Беларусы. Т. 11. Музыка. – Мінск, 2008. – С. – 69 – 71.

земледельческого и животноводческого профиля. Все они имели определенные названия, выполнявшие знаково-опознавательную, информационную и другие функции. Благодаря ним осуществлялась идентификация архитектурных объектов, фиксировалось понятийное содержание номинаций.

Названия *пуня* и *одрина* часто упоминаются на территории Беларуси в инвентарях помещичьих имений и фольварков второй половины XVI – XVIII вв., а также в письменных источниках судебного характера на старобелорусском, старопольском и польском языках. Они относятся к сельскохозяйственным постройкам земледельческой и животноводческой отраслей и являются локальными обозначениями строений одного архитектурного типа. Не случайно в описании имения М. Огинского 1563 г. выражением *пуни або одрины* подчеркивается тождественность или синонимичность данных терминов в старобелорусском языке [6, с. 389].

Идентифицировавшиеся ими сооружения земледельческого профиля располагались в специальной производственной зоне. Она обозначалась в составе усадебной застройки XVI – XVII вв. обычно термином *гумно*, а в XVIII в. – также *gumnisko* (*гумниско*), *gumniszcze* (*гумнище*). Здесь находились *одрины* (*одрыны*) и *пуни*, возведенные с применением разных строительных материалов – хворостяные (*форостеные*) и бревенчатые (*с бервенья рубленые*). Названия *пуня* и *одрина* нередко дополнялись уточнениями *молотенная*, *для молотьбы*, *для збожа*, *на солому*, *соломой напханая* и т.д. [6, с. 385]. Это свидетельствует о высоком функциональном потенциале этих построек и дает представление о формах их специализации. Номинации *пуня* и *одрина* часто сопровождались также определением *сенная* или дополнением *на сено*. Иногда они пояснялись словом *сенник*. Так, в инвентаре имения Головачи Гродненского повета в 1798 г. была сделана запись – *odryna czyli siennik na skład siana* (одрына или сенник для складывания сена) [6, с. 389]. Семантическая модель данного выражения типична для образования новых терминов, дающих недвусмысленное представление о функциональном назначении построек.

Следует отметить, что сведения о характере организации зоны для обработки продукции земледелия, функциональной специфике и названиях сельскохозяйственных построек в крестьянских дворах периода позднего феодализма встречаются в исторических источниках фрагментарно. Вместе с тем они дают полное основание утверждать, что в культурной терминологии названия объектов земледельческой отрасли у разных социальных групп населения были идентичными.

Все архитектурные сооружения аграрного профиля с соответствующими названиями, известные в позднефеодальном хозяйстве, существовали в этнокультурном ареале Беларуси и в последующие исторические периоды. В восточных областях они были широко распространены до проведения массовой коллективизации сельского хозяйства в 30-х годах XX в. В западных областях, которые вошли в состав БССР в сентябре 1939 г., традиционные постройки земледельческого комплекса нередко встречались еще во второй половине XX в.

В диалектной форме культурной терминологии их местонахождение обозначается словами *гумно*, *гумнішча* и *гумніско* [2, с. 791, 792; 10, с. 503, 504]. Известно большое количество народных дефиниций, которыми сопровождается в этом понятии название *гумно*. Типичными по своему смыслу являются определения – *плошча, дзе знаходзяцца ток, азярод, пуня*; *пляцоўка перад клуняй*; *пляцоўка каля пуні, дзе сушаць сена.* Редко встречаются объяснения следующего рода – *месца, адведзенае для складання снапоў у сцірты пад адкрытым небам.* Такие же понятийные термины используются в этнокультурных ареалах соседнего зарубежья [7, с. 110; 8, с. 230; 15, с. 200]. В частности, в формах *гумнище* и *гумно* они известны на территории Украины, в Смоленской, Псковской, Тверской и других областях России, *gumno* – в Польше.

В гуменном комплексе построек традиционного крестьянского хозяйства Беларуси *пуня* и *адрына* служили преимущественно для хранения и реже обработки продукции растительного происхождения. Они имели массовое распространение, за исключением центральной и южной частей Брестчины, а также ряда соседних районов Гомельщины [2, с. 794 – 797; 3, к. № 236; 4, к. № 13, 14].

Названия *пуня* и *адрына* также имеют отчетливую географическую локализацию. Они распространены в северо-восточном и юго-западном регионах Беларуси соответственно, и указывают на срубное и каркасное схворостяным и лозовым покрытием стен строение для складывания сена, иногда также соломы. В этом же значении соответственно на востоке Центральной Беларуси и в Поднепровье в этноконтактной зоне с русским населением параллельно употребляется термин *сянніца* (*сяннік*), а в южной полосе – *сяльнік.*

Северо-восточный белорусский регион является одним из крупнейших этнотерриториальных сегментов в ареале названия *пуня*, который охватывает значительное пространство на северо-западе Восточной Европы, включая соседние русские и прибалтийские области. В традиционном аграрном комплексе Псковской, Тверской, Новгородской, Брянской, Смоленской и других областей России, как и в Беларуси, термин *пуня* чаще всего относится к строению для складывания сена [10, с. 125, 126].

Географическая зона номинации *адрына* в значении постройки аграрной отрасли по своим параметрам значительно меньше. Она пересекает среднюю полосу Беларуси в диагональном направлении с запада Гродненского Понеманья на юго-восток Припятского Полесья. При этом на противоположных полюсах (север Гродненской и юго-восток Гомельской области) располагаются районы миксации названий *адрына* и *пуня.* В виде небольшого этнотерриториального сегмента в ареал *адрына* входит юго-восточное пограничье Литвы [18, р. 163; 17]. В местные говоры обозначение *адрына* в формах *adryna*, *adrynia*, *adrynėlė* заимствовано из белорусской лексики.

В народной терминологии названия *пуня* и *адрына* относятся также к специальному строению, предназначенному для молотьбы и хранения снопов зерновых культур. В таком понятии они известны, главным образом, в северной половине Беларуси на территории Витебской и Минской области, некоторых соседних районов Гродненской и Могилевской области, на востоке Гомельщины, а также в России. При этом в ряде населенных пунктов Браславского, Берестовицкого, Воложинского, Логишинского, Копыльского, Пинского, Россонского и других районов *пуня* или *адрына*, с одной стороны, и *гумно*, *клуня* или *ток*, с другой стороны, считаются не более чем разными названиями одной и той же постройки [2, с. 790 – 797].

Названия *одрина* и *пуня* в материальной культуре восточных славян относятся также к строениям животноводческой отрасли. В памятниках деловой старобелорусской письменности они часто сопровождаются дополнениями *што быдло загоняють*, *для быдла*, *телять* и т.д. [6, с. 389]. В разных значениях эти термины использовались для фиксации построек также на территории Литвы. Они могли одновременно входить в состав двух – трехсловных обозначений разных по своей функциональной специфике помещений одного и того же хозяйственного комплекса. Так, в судебной записи 1576 г. о поджоге помещичьего двора в Слонимском повете при перечислении уничтоженного огнем недвижимого имущества номинация *одрина* с помощью разных дополнений синхронно употребляется в одном контексте для идентификации нескольких видов сооружений. Она указывает на сеновал, конюшню и стойло для скота [6, с. 389].

Связь названий *пуня* и *адрына* с сооружениями животноводческой отрасли прослеживаются также в диалектной форме культурной терминологии восточных славян. Так, во многих сельских поселениях на востоке Беларуси в Краснопольском, Кричевском, Костюковичском, Чауском, Чечерском и Шкловском районах Могилевской области, а также в некоторых сельских населенных пунктах соседней Гомельщины термин *пуня* относится к постройке для содержания крупного рогатого скота. Внутренний объем этого сооружения разделяется проходом на две части – стойло для животных и *сенник*, на месте которого может находиться также конюшня. В таком случае сенохранилище размещается на *вышках*, то есть на потолочном перекрытии из жердей [5, с. 27, 28, 35; 2, с. 796].

Название *пуня*, соотносящееся с постройкой для содержания скота, распространено на северо-западе Восточной Европы в общем территориальном массиве данной номинации вместе с ее другими значениями. Оно зафиксировано в народной терминологии Брянской, Смоленской, Тверской, Новгородской, Ленинградской, Костромской и Калужской областей, а также на востоке Литвы [10, с. 125, 126; 18, р. 163, 164; 16; 17].

Анализ всей совокупности культурных исторических и этнографических реалий, к которым относится номинация *пуня*, свидетельствует о синхронной множественности ее понятия в письменной и диалектной формах терминологии. Это название лингвисты сближают с древнеиндийским словом *punāti* (провеивает). Исходя из архитектурного архетипа, буквальный первоначальный смысл названия *пуня* означает постройка с плетеными стенами, внутри которой веет ветер.

Исключительно по признаку наибольшей близости к индоевропейской основе обычно считается, что оно заимствовано из литовского языка от *pũne*, *pũnia* (хлев) [13, с. 407]. Между тем факты культурного и географического характера говорят не в пользу данной версии. К ним относятся территориальная ограниченность и незначительность распространения термина *пуня* в Литве, местоположение этой зоны в виде периферийной юго-западной оконечности обширного восточноевропейского ареала данной номинации и фрагментарность в нем литовской семантики.

С учетом перечисленных фактов можно сделать вывод о том, что название *пуня* могло быть заимствовано славянами в начале расселения на северо-западе Восточной Европы только у проживавших здесь и частично ассимилированных ими автохтонных балтских племен. Вместе с тем не исключено, что оно имеет восточнославянское происхождение и является не более чем балтизмом в белорусской и русской лексике. Анализ географии обозначения *пуня* одновременно показывает, что на территории Литвы имело место обратное диалектное заимствование этого термина с северо-западной восточнославянской периферии.

Название *адрына* (*одрына*) в значении постройки для содержания крупного и мелкого рогатого скота распространено в общем ареале этой номинации, главным образом, в западной части Гомельской области. В уменьшительной форме *одрынкі* (мн.ч.) оно относится здесь к огороженному месту в лесу, где во время паводка весной стояли коровы [12, с. 248]. В понятии большого хлева для рогатого скота, обычного хлева и стойла для всякого скота *одрина* известна в Тверской области России, некоторых районах Западной Украины и Карпатах [9, с. 64; 1, с. 273].

Лингвисты обычно рассматривают этот термин совместно с однокоренным юго-западнославянским словом *одр* (ложе, помост) от старославянского *одръ* из праславянского *o-drъ* (настил вокруг дерева) [13, с. 123]. Следует, однако, отметить, что в славянском ареале номинация *адрына* (*одрина*) географически очень далека от названия *одр* и не имеет с ним непосредственной семантической связи. На основе белорусских этнографических реалий она более убедительно реконструируется через *odrynъ* с первоначальным значением «огороженный большими палками в поле или лесу загон для скота» из древнего сложения приставки *о-* и именной старославянской формы *drynъ*, «большая палка, кол», которая восходит к индоевропейскому *dru-* (дерево).

Диалектные термины в значениях большая палка, кол, жердь, шест, дубина, образованные от старославянского слова *drynъ*, которое может быть производным от индоевропейского *drūno*, имеются в белорусской (*дрын*), русской (*дрын*), украинской (*дрін*) лексике [14, с. 145]. Семантическая связь с ними у номинации *адрына* (*одрына*) отчетливо выявляется в контексте понятия особенностей известного по историческим и этнографическим материалам архетипа

строительной конструкции сооружения, к которому относится данное название. Это – четырехугольная в основании крытая легкая постройка, объемное пространство которой огорожено по периметру большими палками или кольями в форме каркаса стен с покрытием из хвороста, других древесных и растительных материалов. Узкая зона распространения и особенности географии названия *адрына* (*одрина*) указывают на то, что оно является локальной восточнославянской инновацией с доминантой оформления полного спектра семантики на территории Беларуси.

Анализ исторических и этнографических источников показывает, что концепты *пуня* и *одрина* относятся к идентичным по форме и понятию, древним по происхождению культурным реалиям. Их региональное развитие, исходя из этимологии данных номинаций, протекало в славянской этнокультурной среде первоначально соответственно с участием в этом процессе автохтонного балтского населения и без него. Оно осуществлялось на основе единого архитектурного архетипа, который был адаптирован в функциональной системе сельскохозяйственного комплекса восточных славян в качестве построек трех разновидностей – для содержания скота, для складывания сена и соломы, для молотьбы и хранения хлебных снопов. Такого рода многообразная производственная дифференциация строений с одинаковыми названиями имела вариативное локально-территориальное распространение. В небольшом по своей номенклатуре хозяйственном крестьянском комплексе в пределах сельского населенного пункта она синхронно не встречалось. При этом понятие концептов *пуня* и *одрина* было единым, ограничиваясь одним определенным значением. Вместе с тем одновременное использование одинаковых базовых номинаций для обозначения многочисленных построек земледельческого и животноводческого профиля наблюдалось в составе помещичьих усадеб. Оно свидетельствовало об изначальном межотраслевом синкретизме этих хозяйственных сооружений.

Номинативная нерасчлененность архитектурных реалий, или полисемантичный характер сопровождающих их названий, явление, нередко встречающееся в традиционной культуре восточных славян. Она прослеживается также у разных по своему утилитарному назначению сооружений, к которым относятся термины *лазня*, *камора*, *истобка* и другие.

ЛИТЕРАТУРА

1. Древнее жилище народов Восточной Европы / М.Г. Рабинович (отв. ред.). – М.: Наука, 1975. – 304 с.
2. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы: Уступныя артыкулы, даведачныя матэрыялы і каментарыі да карт / пад рэд. Р.І. Аванесава, К.К. Крапівы і Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск: Выд. Акад. нав. БССР, 1963. – 971 с.
3. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы / пад рэд. Р.І. Аванесава, К.К. Крапівы і Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск: Выд. АН БССР, 1963. – 338 к.
4. Лексіка гаворак Беларускага Прыпяцкага Палесся. Атлас. Слоўнік. / Г.Ф. Вештарт [і інш.]. – Мінск: Права і эканоміка, 2008. – 353 с.
5. Милюченков, С.А. Натурное исследование народной архитектуры и хозяйственно-бытовой среды белорусов / С.А.Милюченков. – Минск: Право и экономика, 2009. – 58 с.
6. Милюченков, С.А. Этнокультурный комплекс и семантика названий хозяйственных построек в помещичьих усадьбах Беларуси 2-й половины XVI – XVIII вв. / С.А. Милюченков // Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі. Вып. 8 / А.І.Лакотка (навук. рэд.). – Мінск: Права і эканоміка, 2010. – С. 385 – 393
7. Русские. Историко-этнографический атлас / гл. ред. С.П.Толстов. – М.: Наука, 1967. – 360 с.
8. Словарь русских народных говоров (далее СРНГ). Вып. 7 / Ф.П. Филин (гл. ред.). – Л.: Наука, 1972. – 356 с.
9. СРНГ. – Вып. 23 / Ф.П. Сороколетов (гл. ред.). – Л.: Наука, 1987. – 376 с.
10. СРНГ. – Вып. 33 / Ф.П. Сороколетов (гл. ред.). – СПб.: Наука, 1999. – 362 с.
11. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / Ю.Ф.Мацкевіч (рэд.). – Мінск: Навука і тэхніка, 1979 – 1986. – Т. 1. – 1979. – 512 с.
12. Тураўскі слоўнік: У 5 т. 1982 – 1987. Т. 3 / А.А. Крывіцкі (рэд.). – Мінск: Навука і тэхніка, 1984. – 311 с.
13. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка: в 4 т. /М.Фасмер. – 2-е изд., стер. – М.: Прогресс, 1986 – 1987. – 4 т.: Т. 3. – 1987. – 832 с.
14. Этимологический словарь славянских языков (Праславянский лексический фонд). Вып. 5 / под ред. О.Н.Трубачева. – М.: Наука, 1978. – 232 с.
15. Этнография восточных славян: Очерки традиционной культуры / редкол.: Ю.В. Бромлей (гл. ред.). – М.: Наука, 1987. – 558 с.
16. Lietuvių tarmės: kompiuterinis žodynas. – Vilnius: LKI, 2002. – 1 d.
17. Lietuvių kalbos žodyno (t. I – XX, 1941 – 2002). – Elektronio varianto 1 leidimas (2005).
Merkienė, R. Gyvulių ūkis XVI a. – XX a. pirmojoje pusėje/R. Merkienė.–Vilnius: Mokslas, 1989. – 237 p.

# ШКОДАНОСНАЯ МАГІЯ Ў ТРАДЫЦЫЙНЫМ ВЯСЕЛЬНЫМ АБРАДЗЕ БЕЛАРУСАЎ ПАДЗВІННЯ: СВЕТАПОГЛЯДНЫЯ АСНОВЫ І МЕХАНІЗМЫ ДЗЕЯННЯ (ДР. ПАЛ. XIX – ПЕРШ. ПАЛ. XX СТСТ.)

***В.І. МІШЫНА, П.І. МІШЫН***
***(Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт)***

*На аснове этнаграфічных і фальклорных матэрыялаў ажыццяўлена спроба аналізу светапоглядных асноў і механізмаў дзеяння шкоданосных магічных прыемаў ў традыцыйным вясельным абрадзе беларусаў Падзвіння (др. пал. XIX – перш. пал. XX стст.). Зыходзячы з асноўных палажэнняў канцэпцыі А. ван Генепа аб рытуалах пераходу, аўтары разглядаюць як прыемы шкоданоснай магіі, накіраваныя непасрэдна супраць маладых (у тым ліку і комплекс павер'яў і ўяўленняў аб пярэваратніцтве маладых), так і тыя, аб'ектам якіх з'яўляецца дарога, па якой маладыя перамяшчаюцца. Прасочваецца ўзаемасувязь названых магічных прыемаў са спецыфікай рытуальнага статусу лімінальных персанажаў і ўвасабленнем ідэі пераходу праз міфалагему дарогі.*

У этнаграфічных апісаннях традыцыйнага вяселля і запісах народнай прозы, якія паходзяць з тэрыторыі Падзвіння, даволі часта можна сустрэць звесткі пра выпадкі шкоданоснага магічнага ўздзеяння на маладых і іншых удзельнікаў вясельнага абраду. Як правіла, у свядомасці інфармантаў выпадкі «чараўніцтва» на вяселлі ўстойліва звязваюцца з разнастайнымі нягодамі ў наступным жыцці маладой пары – хваробамі, адсутнасцю або смерцю дзяцей, разбурэннем сям'і і г.д. Акрамя таго, як дазваляюць меркаваць этнаграфічныя матэрыялы, даволі распаўсюджанай на Падзвінні была група павер'яў, звязаных з пераўтварэннем вясельнага поезда і, у прыватнасці, маладых, у ваўкалакаў. У найбольш падрабязным выглядзе названыя павер'і былі прыведзены М. Я. Нікіфароўскім [1, с. 253 – 254; 2, с. 67 – 70], сустракаюцца яны і сярод этнаграфічных матэрыялаў, зафіксаваных сучаснымі збіральнікамі [3, с. 29, 52].

Вясельнае чараўніцтва і вясельнае пярэваратніцтва не з'яўляюцца рэгламентаванымі часткамі традыцыйнага вясельнага рытуалу, хутчэй яны ўносяць у яго ход элемент дэструкцыі. І разам з тым, пашыранасць і даволі значная ўстойлівасць сюжэтаў падобнага роду сведчыць аб існаванні пэўнага феномену шкоданоснай магіі ў рамках традыцыйнага вясельнага рытуалу і ў комплексе звязаных з ім вераванняў і ўяўленняў.

Мэта дадзенай працы – аналіз узаемасувязей прыемаў шкоданоснай магіі са структурай і сімволікай традыцыйнага вясельнага рытуалу беларусаў Падзвіння, выяўленне светапогляднай асновы шкоданосных магічных прыемаў і механізмаў іх прымянення.

Адна з ключавых ідэй рытуалаў пераходу, да ліку якіх належыць і вяселле, – змена соцыякультурнага статусу яго галоўных удзельнікаў. Яшчэ напачатку XX ст. французскі даследчык А. ван Генеп распрацаваў трохчастковую схему рытуалаў пераходу, вылучыўшы ў іх стадыі аддзялення, лімінальнасці і уключэння. Паступова пераадольваючы гэтыя стадыі, галоўны ўдзельнік рытуалу (лімінальны персанаж) пазбаўляецца ўсіх прыкмет старога статусу і набывае характарыстыкі, уласцівыя новаму [4, с. 15 – 16]

На сярэдняй – лімінальнай – стадыі ўдзельнік рытуалу не валодае ні характарыстыкамі старога, ні рысамі новага статусу, а значыць, пазбаўлены прыкмет культуры ўвогуле і можа быць суаднесены са сферай «чужога», «дзікага», «прыроднага».

Адсутнасць вызначаных характарыстык робіць лімінальны персанаж асабліва ўспрымальным для рознага роду ўздзеянняў. Таму ў кантэксце рытуалаў пераходу актыўна выкарыстоўваюцца прыемы магічнага ўздзеяння на галоўнага ўдзельніка рытуалу з мэтай фарміравання зададзеных якасцей і уласцівасцей (напрыклад, дзеянні бабкі-павітухі, якая «доделывает» дзіця) [5, с. 44]. Але адначасова лімінальны персанаж у такім стане падвержаны і негатыўнаму ўздзеянню, якое можа быць як спантаным, так і мэтанакіраваным. Варта адзначыць, што характарыстыкамі лімінальнасці валодаюць не толькі галоўныя персанажы рытуалу, але і іншыя яго ўдзельнікі. У сувязі з гэтым і яны могуць стаць аб'ектамі пазітыўнага або негатыўнага магічнага ўздзеяння.

Да ліку найбольш распаўсюджаных уздзеянняў адмоўнага характару варта аднесці «сурокі», ці «зглаз». Аналіз этнаграфічных матэрыялаў дазваляе меркаваць, што ахвярамі сурокаў мог стаць любы чалавек, але найбольш падвержанымі ім былі менавіта тыя, хто знаходзіўся ў лімінальным стане (найперш дзеці, а таксама і маладыя). М.Я. Нікіфароўскі адзначаў, што «з'яўленне нявесты ў грамадскіх месцах (у царкве, на кірмашы, на вечарынцы і інш.) можа быць небяспечным для яе, таму што тут цяжка ўберагчыся не толькі ад чарадзейскай псоты, але і ад простага, незламыснага заглядвання цікаўных, сярод якіх можа адшукацца чалавек з ліхім вокам» [2, с. 56]. Таму на ўсіх этапах вяселля прадпрымаецца шэраг захадаў апатрапейнага характару менавіта «ад зглазу». Гэта, у першую чаргу, прымяненне разнастайных прадметаў у якасці абярэгаў. Найчасцей гэта шпілька, ці іголка, уваткнутая ў адзенне галоўкай уніз[177], акрамя таго – пялюшка незаконнароджанага, якую

[177] Запісала студ. ПДУ Зайцава у 2007 г. А. С. ад Дзятлоўскай С.І., 1935 г. нар., в. Багданава, Бешанковіцкі р-н; студ. ПДУ Міхайлоўскі В. у 2007 г. ад Міхайлоўскай Б.М, 1937 г.нар., в. Дудалі, Браслаўскі р-н.

маладая павінна насіць на грудзях пад адзеннем [2, с. 56], цыбуля ці часнык [2, с. 359], вялікая чырвоная хустка, «распушчаная ад галавы да пят» [6, с. 85].

Спецыфіка рытуалаў пераходу і змены статусаў лімінальнага персанажа, на наш погляд, абумоўлівае і бытаванне уяўленняў і вераванняў, звязаных з ваўкалакамі. Сувязь лімінальнага персанажа са сферай «чужога», «нечалавечага» дазваляе ўжываць для яго абазначэння – сярод іншых спосабаў – і «ваўчыную» сімволіку, так як і вобраз воўка суадносіцца з названай вобласцю па шэрагу характарыстык [7, с. 155]. У прыватнасці, у вясельным фальклоры прысутнічае адпаведнае найменне маладой: «Да прывязлі з цемнага бору ваўчыцу / На народ гляніць – аж вяніць, баіцца» [8, с. 131].

Маладыя (шырэй – іншыя ўдзельнікі вясельнай партыі) прасторава і статусна на працягу пэўнага прамежку часу знаходзяцца ў сферы «чужога», але «нармальны» ход вясельнага рытуалу прадугледжвае абавязковае вяртанне іх у сферу «свайго». Аднак ажыццяўленне чарадзейства над вясельным поездам робіць магчымым іх затрыманне у сферы «нечалавечага», а значыць, у лімінальным стане, які і ўвасабляецца праз вобраз ваўкалака, што мае знешні воблік ваўка, але паводзіны, свядомасць захоўвае чалавечую: «Ваўкалакі харчуюцца выключна раслiннай ежай. ... Толькі ў дні разгавення ваўкалакі ядуць мяса, здабытае драпежніцтвам, але не ў родным і блізкім сяле, а ў аддаленых месцах, пры гэтым яны раўнамерна дзеляць мясную здабычу, якой бы малой яна ні была. Лад жыцця ваўкалакаў адрозніваецца ад звычайнага воўчага. Так, ваўкалакі выюць на ўсход ці ў бок сваіх весак, калі кладуцца спаць і ўстаюць – гэта малітва; пад галавой уладкоўваюць узгалоўе...; раніцой мыюцца, паводзячы мордай па роснай траве...; у першую веснавую пару яны разграбаюць зямлю – аруць» [2, с. 68].

Спосабы пярэваратніцтва удзельнікаў вясельнага поезду ў ваўкалакаў таксама насычаныя сімволікай, «чужога». Гэта, напрыклад, стварэнне варот з арабінавых дрэваў на дарозе, па якой мяркуе ехаць вясельны поезд, выкарыстанне крыві старога пеўня, які не спявае, ці воўка, [1, с. 253 – 254]. Звяртае на сябе ўвагу і ўказанне на месца, найбольш зручнае для ажыццяўлення пярэваратніцтва – «дзе сустрэліся і пабіліся вясельныя паязжане» [2, с. 67], г. зн. там, дзе ўжо калісьці быў парушаны нармальны ход рытуалу.

У сваю чаргу, спосабы, што выкарыстоўваюцца для разбурэння чараў, заснаваны на выкарыстанні прадметаў з яскрава выяўленай сімволікай прыналежнасці да сферы «чалавечага» – пояс, прадметы адзення, дзяжа, хлебнае цеста. Акрамя таго, вяртанне зачараваным чалавечага вобліку магчыма з дапамогай прыемаў, што сімвалізуюць або імітуюць фізічнае разбурэнне «знешняй» абалонкі – утыканне нажа, разрыванне ніткі ці адзення [1, с. 255; 2, с. 68 – 69].

Звяртае на сябе ўвагу і спосаб зняцця чараў праз стварэнне сітуацыі выканання рытуалу, што як бы аднаўляе яго нармальны ход: «*Патрэбна заіграць на скрыпцы вясельныя песні... Як толькі зайграецца месца песні, на якім заспела зачараванне, ваўкалакі радасна завываюць і становяцца людзьмі*» [2, с. 68 –69]; «*Ну дык гэдак яны хадзілі, мусіць, месяцаў пяць, многа дзе іх відзілі. А тады ў адну дзярэўню прышлі, і там іх увідзілі, выскачылі, ці там баба, ці там хто, вынеслі гэту дзежку, палажылі кажух і піялі свадзьбу, і гэты ўсе перавярнуліся ў людзей*» [3, с. 29]. Дарэчы, з гэтай жа мэтай выкарыстоўваюцца і іншыя вясельныя атрыбуты – кавалак каравая, дуга, якая была ў першым экіпажы зачараванага поезда [2, с. 69].

Сярод шкоданосных магічных уздзеянняў на вяселлі можна вылучыць асобную групу прыемаў, якія не накіраваны непасрэдна на лімінальных персанажаў, іх галоўным аб’ектам з’яўляецца дарога, па якой удзельнікі рытуала перамяшчаюцца паміж рытуальнымі локусамі.

Падобныя магічныя прыемы маюць цесную сувязь з прасторавым кодам, які ў рытуалах пераходу выконвае адну з найважнейшых функцый. Менавіта з яго дапамогай ідэя змены сацыякультурнага статусу лімінальных персанажаў адлюстроўваецца найбольш яскрава [9, с. 89 – 90].

Таму рэальныя прасторавыя перамяшэнні вясельнага поезда набываюць у кантэксце рытуалу глыбокае сімвалічнае значэнне, у сувязі з чым локусы рэальнай прасторы аказваюцца цесна звязанымі з локусамі прасторы міфапаэтычнай.

Найбольш глыбокае сімвалічнае асэнсаванне атрымлівае ў вясельным рытуале дарога маладых ад да вянца/ад вянца і ў дом маладога. Менавіта яна ў найбольшай ступені суадносіцца з ідэяй жыццевага шляху маладой пары, а таму ўсе дарожныя падзеі, прыкметы, здарэнні набываюць адмысловае сімвалічнае значэнне, праецыруюцца на ўвесь будучы лес маладых. У сувязі з гэтым дарога таксама становіцца месцам актыўных магічных дзеянняў, як станоўчага, так і адмоўнага характару, якія маюць на мэце аказанне пэўнага ўплыву на ўсе будучае жыцце маладых.

Шырока распаўсюджанай з’ўлялася забарона пераходзіць дарогу вясельнаму поезду, што абазначала кепскае жыцце маладых у будучым. Адметна, што зафіксаваныя традыцыяй спосабы наўмыснага чараўніцтва у адносінах да маладых таксама маюць у сваей аснове пераход дарогі ці іншы спосаб яе, так бы мовіць, «перакрэслівання», што наўпрост асацыюецца з аналагічным перакрэсліваннем уласна жыццевага шляху маладых. Як адзначае Т.Б. Шчапанская, «мэта гэтых дзеянняў, што парушаюць шлях, – перапыніць будаўніцтва адносін у новай сям’і, блакіраваць ужо сам праект гэтых адносін» [10, с. 360]. Яна ж указвае, што «чарадзейскія дзеянні парушалі яшчэ неаформлены вобраз будучага хатняга жыцця ў самым пачатку яго рытуальнага канструявання, на дарозе» [10, с. 361]. У згаданым вышэй спосабе перава-

рочвання вясельнага поезду пры дапамозе варот з рабінавых дрэваў выклікае цікавасць акалічнасць стварэння іх, так бы мовіць, у нетыповым для гэтага локусе – не ў якасці граніцы двара, а цалкам у сферы «чужога». Такое нерэгламентаванае размяшчэнне варот, выкарыстанне для іх стварэння дзікарослых дрэваў і робіць магчымым само абарачэнне вясельнага поезда.

Сучасныя этнаграфічныя матэрыялы сведчаць аб распаўсюджанасці на тэрыторыі Падзвіння перакананння, што маладыя кепска будуць жыць, «калі выяжджаюць ужо малады з маладухай на дарогу, а там хто-небудзь катом за заднія ногі возьмець ды перадзярэць дарогу»[178]. Пры гэтым у свядомасці інфармантаў гэта ўстойліва звязваецца з негатыўным уздзеяннем: «Кот – гэта нешта плахое»[179]. Найчасцей такі спосаб чараўніцтва прыпісваецца дзяўчыне, калісьці пакінутай жаніхом: «вот, напрымер, ен любіцца с адной, ну а жэніцца с другой. ... А ен тады як ужо вязець маладуху, яна тады ката за хвост цігаіць па дарозе, каб гаворыць, драліся ўсю жысць»[180]

Тая ж ідэя дэструктыўнага ўздзеяння на дарогу ўвасабляецца пры дапамозе асобных прадметаў, што маюць негатыўную сімволіку: хлебнай «калатоўкі», старога веніка, мятлы, памяла, зблытаных нітак, якія падкідваюцца пад ногі маладым [2, с. 63].

У сувязі з матывам перакрэслівання дарогі неабходна звярнуць увагу на шырокае бытаванне на тэрыторыі Падзвіння звычаю вясельнай «рагаткі» («брамы»). У адрозненне ад вышэйпрыведзеных шкоданосных прыемаў, у дадзеным выпадку перагароджванне дарогі з'яўляецца цалкам санкцыянаваным традыцыяй, больш таго, нават пажаданым. Да гэтага часу існуе перакананне, што чым больш маладым зладзілі «рагатак», тым больш шчаслівым будзе іх жыццё. Як правіла, «рагатка» ўяўляла сабой сімвалічную ці рэальную перашкоду, абавязковай умовай пераадолення якой быў выкуп. Традыцыя катэгарычна забараняла маладым абмінаць, і, тым больш, сілком разбураць пастаўленую перашкоду. Звычайна гэта тлумачылася тым, што «сустракалі маладых з іконай, распяццем, якія нельга было ігнараваць» [11, с. 233], бо «*Бога абмінаць ніколі нельзя*», «*гэта ты іх устрачаеш з Богам, жылаіш ім, і яны ж, кажды, хто ўстрычаіць, жылаюць усім дабра*»[181]. У народнай свядомасці парушэнне дадзенага патрабавання звязвалася з рознымі жыццевымі нягодамі маладых у будучым жыцці, і не толькі зямным: «*Стула і ікона – ўсе гэта «рагатка» звалася. Ужо не аб'едзеш. Ікону аб'едзеш – тады грэх табе будзіць. Будзіш у пеклe*»[182]; «*Тут было – каля нас паставілі рагатку, ну а ен з другой дзярэўні ехаў... А ен ехаў, ехаў, прыіжджаіць і – турзь каня так! – і конь прыгнуў, быстрэй і паехаў. ... Ну і ні павязло яму. Первыя роды – жонка памерла*»[183].

У дадзеным выпадку магчыма дапусціць, што ў аснове звычаю вясельнай «рагаткі» ляжаць тыя ж уяўленні аб лесавызначальным характары дарожных падзей. Верагодна, у дадзеным выпадку тыя, хто ладзяць «рагатку», могуць быць аднесены да катэгорыі «сустрэчных» персанажаў, з якімі маладыя ўступаюць у адносіны рытуальнага дарабмену і выкупляюць не толькі права праехаць далей па дарозе, а фактычна, і сваю будучую «долю».

Яшчэ адзін даволі распаўсюджаны на тэрыторыі Падзвіння спосаб шкоданоснага магічнага ўздзеяння – зачароўванне коней, якія вязуць вясельны поезд: «варта адшукаць гарохавы стручок з дванаццццю зернямі і пакласці яго ў воз князя і княгіні – коні не крануцца з месца, пакуль стручок не будзе адшуканы і выкінуты. Часам для гэтай жа мэты бывае дастаткова стручка з дзевяццю зернямі: яго можна пакласці ў экіпаж, але можна закапаць на дарозе, са словамі: «*дзевіць бочак гароху, дзісятая нявеста – нярушціся, коні, з места*» [2, 64]. Амаль аналагічныя павер'і сустракаюцца і сярод сучасных экспедыцыйных запісаў: «гарох сыпалі, шчыталі ў стручку, калі дзевяць гарашын... «*восем гарашын, дзявятая нявеста і коня ня з места», каб конь не пашоў, казалі*»[184]. Іншы запіс не канкрэтызуе механізму ўздзеяння: «*нешта зробілі, што конь з места ні крануўся. Пена з яго верніць, а ен з места ні кратаецца»[185]. Адметна, што ў дадзеным выпадку чараўніцтва прыпісваецца жанчыне, якая «са света, ... была сюды замуж прыйшоўшы... неяк так па-рускі «разгаварівала*»[186].

М.Я. Нікіфароўскі зафіксаваў гэтыя ўзоры як «жартоўныя павер'і» [2, с. 64], але, адпаведна логікі разгортвання рытуалу, відавочна мэта падобнага магічнага прыему: стварэнне на шляху маладых «не-

[178] Запісалі Мішына В.І., Мішын П.І. у 2007 г. ад Чэклін А.П., 1930 г. нар., в. Макараўшчына, Лепельскі р-н.

[179] Запісалі Мішына В.І., Мішын П.І., Халадкова А.У. і студ. ПДУ Шыпіла У., Мілянцей А. у 2007 г. ад Літвін Марыі Пятроўны, 1931 г. нар., в. Губіна, Лепельскі р-н.

[180] Запісалі Мішына В.І., Мішын П.І. у 2007 г. ад Ханяк Аліны Іванаўны, 1930 г. нар., в. Макараўшчына, Лепелскі р-н.

[181] Запісалі Мішына В. І., Мішын П.І. у 2008 г. ад Васілеўскай (Касевіч) Вікторыі Іосіфаўны, 1921 г. нар., в. Цярэшкі, Шаркаўшчынскі р-н.

[182] Запісалі Мішына В.І. і Мішын П.І. у 2008 г. ад Ляўшынскага Івана Грыгоравіча, 1927 г. нар., в. Барсукі, Шаркаўшчынскі р-н.

[183] Гл. зноску 5

[184] Запісалі студ. ПДУ Захарэвіч А., Мядзведзева А., Прахарэнка Я. у 2007 г. ад Валадзько Г.І., 1936 г. нар., в. Бор, Лепельскі р-н.

[185] Запісалі Мішына В.І., Мішын П.І. у 2009 г. ад Гаўрыловіч Р.Г., 1930 г. нар., в. Несцераўшчына, Докшыцкі р-н.

[186] Гл. зноску 9

стандартнай» сітуацыі, якая выходзіць за межы рэгламентаванага традыцыяй рытуальнага сцэнарыю, што, ў сваю чаргу, павінна адмоўна адбіцца на іх будучым лесе.

Такім чынам, шкоданосныя магічныя прыемы, што прысутнічаюць у вясельным рытуале, а таксама звязаныя з ім павер'і пра ваўкалакаў, грунтуюцца на спецыфіцы рытуальнага статусу лімінальных персанажаў падчас выканання абрадаў пераходу. Адсутнасць вызначаных якасцей «чалавечага» забяспечвае высокую ступень уразлівасці маладых перад разнастайнымі негатыўнымі уздзеяннямі. Акрамя таго, увасабленне ідэі пераходу праз міфалагему дарогі робіць магчымым ажыццяўленне разнастайных дэструктыўных дзеянняў, накіраваных на змену характарыстык будучага жыццевага шляху маладых у самым яго пачатку.

ЛІТАРАТУРА

1. Шейн, П.В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. / П.В. Шейн. – СПб., 1887 – 1902. – Т. 3. – Описание жилища, одежды, пищи, занятий, препровождения времени, игр, верований, обычного права наследства и проч. – СПб., 1902 – 519 с.
2. Никифоровский, Н.Я. Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах. Собраны в Витебской губернии / Н.Я. Никифоровский – Витебск, 1897. – 336 с.
3. Полацкі этнаграфічны зборнік / уклад., прадм. і паказ. У.А. Лобача. – Вып. 2. Народная проза беларусаў Падзвіння. У 2 ч. Ч. 2. – Наваполацк, ПДУ, 2011. – 368 с.
4. Генеп, А, ван Обряды перехода: Систематическое изучение обрядов /Арнольд ван Геннеп; пер. с франц. Ю.В. Ивановой, Л. В. Покровской; послесл. Ю.В. Ивановой. – М.: Вост. лит., 2002 – 198 с.
5. Байбурин, А. К. Ритуал в традиционной культуре: Структурно-семантический анализ восточнославянских обрядов // А.К. Байбурин. – СПб.: Наука, 1993 г. – 240 с.
6. Серебрянников, Ф. Обычаи и обряды крестьян Себежского уезда при крестинах, свадьбах и похоронах / Ф. Серебрянников // Памятная книжка Витебской губернии на 1865 г. – Спб.: 1865. – С. 75 – 90.
7. Мишин, П.И. Образ волка в народной культуре / П.И. Мишин // Сучасны гісторыка-культурны працэс: самавызначэнне і самарэалізацыя суб'екта: Матэрыялы Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі, г. Мінск, 16 – 17 мая 2006 г. / Бел. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка; рэдкал. С.В. Снапкоўская [і інш]; адк. рэд. А. У. Рагуля – Мінск, БДПУ, 2006. – С. 153 – 157 (239 с.).
8. Вяселле: Песні. У 6 кн. / Рэд. М.Я. Грынблат, А.С. Фядосік – Минск, Навука і тэхніка, 1980 – 1988. – Кніга 6 / Склад. Л.А. Малаш; муз. дад. З.Я. Мажэйка. – 1988. – 664 с. (Беларуская народная творчасць).
9. Байбурин, А.К. К описанию организации пространства в восточнославянской свадьбе // А.К. Байбурин, Г.А. Левинтон // Русский народный свадебный обряд. Исследования и материалы. – М.: Наука, 1978 – С. 89 – 105.
10. Щепанская, Т.Б. Культура дороги в русской мифоритуальной традиции / Т.Б. Щепанская. – М.: Индрик, 2003. – 528 с.
11. Мішына, В.І. Структура і сімволіка традыцыйнага вясельнага абраду беларусаў цэнтральнага і заходняга Падзвіння ў 1930 – 1950-я гг (па матэрыялах этнаграфічных экспедыцый ПДУ) / В.І. Мішына // Беларускае Падзвінне: методыка і вынікі палявых даследаванняў (да 80-годдзя пачатку археалагічных раскопак у г. Полацку). – Зборнік матэрыялаў рэспубліканскага навукова-практычнага семінара. – 20 – 21 лістапада 2008 г. / пад. агульн. рэд. Д.У. Дука, У.А. Лобача. – Наваполацк: ПДУ, 2009. – С. 231 – 236.

## СТРУКТУРА И ТИПОЛОГИЯ ПОЧИТАЕМЫХ МЕСТ ИЗБОРСКО-МАЛЬСКОЙ ДОЛИНЫ (ПО МАТЕРИАЛАМ 2002 – 2010 ГГ.)

***канд. ист. наук Е.В. ПЛАТОНОВ***
***(Эрмитаж, Санкт-Петербург)***

*Путем анализа материалов обследований деревенских святынь Изборско-Мальской долины, делается попытка определения культурных истоков формирования почитаемых мест различных типов. Приводятся примеры наиболее характерных способов оформления почитаемых объектов, анализируется состав и культурные механизмы возникновения сложных комплексов почитаемых мест, приводятся примеры формирования и функционирования новых почитаемых мест и почитаемых объектов, появившихся в последнее время.*

Изучение сельских почитаемых мест на северо-западе России насчитывает уже не одно десятилетие своей истории. В результате многочисленных практических и теоретических исследований были определены основ-

ные типы почитаемых объектов, очерчены их функции в народной культуре, проанализировано отражение деревенских святынь в фольклоре. При большом количестве обобщающих работ в настоящее время чувствуется потребность в детальном изучении отдельных культовых мест, что связано как с поисками новых источников информации, так и с необходимостью проведения исторических и культурологических исследований в этом направлении. При отсутствии или крайне небольшом количестве устной информации перспективным направлением представляются попытки извлечения информации из структуры самого культового места, изучения составляющих его элементов, их взаимосвязи, проведения аналогий с информацией, содержащейся в исторических и этнографических источниках. На современном этапе понятно, что ограниченность типов сельских почитаемых объектов соседствует с большой вариативностью способов построения конкретных почитаемых мест и организации культового пространства вокруг конкретных почитаемых объектов. Эта вариативность обусловлена широтой христианской традиции, синтезирующей различные культовые объекты, ограниченной лишь региональными представлениями о том, как должно выглядеть эталонное почитаемое место. Церковное и светское законодательство конца XVII – начала XX вв. шло по пути усиления запретов в отношении деревенских святынь и ограничения проявлений народной религиозности, совсем не уделяя внимания разработке положительной стороны этого вопроса. Отсутствие четких церковных правил, относящихся к созиданию и организации почитаемых мест, сделало эту область культурной деятельности одной из самых творческих, где спонтанные проявления религиозности становились обычаем, закреплялись в местной практике, а впоследствии, при тесном соприкосновении с каноническими церковными практиками, преобразовывались в нормативные для локальной культуры способы построения почитаемых мест. Поэтому одним из основных направлений в изучении деревенских святынь становится детальный анализ состава и порядка организации объектов, представляющих в своей совокупности почитаемое место. В последнее время для подобных микротопографических работ, ориентированных на отдельные почитаемые объекты, принят уточняющий термин – «иеротопия»: исследование способов построения сакральных пространств [1, с. 9 – 31]. В сфере изучения деревенских святынь этот подход во многом связан с изучением региональных особенностей почитаемых объектов.

В Изборско-Мальской долине на протяжении XIX – XX вв. основными малыми культовыми объектами были родники и каменные кресты; и природные, и рукотворные деревенские святыни почти всегда усложнялись сопутствующими им часовнями. Почитаемые камни во время полевых исследований не были зафиксированы, однако можно предполагать их наличие в прошлом [2; 3] и возможность появления в ближайшей перспективе. Далее мы рассмотрим способы организации отдельных почитаемых мест, разделив их на группы по типам составляющих их почитаемых объектов, а так же по степени развития от простых к сложносоставным.

Почти все **каменные кресты** Изборско-Мальской долины относятся к намогильному типу крестов. Превращение их в почитаемые объекты отражает одну из стадий освоения ландшафта сельской местности, когда историческое наследие, представленное археологическими памятниками предшествующих поколений, адоптируется в новом культурном пространстве. Процесс, который в полной мере можно назвать вторичной ритуализацией крестов, открывает возможность реализации множественности смыслов, заложенных в этот объект поклонения литургической практикой и церковным преданием. Перемещение каменных крестов в новые места создавало новые символические контексты, обусловленные взаимным влиянием разнородных почитаемых объектов (крест и иконы в часовнях, крест и родник и т. п.), имеющих выраженный сакральный статус в рамках церковных и народных представлений о священном объекте.

Одиночный почитаемый каменный крест стоит в дер. Гнилка, дома которой ориентированы фасадами на круглую площадь в центре поселения. В северо-западной части этой площади находятся каменный крест на жальнике, который стал культовой доминантой деревни, какой обычно бывает часовня. Несмотря на существующее предание, о том, что под крестом похоронен князь, это не помешало вовлечь крест в цикл праздничных деревенских обрядов. У креста проводились молебны, его украшали цветами и полотенцами, в деревенский праздник перед крестом кропили скот и рядом с ним было принято прощаться друг с другом в последний день масленицы. Специфика сакрального объекта обусловила выбор в качестве заветного деревенского праздника день Воздвижения креста (14/27.09). Празднование Воздвижения было установлено относительно поздно, в начале XX в., после болезни скота: до этого времени в деревне отмечали только престольный для нее праздник Николая (9/22.05 и 6/19.12), что указывает на прямую зависимость выбора нового праздничного дня от существующего маркера – креста, «воздвигнутого» в пределах поселения. Эта информация, полученная от местных жителей, согласуется с материалами клировых ведомостей Никольского собора в Старом Изборске [4, л. 777 – 778], в которых в конце XIX – начале XX вв. не упомянута ни одна деревня, отмечающая праздник Воздвижения. При возникновении кризисной ситуации она была разрешена исходя из символического «прочтения» креста в контексте его очистительных и защитных свойств, наиболее полно выраженных в службе Воздвижению Животворящего креста. Праздник был «добавлен» к существующему престольному празднику, раскрывая, таким образом, содержательный потенциал почитаемого объекта. Организация жилого пространства вокруг древнего погребения встречается и в других регионах северо-запада России: так, жальники с часовнями на них составляют системообразующие доминанты в деревнях Чудовского и Любытинского районов Новгородской области (дер. Рогачи и Новинка), а в Старорусском районе поселение было организовано вокруг сопки с часовней на ней [5, с. 10].

Усложнением почитаемого места путем возведения вокруг креста ковчега-часовни можно назвать расположенную в местности Селищи придорожную Успенскую часовню. Поклонный каменный крест, установленный в часовне, скорее всего первоначально освящал землю на жальнике; часовня была построена позже, в 1850-х гг. В интерьере, по обеим сторонам от креста в стене часовни находятся выемки для установки икон. За Успенской часовней ухаживали жители окрестных деревень, прежде всего, жители хутора и дер. Вастцы. Иконы, стоящие в часовне, приносили желающие украсить ее, а за маслом для лампад одно время следили жители Селищ. Успенская часовня, возведенная за пределами поселения, стала центром проведения некоторых обрядов, характерных для часовен северо-запада и русского Севера, расположенными вне жилого пространства. Так, на поле к часовне весной выгоняли скот для освящения стада, что подчеркивает восприятие монументального креста как оберега: такая семантика заложена в церковных службах кресту и обусловила общерусские представления о крестах – защитниках, которые могут избавить окружающую местность от различного зла. Так, в Тихвинском уезде Новгородской губернии, на востоке северо-запада России при выгоне и освящении скота в поле каменные кресты выносились из часовни на жальник, после чего перед ними прогоняли стадо, служа молебен [6, л. 2 об.]. Кроме этого, во время Печерского крестного хода из Печерского монастыря, который происходил на праздник Успения, у часовни собирались встречающие крестный ход богомольцы. Таким образом, часовня выполняла маркерные функции, играя роль доминанты в окружающем ландшафте.

Похожая в интерьере конструкция часовни, но совершенно иная в символическом прочтении топография местности зафиксирована у дер. Коломно, к северо-востоку от Изборска. В этой часовне каменные кресты вмонтированы в стену, в которой проделано несколько прямоугольных ниш для икон. В данном случае обращает внимание место расположения часовни с крестами – на пригорке над небольшой долиной, в которой находится само поселение. Стремление установить кресты как можно выше напрямую связано с приписываемыми им способностями положительно влиять на окружающее пространство, очищая его от нечистых духов и враждебных человеку стихий или эпидемий: «в лето 7163-го [1654 – 1655] от православных христиан поставлен [крест. – *Е.П.*] на горе прямо граду Ияроставлю вместо забрала и щита, да не найдет на град тлетворных ветр тщета» [7, с. 47 – 48]. Установка креста в данном случае соответствует представлению о кресте как символе, очищающем воздушное пространство (повод – моровое поветрие), наиболее ярко сформулированном в службе Воздвижения Креста. Возведение специальной культовой постройки (часовни) над крестами «избыточно» – ведь каменные кресты и часовни во многом сходны в своем функционировании и часто заменяют друг друга. С другой стороны, еще в XVII в. на русском Севере существовали часовни, построенные в качестве своеобразного дополнения к почитаемому деревянному кресту с практическими целями – в них хранились иконы и богослужебная утварь, необходимая для проведения молебнов у креста [8, № 79].

Одним из примеров сложносоставного культового объекта является Троицкая часовня в самом Изборске, расположенная между кладбищем на Труворовом городище и районом Скудельни – средневековом жальнике, ныне застроенном домами. По своему экстерьеру она похожа на традиционные часовни XIX в., строившиеся в этом регионе, однако в ее конструкции прослеживается несколько строительных этапов, позволяющих проследить стадии формирования часовни. Первоначально часовня представляла собой сооружение, близкое к так называемым «столобкам» – открытая небольшая постройка кубической формы с углублением для иконы в одной из стен; в центр противоположной стены вмонтирован небольшой каменный крест, перенесенный, скорее всего, с ближайшего жальника – скудельни. На следующем этапе к столобку были пристроены небольшие сени, а над всей конструкцией возведена крыша на выносах, превратившая столобок в интерьерную постройку – часовню. Таким образом, из нескольких разрозненных элементов (столобок, иконы, каменный крест) в какой-то момент сформировалась новое здание, более отвечавшее культовым потребностям местного населения.

Часовни, которые строились непосредственно на погребениях – жальниках, не только включали каменные кресты в интерьер, но и обустраивались крестами снаружи. Так выглядела часовня в дер. Замогилье – хотя она считалась деревенской часовней и была посвящена местному празднику Никандра Псковского («Ликандра», «Лякандра»), но располагается примерно в километре от деревни, на старом жальнике у дороги. Сохранилась легенда о том, что св. Никандр просился переночевать к жителям деревни, которые его не пустили, после чего он пообещал, что в этой деревне все «будут бедные». В память этого события было положено местными жителями праздновать день святого (7.10) как деревенский праздник. В часовне, украшенной некогда богатым убранством, сейчас сохранился только небольшой каменный крест, еще два креста врыты в землю перед входом (один из них перевернут), а небольшие обломки креста использованы в качестве фундамента. Эта часовня посещалась только в праздник Никандра, при похоронах или в дни поминок, так как рядом с жальником продолжали хоронить жителей деревни. В праздники крест в часовне украшали полотенцами, ставили свечки. В обычные дни часовня стояла запертой и в нее не заходили. За могилами на жальнике ухаживали: как за новыми, деревенскими, так и за древними: среди них прокладывали дорожки и выкашивали траву. Аналогичным образом была устроена часовня в дер. Кудина Гора и не существующая ныне часовня в дер. Большие Мильцы. Доста-

точно устойчивая компоновка – часовня и два креста перед ней – является региональной особенностью для западных территорий: она зафиксирована для деревень Печерского, Гдовского районов Псковской области, а так же Сланцевского района Ленинградской области. Каменные кресты в дер. Старые Смолеговицы Волосовского района Ленинградской области можно назвать самым восточным примером такой компоновки, характерной в большей степени для жальничных часовен, вокруг которых сохранилось значительное количество каменных крестов. Это яркий пример вторичной ритуализации намогильных крестов, когда в оформлении культового места используется максимальное количество элементов предшествующего культового объекта. Тем не менее, принципиальная схема «часовня с крестом + два креста перед фасадом», по-видимому, была обусловлена пока еще не вполне ясными культурными механизмами. Остальные каменные кресты, располагавшиеся на жальнике, оставались не тронутыми на своих местах и не были задействованы в оформлении часовни или окружающего пространства.

Конструирование нового центра деревни происходило на фоне разрушения предыдущего почитаемого объекта, когда из всех возможных для вторичной ритуализации элементов формировался новый культовый объект, центральное место в котором занимала часовня. В этом контексте открывалась широкая возможность влияния на восприятие креста богослужебной практики и церковной традиции, так как крест включался в иконографическое и литургическое пространство, обладающее устоявшейся логикой взаимного построения почитаемых объектов и ритуальных действий. Кресты в часовнях размещались в середине противоположной от входа стены, представляя собой композиционный центр, вокруг которого располагались иконы. Региональные различия в способах композиции крестов внутри часовен незначительны.

Большое количество каменных крестов в окрестностях Изборска привело к тому, что они включались в интерьер деревенских часовен в качестве почитаемых объектов, никак не связанных с древними погребениями. Это часовни в дер. Брод, Малы, Кряково, Малые Мильцы.

Таким образом, в эволюции почитаемых мест с каменными крестами можно наметить линию постепенного усложнения культового места за счет возведения около креста деревянных и каменных конструкций, помещения крестов в часовни, а так же создания сложных по топографии комплексов, представленных жальничными часовнями и группами крестов перед ними.

Почитаемые природные объекты представлены широко распространенными в изборской округе **родниками**. Почитаемые родники – культовые объекты более простые по своему происхождению и пути эволюции, хорошо известные и часто упоминаемые в языческих культах многих народов, а после принятия христианства – достаточно быстро адоптированные церквями разных толков. В поселениях Изборско-Мальской долины можно выделить два типа почитаемых родников – так называемые подалтарные, выход которых на поверхность расположен поблизости от церкви, и ключи-«кипуны», расположенные в лесной местности или на берегу водоема.

Самым известным является Богородицкий родничок, который бьет в 50-ти метрах к востоку от церкви Рождества Богородицы (т.ж. Святой ключ, Глазной, Федосьин или Тетушкин). Существует предание, что когда-то он вытекал из-под самого алтаря церкви, но потом исчез, а через некоторое время вновь появился, но чуть дальше от церкви недалеко от дома некоей Федосьи. У родника когда-то произошло чудо – умывшись его водой прозрела слепорожденная девочка. С тех пор родник стал считаться святым, целебным и в особенности полезным при болезни глаз. Его водой советовали мыть младенцев, чтобы те не болели. В роднике проводится регулярное освящение воды, благодаря чему поддерживается и распространяется информация о его целебных свойствах, а сам родник является местом паломничества богомольцев.

Аналогичный родник есть в Малах, Подалтарный или Онуфриевский, который вытекает из-под алтарной части Рождественской церкви. Местное предание говорит, что Онуфрия (основателя монастыря) как-то укусила змея: омыв ногу в роднике монах исцелился. А по воспоминаниям старожилов, раньше, в ночь на Ивана Купалу, в этом роднике умывались женщины сето, веря, что это принесет им здоровье и красоту. Родники, находящиеся рядом с церковью, постоянно включались в обряды, связанные с водоосвящением (особую роль в них играла необычайно распространенная служба по чину освящения воды 1 августа, проводившаяся по желанию, несколько раз в год), что закрепляло из восприятие в качестве источников святой воды [9, с. 95 – 98].

Известные нам почитаемые источники воды, находившиеся в деревнях, обустраивались более сложно и существовали в ином символическом контексте. В дер. Вастцы, почитаемый колодец расположен в комплексе с часовней и каменными крестами, один из которых стоит в часовне, а другой – непосредственно у колодца. Освящение воды в колодце происходит на местный, престольный деревенский праздник, Николу весеннего (9/22.05). Своеобразное дублирование (крест в часовне и крест при роднике) указывает на характерное свойство сложных комплексов почитаемых объектов – сакральные предметы включаются в наибольшее количество возможных контекстов, воплощая множественность значений, заложенных в них традицией. Крест около колодца реализует упомянутый выше закрепленный за символом креста топик – свойство очищения окружающего пространства, в том числе и воды, и способность освящать воду. В обрядовых действиях, крест как основной сакральный символ задействован в различных существующих ныне и упраздненных чинах освящения воды, что существенно для понимания связи креста с почитаемыми источниками и народными практиками освящения воды через облива-

ние креста. Установку креста рядом с водным источником можно расценивать как совмещение почитаемых объектов, свойства которых дополняют и усиливают друг друга, взаимосвязаны и находятся в смысловом контексте церковного обихода.

Около дер. Брод существует почитаемый родник другого происхождения, так называемый Кипун-родник или Шурнов ключ, который признается целебным от глазных болезней. Этот родник связывается с именем Матвеюшки Болящего, местным праведником, который жил во второй половине XIX – нач. XX в. в дер. Малы. «Ихняя бабушка или прабабушка худо видела, вообще слепая. Тогда Матвей Болящей сказал… Она приходит, она ему рассказывает. Он говорит: «В чем дело?» – «Да вить все хорошо, глаза-то у меня худо видять, только что меня привели. Вижу так, недалеко и все, а так я, говорит, не вижу, чтобы так идти куда.» А он и говорит: «Знаеш что сходи помойся там и там, есть такой колодец, ключок, и вымоисся. Только вить иди когда… до заката, перед закатом солнца, три разка сходи, помойся.» – *Матвеюшка Болящий посоветовал, да? Мальской?* – Да. И вот она сходила – и все. Стала видеть как надо. – *Три разка это в смысле три дня?* – Да, три вечера, вечерком перед закатом солнца, пока солнышко не закатилось. И все у нас так лечились.» – рассказывали в Броду [10]. К роднику ходили жители окрестных деревень – Вастцы и Нижнего Крупска. В Малах и Изборске упоминание о Шурнове ключе не фиксируется, видимо, из-за наличия собственных целебных источников воды при церквях.

Еще один родник, вероятно, пользовавшийся некогда почитанием, находится на северо-восточной окраине Изборска, на берегу Городищенского озера. Подробной информации о нем не имеется, его культовое значение предполагается на основании названия источника - Святой родник (т.ж. Ивовая лоза). Родник был некогда обустроен каменными плитами, однако в настоящее время совсем зарос и редко используется местными жителями.

Почитаемые источники воды, таким образом, достаточно ясно делятся на две группы: в первую входят родники, задействованные в церковной службе водоосвящения, вследствие чего вода их считается святой и целебной, а во вторую родники, почитание которых имеет ярко выраженное фольклорное происхождение. Соответственно, целебные свойства родников второй группы проявляются при соблюдении неких магических, не связанных с церковными нормами, правил поведения.

Почитаемые места постепенно изменяются со временем, иногда радикально, по-прежнему оставаясь в эталонных границах своего типа. Так, в последние годы значительно изменился вид и оформление Святого родника у Рождественской церкви: сначала ниже по течению была выстроена досчатая купель, а в последние годы русло родника было изменено, над ним выстроили новую часовню, а рядом с часовней положили так называемый «курган» – межевой камень с высеченным на нем крестом. Прямые функции этих камней уже почти забыты, поэтому существует большая вероятность превращения этого конкретного камня в почитаемый, наподобие «Борисовых камней», учитывая большое количество паломников, воспринимающих почитаемые места и все, что находится рядом с ними в модусе сакрального, а т.ж. общую семантику изображения креста.

В дер. Захново перегруппировке и новому оформлению подверглись каменные кресты, располагавшиеся в округе поселения, а с 2006 г. перенесенные под дерево к Иверскому подворью Снятогорского монастыря, которое строилось в деревне. Кресты переносились и ранее: в 2002 г. один из них был установлен около «кургана», которому, по всей видимости, тоже придавалось какое-то особое значение: процесс поиска наиболее приемлемого места для крестов уже шел, но с образованием подворья этому процессу был дан новый импульс, сконцентрировавший кресты около скита.

Таким образом, культовые объекты Изборско-Мальской долины представлены двумя преимущественными группами (каменные кресты и родники), достаточно четко структурированы внутри них, разделяясь на подтипы разной сложности и различного происхождения. Каждый культовый объект, каждое культовое место представляют собой отдельную небольшую линию развития, своего рода акцентирование какой-то черты из богатого набора символических значений всего класса объектов. Для культовых мест так же характерны общие для северо-запада России процессы, которые заключаются:

В активном возрождении почитаемых родников, связанных, в первую очередь с церковным обрядом водоосвящения.

В выявлении разрозненных элементов старых почитаемых мест и конструировании на их основе новых; вторичной ритуализации почитаемых объектов, что в первую очередь относится к каменным крестам. Следует отметить, что это традиционный способ вторичной ритуализации – каменные кресты включались в стены изборских храмов, начиная с XVI века и в интерьер часовен в XVIII – XIX вв., так что процесс этот продолжает давние традиции местного населения.

В полном отсутствии почитаемых камней, наименее повержденных восстановлению после исчезновения традиции почитания.

ЛИТЕРАТУРА

1. Лидов, А.М. Иеротопия. Создание сакральных пространств как вид творчества и предмет исторического исследования / А.М. Лидов // Иеротопия. Создание сакральных пространств в Византии и Древней Руси. – М.: Индрик, 2006. – 384 с.
2. Почитаемые камни широко распространены на территории проживания народности сето, к которой относится и эта часть Печерского района. См. Александров А.А. О следах язычества на Псковщине // Академия наук СССР. КСИА. 1983. Вып. 175. – 108 с.
3. Valk, H. Offering practices at two holy stones in Setomaa, south-east Estonia / H. Valk // Folk beliefs and practice in Medieval Lives. BAR International Series 1757. – 2008. – 91 p.
4. Клировые ведомости Никольского собора. Архив Государственного музея-заповедника «Изборск». Инв. № МЗИ/291
5. Смирнов, С. Археологическая экспедиция на р. Ловать летом 1928 г. Материалы и исследования. Вып. I. Новгородский государственный музей. Новгород, 1930.
6. Архив ИИМК РАН. Ф. 2. Оп. 1. 1929 г., д. 123. Отчет В. И. Рассказова о работах по р. Сяси.
7. Овчинникова, Е.С. Иосиф Владимиров. Трактат об искусстве / Е.С. Овчинникова // Древнерусское искусство. XVII в. – М.: Наука, 1964. – 334 с.
8. Акты Холмогорской епархии. Переписные книги часовен в Важском уезде и в Устьянских сохах. Марта 20 – июня 29, 1692 // Русская историческая библиотека. Т. XXV. Кн. III, СПб., 1908.
9. Черноморова, А.А. Изборские родники: предания, обычаи и традиции / А.А. Черноморова // Изборск: история и современность. – Изборск, 2005.
10. ПЗ 2002 г. Платонов Е.В., Черноморова, А.А. дер. Брод, зап. от Махониной Антонины Владимировны, 1928 г. рожд.

## ТРАДЫЦЫЙНЫЯ ЎЯЎЛЕННІ АБ САКРАЛЬНЫХ ЭЛЕМЕНТАХ ЛАНДШАФТУ БЕЛАРУСКАГА ПАДЗВІННЯ (ПА МАТЭРЫЯЛАХ АРХІВУ РГМА «СТУДЭНЦКАЕ ЭТНАГРАФІЧНАЕ ТАВАРЫСТВА»)

***Ю.С. ПРАКОФ'ЕВА***
***(Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ім. К. Крапівы НАН Беларусі, Мінск)***

*На аснове комплексу матэрыялаў палявых этнаграфічных даследаванняў рэспубліканскай грамадскай моладзевай арганізацыі «Студэнцкае этнаграфічнае таварыства» аналізуецца спецыфіка рэпрэзентацыі і інтэрпрэтацыі сакральных элементаў ландшафту, паводле традыцыйных уяўленняў беларусаў Падзвіння. Пад час правядзення экспедыцыйнага вывучэння краю напрыканцы XX – пачатку XXI стст. была выяўлена вялікая колькасць сакральных элементаў прыроднага ландшафту (крыніц, азер, балот, узгоркаў, камянеў і г.д.). Зроблена спроба ахарактарызаваць міфалагічны статус і рытуальныя функцыі сакральных локусаў паводле сучасных уяўленняў беларусаў Падзвіння. Аўтар прыходзіць да высновы, што сакралізацыя элементаў ландшафту з'яўляецца адной з асаблівасцяў светапогляду, які складае аснову міфапаэтычнай мадэлі свету беларусаў Падзвіння. Абазначэнне ў свядомасці статусу сакральнага локуса спараджае адмысловую рэпрэзентацыю, інтэрпрэтацыю аб'екта і сістэму паводзінаў.*

**Уводзіны.** Вывучэнне найважнейшага кампанента этнічнай культуры беларусаў – традыцыйнага светапогляду было і застаецца адным з прыярытэтных кірункаў айчыннай этналагічнай навукі. Пад светапоглядам разумеецца сістэма ўяўленняў аб свеце і месцы чалавека ў ім, аб адносінах да навакольнай рэчаіснасці і да самога сябе, асноўныя жыццевыя пазіцыі, перакананні, ідэалы, прынцыпы пазнання, дзейнасці, каштоўнасныя арыентацыі, абумоўленыя гэтымі ўяўленнямі.

Прадметам даследавання ў рамках дадзенага артыкула выступаюць дамінантныя складнікі традыцыйнага светапогляду – уяўленні аб сакральных элементах прыроднага ландшафту, зафіксаваныя на тэрыторыі Беларускага Падзвіння напрыканцы XX – пачатку XXI стст., паводле матэрыялаў архіву рэспубліканскай грамадскай моладзевай арганізацыі «Студэнцкае этнаграфічнае таварыства» (РГМА «СЭТ»).

Асноўнымі мэтамі дзейнасці РГМА «СЭТ» з'яўляюцца захаванне, развіцце і забеспячэнне пераемнасці, папулярызацыя каштоўнасцяў беларускай традыцыйнай культуры, аднаўленне прыроднага і культурнага ландшафту, як натуральнага асяроддзя існавання культуры беларусаў.

Дзякуючы актыўнай палявой этнаграфічнай дзейнасці РГМА «СЭТ» на працягу 1990-х – 2000-х гг., быў назапашаны ўнікальны фонд у выглядзе аўдые-, відэа-, тэкставых запісаў, фотаздымкаў, замалевак, калекцыі прадметаў побыту XIX – пачатку XX стст. На сенняшні дзень у таварыстве праводзіцца вялікая праца па захаванню архіўных матэрыялаў, стварэнню інфармацыйнай сістэмы, якая адкрые новыя магчымасці для шырэйшага выкарыстання, уводу іх у навуковы зварот для наступных этналагічных, гістарычных, сацыяльна-эканамічных, культуралагічных і іншых аналітычных даследаванняў. Навуковае і

культурнае значэнне звестак, якія захоўваюцца ў архіве РГМА «СЭТ» з кожным годам узрастае, паколькі традыцыйная культура імкліва знікае, сыходзяць з жыцця людзі, якія валодаюць інфармацыяй аб сакральных элементах вясковага ландшафту.

Палявыя матэрыялы структураваны і разбіты ў архіве на фонд цэнтра этнакасмалогіі «Крыўя», і фонд РГМА «СЭТ». Фонд цэнтра этнакасмалогіі «Крыўя» ўтрымлівае матэрыялы аб даследаванні ў 1993 г. весак Чашніцкага (экспедыцыя «Змееў камень») і Докшыцкага раенаў Віцебскай вобласці (экспедыцыя «Сцеп-камень»), у 1994 г. весак Ушацкага і Полацкага раенаў Віцебскай вобласці (экспедыцыя «Ушацкія азеры»). Фонд РГМА «СЭТ» змяшчае матэрыялы фальклорна-этнаграфічнага вывучэння ў 1998 г. весак Лепельскага, Чашніцкага раенаў Віцебскай вобласці (экспедыцыя «Лепель – 98»). З 1999 г. распачынаецца вывучэнне РГМА «СЭТ» беларуска-рускага памежжа: Гарадоцкі раен Віцебскай вобласці, Усвяцкі, Куньінскі раены Пскоўскай вобласці на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі (экспедыцыя «Усвят-Гарадок»), у 2000 г. былі абследаваны вескі Сенненскага, Талачынскага, Аршанскага, Чашніцкага, Крупскага раенаў (экспедыцыя «Сянно – Талачын»), у 2002 г. – Верхнядзвінскі раен Віцебскай вобласці і Себежскі раен Пскоўскай вобласці, у 2003 г. Гарадоцкі раен Віцебскай вобласці і Невельскі раен Пскоўскай вобласці, у 2005 г. Лезненскі раен Віцебскай вобласці і Руднянскі раен Смаленскай вобласці. У 2006 г. сябрамі СЭТ ладзіцца экспедыцыя па памежжы Ушацкага, Докшыцкага і Лепельскага раенаў Віцебскай вобласці. У 2007 г. даследуюцца землі Латышскага Падзвіння: Краслаўскі, Даўгапілскі і Лудзенскі раены. Таксама ў 2007 г. працягваецца вывучэнне беларуска-рускага памежжа: на гэты раз выправа робіцца ў бок Суражскага раена Віцебскай вобласці і Вяліжскага раена Смаленскай вобласці. У 2008 г. былі даследаваны вескі Чашніцкага раена Віцебскай вобласці і Крупскага раена Мінскай вобласці.

**Асноўная частка.** У фарміраванні светапогляду бяруць удзел усе псіхічныя здольнасці чалавека. Пры гэтым карціна свету, спароджаная чалавечым розумам, сама валодае суб’ектыўнасцю, паколькі ўплывае на «выпрацоўку адэкватнай стратэгіі паводзінаў і арыентацыі ў навакольных працэсах і з’явах [17, с. 27]. Аднак унутранае напаўненне і механізм апісання карціны свету ў чалавека сучаснага і Homo traditionalis (чалавека традыцыі) прынцыпова розняцца. У першым выпадку, карціна свету есць прадукт рацыянальнага (навуковага) мыслення і апісваецца з дапамогай фармалізаванай знакавай сістэмы – пісьмовасці (паказальна, што ўласна паняцце «карціна свету» пачало фармавацца ў XIX – XX стагоддзях у рамках фізічнай навукі). У межах жа традыцыйнай супольнасці мы маем справу з міфалагічнай свядомасцю, фальклорным (вусным) механізмам фіксацыі і трансляцыі інфармацыі, што выяўляецца ў адрозненні ад сучаснага спосабу апісання карціны свету.

Этнічная свядомасць фарміруецца пад уплывам і ў межах пэўнага ландшафту. Прыродна-ландшафтныя асаблівасці мясцовасці замацоўваліся ў светапоглядзе, рабіліся архетыпам і станавіліся кампанентамі вобразнага ўяўлення пра родны край. Канкрэтныя складнікі асяроддзя гістарычна з’яўляліся вызначальнымі і ўваходзілі ў склад мясцовага фальклору, легенд і паданняў, сістэму паводзінаў чалавека [13, с. 8].

Неад’емнай часткай этнічных уяўленняў з’яўляюцца ўяўленні аб сакральных элементах ландшафту – разуменне, тлумачэнне, эмацыйная рэакцыя сацыяльнай групы на прыродныя і антрапагенныя сакральныя локусы. Сукупнасць гэтых ведаў звязвае членаў дадзенай этнічнай групы і служыць асновай яе адрознення ад іншых. Паводле Л.М. Гумілева, ландшафт стымулюе развіцце этнічнай ідэнтычнасці [10]. Акрамя таго выконваючы інавацыйную функцыю, этнічная супольнасць прыўносіць у ландшафт нешта новае, трансфармуе яго, рыхтуючы для наступных пакаленняў абноўленую аснову. Геаграфічная прастора ператвараецца ў этнічную пры дапамозе сістэмы культурных маркераў, якія не толькі ўводзяць ландшафт у сістэму жыццезабеспячэння, але і структурыруюць, афармляюць яго ў кантэксце сацыяльных адносін і рэлігійных уяўленняў этнічнай супольнасці. Па меры засваення, чалавек маркіруе ландшафт дыфініцыямі: «свае» / «чужое», «чыстае» / «нячыстае», «прафаннае» / «сакральнае». Абазначэнне ў свядомасці статусу кожнага локуса спараджае адмысловую рэпрэзентацыю і сістэму паводзінаў. Для ўваходжання элемента ландшафту ў шэраг асаблівых для этнічнай супольнасці месцаў, яму неабходна валодаць такой якасцю, як здольнасць рабіць уражанне на любога назіральніка. Гэта здольнасць залежыць як ад візуальных якасцяў ландшафту, так і ад яго семантыкі і сімвалічнага статуса.

Культурны ландшафт – гэта прыродна-культурны комплекс, які быў створаны і (або) засвоены пэўнай этнічнай супольнасцю. Мова і духоўная культура з’яўляюцца ўніверсальнымі спосабамі апісання, захавання і рэтрансляцыі культурнага ландшафту ў часе і прасторы. Культурны ландшафт уяўляе сабой мноства метафар, знакаў, сімвалаў, якія могуць быць інтэрпрэтаваны і прачытаны як тэкст у яго шырокім культуралагічным значэнні, тэкст які валодае сакральнай, тэмпаральнай, гістарычнай семантыкай [12, с. 13].

Успрыманне (вобразнае і візуальнае) сакральнага аб’екта ў калектыўнай свядомасці ажыццяўляецца ў кантэксце з навакольным прыродным асяроддзем, якое падзяляецца на семантычна нагружаныя фрагменты – локусы. Сакральны элемент ландшафту – гэта локус, дзе фіксуецца сакральнае уяўленне (стаўленне) і жыццяўляецца рытуальная частка рэлігійнага ўшанавання. Геаграфічныя аб’екты і тапонімы становяцца метафарамі, знакамі, сімваламі ў тым выпадку, калі ў культуры існуюць устойлівыя асацыяцыі з вызначанымі гістарычнымі падзеямі, артэфактамі ці ўнікальнымі рысамі прыроднага ландшафту.

Сакральныя элементы ландшафту могуць быць як прыроднага, так і антрапагеннага паходжання, якія складаюцца з культавых аб'ектаў і ўласцівай ім атрыбутыкі. З антрапагенных сакральных элементаў ландшафту на тэрыторыі Беларускага Падзвіння можна адзначыць храмы, капліцы, могілкі, прыдарожныя крыжы, і інш. Да прыродных сакральных элементаў ландшафту на вывучаемай тэрыторыі належаць цэласныя прыродныя комплексы або іх часткі: крыніцы, азеры, пагоркі, дрэвы, камяні. Усе гэтыя элементы аб'ядноўваюцца ў адзіную культурную прастору, якая структурыруецца і развіваецца паводле сваіх уласных унутрысістэмных законаў.

Паводле аналізу архіўных палявых матэрыялаў РГМА «СЭТ» можна выявіць некалькі шляхоў уключэння прыроднага аб'екта ў семіятычную прастору той ці іншай традыцыі. Зусім відавочна, што значная частка прыродных аб'ектаў вылучаецца ў народнай свядомасці з ландшафту, гэта значыць набывае нейкі адмысловы «асаблівы» статус, замацоўваючыся ў тапанімічнай назве (Святы, Свяцец, Святуха), мікратапаніміі і фальклоры (галоўным чынам у паданнях і звычаях). Іншая частка прыродных аб'ектаў застаецца значнай у межах нейкай культуры, дзякуючы іх структурна-функцыянальным асаблівасцям, трэцяя частка – паводле падзей гістарычнага ці легендарна-гістарычнага мінулага і г.д (камень «Напалеонава крэсла», гара Замак (Лепельскі раен)).

***Рэпрэзентацыя сакральных элементаў ландшафту, паводле візуальных уяўленняў беларусаў Падзвіння.*** Сакральныя элементы ландшафту ўтвараюць своеасаблівы «каркас» вёскі, які на візуальным (тапаграфічным) і абрадавым узроўнях ахоплівае жылую прастору, з'яўляючыся адлюстраваннем традыцыйных уяўленняў аб навакольным свеце і спосабах існавання ў ім [18]. У разгорнутым выглядзе такая структура складаецца са святых крыніц, азер, пагоркаў, камянеў, якія, як сведчаць палявыя даследаванні, дагэтуль ушаноўваюцца.

Асноўныя формы рэпрэзентацыі культурнага ландшафту, якія выяўляюцца ў адпаведнасці з асаблівасцямі ўспрымання навакольнага свету чалавекам – зрокавыя, праз маўленне, слых, тактыльныя, праз пах і на слых. Вядучае значэнне для даследавання сакральных элементаў ландшафту мае зрокавая (візуальная) рэпрэзентацыя ландшафту.

Візуальныя ўяўленні ўзнаўляюць у свядомасці інфарматара параметры аб'екту: форму, габарыты, колер. Разам з тым пры апісанні элемента ландшафту, на памяць прыходзіць які-небудзь адзін асаблівы параметр, які звычайна абумоўлівае сакральнае стаўленне да яго. Так, у ландшафце народнай свядомасцю вылучаюцца элементы, якія валодаюць асаблівымі памерамі. Досыць часта вялікая велічыня валуна служыць асноўным чыннікам вылучэння яго з навакольнага асяроддзя. Напрыклад, Вялікі каменя на беразе возера Свяціца Ушацкага раена паўставаў у народных уяўленнях, як «памерам з хлеў», таксама інфарматары апісвалі яго як» камень у чалавечы рост». Прынамсі, Вялікі камень быў узарваны ў 1960-я гг. Кавалкі зараз знаходзяцца каля в. Свяціца (пад вадой); каля Стоўнхенджа ля возера Янова ў крушні [7].

Трэба пазначыць, што вялікая колькасць азераў Беларускага Падзвіння малых памераў і, як правіла, лясных ці забалочаных, паводле народных ўяўленняў, з'яўляюцца надзвычай глыбокімі, топкімі або бяздоннымі. Так, напрыклад, у Бяздэннае возера каля в. Сталюгі Лепельскага раена «так сразу як глянеш – чорна, ціна. Бяздэннае называецца. Усе баяліся туды хадзіць, там ціна, зачэпісся і не выплывеш. Казалі, звон з-пад вады быў чуваць» [4].

«Бяздэннае возера» (Лепельскі раен) мае невялікаю акруглую форму і вылучаецца сярод іншых шэрагам прыкмет: па-першае, возера, лічыцца бяздонным, па-другое, возера мае ў ніжніх слаях халодныя крыніцы, таму там небяспечна купацца. Паводле першай легенды, у возеры патанула царква. І цяпер чуваць царкоўны звон. Паводле другой легенды, у возеры ўтапілася дзяўчына са сваей сяброўкай. Дзяўчына хацела ўтапіцца з-за нешчаслівага кахання. Пазвала сяброўку катацца на чоўне, а як даплылі да сярэдзіны возера яго перакуліла. Цела яе сяброўкі (цнатлівай) знайшлі – яго прыбіла да берага. А цела дзяўчыны «адразу пайшло на той свет». Такім чынам, паводле ўяўленняў мясцовых жыхароў «Бяздэннае возера» з'яўляецца прамым каналам «на той свет». На беразе возера час ад часу здаецца здань гэтай дзяўчыны [3].

Матыў бяздоннасці возера таксама прасочваецца ў сюжэце падання пра возера Окана (Лепельскі раен). Вазеры, паводле традыцыйна карціны свету, успрымаліся як вокны – каналы «на той свет». Паводле апошніх этнаграфічных экспедыцый, мясцовыя жыхары тлумачаць, што возера Окана атрымала назву з прычыны таго, што на паўднева-ўсходнім беразе есць такія ямы – як вокны. Таму возера называюць яшчэ «возера з вокнамі» або «оконное» [3].

Возера Лешава (Чортава) Ушацкага раена апісваецца інфарматарамі, як дрэннае, нячыстае, маленькае, але вельмі глыбокае: «не магчыма памерыць глыбіню. Хто спрабуе – пагроза, што ўтопіцца». Легенда сцвярджае, што на беразе возера (ці на месцы возера) стаяла царква, якая правалілася разам з людзьмі. Згадкі аб затанулай царкве (касцеле) з'яўляюцца самым распаўсюджаным сюжэтам паданняў пра культавыя азеры. Звычайна ў паданнях пра такія азеры расказваецца, што ішла служба, раптам разам з людзьмі храм праваліўся і ўтварылася возера [2, с. 54].

У народнай памяці звычайна ўзгадваецца каляровая характарыстыка аб'екта прыроднага ландшафту. Колер лічыцца сродкам пазнання сусвету праз сферу пачуццевага ўспрымання прадмета – носьбіта ко-

лера суб'ектам. Як ўласцівасць святла і знешняга аб'екта выклікаць пэўныя зрокавыя адчуванні колер заўседы атаясамліваецца з прадметам і складае з ім адно цэлае.

Белы ў традыцыйнай культуры беларусаў з'яўляецца адным з найбольш пашыраных колераў. Нароўні з чырвоным і чорным ен складае асноўны спектр каляровай сімволікі ў міфапаэтычнай карціне свету. Пра возера Белае, якое знаходзіцца ля вескі Дабраплесы Верхнядзвінскага раена узгадваюць, што ў ім «вада – светлая, лячэбная, толькі туды абавязкова нада што-та ўкінуць» (прынесці ахвяру) [5]. Гэткія ж якасці аўтаматычна надаваліся і элементу ландшафту: Белае возера = Святое. Наадварот, чорны колер лічыўся колер цемры ў падземным царстве, колер ночы, *нячыстай сілы.* Так, валун ля в. Адамаўка Лепельскага раена апісвалі, як «рагаты, шурпаты, чорны. Старыя людзі казалі, што з зямлі расцець» [3].

***Інтэрпрэтацыя сакральных элементаў ландшафту, паводле міфалагічных ўяўленняў беларусаў Падзвіння.*** Міфатворчасць – працэс, у якім можа паўдзельнічаць любы чалавек, які так ці інакш мае адносіны да дадзенай тэрыторыі, з уласным досведам паводзінаў на іншых святых месцах і ўяўленнямі пра правілы, нормы такіх паводзінаў. Неабходнасць разумення адрозненняў у інтэрпрэтацыях розных груп абумоўлена тым, што вынікі могуць прывесці да адсутнасці паразумення паміж прадстаўнікамі розных культур і нават да канфліктаў. Міфалагічныя ўяўленні і вобразы нясуць на сабе адбітак эпох, у якіх яны ўзнікалі, існавалі і развіваліся. Разам з тым, значны ўплыў на іх аказваюць працэсы міжэтнічнага ўзаемадзеяння, культурная і палітычная сітуацыя ў краіне. Гэта, у сваю чаргу, вядзе да трансфармацыі нормаў і асноў традыцыйнага светапогляду.

У архіўных матэрыялах РГМА «СЭТ» інфарматары падаюць тлумачэнне паходжання сакральнага элемента ландшафту. Напрыклад, на месцы возера Крывое (Ушацкі раен) (матыў крывізны – як сінонім святое) «стаяла вялікая веска ці горад. Бог ішоў і прасіўся на начлег, яго не пусцілі нідзе, а толькі пусціла бедная ўдава ў апошняй хаце і раніцай Бог сказаў: забірай дзяцей і ісці з вескі, не азіраючыся. Яна ішла, а за спіной – трэск, крыкі. Не вытрымала жанчына – азірнулася і скамянела на гары як баба-камень. А на месцы вескі ў тварылася возера – крывой формы. Нібыта форма возера паўтарае форму вескі, вуліцы. Возера не замерзне і не сыйдзе з яго лед, пакуль не ўтопіцца чалавек. Возера кожны год патрабуе ахвяру – вясной і восенню» [1].

Паводле міфалагічных уяўленняў беларусаў Падзвіння, у прасторы вылучаюцца элементы, звязаныя з персанажам, якія маюць якасную (станоўчую / адмоўную) характарыстыку. Гэта могуць быць локусы, звязаныя з казачнымі персанажам або святым: Богам, Ісусам Хрыстом, апосталам, Багародзіцай, прарокам Іллей, святымі Мікалаем, Параскевай Пятніцай, і інш.

Даволі распаўсюджаны на Падзвінні сюжэт пра Змееў камень. Паданні аб такіх камянях можна лічыць найбольш архаічнымі. Камень-кравец, які знаходзіцца каля в. Гогалеўка Чашніцкага раена, мае яшчэ назву «Змяеў камень». «У гэтым камені жыў змей у постаці чалавека і гаварыў па-людску. Занясуць, бывала, яму сукно шыць, пададуць праз акно і папросяць: «майстрок, пашый абы надзець, хаця б і дрэнна», то ен пашые так добра, як ніхто на свеце. Дадуць яму колькі-небудзь грошы, а ен ім гатовую сярмяжку. А калі папрасіць: «майстрок, пашый мне харашэнька, каб было ў царкву ў чым схадзіць!», то ен адзін рукаў ушые ў плячо, а другі прышые ззаду. Змей гэты кахаў дзяўчыну ў в. Абазеры. Аднаго разу, калі ен загадаў дзяўчыне шукаць у яго галаве, і заснуў, найшла хмара, і загрымеў гром. Ен кінуўся уцякаць, а перун у яго стаў біць і на трэцім разе забіў. Людзі яго знайшлі і закапалі» [3]. Разглядаючы легенду пра «Змяеў камень» у цэлым, варта дапусціць атаесамленне святара-краўца з хтанічным персанажам. Даволі распаўсюджаны паданні пра акамянелыя вескі, азеры, храмы.

Паводле традыцыйных ўяўленняў, асобную групу локусаў складаюць элементы ландшафту, звязаныя з «адмоўным» персанажамі: нячысцікам (нячысцікамі), чортам (чарцямі). У беларускіх легендах Чорт (або д'ябал) у пары з Богам фігуруе як адзін са стваральнікаў свету (дастае зямлю з-пад вады, стварае нязручныя для чалавека ландшафты, рэптылій, жаб і г. д.), але пазней з прычыны непаслушэнства (падману, суперніцтва) уступае з Богам у канфлікт, які выяўляецца ў паляванні апошняга на Чорта перунамі. Суаднясенне з каранямі дуба як правобразам Сусветнага дрэва, сувязь з жывеламі (стварыў каня і ваўка, брат мядзведзю) у кантэксце суперніцтва з Богам-Грымотнікам сведчыць пра частковую асіміляцыю персанажам Чорта вобраза бога Вялеса – антаганіста Перуна (паводле прынятай сення інтэрпрэтацыі) [15, с. 554].

Чортавы камяні вядомы толькі ў Беларускім Падзвінні. За межамі краіны яны найбольш распаўсюджаны ў Латвіі і Літве, на Пскоўшчыне. Глыбокая старажытнасць Чорта, як хтанічнага божышча можа быць прычынай тапаграфічнай прывязкі Чортавых камянеў да глухіх, неабжытых мясцін, размяшчэння іх у нізінах і каля балот [15, с. 153]. Чортавы камяні ўяўляюць сабой валуны з неапрацаванай паверхняй, найчасцей вельмі буйных памераў, якія звычайна знаходзяцца ў глухіх балоцістых мясцінах. Амаль усе Чортавы камяні маюць даволі вялікія памеры, неапрацаваную паверхню і часцей за ўсе знаходзяцца ў глухіх і балоцістых мясцінах, але сустракаюцца і пры дарогах.

Ва ўяўленнях беларусаў Падзвіння Чортавы камяні захавалася шмат паданняў і павер'яў. Даволі часта пра адзін і той жа камень бытуе некалькі версій. Найбольш распаўсюджаны сюжэт паданняў, у якіх чорт нес камень, але праспяваў певень і чорт выпусціў камень. Даволі папулярным з'яўляецца сюжэт, паводле якога на камяні

з'яўляюцца агеньчыкі ці кастрышчы без дыму, або каля каменя чуваць гукі званочкаў [15, с. 154]. Такім чынам, аб'екты прыроднай прасторы, у найменні якіх прысутнічае лексема «Чорт» складаюць даволі значны пласт у легендарнай тапаніміке Беларускага Падзвіння, з'яўляючыся пэўнай асаблівасцю рэгіена.

Паводле вербальных ўяўленняў, зафіксаваных на тэрыторыі Беларускага Падзвіння, вылучаюцца элементы ландшафту, каля якіх адбываюцца анамальныя з'явы. Ушанаваны валун успрымаецца як локус з «асаблівымі» ўласцівасцямі, звязанымі з міфалагічнымі персанажамі. З прычыны гэтага, вялікая колькасць фальклорных сюжэтаў пра валуны апавядае пра анамальныя з'явы, якія маюць месца каля камянеў; часта гэтыя з'явы злучаны з дзейнасцю «нячыстай сілы».

У ландшафце Беларускага Падзвіння вылучаюцца элементы**,** каля якіх нехта «водзіць»**.** Апынуўшыся каля каменя, чалавек пачынае блудзіць, прычым часта менавіта з прычыны таго, што чэрці яго «дураць»: яму здаецца, што ен у адным месцы, а апынуўся ў іншым, кантрасным уяўнаму. Балота, якое знаходзіцца вакол в. Рудня (Ушацкі раен) – называлі Блудзяшчык, «таму што там людзі блудзілі» [2, с. 55]. Ля гары Манухі (веска Сенькава, Верхнядзвінскі раен), на скрыжаванні чатырох дарог, знаходзіцца Чорнае балота. Мясцовыя жыхары пазначаюць пра тое, што «на гэтым чорным месцы чэрці вадзілі п'яных мужыкоў (не маглі потым правільна выйсці адтуль)» [5]. Пра Вялікі камень ля Новых Валосавічаў узгадваюць: «з бані адзін чалавек ішоў, што яго чорт вадзіў круг гэтага каменя. Ніяк ня мог выйці, так і заначаваў» [3].

На тэрыторыі Латышскага Падзвіння зафіксаваны элементы ландшафту, паблізу якіх «здаюцца зданькі». Этнаграфічнай экспедыцыяй было зафіксавана паданне пра Замкавую (Паненчыну) гару. Паводле падання гэта гара была праклятая бацькамі адной вельмі прыгожай дзяўчыны. Аднойчы на гэтую гару прыйшоў ксендз правесці святую імшу. Хутка з'ўлялася постаць дзяўчына. Але ксендз забыўся «колпачек, что свечи гасят по окончании молитвы. И девушка осталась на горе до конца свету» [9]. Мясцовыя жыхары хутара адзначаюць, што каля гары здаюцца зданькі: бачаць «девушку с 2 собаками» [9]. Побач з Замкавай гарой есць Гульбішчава гара: «бароны на ей гулялі, собирались, гостили, охотились, пили и гуляли. Давно это было [8]. У латгальскім паданні пра камень, які ляжаў непадалек ад в. Каплава Краслаўскага раена (Kāplava, Krāslavas rajons), расказвалі, што з'явілася «видение, оно исчезло лишь тогда, когда, этот камень окрапили» [8].

***Рытуальныя практыкі, звязаныя з сакральнымі элементамі ландшафту Беларускага Падзвіння.*** Статус элемента ландшафту можа быць падкрэслены тымі ці іншымі дзеяннямі людзей. Іншымі словамі, статус сакральнага локуса выяўляецца праз паводзіны або адмысловую рытуальную дзейнасць чалавека па ўшанаванні прыроднага аб'екта. Паводле прааналізаваных матэрыялаў архіва РГМА «СЭТ» можна вылучыць тры аспекты ўключэння элементаў ландшафту у рытуальную дзейнасць. Па-першае, сакральныя элементы ландшафту ўяўляюцца цэнтрам прадуцыравальных сіл і выступаюць у якасці памочнікаў (у выпадках, калі не змушаны помсціць людзям за непачцівае да сябе стаўленне, прычым часам гэта дапамога мяркуе пад сабой своеасаблівую «плату» – ахвярапрынашэнне (звычайна сімвалічнае). У шэрагу выпадкаў паведамленне пра дапамогу элементаў ландшафту зводзіцца да досыць агульных сцвярджэнняў, аднак звычайна гаворыцца пра цалкам пэўныя функцыі: лекавыя, дапамога ў жывелагадоўлі і інш. Па-другое, элементы ландшафту з'яўляюцца маркерамі пераходу: або прасторавага, або ў катэгорыях «жывое» – «нежывое». Па-трэцяе, элементы ландшафту выступаюць як месцы правядзення святочных ігрышчаў моладзі.

Правілы паводзінаў на культавых аб'ектах і на прылеглых да іх тэрыторыях заўседы рэгуляваліся рознымі сацыяльнымі інстытутамі: тэрытарыяльнай супольнасцю, родавой групай, сям'ей. На пачатку XXI стагоддзя ўсталяваныя традыцыяй правілы паводзінаў на сакральных локусах захоўваюць сваю сацыяльную значнасць унутры мясцовай абшчыны, якая працягвае падтрымліваць сваю генетычную ці міфалагічную сувязь з культавымі аб'ектамі. Па-ранейшаму нельга пакідаць смецце, высякаць дрэвы, ламаць галінкі, браць прадметы, якія ўжо «прыналежаць» культавым аб'ектам і інш [7]. Сакральнасць элемента ландшафту падкрэсліваецца з дапамогай абрадавай практыкі і праз актуалізацыю яго функцыі. Так, унутры супольнасці замацоўваюцца нормы традыцыйных паводзінаў і рэгулююцца ўзаемаадносіны паміж сакральным і прафанным светамі.

Паводле матэрыялаў архіву РГМА «СЭТ», на тэрыторыі Беларускага Падзвіння зафіксаваны наступныя формы рытуалаў, якія здзяйсняюцца на святой крыніцы: афіцыйная – хрэсны ход і асвячэнне крыніцы (звычайна на Вадохрышча або ў дзень шанавання святога, чый абраз з'яўляўся побач з аб'ектам); і неафіцыйная (здзяйсняецца асобнымі вернікамі, маюць форму зароку).

Адной з самых распаўсюджаных практык з'яўляецца выкананне зароку. Зарокам завуць уласна наведванне крыніцы, таксама завуцца рэчы, якія прыносяцца да крыніцы. Азначэнне «зароку» уключае ў сябе ўвесь комплекс дзеянняў, якія здзяйсняюцца ля крыніцы: «папіць святой вады», кінуць у крыніцу грошы, павесіць фартух, стужку, паліць свечкі. Усе гэта здзяйсняецца для вырашэння якой-небудзь праблемнай сітуацыі. На Святую крыніцу ў Стаечках (Ушацкі раен) на Іллю (2 жніўня) збіраецца шмат вернікаў. Людзі «бяруць ахвяры»: ідуць на каленях ад цэрквы да крыніцы. Пры гэтым просяць дапамагчы ад пэўнай хваробы («загадваюць на хваробу», напрыклад, «прашу, каб вочы добра відзелі») [глушко, дабрав]. Да крыніцы ў в. Сарочына (Ушацкі раен) хадзілі на Благавешчанне. Хадзілі, пакуль існавала царква

(а магчыма, і нейкі час пасля таго). Пры гэтым таксама ішлі на каленях ад царквы да крыніцы (тры разы на каленях абыходзілі царкву і ішлі да крыніцы). Да крыніцы таксама складалі ахвяру, напрыклад, ахвяравалі воўну, «каб авечкі добра вяліся». Ахвяраванні клалі каля крыніцы [1]. Сам працэс ахвярапрыношання і звароту да крыніцы называўся «браць ахвяру» або «ахвяравацца». Звяртаючыся да крыніцы, казалі: «Ахвяруюся госпаду богу, каб здароўечка даў, каб дзеткі шчасьліва жылі і г.д.» [2, с. 54]. Раней над крыніцай «...па історыі, як дзяды расказываюць, быў навесік здзеланы такі, дашчаты». Вешалі фартушкі, « кажуць, у каплічке самой віселі» [7]. Трэцяя форма рытуалу: калі адзін вытворны рытуал ўяўляе сабою кантамінацыю двух вышэйпазначеных форм – напрыклад, робіцца пазачарговы хрэсны ход, калі крызісная сітуацыя кранаецца ўсей вескі (напрыклад, засуха). Такім чынам, увесь абрад (хрэсны ход), адпаведна мае два тэрытарыяльных, семантычных, сімвалічных і рытуальных цэнтры. Царква – афіцыйная святыня; рытуал – выключна хрысціянскі, галоўная дзеючая асоба – святар. Крыніца ж уяўляе сабою складаны сакральны комплекс, аб'яднаўчы культурную (капліца) і прыродную (крыніца) святыні. Адгэтуль дваістасць семантыкі і рытуалаў: па-першае, хрысціянскія абрады, якія рабіў святар (набажэнства, асвячэнне крыніцы). А па-другое, паганскія абрады, якія ажыццяўляў вернік: з вадой (набіраюць, каштуюць, абліваюцца вадой) [16, с. 24]. На Купалле «дзеўкі раней хадзілі голыя купацца ў святую крыніцу ля в. Сарочына (Ушацкі раен), каб хутчэй выйсьці замуж» [11, с. 46].

Варта прыгадаць і рэліктавы звычай, звязаны з вывешваннем абыдзеннага ручніка на драўляны крыж, што ставіўся на перасячэнні дарог. У традыцыях беларусаў Падзвіння было ставіць на «ростанях» (скрыжаваннях) крыжы, абавязковым дапаўненнем якіх былі абраз і ручнік. Такія крыжы ставілі таксама пасярэдзіне вескі, у яе пачатку на ўездзе ці ў канцы на выездзе, каля могілак, на абочыне дарогі або на тым месцы, дзе «здаваліся зданькі». Антрапаморфносць крыжоў дасягаецца напластаваннем на іх вялікай колькасці тканін: палатна, ручнікоў, фартухоў, набіваных хустак, адрэзаў фабрычнага тэкстылю, якія прыносяць жанчыны ў якасці аброку. Аброчны тэкстыль ператвараецца ў пластычны матэрыял, які надае крыжам выразную антрапаморфную форму [14, с. 95]. Такі спосаб афармлення крыжоў можна аднесці да разраду народнай пластычнай творчасці. У Докшыцкім раене былі зафіксаваны аброчныя крыжы перад ўваходам на могілкі. Мясцовыя жанчыны вешаюць на яго аброкі на Вялікдзень, прыходзячы на могілкі памінаць сваякоў. «Хвартушкі шыем. Богу молімся там. На Вяліканьне павязваем хвартушкі – цвяточкі прыносім, канфеткі там. Перад кладбішчам стаіць крыж, туды і вешалі ахвяры» [6].

Традыцыі «абракання» прытрымліваюцца галоўным чынам жанчынамі старэйшага ўзросту. У сілу натуральнай дэпапуляцыі іх у весках застаецца ўсе менш. У адпаведнасці з гэтым год ад года на аброчных крыжах усе менш збіраецца аброчных тканін. Звычай прынашэння аброкаў несумнеўна мае рытуальны характар. У карысць гэтага кажа яго калектыўнае выкананне, сакральна-рытуальны час – да ўзыходу сонца, уначы «на усяночную» перад Вялікднем, наяўнасць рытуальнага ачышчальнага агню, у якім спальваюць знятыя з крыжа старыя чыншавыя тканіны. Прасочваецца паралель паміж калектыўным характарам прынашэння тэкстыльных аброкаў на крыжы і рытуалам вырабу штодзеннай тканіны, да якога жанчыны вескі звярталіся ў выпадках, калі існавала небяспека: засухі, эпідэміі, эпізаотыі, хвароб дзяцей, войны. Рытуал калектыўнага прынашэння аброкаў, зафіксаваны ў Докшыцкім раене, у мінулым мог таксама мець важнае значэнне для вясковага соцыума, з'яўляўся магічнай формай забеспячэння яго дабрабыту і існаванні. Менавіта таму ен захаваўся ў калектыўнай рытуальнай практыцы як традыцыя, якой па-ранейшаму прытрымваецца старэйшае пакаленне жанчын. Хрысціянская прымеркаванасць рытуалу да Вялікадня ўзыходзіць да найстаражытнай абрадава-каляндарнай традыцыі рытуальна-магічных практык, якія прыходзяцца на перыяд вясновага раўнадзенства, на пачатак земляробчага года. Дадзеная праблематыка апошнім часам прыцягвае ўвагу даследчыкаў у сувязі з актуалізацыяй гендэрнай праблематыкі ў культурнай антрапалогіі.

Такім чынам, аналіз этнаграфічных крыніц і палявых матэрыялаў, зафіксаваных на тэрыторыі Беларускага Падзвіння, паказвае, што пераважная частка дзеянняў, скіраваных на пазбаўленне (засцеражэнне) ад хваробы, носіць сімвалічны (рытуальны) характар і можа быць растлумачана ў кантэксце асаблівасцяў традыцыйнага светапогляду беларусаў Падзвіння (асабліва вясковага насельніцтва).

Варта асобна абазначыць каляндарную прымеркаванасць сакральных элементаў ландшафту. У некаторых выпадках рытуалы, якія, напрыклад, здзяйсняюцца побач са святой крыніцай, прывязаны да якога-небудзь каляндарнага свята. Часам, у выпадках, калі святая крыніца звязана з імем якога-небудзь святога, шанаванне локуса прымяркоўваецца да дня памінання гэтага святога. Сустракаюцца згадкі пра абрады, прымеркаваныя да зімовых, вясновых, летніх свят.

Ушанаванне святых крыніц звычайна адбывалася ў пэўныя святы. Зрэшты, адказваючы на пытанне збіральніка аб тым, у які дзень раней хадзілі на крыніцу, звычайна чуеш ў адказ: «... у любы дзень. У любы дзень пайдзеш» або «Ды ж калі ходзяць, дык ходзяць без свята. Хто каму трэба, той, той і ідзе» [7]. Лічылася, што на свята вада крыніц валодае найбольшай лекавай здольнасцю. Святкаванне каля крыніц на Купалля вядомыя ў такіх месцах Беларускага Падзвіння: каля весак Сарочына, Стайкі (Ушацкага раена), Гентава, Сквірцы (Міерскага раена). У шэрагу мясцін вывучаемага рэгіена святкаванне адбывалася на Макавея (14 жніўня) – у весцы Вуглы

Вухвішчанскія (Полацкага раена), Ракаў Засценак (Сенненскага раена). На Тройцу (Семуху) ушаноўваюць крыніцы каля весак Сарочына (Ушацкага раена), Паршні (Сенненскага раена). На Вялікдзень адбываліся святканні каля крыніцаў паблізу весак Вуглы Вухвішчанскія (Полацкага раена), Сарочына (Ушацкага раена). У дзень святога Іллі ўшаноўвалі крыніцу ў Стайках (Ушацкага раена), Галавачах (Сенненскага раена). Як бачым, часам, адну і тую ж крыніцу ўшаноўваюць некалькі разоў на год. Культавая крыніца каля вескі Пустынка (Сенненскага раена) называлася Русалім (Іерусалім) – відаць, у знак вялікай святасці таго месца [11, с. 16]. Ушанаванне крыніц у канкрэтныя вызначаныя дні мела апірышча як у хрысціянскіх рэлігійных ўяўленнях, так і апасродкавана (дзякуючы вонкавай хрысціянізацыі абрадаў) – у паганскай міфалогіі [11, с. 67]. Так, правядзенне фэстаў каля крыніц на Вялікдзень можна вытлумачыць як значнасцю для хрысціян самога свята, звязанага з уваскрэшэннем Хрыста, так і тым, што ў дахрысціянскія часы прыблізна ў тыя ж самыя вясновыя дні адзначалася свята ў гонар аднаго з галоўных багоў – Вялеса (сведчанні гэтаму можна знайсці ў валачобных песнях).

**Заключэнне.** Такім чынам, можна зрабіць наступныя высновы. Матэрыялы архіву РГМА «СЭТ» утрымліваюць інфармацыю аб сакральных элементах ландшафту, якая была зафіксавана ў 1993 – 2011 гг. на тэрыторыі Беларускага Падзвіння. Яны маюць істотную навуковую каштоўнасць: для выяўлення і апісання сакральных локусаў (асабліва ва ўмовах іх знікнення), для фіксацыі ўяўленняў беларусаў Падзвіння напрыканцы ХХ – пачатку ХХІ стст., для захавання і музеяфікацыі сакральных аб’ектаў ландшафту. Беларускае Падзвінне мае выразныя прыродна-геаграфічныя, у прыватнасці, ландшафтныя асаблівасці. Яно амаль цалкам супадае з межамі геамарфалагічнай вобласцю Беларускага Паазер’я, надзвычай багатага рэгіена на ўзвышшы, рэкі, азеры, балоты і крыніцы. Сакралізацыя элементаў ландшафту з’яўляецца адной з асаблівасцяў светапогляду, які складае аснову міфапаэтычнай мадэлі свету беларусаў Падзвіння. Абазначэнне ў свядомасці статусу сакральнага локуса спараджае адмысловую рэпрэзентацыю, інтэрпрэтацыю аб’екта і сістэму паводзінаў. Сакральныя элементы ландшафту аб’ядноўваецца ў адзіную культурную прастору і ўплывае на фарміраванне этнічнай свядомасці. У шэрагу выпадкаў сучасныя гісторыка-культурныя рэаліі асвойваюцца пасродкам традыцыйных абрадавых і фальклорных практык і арганічна ўключаюцца ў этнічна абумоўленую знакавую сістэму.

ЛІТАРАТУРА

1. Архіў Студэнцкага этнаграфічнага таварыства (АСЭТ): Фонд «Цэнтр этнакасмалогіі «Крыўя». – Касета: УА-4, 41-43 «Ушацкія азеры», № 2, А, 40. – Запісана ў 1994 г. Глушко А.В., Скворада В. ад Глінскай Г.А., в. Сарочына, Ушацкага раена Віцебскай вобласці.
2. АСЭТ: Фонд «Цэнтр этнакасмалогіі «Крыўя». – Касета: УА-12. – Этнаграфічная экспедыцыя «Ушацкія азеры» 3 – 13 жніўня 1994 г. – Экспедыцыйныя запісы. – С. 54 – 56.
3. АСЭТ: Фонд РГМА «СЭТ». – Касета: L_1_10 бок А. – Этнаграфічная экспедыцыя «Лепель», 1998 г.
4. АСЭТ: Фонд РГМА «СЭТ». – Палявы дзеннік А.В. Глушко. – Запісана Глушко А.В. у 1998 г. ад Дабравольскай М., в. Сталюгі, Лепельскага раена Віцебскай вобласці.
5. АСЭТ: Фонд РГМА «СЭТ». – Палявы дзеннік А.В. Глушко. – Запісана ў 2003 годзе этнаграфічнай экспедыцыяй РГМА «СЭТ» ад Закрэўскага С.С., в. Ізубрыца, Верхнядзвінскага раена
6. АСЭТ: Фонд РГМА «СЭТ». – Палявы дзеннік Ю. Пракоф’евай. – Запісана Пракоф’евай Ю.С. 12 жніўня 2006 г. ад Янкоўскай А.М., 1940 г.н., в. Асецішча, Докшыцкага раена Віцебскай вобласці
7. АСЭТ: Фонд РГМА «СЭТ». – Палявы дзеннік Ю. Пракоф’евай. – Запісана Пракоф’евай Ю.С., Васільевай І.А. 28 красавіка 2007 г. ад Глінскага А.І., 1938 г.н., в. Сарочына, Ушацкага раена Віцебскай вобласці
8. АСЭТ: Фонд РГМА «СЭТ». – Палявы дзеннік Ю. Пракоф’евай. – Запісана Пракоф’евай Ю.С. 1 жніўня 2007 года ад Сасноўскай Э., в. Kāplava, Krāslavas pagasts, Daugaupils rajons, Latvia
9. АСЭТ: Фонд РГМА «СЭТ». – Палявы дзеннік Ю. Пракоф’евай. – Запісана Пракоф’евай Ю.С. 8 жніўня 2007 года ад Лебедзька С.В., 1912 г.н., в. Pilskalne, Krāslavas pagasts, Daugaupils rajons, Latvia
10. Гумилев, Л.Н. Этнос и ландшафт / Л.Н. Гумилев // Gumilevica: гипотезы, теории, мировоззрение. – [Электрон. ресурс] – Режим доступа: http://gumilevica.kulichki.net/articles/Article91.htm. – Дата доступа: 21.02.2011.
11. Зайкоўскі, Э.М. Жыватворныя крыніцы Беларусі / Э.М. Зайкоўскі, Л.У. Дучыц. – Мінск: Ураджай, 2001. – 111 с.
12. Лавренова, О.А. Семантика культурного ландшафта: автореф. дис.... докт. философ. наук: 24.00.01 / О.А. Лавренова; Рос. гос. гуманитар. ун-т. – М., 2010. – 38 с.
13. Лакотка, А.І. Эмацыянальная выразнасць асяродку прыбывання / А.І. Лакотка // Фальклорная спадчына Р. Шырмы і Г. Цітовіча: вопыт збіральніцкай, навуковай і папулярызатарскай дзейнасці ў кантэксце праблем адраджэння традыцыйнай культры вескі / [укладанне, прадмова Т.А. Марозавай]. – Мінск: Паркус плюс, 2008. – С. 7 – 9.

14. Лобачевская, О.А. Женские антропоморфные кресты на Беларуси: современные наблюдения и гипотезы / О.А. Лобачевская // Палявая фалькларыстыка і этналогія: даследаванне лакальных культур Беларусі. – Мінск: БДУіКМ, 2008. – С. 94 – 109.
15. Ляўкоў, Э.А. Маўклівыя сведкі мінуўшчыны / Э.А. Ляўкоў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 215 с.
16. Полацкі этнаграфічны зборнік. Вып. 1. Народная медыцына беларусаў Падзвіння. У 2 ч. Ч. 2 / склад. У.А. Лобач, У.С. Філіпенка. – Наваполацк: ПДУ, 2006. – 332 с.
17. Санько, С. Штудыі з кагнітыўнай і кантрастыўнай культуралегіі / С. Санько. – Мінск.: БГАКЦ, 1998. – 190 с.
18. Платонов, Е.В. Сакральная организация деревенской округи / Е.В. Платонов // Электронная научная библиотека по истории древнерусской архитектуры. – [Электрон. ресурс]. – Режим доступа: http://rusarch.ru/platonov_e1.htm. – Дата доступа: 25.01.2011.

## СУБМОРФНЫЕ ОБЪЕДИНЕНИЯ С ИМЕНЕМ СОБСТВЕННЫМ НА ПОЛОТЧИНЕ

***канд. филол. наук, доц. М.Д. ПУТРОВА***
***(Полоцкий государственный университет)***

*На основе записей подлинного говорения на территории Полотчины в статье рассмотрены субморфные объединения с именем собственным в своем составе.*

Предметом настоящего исследования является относительно редко встречающееся явление в практике устного общения и еще реже письменного: субморфные объединения с именем собственным в своем составе. Неслучайно они еще не стали объектом внимания лингвистических исследований. Под субморфными объединениями понимаются образования типа – *ыто* в *шито-крыто*, – *адзея* в *Надзея-падзея*, – *аўка* в *Слаўка – шаўка*.

Впервые о субморфных образованиях заговорил Р. Якобсон и убедительно представил их значимость для формирования системы склонения в русском языке, показав, что в данном языке сходство окончаний ограничивается либо одинаковым числом фонем, либо общностью одной из фонем (например, в любой парадигме множественного числа все окончания периферийных падежей начинаются с одного и того же гласного, а в прочих типах склонения все полифонемные окончания периферийных падежей содержат одну и ту же неслоговую фонему; все полиморфемные окончания косвенных падежей в женских типах склонения заключают –j–, а в остальных типах склонения все полиморфемные окончания Т. и Д., то есть необъемных периферийных падежей, содержат губную носовую фонему) [1, с. 195]. В дальнейшем наблюдения Р. Якобсона были дополнены убедительными данными А.А. Реформатского [2], А.А. Зализняка [3], В.В. Иванова [4], К.И. Позднякова [5]. Они показывают значимость унификаций обсуждаемого типа для конструирования и эффективного функционирования системы не только русского, но и, практически, всех попавших в поле исследования названных авторов многочисленных языков. Тем не менее, по справедливому замечанию К.И. Позднякова, внеморфемные языковые знаки относятся к наименее изученным в системе любого языка и являются объектом рассмотрения только еще формирующейся области языкознания. И если некоторые из них получили хотя бы предварительное или фрагментарное описание, то унификации с именем собственным в своей структуре еще не стали объектом какого бы то ни было внимания исследователей, в том числе и тех, кто занимается исключительно антропонимикой. Сказанное объясняет новизну предлагаемого нами исследования.

Материалом для его проведения послужили записи подлинного говорения на Полотчине, главным образом, в основных городах данной территории: Полоцке и Новополоцке. Всего было зафиксировано приблизительно 80 000 слов текста, 40 000 из которых на белорусском языке и 40 000 на так называемой «простай мове».

Рассмотрим некоторые из весьма типичных случаев реализации имени собственного в составе субморфных образований, сегментированных нами из наших записей подлинного общения.

1.

$А_1$: ***Міха-ціха*** *дзе?*

$Б_1$: (показывает глазами)

$А_2$: *А-а! Ну-ну. Так.*

2. ***Казь-Казічак прыдзе***. *Цікава будзе. Прыходьце, праўда* [Н].

Примечание: знак [Н] манифестирует придыхание.

3.

$А_1$: ***Жэнька-Няжэнька***, *а хтосьці быў!*

$Б_1$: *Быў, быў.*

4.
$А_1$: *А якая ж яна кабетка прыходная!*
$Б_1$: *Ага, ага!*
$А_2$: *Пухлявенькая ды вытачаная.*
$Б_2$: *Уся!*
$А_3$: ***Зіна-Зіначка-Зінулька***.
$Б_3$: *Так, прыгожая! Вой! Нічога не скажаш.*
$А_4$: *Нічога не скажаш.*
$Б_4$: *Прыгожая, прыгожая!*
$А_5$: *Прыгажунька.*

5.
$А_1$: *А што яна, **Каця-немаўляця**, што маўчала?*
$Б_1$: *Вой! Дык згубілася яна.*
$А_2$: *Згубілася! Яна ж усе ведае.*
$Б_2$: *Ведае, ведае, ведае.*
$А_3$: *Дык трэ было казаць, як ведае, а то!*

6.
$А_1$: *Прышоў! Ен прышоў! Толькі **Верка-дзверка** зноў яго а ні на парог!*
$Б_1$: *Дык яктачкі так?!*
$А_2$: *А вось так!*
$Б_2$: *Божачка! У сваю хату?!*
$А_3$: *У сваю хату, цетка!*

7.
$А_1$: *А нада было б и пастараццa. Мо што-нибудь и палучыў бы.*
$Б_1$: *ыы! **Дулю-Юлю!***
$А_2$: *Ну-у **прама**!*
$Б_2$: ***Крыва**!*
$А_3$: *Якія-та деньги **такія-сякія** ўсе б тачкі и палучыў.*
$Б_3$: *Цц!*

8.
$А_1$: *А няхай зробіць шту-небудзь, няхай! Нічога. Нічога.*
$Б_1$: *Вой-вой-вой!*
$А_2$: *Праўда, праўда. А то (повышает голос, имитируя собеседницу) **Ленька-Ленячка**! Гы-гы! Ленячка! **Ленька – Ляняка** ен, вось хто!*
$Б_2$: *Ен стаміўся! Сынок!*
$А_3$: *Не стаміўся, а заляніўся! Твой **Ленька-Ленячка**. Ляняка ен, кажу.*
$Б_3$: *Які ты! Божачка!*
$А_4$: *Ладна, ўсе! Хопіць! Няххай ззрробіць усе! Як трэба! Ййассна?!*

Как видно из представленных примеров, субморфные унификации возможны не только с именами собственными. Образование *такія-сякія* из реплики $7А_3$ и фрагмент диалогического единства из реплик $7А_2$ и $7Б_2$ (*Прама! Крыва!)* также представляют собой связанные или «двухстворчатые», в терминологии К. Чуковского [6, с. 106] объединения, созданные в первом случае усилиями одного говорящего ($7А_3$), во втором – двух ($7А_2$ и $7Б_2$) в процессе их совместного порождения далогического текста. Очевидным образом члены таких пар включают как различающиеся, так и одинаковые звуковые сегменты, при этом общие формальные приметы (в первом случае *–акія* и полностью совпадающие слоговая и акцентная структуры обоих компонентов; во втором – идентичная слоговая и акцентная структуры – ´CCVC –, окончание – *а* и второй согласный корня – *р*) в сочетании с предшествующим глухим взрывным согласным звуком маркируют их как определенные спонтанно возникшие единства. Данная спонтанность вовсе не означает, что такие объединения случайны и не имеют никакого отношения к особенностям функционирования языка. Задача настоящего исследования состоит:

– в идентификации тех приемов или техник, которыми пользуются говорящие, чтобы формально эксплицировать сходство двух разных знаков, одним из которых является имя собственное;
– в установлении возможных гендерных предпочтений в использовании тех или иных техник, которые и обуславливают появление субморфных унификаций с именем собственным.

Некоторые их представленных в примерах 1 – 8 объединений с фонетической точки зрения являют собой максимальное уподобление формы одного элемента другому. Так, унификации *Міха – ціха* ($1А_1$), *дулю – Юлю* ($7Б_1$) в качестве общей составляющей имеют не только двусложные субформы (*–іха*, *–улю*), но и одинаковую структуру отличающихся сегментов (согласный звук, образующий слог с первым гласным сегментом субморфа, например, звук /j/ в слоге, обозначенном буквой «ю» слова *Юлю*). Целесообразно заметить, что и в простой мове (7), и в белорусском примере (1) это открытые слоги. Вместе с тем

имеются и очевидные композиционные различия в конструкции как рассмотренных структур, так и в других, приведенных в примерах 1 – 8. В объединении *Міха – ціха,* равно как и *Каця – немаўляця*, *Верка – дзверка* имя собственное является первой, инициальной составляющей, а в объединении *дулю–Юлю* – замыкающей. В унификациях *Зіна – Зіначка – Зінулька* ($4А_3$), *Ленька – Ленячка*, *Ленька – Ляняка* ($8А_2$), *Казь – Казічак* (2) все составляющие представляют собой имена собственные.

Роль фонетического аспекта в таких унификациях наиболее очевидна в зафиксированных нами объединениях *Слаўка – шаўка* или *Слаўка – лаўка* или подобных ему: *Пашка – гуляшка* (мальчик), *Жэнька – жменька* (мальчик). Во всех данных объединениях в угоду фонетической идентичности пожертвован даже признак рода, в результате чего объединенными оказались слова женского рода *шаўка*, *лаўка*, *гуляшка*, *жменька* и мужские имена личные *Слаўка*, *Пашка*, *Жэнька* (мальчик). Вместе с тем, *Пашка – гуляшка* представляет собой с фонетической точки зрения менее унифицированное объединение, чем *Жэнька – жменька* или *Слаўка – лаўка*, и еще менее, чем *Жэнька – менька* (девочка), несмотря на однотипный общий компонент: двухсложный морф – *ашка* (в сопоставляемых примерах: *–энька*, *–аўка).* Дело в том, что слоговое строение присоединяемого замыкающего слова в образовании *Пашка – гуляшка* более сложно по своей композиционной структуре, так как включает 3 слога. Тем не менее, если убрать слог *гу–*, то оставшаяся часть фонетически не отличается от слова, «комментирующего» имя в объединении *Жэнька – менька*. То есть внутренняя структура слогов как присоединяемого слова, так и первого, инициативного, если исключить добавочный/ые, лишний (или лишние) слоги из присоединяемого к имени слова, в таких разновидностях унификаций идентична. По сути, *Каця-немаўляця*, *Пашка-гуляшка* являются одним из вариантов такого объединения, *Жэнька – менька* – другой. *Каця – немаўляця* ($5А_1$) и *Жэнька – Няжэнька* являются реализациями одной пароадигмы образования объединений с именем собственным, основанной на принципе простого увеличения слогов в прибавляемом слове. Последним может быть даже другой вариант названного в первой части имени: *Казь – Казічак* (2). При этом, как видно из представленных примеров, дополнительные слоги могут манифестироваться как в пред, так и в постпозиции: *Ж**энька*** – *Няж**энька***, ***Каз**ь* – ***Ка**зічак*. По нашим данным, последний вариант образования унификаций с именем собственным более употребителен в говорении русских коммуникантов: *Валь – Валюшка*, *Вер – Веруша*, *Коль – Коленька*, *Борь – Борисушка* и т.п.

Помимо представленных, возможен также еще один вариант реализации объединений с привносимым, дополнительным элементом, когда последний расщепляет субморф, внедряясь в его структуру: *Ленька – Лен**яч**ка*, *Ленька – Лян**я**ка* ($8А_2$), *Верка – Вер**ач**ка*, *Тонька – Тон**яч**ка*, *Шурка – Шур**а**ка*, *Жэнька – Жэн**яч**ка*. Такое расщепление, как видно из представленных примеров, сопряжено с изменением качества первого слога. В комментирующем слове он, как правило, открытый, а в базовом, начальном слове – закрытый. В говорении белорусов, включая и тех, кто изъясняется на простой мове, данный вариант более употребителен, чем тот, в котором первый конституэнт унификации представляет собой односложное (сокращенное) имя, а второй – то же имя плюс один, два и более добавочных слогов (*Казь – Казічак*).

Помимо представленных количественных изменений в слоговой структуре комментирующих слов за счет увеличения числа слогов в них возможны и другие модификации. Значительное количество унификаций с именем собственным образовано за счет вариаций внутреннего состава слогов в комментирующем слове без изменения общего количества слогов в нем: *Верка – дзверка*, *Надзька –шмадзька*, *Шурка – жмурка* и т.п. Объединения данной разновидности регистрируются во всех рассматриваемых выборках, составляя заметное количество в каждой из них. Сравнение отличающихся слогов в таких образованиях показывает, что данное отличие манифестируется прежде всего за счет изменений во внутренней структуре отличающегося слога. Модель CVC превращается в CCVC.

Кроме перечисленных, нами зарегистрированы весьма редкие случаи трехчленных унификаций с именем собственным: *Зіна – Зіначка – Зінулька* ($4А_3$), *Віцька – ´Віцятка – Віц´ятка*. Количество реализаций подобных объединений имеет ярко выраженную культурную специфику: минимально в говорении белорусов и значительно более частотно в вербальном поведении русских, американцев и англичан. Структура таких унификаций также культурно специфична. В белорусском говорении нами зафиксированы только расширяющиеся по количеству слогов составляющие после первого компонента структуры. Третий компонент, однако, обнаруживает увеличения слогов только по сравнению с первым слогом. Кроме того, в нем, как правило, меняется структура акцентной выделенности. Так, *Ленька – ´Ленячка – Лян´яка* в последнем своем элементе имеет ударение на втором слоге, в то время как во втором – на первом. Четырех и более членных образований с именем собственным в нашем материале в говорении белорусов не зафиксировано.

Суммируя представленные данные, можно сказать, что фонетическое уподобление инициативных и последующих слов в составе субморфных унификаций с именем собственным достигаются с помощью весьма небольшого количества технических приемов, а именно:

– повторение слоговой структуры инициативного слова с полным или частичным сохранением фонетического облика одного или нескольких его слогов;

– разной локализации имени собственного в пределах субморфных унификаций;

– изменения слоговой структуры последнего, «комментирующего» слова, как правило, не имени собственного, в результате чего данное слово приобретает дополнительный слог (чаще) или даже несколько слогов (намного реже);

– изменения внутренней структуры одного из слогов последующего слова;

– конструирования трехчленных образований.

Общие количественные показатели встречаемости субморфных унификаций с именем собственным в нашем материале гендерно мало дистинктивны. Всего на 5 – 6 % в среднем женщины употребляют их чаще, чем мужчины. Кроме того, среди женщин зафиксировано больше говорящих, в вербальном поведении которых были обнаружены обсуждаемые унификации.

Конкретизация количественных показателей с учетом техник фонетического объединения двух и более составляющих в определенное единство дала возможность получить данные, позволяющие убедиться, что культурная и гендерная идентичность говорящего субъекта вовсе не безразличный фактор в выборе средств субморфного объединения. Так, изменение последовательности расположения имени собственного в составе унификаций (помещение имени в завершающей позиции) больше свойственна женщинам (до 70 % таких реализаций). В белорусской же культуре фактор последовательности мало значим (57,5 % реализаций в женском говорении). А вот изменения общей слоговой структуры последующего слова за счет свободного прибавления одного и более слогов в его состав значительно чаще наблюдается у коммуникантов-мужчин: до 60 % в белорусской культуре в случае прибавления одного слога и 80 %, если прибавляется более чем один слог.

Многокомпонентные образования (3 и более слов) чаще встречаются в говорении женщин. В белорусской культуре такие образования в говорении мужчин зарегистрированы нами только в выборках, полученных на основе наблюдений. В основном материале их нет.

Правомерно предположить, что любые нарушения языковых норм в угоду фонетичности субморфных образований больше свойственны мужскому говорению. Так, в примере *Слаўка – лаўка* пренебрегается правило манифестации грамматического рода. В нашей подборке данных таких явных нарушений фиксируется немного, всего 5. Показательно, однако, что 4 из них встречаются в говорении мужчин.

Помимо фонетических рассматриваемые образования, безусловно, имеют и ряд других языковых характеристик. Так, они могут быть образованы на основе полной, обиходно-бытовой, уменьшительной или, наоборот, уничижительной, сниженной формы имени собственного, что, как оказалось, также может соотноситься с гендерной идентичностью употребивших их коммуникантов. В полном соответствии с данными о значительно большей вероятности появления диминутивных форм в говоренипи женщин, особенно редких, в нашем материале унификации с уменьшительными именами собственными превалируют в вербальном поведении женщин.

Примечательно также, что значительная часть диминутивных имен в составе субморфных образований в мужском употреблении является не инициативными, а ответными или продолжающими диминутивную линию, инициированную другим собеседником, как правило, женщиной. Примером такого подхватывания диминутивного «регистра» может служить унификация с именем *Ленька – Ляняка* в реплике $A_2$ фрагмента 8. *Ленька – Ленячка* в говорении коммуниканта А является цитатой из предыдущего вербального поведения собеседницы. Кроме того, мужские подхватывания и продолжения и, особенно, инциативные объединения с уменьшительным именем в значительном количестве случаев оказываются вовсе не ласкательными, каковыми, главным образом, они являются в женских манифестациях, а проявляют созначения сниженности, пренебрежения, иронии. Именно такой вариант наблюдается в приводимом примере (*Ленька – Ляняка*). Лучше всего данная закономерность прослеживается в выборке данных, извлеченных из записей общения в русской культуре. Так в нашем материале почти 40 % всех унификаций с именем собственным в уменьшительной форме в говорении мужчин употребляется с созначениями иронии, пренебрежения, насмешки или сниженности, грубоватости. То есть помимо значительно меньшего количества употребления диминутивных имен в инициативных субморфных образованиях, мужское говорение обнаруживает определенное переосмысление диминутивных форм. Женщины также могут употреблять диминутивные имена в таком плане, однако делают они это значительно реже (12,5 %), что прослеживается даже в белорусской культуре, где обсуждаемый контраст манифестируется в меньшей степени, чем в русской (20 %). Как видим, казалось бы, мало отличающиеся общие количественные данные манифестации изучаемых единиц в говорении представителей разных групп скрывают значительные гендерные преференции, если их рассматривать с учетом менее обобщающих, частных, маргинальных особенностей.

Не менее красноречивые данные обнаруживаются, если рассматривать субморфные унификации с именем собственным с учетом содержательного аспекта, то есть семантики слов, формально уподобляемых с именем собственным. По нашим данным, такое уподобление может быть чисто формальным, то есть опираться только на фонетическое созвучие составляющих ту или иную унификацию слов, например: *Галячка – палячка, Светка – табуретка*.

Сказанное, видимо, справедливо и в отношении ряда унификаций, в которых комментирующие или добавляемые слова сами по себе, в изолированном состоянии, имеют значения, но включены в унификации не благодаря этим значениям, а ввиду чисто фонетического сходства со словом-основой: *Васілечак – кісялечак*. Мы полагаем, что разновидностью таких унификаций правомерно считать и объединения из нескольких имен, основанные только на их созвучии: *Галячка – Валячка, Ваня – Даня*. Вместе с тем в говорении представителей обеих сопоставляемых культур регистрируются объединения, нацеленные на манифестацию определенного смысла, создаваемого с помощью присоединения комментирующего слова: *Валера – халера, Верка – дзверка*. По нашим данным, как чисто формальные, так и основанные на семантике присоединяемых слов объединения присутствуют в говорении всех гендерных групп, однако в совершенно разных пропорциях. Логичность или семантизация двухстворчатых объединений с именем собственным чаще свойственны мужчинам (чуть более 65 % всех зарегистрированных в нашем материале случаев такого употребления). Женщины же, напротив, более охотно прибегают к чисто формальным, то есть учитывающим только фонетическую форму слов объединениям (до 70 % случаев в нашем материале). В качестве примеров подобного употребления, помимо указанных, можно привести сле-

дующие: *Светка – сетка* (ловит кавалеров), *Клаўка – удаўка* (погубит жизнь), *Мікола – прыкола* (часто говорит смешное), *Міхаська – дыбаська, Міхайла – дыбайла* (особая походка).

Мужскими унификациями в данном перечне являются первые две и последняя. Они представляются типичными несколько сниженными номинациями субъекта в мужском говорении (см. также реплику $Б_2$ приведенного ранее фрагмента 4 и $А_4$ фрагмента 2). Женские унификации *(Мікола –, Міхаська –)* чаще описывают сущность именуемого субъекта через обозначение его эмоционального состояния, характерных черт поведения и особенно говорения.

Особую группу составляют унификации, состоящие из разных вариантов одного и того же имени: *Нінка – Нінулька, Толь – Толічак.* Такие унификации, а также те из них, которые состоят из двух разных, но фонетически сходных имен (*Жора – Лора*), являются весьма характерной чертой женского говорения. Так, до 80 % подобных объединений на основе имени собственного зарегистрировано нами в вербальном поведении женщин, где они приобретают самые разные созначения: теплоты, ласкательности, более близкой дистанции в отношениях и только иногда иронии, насмешливости, пренебрежения. В говорении мужчин они чаще всего используются для передачи иронических созначений. Кроме того, как правило, мужские унификации данной разновидности не инициативны, а «заимствуются» у реализовавших их ранее собеседниц или соответствуют духу их высказывания.

Обобщая полученные данные правомерно сделать вывод о том, что субморфные унификации с именем собственным являются малочастотными образованиями в сопоставляемых вариантах говорения и по общим количественным показателям своего употребления гендерно мало дистинктивны. Дифференциация унификаций с учетом их фонетических, лексических и семантических особенностей позволила получить данные о гендерной предпочтительности многих из них.

Разновидностей или техник унификаций, соотносящихся с каким-то одним гендером или только с одним языковым кодом (беларуская мова или простая мова), не обнаружено. Значимыми оказались только показатели количества для идентификации гендера. Имя собственное с их помощью оказывается вовлеченным в конструирование гендерной идентичности говорящего субъекта и в составе субморфных унификаций.

Представленные данные, безусловно, требуют уточнения на основе более обширных специальных исследований особенностей конструирования и употребления субморфных унификаций с именем собственным, как простых, то есть двусоставных, так и более сложных, имеющих в своей структуре 3 компонента. Вместе с тем, наши выводы, сделанные на основе изучения унификаций, встретившихся в записях подлинного общения в целях выявления характеристик гендерной специфики говорения, могут быть весьма полезны для дальнейших углубленных работ, ибо они отмечают частотность таких образований в аутентичных текстах, устанавливают целый ряд способов их конструирования, описывают вариативность их реализации в зависимости от гендерной и культурной идентичности говорящего субъекта.

ЛИТЕРАТУРА

1. Якобсон, Р.О. Морфологические наблюдения над славянским склонением / Р.О. Якобсон. Избранные работы. – М.: Прогресс, 1985. – 456 с.
2. Реформатский, А.А. Местоимения / А.А. Реформатский // Очерки по фонологии, морфонологии и морфологии. – М., 1979. – 210 с.
3. Зализняк, А.А. «Русское именное словоизменение» с приложением избранных работ по современному русскому языку к общему языкознанию / А.А. Зализняк. – М.: Языки славянской культуры, 2002. – 752 с.
4. Иванов, В.В. Лингвистика третьего тысячелетия: Вопросы к будущему / В.В. Иванов. – М.: Языки славянской культуры, 2004. – 208 с.
5. Поздняков, К.И. О природе и функциях внеморфемных знаков / К.И. Поздняков // Вопросы языкознания. – 2009. – № 6. – С. 35 – 64.
6. Чуковский, К.И. От двух до пяти / К.И. Чуковский // Собр.соч. в 15 т. – Т. 2. – М.: Терра-Книжный клуб, 2001. – 640 с.

## АНТРАПАЦЭНТРЫЗМ ЯК ВЫЗНАЧАЛЬНЫ ПРЫНЦЫП МАДЭЛЯВАННЯ СВЕТУ Ў ЗАМОВАХ БЕЛАРУСКАГА ПАДЗВІННЯ

***Т.Д. РАБЕЦ***
***(Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ім. К. Крапівы НАН Беларусі, Мінск)***

*Прааналізавана спецыфіка адлюстравання міфапаэтычнай карціны свету ў замовах беларусаў Падзвіння. Прыводзяцца факты, якія пацвярджаюць, што антрапацэнтрызм з’яўляецца галоўным прынцыпам стварэння ў замовах гарызантальнай прасторавай мадэлі свету.*

Глыбокае асэнсаванне асноўных кодаў фальклору, адэкватная семантычная інтэрпрэтацыя архаічных вобразаў не магчыма без даследавання пазнавальнай стратэгіі і светапоглядных арыентацый нашых продкаў, якія аб'ектывіраваліся ў агульнафальклорнай карціне свету. Агульнафальклорную карціну свету дастаткова складана апісаць, бо практычна ў кожным фальклорным жанры малюецца свая карціна свету. Народная карціна свету, спрацыраваная на пэўны жанр, можа быць вызначана як «скарочанае і спрошчанае адлюстраванне ўсей сумы ўяўленняў аб свеце у дадзенай традыцыі, узятых у іх сістэмным і аперацыйным аспектах» [9, с. 5]. Пры гэтым свет разумеецца як чалавек і асяроддзе ў іх узаемадзеянні, або як вынік перапрацоўкі інфармацыі пра асяроддзе і чалавека. «Ужыванне слова карціна падкрэслівае, што карціна свету – не аналіз, а панарамнае апісанне свету, прычым дадзенае самімі носьбітамі гэтай карціны свету. Таму пры вывучэнні карціны свету важна распазнаць тую кропку адліку, з якой носьбіты культуры глядзяць на свет, асэнсоўваюць розныя яго элементы ў шырокім спектры іх сістэмных сувязей…» [10, с. 21].

Як адзначае А. Падасінаў, «гістарычна першай формай арыентацыі чалавека ў геаграфічнай прасторы можна лічыць тую, пры якой суб'ект назірання (апісання) змяшчае сябе ў цэнтры назіраемага (апісваемага) ім свету, а ўсе акаляючыя аб'екты ўспрымае праз прызму іх адносін да цэнтральнай кропкі» [5, с. 462]. Чалавек, «прапускаючы свет праз сябе», асвойвае яго, мадэлюе навакольную рэчаіснасць праз ацэнку тых або іншых прадметаў і з'яў. Пры гэтым трэба заўважыць, што фарміраванне мадэлі свету адбываецца ў два этапы: спачатку першасныя дадзеныя ўспрымаюцца органамі пачуццяў і затым падвяргаюцца другаснай перакадзіроўцы пры дапамозе знакавых сістэм. Розныя кодавыя сістэмы дазваляюць рэалізавацца універсальным знакавым комплексам мадэлі свету. Асновай кодаў могуць быць розныя фрагменты, персанажы, аб'екты свету. Так, напрыклад, фарміруюцца астральны, зааморфны, антрапаморфны, вегетатыўны, лічбавы і іншыя коды. Кожны код мае сваю, пэўную вобласць дзеяння, і іх суіснаванне ў мадэлі свету прадугледжвае іерархічную класіфікацыю. Цяжка не пагадзіцца з меркаваннем Т. Цыўян, што «ўвесь гэты складаны кангламерат на семантычным узроўні адзіны, паколькі ен апісвае адзін і той жа аб'ект – свет з пункту погляду аднаго і таго ж суб'екта – чалавека» [9, с. 6].

У замовах, якія абапіраюцца на архаічную сістэму ўяўленняў чалавека аб навакольным асяроддзі, можна знайсці, а па ім і ўзнавіць поўнасцю страчаныя або максімальна скарочаныя ў іншых жанрах фальклору складальнікі міфапаэтычнай карціны свету. Узнікненне міфапаэтычнай карціны свету У. Тапароў звязвае з так званым касмалагічным перыядам у жыцці грамадства, калі «асноўным спосабам асэнсавання свету з'яўляецца міф» [8, с. 162]. Замовы і міфы аб'ядноўваюцца перш за ўсе наяўнасцю ў іх агульнай логікі, асновай якой лічыцца «разуменне прычынна-выніковых адносін як глабальнай (усеахопнай) і ўсепранікаючай (інтэгральнай) сістэмы дэтэрміністычных сувязей (рэальных і фантастычных)» [2]. Звышнатуральныя сілы, прырода і чалавек, з'яўляючыся элементамі адзінага касмічнага парадку, разглядаюцца як непарыўнае адзінства featureзнабаковых узаемадзеянняў і аб'ектаў магічнага ўздзеяння. Як у замовах, так і ў архаічных міфах агульная схема «дзеянне – змяненне – новы стан» прадугледжвае асаблівую звязанасць, залежнасць і нават тоеснасць паміж макракосмам і мікракосмам, прыродай і чалавекам, дзе чалавек – адзін з галоўных элементаў касмалагічнай схемы.

Для міфалагічнай карціны свету характэрна таксама апісанне свету на аснове фундаментальных супрацьпастаўленняў: прасторавых (верх – ніз, правы – левы, усход – захад, неба – зямля і г.д.), часавых (дзень – ноч, лета – зіма і г.д.), абстрактных – (цот – няцот) і інш. Пры ўсей разнастайнасці апазіцый пачатковым лічыцца супрацьпастаўленне «свае – чужое». Спачатку чалавек супрацьпастаўляе сябе навакольнаму свету, затым – людзям іншага роду, племені. Далей сам навакольны свет дзеліцца на «свой» (свойская жывела, культурныя расліны) і «чужы» (звяры, лес як месца знаходжання дэманічных істот і інш.). Каб абараніць сябе ад варожага навакольнага свету, чалавек стварае свой мікрасвет – хату, двор. Разам з тым, ен не можа не кантактаваць са знешнім светам, таму вялікае значэнне ва ўсіх культурах набываюць вокны, дзверы, вароты як сімвалічнае ўвасабленне мяжы паміж двума светамі.

Як паказвае спецыфіка афармлення прасторы ў беларускіх замовах, у прыватнасці, у замовах, сабраных на тэрыторыі Беларускага Падзвіння, яна непарыўна звязана, з аднаго боку, з касмалагічнай версіяй, а з другой – з магічнай. Першапачатковай мэтай магічнай дзейнасці чалавека з'яўлялася імкненне паўплываць на сітуацыю (вылечыць, абараніць, выратаваць і г.д.). Але для таго, каб змяніць сітуацыю, або той парадак абставінаў і рэчаў, якія ўжо зададзены, трэба гэты «парадак перайначыць», як бы «перапісаць» гісторыю, змадэліраваць патрэбную сітуацыю. У гэтым выпадку магія звяртаецца да міфа першастварэння – касмагоніі. З хаосу замаўляльнік (які ў гэты час выступае ў ролі творцы) стварае новы свет з патрэбным яму парадкам. Такім чынам, тэксты замоў змяшчаюць у сабе матывы касмаганічных міфаў.

Магічнае канструяванне будуецца на прынцыпах апазіцый, у выніку чаго ствараецца мадэль сакральнай прасторы, важнай часткай якой з'яўляюцца ўяўленні аб іншасвеце. У выніку супрацьпастаўленняў «свой – чужы», «добры (станоўчы) – благі (адмоўны)» у замовах утвараецца дзве прасторы: прафанная (звычайная, рэальная) і сакральная (святая, свяшчэнная). Пры гэтым замоўная мадэль свету прадугледжвае семантычную амбівалентнасць, абумоўленую адсутнасцю выразных меж паміж прасторамі. Злавіць грань паміж двума супрацьлеглымі светамі дастаткова складана, паколькі сакральная прастора – адваротны бок або проста іншы план рэальнай прасторы. А. Страхаў звяртае ўвагу на тое, што «іншы свет у замовах паказаны менавіта як свет «небыцця», свет «не-рэчаў», «не-падзей», «не-з'яў» [7, с. 93]. Вызначальнай прыкметай «чужога» свету ў замовах

часта з’яўляецца адсутнасць слядоў дзейнасці чалавека або адсутнасць галасоў свойскай жывелы. На думку А. Байбурына і Г. Левінтона, уяўленні аб межах паміж «сваім» і «чужым» светам абумоўлены ўзаемадзеяннем дзвюх сістэм успрыняцця прасторы: канцэптуальнай і тапаграфічнай. З аднаго боку, гэта супрацьпастаўленне «сваей» і «чужой» прасторы, якія разумеюцца як локусы, значна аддаленыя адзін ад другога, як асвоеная і спрадвечная прастора, як «той» і «гэты» свет. З другога боку, магічнае дзеянне разгортваецца ў рэальнай тапаграфічнай прасторы, адзеленай рэальнымі межамі, што аддзяляюць дом ад двара, двор ад вуліцы, веску ад лесу і г.д. [1, с. 92]. Як адзначае С. Няклюдаў, «канцэпцыя двухбаковасці свету і таго, што ў ім, абумоўлівае ўяўленні аб спецыфічнай узаемаабарачальнасці ўсіх бакоў і праяў рэчаіснасці. «Абарачальнасць» становіцца характэрнай якасцю незямнога, замагільнага, «таго» свету [4, с. 133].

Трэба адзначыць, што апісаная вышэй бінарная сінкрэтычная карціна свету, якая ствараецца ў замовах, на самой справе з’яўляецца тэрнарнай. Паміж супрацьлегласцямі заўседы есць элемент, які іх аб’ядноўвае. Менавіта ўвага да гэтага трэцяга элемента, медыятара, і нарадзіла большасць сімвалаў сінкрэтычнай эпохі: Сусветнае дрэва, лесвіца, крыж, слуп, царква, гара і інш. Галоўная функцыя гэтых сімвалаў – аб’ядноўваць два светы: верхні і ніжні. Вертыкальная іерархія светаў можа быць заменена гарызантальнай, і ў такім выпадку ролю медыятара выконвае дарога. Менавіта такую карціну мы бачым ў замовах: «свой» свет і «чужы» свет размешчаны ў гарызантальнай плоскасці. Раз’ядноўваць іх могуць рэкі, горы, палі і інш., але аб’ядноўвае заўседы дарога. Дарога не існуе без таго, хто ідзе па ей, – без чалавека. Зыходным пунктам падарожжа з’яўляецца хата, яна ўяўляе сабой знаемы і бяспечны свет. Выхад суб’екта замовы з хаты, як правіла, амаль ва ўсіх выпадках адлюстроўваецца досыць абстрактна, пры гэтым сама хата можа прысутнічаць імпліцытна. Далей замовы апісваюць, як суб’ект, праходзячы шэраг меж, якія выконваюць ролю медыятараў паміж унутранай, замкненай і знешняй, адкрытай прасторамі, трапляе ў невядомы, таямнічы свет – сакральную прастору.

Трэба адзначыць, што ўступная формула, якая ўказвае на матыў выхаду суб’екта са «сваей» прасторы, у замовах Беларускага Падзвіння адсутнічае. Як правіла, замовы пачынаюцца адразу з апісання локусаў сакральнай прасторы: «На сінім моры, на лукаморы, там стаіць дуб, на том дубе сядзіць чорны воран-залатыя крылья, зямчужныя пер’я, стальныя когці» [6, с. 131], «На полі на Буяне, на моры на Сіяніі ляжыць Латар – белы камень» [6, с. 130]. У такіх тыпах замоў знешні суб’ект замовы фактычна адсутнічае, дзеянне адразу адбываецца ў цэнтры сакральнай прасторы. Ужо самім гэтым перанясеннем дзеяння ў сакральную прастору, у міфалагічны цэнтр забяспечваецца магчымасць вырашэння крытычнай сітуацыі, якая стала прычынай звароту да замовы.

Гарызантальная прасторавая мадэль апісваецца ў замовах як сістэма ўкладзеных друг у друга локусаў «сваей» і «чужой» прасторы з маркіраваным цэнтрам, або як сістэма шляху суб’екта з пераадоленнем шэрагу меж і локусаў. Для сістэмы локусаў «сваей» прасторы характэрны прынцып укладання, г.зн. яна можа разглядацца як шэраг паступова пашыраючыхся кругоў (хата – двор – веска), з каторых кожны наступны з’яўляецца сутнасцю папярэдняга, а кожны папярэдні выступае ў ролі цэнтра наступнага. Адлік прасторавага вымярэння пачынаецца з цэнтра «сваей» прасторы, які з’яўляецца канцэнтраваным выражэннем ачалавечанай прасторы, якая валодае найбольшай сакральнай значнасцю. Наступнымі прасторавымі локусамі «свайго» з’яўляюцца двор і веска; а далей ужо пачынаецца «чужая» прастора, для якой таксама характэрны прынцып укладання. Можна заўважыць, што чалавек малюе ўяўную рэчаіснасць таксама паводле прынцыпаў пабудовы знаемага і вядомага яму свету. Аднак у гэтым выпадку свет апісваецца ў больш глабальным маштабе.

Такім чынам, можна заўважыць, што антрапацэнтрызм з’яўляецца галоўным прынцыпам стварэння ў замовах гарызантальнай прасторавай мадэлі свету, якая будуецца на супрацьпастаўленні заселенай, агароджанай часткі зямлі, якая ўспрымалася чалавекам як «свая» тэрыторыя, і таго, што знаходзіцца за яе межамі ў сферы варожай, неасвоенай, «чужой» – іншасвету.

Як паказваюць назіранні, любая замова – антрапацэнтрычная: усе, што адбываецца ў ей ацэньваецца з пункту гледжання чалавека, погляды і жыццевыя неабходнасці якога структурыруюць замоўную мадэль свету. Свет кампануецца вакол чалавека, ствараецца па яго волі і жаданню ў адпаведнасці з тымі прагматычнымі задачамі, якія ставяцца ў тым або іншым функцыянальным тыпе замовы. І прастора-часавы комплекс замовы, і сістэма замоўных персанажаў, і ўсе іншыя элементы замоўнага ўніверсуму, утвараючы шматлікія семантычныя апазіцыі, у той жа час утвараюць і больш агульнае супрацьпастаўленне «станоўчы – адмоўны»: станоўчым ў замове з’яўляецца ўсе тое, што так ці інакш звязана з пазбаўленнем ад злога пачатку, а адмоўным тое, што гэтаму перашкаджае. Менавіта суб’ект замовы становіцца, такім чынам, той «нулявой кропкай», у якой бярэ пачатак семантычная сістэма каардынат замовы і ад якой вядзецца адлік усіх яго «плюсаў» і «мінусаў».

Нягледзячы на тое, што суб'ект замовы (замаўляльнік) займае ў замовах цэнтральнае месца, яго вобраз, у адрозненні ад іншых замоўных персанажаў, амаль не апісваецца. Галоўныя элементы замоўнага тэксту, якія даюць асноўную, а нярэдка, і адзіную, інфармацыю пра вобраз замаўляльніка, – гэта дзеясловы. Суб’ект замовы «гаворыць», але часцей ен «замаўляе», «моліцца», «заклікае на дапамогу», «дае ўказанні» і г.д.: «Памалюся я Госпаду Богу і гавару-выгаварываю іспуг…» [6, с. 127], «Вады іду, бяру, нясу і змываю раба божага…» [6, с. 92], «Хаджу я па чыстаму полю, па сіняму мору, шэрае каменьне зьбіраю,

малачко сваей рабай кароўцы замаўляю. Чужое не бяру і свае не даю» [6, с. 93]. Апісанне таго, як здзяйсняецца замаўленне, можа мецць або досыць рэальны, бытавы характар: « Я хадзіла па чыстаму полю, каласкі сабірала, валасень выганяла» [6, с. 112], або ж характар казачна-фантастычны: «Выгаварываю з раба божая (імя) падучыя чорнага, неўталімага дзяцінца-радзінца. Я яго выгаварываю, на той бок чорнага мора ссылаю. На тым баку чорнага мора, там стаіць нягоднае дрэва, пад тым дрэвам стаіць Адам і Ева і дзядзька Чарнамор. Вот я цябе туда ссылаю, там табе гуляць і буяць, лазу ламаць, карэньня рваць, а ў раба божага (імя) навек не бываць» [6, с. 132].

Сярод усіх дзеянняў замаўляльніка часцей за ўсе сустракаецца яго выхад у сакральную прастору (поле, гару, мора, востраў і г.д.). Гэта дзеянне прадстаўлена ў характэрным не толькі для беларускіх, але і для ўсіх усходнеславянскіх замоў уступе: «Устану я рана, умыюсь я бела, выйду на Сіянскую гару, дзе Хрыстоў прастол стаіць» [6, с. 130]. Выходзячы са «сваей» прасторы, замаўляльнік звычайна звяртаецца з просьбай або загадам да якога-небудзь міфалагічнага персанажа: «Прасьвятая Алена, прыйшла я к табе, стала ў крыніцу, у ваду па калена. Не па вадзіцу я прыйшла – па жоўтае масла, па крэпкі сыр, па густую сьмятану і па ўсе малако. Прасьвятая Алена, памажы укрэпіць і масла, і малако устанавіць на месца» [6, с. 137], але бывае, што замаўляльнік проста назірае за дзеяннямі міфалагічнай істоты: «Выйду я ў чыстае поле, гляну на сіняе мора. Там стаіць дуб. Пад тым дубам цясовая краваць. На той цясовай краваці – там тры дзевачкі гулялі, шаўковым платком махалі, к сабе скулу прызывалі…» [6, с. 111]. Калі ў замовах размова ідзе пра сустрэчу суб’екта з міфалагічным персанажам-памочнікам, то замаўляльнік звяртаецца да яго з просьбай дапамагчы пазбавіцца ад няшчасцяў, калі ж адбываецца сустрэча з міфалагічным антыгероям, то замаўляльнік спрабуе запужаць, знішчыць, выгнаць гэтага антыгероя.

Нярэдка можна сустрэць замовы ў форме дыялогу. Трэба заўважыць, што замоўныя дыялогавыя тэксты адрозніваюцца ад тых, якія сустракаюцца ў іншых жанрах фальклору. Дыялогі замоў маюць спецыфічную трохчленную структуру. Канструкцыя такіх дыялогавых тэкстаў простая: першая частка структуры – гэта пытанне або просьба, другая – адказ, а трэцяя – замацаванне выказанага пажадання:

– «Прасьвятая Багародзіца – наша маць, памажы рожу адганяць… Будзем прасіць тых пціц – самі вадзяныя, дзюбы медзяныя, сярэбряныя, крыльля залатыя: – Пціцы, наляціце, ніцую рожу разьдзяўбіце, разграбіце, крыльлямі разьмяціце…

– Разьнясем, разграбем, разьдзяўбем і не будзе балець.

– Пціцы, ляціце і сюды не прылятайце. Елкі дзяўбіце, ніцай лазой закусывайце, вадой запівайце – сюды не прылятайце» [6, с. 136].

У замовах часта таксама прыводзіцца ўскосная мова, пры гэтым межы паміж ускоснай і прамой мовай вельмі празрыстыя (практычна гэта выяўляецца ў тым, што не заўседы зразумела, дзе трэба ставіць двукоссе): «Ехаў Давыд па полю на вараным коню. Конь зьвіхнуўся, зьвіх зьвіхнуўся. Зьвіх, зьвіх, ня будзь ты ліх. Цела не пухлі, касці не ламі. Еты сустаў на месца пастаў» [6, с. 128].

Такім чынам, у сваей аснове замовы камунікатыўныя, яны разлічаны на кантакт з іншасветнымі сіламі, на зварот да персанажаў іншасвету. Гэты зварот можа быць накіраваны не толькі да абаронцы і памочніка чалавека, але і непасрэдна да таго, ад каго або чыей прысутнасці хочуць пазбавіцца. Камунікатыўная стратэгія замовы заключаецца ў тым, каб замаўляючы сам адчуваў сувязь са звышнатуральным светам і іншых прымушаў верыць у гэта.

Выхад замаўляльніка са «сваей» прасторы часта суправаджаецца бласлаўленнем, умываннем і адзяваннем: «Первым разам, добрым часам, Госпадзі, памажы, і Прачыстая Маці, і Сьвяты Міхаіл Архангел, суддзя праведны, памажыце і станьце на помач к рабе божай (імя). Дай, Госпадзі, час добры. Устану я раненька, умыюся я бела-бяленька, выйду я ў чыстае поле…» [6, с. 130]. На наш погляд, гэтыя дзеянні з’яўляюцца дадатковымі дзеяннямі і могуць сігналізаваць аб прыналежнасці замаўляльніка да чалавечага свету.

Такім чынам, можна заўважыць, што большасць дзеянняў замаўляльніка гаворыць пра тое, што ен з’яўляецца не зусім звычайным чалавекам. Замаўляльнік можа здуць, выгрызці, знішчыць або выслаць хваробы ў іншасвет: «Грызу грызьць цераз сук» [6, с. 106], «Зганяю, здуваю ўрага-супастата…» [6, с. 114], «Ссылаю цябе на жоўтыя пяскі, на піленыя лясы, на сіняе мора» [6, с. 127]. Характэрна, што ў замоўных сюжэтах гэтыя дзеянні, як правіла, выконваюць міфалагічныя персанажы. Адрозненне замаўляльніка як персанажа ад усіх астатніх заключаецца ў тым, што ен з'яўляецца аднначасова і выканаўцам замоўнага дзеяння, рэальным чалавекам, і міфалагічным персанажам, які сустракаецца з іншымі замоўнымі персанажамі, назірае, уступае з імі ў кантакт, просіць і выконвае даручэнні. Як слушна адзначае У. Кляўс, «з аднаго боку, ен прадстаўнік свету людзей. З другога, валоданне магіяй слова дае магчымасць замаўляючаму адчуваць сябе сваім ў свеце міфалагічных істот. Замаўляючы стаіць на мяжы двух светаў, ен пасрэднік паміж імі, медыятар. Таму яго вобраз у замовах амбівалентны – з’яўляючыся чалавекам, ен мае і рысы міфалагічнай істоты. Гэтым замаўляючы істотна адрозніваецца ад звычайнага чалавека ў замовах – хворага або таго, каму патрабуецца дапамога» [3, с. 14].

Такім чынам, праведзенае даследаванне асаблівасцей арганізацыі карціны свету ў замовах беларусаў Падзвіння паказвае, што сінкрэтычная карціна свету, якая ствараецца ў замовах, з’яўляецца тэрнарнай і прадугледжвае супрацьпастаўленне прафаннай / «сваей» і сакральнай / «чужой» прастораў і наяўнасць элемента, які іх аб'ядноўвае – чалавека. Усе, што адбываецца ў замовах, ацэньваецца з пункту гле-

джання чалавека, які выражае, абазначае працэс паходжання і ўзнікнення новага ў прыродзе па аналогіі з сабой, з тым, што яму вядома, апісвае, ствараe карціну свету ў паняццях, словах, якія характарызуюць чалавечае быццё. Матыў падарожжа замаўляльніка да цэнтра іншасвету, які валодае вышэйшай каштоўнасцю і максімум сакральнасцю, з'яўляецца сюжэтаўтвараючым і ўяўляецца як паслядоўнае пераадоленне серыі меж і локусаў паміж «сваей» і «чужой» прасторамі. Аднак у большасці замоў кульмінацыйным момантам шляху замаўляльніка становіцца не дасягненне сакральнага цэнтра, а сустрэча з прадстаўнікамі іншасвету. Мэта замовы – праз зварот да прастаўнікоў іншасвету дасягнуць нармальных узаемаадносін паміж двума светамі (чалавечым і сакральным), якія былі парушаны.

Відавочна, што вывучэнне замоў у сілу іх архаічнай прыроды можа стаць крыніцай найкаштоўнейшых ведаў пра міфапаэтычную карціну свету, сістэму ўяўленняў і вераванняў нашых продкаў.

ЛІТАРАТУРА

1. Байбурин, А.К. К описанию организации пространства в восточнославянской свадьбе / А.К. Байбурин, Г.А. Левинтон // Русский народный свадебный обряд: Исследования и материалы; под ред. К.В. Чистова, Т.А. Бернштам – Л.: Наука. Ленингр. отд-ние, 1978. – С. 89 – 105.
2. Заговоры и мифы [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://enc.mail.ru/article/?1900041201. – Дата доступа: 10.04.2011.
3. Кляус, В.Л. Сюжетика заговорно-заклинательных текстов славян и коренных народов Сибири в сравнительном (межславянском и славяно-сибибирском) освещении: автореф. дис. … д-ра филол. наук: 10.01.09 / В.Л. Кляус; Ин-т мир. лит. им. А.М. Горького Рос. акад. наук. – М., 2001. – 40 с.
4. Неклюдов, С.Ю. О кривом оборотне (к исследованию мифологической семантики фольклорного мотива) / С.Ю. Неклюдов // Проблемы славянской этнографии (к 100-летию со дня рождения чл.-кор. АН СССР Д.К. Зеленина) – Л.: Наука. Ленингр. отд-ние, 1979. – С. 133 – 141.
5. Подосинов, А.В. Ex oriente lux! Ориентрация по странам света в рахаических культурах Евразии / А.В. Подосинов. – М.: «Языки русской культуры», 1999. – 720 с.
6. Полацкі этнаграфічны зборнік. Вып. 1. Народная медыцына беларусаў Падзвіння. У 2 ч. Ч. 1 / склад. У.А. Лобач, У.С. Філіпенка. – Наваполацк: ПДУ, 2006. – 148 с.
7. Страхов, А.Б. О пространственном аспекте славянской концепции небытия / А.Б. Страхов // Этнолингвистика текста: Семиотика малых форм фольклора. Тезисы и предварит. материалы к симпозиуму. – М., 1988. – С. 92 – 94.
8. Мифы народов мира. Энциклопедия: в 2 т. / редкол.: С.А. Токарев (гл. ред.) [и др.]. – М.: Совет. энциклопедия, 1988. – Т. 2: К – Я. – 719 с.
9. Цивьян, Т.В. Лингвистические основы балканской модели мира / И.В. Цивьян. – М.: Наука, 1990. – 210 с.
10. Швед, І.А. Дэндралагічны код беларускага традыцыйнага фальклору / І.А. Швед. – Брэст: УА «БрДУ імя А.С. Пушкіна», 2004. – 301 с.

## ДА ПЫТАННЯ ПРА ТРАНСФАРМАЦЫЮ ІНСТЫТУТУ ПРОЧАК І РАЗЛУЧЫН (ПА МАТЭРЫЯЛАХ ЭТНАГРАФІЧНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ НА БЕЛАРУСКІМ ПАДЗВІННІ)

***Г.А. СІВОХІН***
***(Гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе», Заслаўе)***

*На падставе матэрыялаў этнаграфічных даследаванняў на тэрыторыі Беларускага Падзвіння разгледжаны асаблівасці інстытуту прочак і разлучын, а таксама працэс іх трансфармацыі на працягу XX – пач. XXI стст.*

Чалавечае цела пэўным чынам уступае ў механізмы ўлады, якія дасканала апрацоўваюць яго, праз што мае месца цялесная дэканструкцыя. Такім чынам праз распаўсюджванне мадэрнасці ствараецца новая цялеснасць з уласцівымі для яе цялеснымі практыкамі, якія ўвасабляюцца перад усім у *сацыяльнай арганізацыі*, у тым ліку і ў сямейнай [1, с. 201]. Уводзіны ў дыскурс *сямейнай арганізацыі* становяцца стратэгіяй улады, накіраванай на стымуляванне апісання жыцця з мэтай узнаўлення таго ў прыдатным для ўлады рэжыме. Сэнс гэтага кантролю складаецца ў тым, каб забяспечыць рост насельніцтва, стварыць працоўную сілу, замацаваць форму сацыяльных стасункаў – канстатаваць сексуальнасць, якая была б эканамічна карыснай і палітычна выгоднай, якая б забяспечвала бесперапынны працэс узнаўлення рэсурсаў – перад усім рэсурсаў чалавечых.

Гэта новы «дысцыплінарны» тып улады, усе высілкі якой накіраваныя на захоўванне сацыяльнага парадку і яго рэпрадукцыю. Улада, такім чынам, узнаўляецца на ўзроўні кожнага асобнага індывіду, арганізоўваючы яго ў рамкі нармаваных сямейных практык. У гэтым выразна бачна тэндэнцыя цывілізацыі

канструяваць *новае*, што становіцца мажлівым праз засвойванне практыкаў кантролю, якія дазваляюць уладзе ствараць зусім новую сацыяльную рэальнасць.

Дзеля ажыцця́ўлення ідэй улады пра стварэнне максімальна карыснага і мінімальна выдаткавага індывіда патрэбны пэўныя інстытуцыі дысцыплінавання целаў. Неабходна, каб дадзенага кшталту ўстановы суправаджалі чалавека цягам усяго жыцця: школа, армія, шпіталь, фабрыка. І адной з такіх устаноў і была сям'я, арганізаваная праз *афіцыйны* шлюб [2, с. 162].

Такім чынам, падчас правядзення палявых даследаванняў на Падзвінні, пераважна на Браслаўшчыне, грунтуючыся на азначанай вышэй метадалагічнай пасылцы, для нас адным з найбольш актуальных пытанняў было тое, якое тычыцца *гендарных практык* і іх рэалізацыі ў традыцыйнай *сямейнай* культуры беларусаў. Гэта ўжо стала для этнографаў традыцыйным полем даследаванняў. Найбольш цікавым для нас быў той аспект, які тычыўся традыцыйных шлюбных інстытуцыяў і іх трансфармацыяў у кантэксце распаўсюджвання новых сацыякультурных стандартаў гарадской улады эпохі мадэрнасці.

Сярод іншага намі даследавалася пытанне пра варыянты традыцыйнай сямейнай іерархіі і традыцыйных формаў шлюбу, у тым ліку і разводаў: *прочак* – разводаў часовых і *разлучын* – «поўнай «давечнай» сепарацыі» [3, с. 41]. Вывучаючы літаратуру па азначаным пытанні мы знайшлі працу Вацлава Ластоўскага «Прочкі і разлучыны», якая была напісаная па матэрыялах яго асабістых палявых экспедыцый «на працягу 1909 – 1912 гг. … у паўночна-заходняй частцы б. Дзісенскага павету (падзеленага цяпер на Дзісенскі і Браслаўскі)» [3, с. 41], г.зн. Вацлавам Ластоўскім даследаванні праводзіліся ў тых жа мясцінах, дзе і мы збіралі гэткія ж матэрыялы амаль праз стагоддзе, чым дадзеная праца для нас набывае асаблівую цікавасць. Такім чынам, паспрабуем даць кароткі параўнаўчы аналіз матэрыялам, сабраным В. Ластоўскім на пачатку таго стагоддзя і нашым, сабраным напрыканцы таго – пачатку гэтага.

Паралельна з *традыцыйнай* прэмадэрнаснай вескай існаваў праект новага гораду. Найбольш відавочна гэта праект адбіўся на Беларусі ў перамозе *новага* гораду над *традыцыйным* праз намінатыўнае саступленне «местам» сваіх пазіцый «гораду», які і прынес новы *гарадскі рэжым* – рэжым, які вытлумачвае мадэрнасную сацыяльную фармацыю ў Познім Мадэрніці.

Аналіз рэжыму паказвае памкненне распаўсюджвання гораду сваей (сімвалічнай) улады на *ня*-горад – «уладу дзеля», альбо здольнасць дзеіць, а не «уладу над» іншымі, альбо грамадскі кантроль.» [4, с. 812] З асэнсавання гарадскога рэжыму вынікаюць дадатковыя чыннікі аналізу гарадской прасторы, напрыклад, калі рэжымы былі паўсюль, мы ніколі не будзем у стане вытлумачыць, чаму яны фармуюцца такімі і ў пэўных месцах [4, с. 816].

У межах сацыякультурнага ды юрыдычнага полю айкумены месцічаў у працэсе секулярызацыі свецкія інстытуты падлягалі пэўнай эмансіпацыі, выходзілі з-пад уплыву рэлігійных інстытуцыяў. Першым жа вымярэннем секулярызацыі шлюбу і сям'і была яго юрыдычная секулярызацыя, пачаткі чаго паходзяць з Рэфармацыі. Даволі моцна гэта атрымала адбітак у заканадаўстве Рэчы Паспалітай і ўласна Вялікага княства Літоўскага – вядома, што касцельнае вянчанне для беларусаў часта магло не быць *галоўным* ці абавязковым, а выконвала з большага фармальныя функцыі і, відавочна, шырока практыкавалася ў тым ліку і праз афіцыйную палітычную/юрыдычную пазіцыю дзяржавы і праз праявы ўладных стасункаў у грамадстве.

У традыцыйнай жа вясковай культуры, якая не была падвергнутая гарадскім мадэрнасным уплывам, вызначальным быў паганскі вясельны абрад. Тое ж самае мы назіраем ў традыцыйных формах рэгуляцыі шлюбна-сямейных стасункаў. І можна прывесці цэлы шэраг згадак этнографаў адносна гэтай традыцыі, у якой стала практыкавалася інстытуцыя «***прочак***» ды «***разлучын***», альбо юрыдычных крыніц адносна гараджан па разводах без пасярэдніцтва Касцелу, а праз магістраты. У адпаведнасці з гэтымі «гарадскімі» законамі жанчына мела даволі вялікія як фармальныя, гэтак і фактычныя правы. Нават калі бацькі альбо апекуны, напрыклад, забаранялі маладой дзяўчыне выйсці замуж, тая, у выпадку ўступлення ў шлюбны ўзрост, магла звярнуцца па дазвол у дзяржаўныя органы. Права нявесты на зварот да дзяржавы дзеля абароны сваіх інтарэсаў было замацаванае ў законе ў сувязі з тым, што забароны апекуноў на шлюб часта выкарыстоўваліся тымі ў карыслівых мэтах працягу апекі [5]. Апрача таго, у часта практыкаваных шлюбах і разводах у магістратах і без пасярэдніцтва касцелу ініцыятарам (як шлюбу, гэтак і разводу) таксама магла быць жанчына.

Тыя сацыяльныя працэсы, якія абумоўлівалі стан жанчын ў традыцыйным грамадстве, прывялі да сітуацыі, пры якой яны былі надзелены адноснай вялікай фармальнай аўтаномнасцю. Гэтая самастойнасць аднак была вызначана межамі існай фаллогацэнтрычнай парадыгмы арганізацыі беларускай прэмадэрнаснай супольнасці і не вяла да эмансіпацыі жанчын. Да таго ж у выніку працэсаў мадэрнізавання адбывалася размыцце стандартаў падзелу сацыяпалавых роляў. Гэта цягнула за сабой складванне падвоеных стандартаў, калі для мужчыны рабіць жаночую працу лічылася зазорным, а для жанчыны мужчынскую – не. Да таго ж жанчыне ў такім разе выпадала несці падвоеную нагрузку, выконваючы і жаночую, і мужчынскую працу.

Сацыяльную ды сацыякультурную традыцыю – традыцыю *прочак* ды *разлучын*, – можна бясспрэчна аднесці «да сівой славянскай старасвеччыны, … якая захавалася на Беларусі да другой паловы XIX ст. як перажытак абычаевага права» [3, с. 41]. І хоць Вацлаў Ластоўскі у сваей ужо вышэй згаданай працы зазначае, што «сення «прочкі» ў традыцыйнай форме адышлі ўжо ў дзедзіну мінуўшчыны, але свежая памяць аб іх яшчэ жывая ў вусных пераказах старэйшага пакалення» [3, с. 41], мы маем зазначыць, што і ў пазнейшыя часы – і ў міжваенні,

і паваенні, – *хадзілі ў прочкі*, пра што нам сведчаць шматлікія сведчанні інфарматараў, апытаных намі пад час палявых даследаванняў. [*Гл., напр*., 6, арк. 2, 6, 7, 33, 41, 44; 7, арк. 12, 32].

Самі па сабе прочкі часта былі вынікам жорсткага абыходжанне мужа з жонкаю – гэта давала права сысці той ад мужа [6, арк. 6; 5, с. 43]. Аднак часта, нават пры жаданні, жанчыны не хадзілі ў прочкі, бо альбо лічылі, што гэта «не прыстойным» – «*У прочкі хадзіць – «людзей смяшыць*» [6, арк. 44], альбо баяліся, што родныя могуць іх не прыняць [6, арк. 33], альбо помсты за гэта мужа: «*Муж біў. Не магла ад яго сысці, бо баялася, што ен заб'е*» [6, арк. 6].

Такім чынам, калі ў выніку вызнавлася прычына прочак важнай і была згода жонкі на зварот у сям'ю мужа, той мусіў быў прыехаць па жану [3, с. 43]. Але ж калі жонка сыходзіла без прычыны і справа, напрыклад, даходзіла да валаснога суду, апошні быў на баку мужа [8, с. 107]. І жана тады мусіла была сама вяртацца «ў пакінутую хату і гэтым самым скараецца перад мужам і яго «родам» [3, с. 43]. Прычынай да разыходу мужа ды жонкі, як сведчыць і літаратура, і матэрыялы палявых экспедыцыяў, маглі быць ня толькі жорсткае абыходжанне мужа з жонкай, але і якіясь іншыя, часта нават даволі *дробныя*, побытавыя моманты супольнага жыцця. Да таго ж і сыход мог быць толькі кароткачасовым, (праўда, намі быў зафіксаваны шэраг выпадкаў, калі прочкі маглі цягнуцца даволі працяглы перыяд – даходзіла да некалькіх гадоў; пра гэта ж сведчыць і артыкул В. Ластоўскага [3, с. 43]). Тады жонка збірала ўсю сваю асабістую маемасць, пасаг, таксама магла браць з сабой жывелу, якую прывяла разам з сабою ў сям'ю, і ішла да дому сваіх бацькоў, альбо родзічаў ці сваякоў па бацькоўскай лініі. Дый не толькі прочкі, але і ўласна разводы існавалі і практыкаваліся сярод беларусаў [6, арк. 2, 5, 33; 7, арк. 32; 3, с. 43].

І калі Вацлаў Ластоўскі адзначае, што такая з'ява – існаванне поруч з афіцыйна зарэгістраваным шлюбам і «традыцыйных» форм яго легалізацыі з уласцівым апошнім такім інстытуцыям, як прочкі ды разлучыны [3, с. 42] – назіралася ў беларусаў і да канца XIX ст., асабліва сярод сялянаў, дык мы маем дадаць, што і ў больш познія часы гэтая традыцыя не перарвалася.

Найбольш цікавым у артыкуле Вацлава Ластоўскага «Прочкі і разлучыны» нам уяўляецца прыведзенае ім даволі ўнікальнае апісанне рытуалу разлучын. Дадзеных пра гэты рытуал нам асабіста занатаваць не атрымалася, дый пра самі «традыцыйныя» разводы сярод інфарматараў ніхто ўжо не ўзгадваў. Гэта можа сведчыць пра тое, што традыцыя разлучын, у адрозненні ад традыцыі прочак, ужо на пачатку – сярэдзіне XX ст. з розных сацыяльна-культуральных, палітычных, юрыдычных ды іншых прычынаў адышла ў нябыт (аднак тут мы не станем спыняцца на гэтым пытанні больш дэталева, бо гэта ўжо выходзіць па-за рамкі дадзенага даследавання). В. Ластоўскі прыводзіць нам апісанне рытуалу разлучынаў, які, згодна з яго запісамі, адбываўся наступным чынам [3, с. 43 – 46].

Калі ўжо усе між жанімцамі ішло на тое, што прымірэння быць не магло і мусіў быў быць канчатковы развод, справа, пасля працяглых перамоваў паміж прадстаўнікамі з абодвух бакоў, у ролі якіх выступалі сваякі і суседзі, паводле звычаю пераносілася ў хату мужа.

Засеўшы тут «на жанімным ложы», маці збірала вакол сябе малых дзетак. Большым жа пакідаўся вольны выбар паміж бацькам і маці. Апрача пытання пра дзетак, пад час разводу варта было вырашыць і ўрэгуляваць і некаторыя маемасныя пытанні. Уласна ж апісанне рытуалу Ластоўскі прыводзіць такое [3, с. 44 – 45]:

«Прычынай разлучынаў Грыпіны з яе нялюбым мужам Грыгорам былі даўгалетнія ўзаемныя сваркі. Уцякала яна некалькі разоў ад мужа ў прочкі, але, паддаючыся ўгаворам і прымусу сваей сям'і, яна варочалася. Урэшце рэшт справа дайшла да «разлучын», вынікам чаго засела Грыпіна аднойчы на жанімным ложы ў падвянечным уборы. На яе разлучынах, якія адбываліся «гадоў дзесяць пасля паншчыны» [запісана было ў 1912 г. – *Г.С.*], не было ўжо шырэйшых «родаў», а толькі яе і яго сем'і, ды запрошаныя ў ролі арбітраў суседзі. Яшчэ ў апошні момант суседзі намаўлялі пагадзіцца, але ніводная старана не хацела няпэўнай згоды.

«І вось, калі сказаў «мой» – «не хачу яе», – апавядае Грыпіна, – і відаць было, што ўсе роўна ніяк не паладзім, то нябожчык Міхайла Гродзь устаў з-за стала, стануў перад пачэсным кутом, перахрысціўся і пакланіўся ў пояс, рукой датыкаючыся да зямлі, спярша ў пачэсны кут, а пасля маей і мужавай сям'і. Узяў грамнічную свечку, запаліўшы, паставіў яе на стале і, зайшоўшы ізноў за стол, сказаў:

«Пытаю цябе, Грыгор, і цябе, Грыпіна, перад Богам святым, перад пачэсным кутом, перад грамавым агнем, перад мужамі пачэснымі, перад жонкамі статэчнымі, перад дзеткамі вашымі – ці разлучаецеся?»

Мы з Грыгорам сказалі, што разлучаемся.

Тады Міхайла сказаў распаясацца Грыгору і, узяўшы ад яго пояс, выцягнуў адтуль адну нітку, даў адзін канец ніткі мне, а другі Грыгору ды падпаліў нітку свечкай, пасля ж згасіў свечку і сказаў:

«Цяпер вы, дзеткі, вольныя, але не расставайцеся ў жалі і гневе адзін на другога: падайце ж сабе рукі на развітанне».

Забраўшы з сабой двое малых дзетак, каравешку, кублы з палатном, Грыпіна вярнулася да сваіх бацькоў як «разлучаная малодка» з правам выхаду другі раз замуж».

Такім чынам завершыліся разлучыны Грыпіны і яна вярнулася ў бацькоўскую хату з дзецьмі і пасагам. Аднак часта, калі жанчыне не было куды вяртацца альбо яе не прыймалі назад родзічы, развод для такой гаротніцы заканчваўся наступным чынам: «Прочніца са слабой сям'і ў такіх здарэннях, прычапіўшы торбу да горбу, ішла ў белы свет, глытаючы слезы шукаць сабе прыпынку паміж чужых людзей…» [3, с. 45].

На нашу думку, варта адзначыць у апісанні рытуалу разлучынаў такую фразу: «Засела Грыпіна аднойчы на жанімным ложы ў падвянечным уборы» [3, с. 44 – 45]. Як сцвярджае Ластоўскі, тут вызначаецца істотнае рытуальнае значэнне вясельнай вопраткі жанчыны. Як вядома, свае адзенне, у якім дзяўчынай выходзілі замуж, беларускія кабеты апасля захоўвалі, – у кублах ці куфрах – аднак самі яго ніколі не апраналі, а трымалі яго «на смерць». У іншых выпадках гэтае адзенне апранаць нельга было, бо лічылася кепскай прыкметай, за выключэннем аднаго выпадку, – ды й то толькі раз у жыцці – у выпадку разводу: пад час разлучынаў кабета даставала з кублоў і апранала свае вясельныя строі.

Гэта вытлумачваецца тым, што для кабеты жанімнае ложа ў рытуале разлучынаў грала тую ж ролю, якую пад час вяселля для нявесты граў рытуал «пасаду». І калі, як зазначае В. Ластоўскі, «жанчына пасля прочак прыбудзе «са сваім родам» у мужаву хату, апранецца ў падвянечнае і засядзе на «жанімным ложы» – гэта ўжо знак, што яна цверда і безпаваротна парашыла пайсці на разлуку» [3, с. 44].

*Такім чынам* маем зазначыць, што традыцыя *прочак* ды *разлучын*, – якую можна бясспрэчна аднесці «да сівой славянскай старасвеччыны, … захавалася на Беларусі да другой паловы XIX ст.» [3, с. 41], і што ў пазнейшыя часы – і ў міжваенні, і паваенні, – традыцыя *прочак*, у адрозненні ад такой традыцыйнай сацыяльнай інстытуцыі, як разлучыны, яшчэ трывалася. Аднак гэта не азначае, што сення ўжо не існуе ані прочак, ані разлучынаў. Згубіўшы свае найменні ды прыстасаваўшыся да ўмоваў ды патрабаванняў сенняшняга дня, яны працягваюць існаваць пад іншымі назвамі (альбо згубіўшы тых наогул), але захоўваючыся фактычна ў сваей традыцыйнай аснове.

ЛІТАРАТУРА

1. Фуко, М. Воля к знанию / М. Фуко // Воля к истине: по ту сторону знания, власти и сексуальности / М. Фуко; сост., пер. с фр., коммент. и послесл. С. Табачниковой. – М., 1996. – С. 97 –269.
2. Фуко, М. Интеллектуалы и власть: статьи и интервью, 1970–1984: пер. с фр.: [в 3 ч.] / М. Фуко. – М.: Праксис, 2002. – Ч. 3. – 312 с.
3. Ластоўскі, В. Прочкі і разлучыны / В. Ластоўскі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук / Інстытут беларускай культуры. Аддзел гуманітарных навук. – Кн. 4: Працы кафедры этнаграфіі. – Т. І. – Сш. 1. – Мінск, 1928. – С. 41 – 48.
4. Mossberger, K. The evolution of urban regime theory: the challenge of conceptualization / K. Mossberger, G. Stoker // Urban Affairs Rev. – 2001. – Vol. 36. – P. 810 – 835.
5. Дзербіна, Г. Права і сям’я ў Беларусі эпохі Рэнесансу / Г. Дзербіна. – Мінск: Тэхналогія, 1997. – 174 с.
6. Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАНБ. Сектар этналогіі. – Ф. 6. – Воп. 13. – Спр. 123. – Сш. 1.
7. Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАНБ. Сектар этналогіі. – Ф. 6. – Воп. 13. – Спр. 123а. – Сш. 2.
8. Довнар-Запольский, М. Очерки семейного обычного права крестьян Минской губернии / М. Довнар-Запольский // Этнограф. обозрение. – 1897. – № 1. – С. 82 – 142.

## ОЙКОНИМЫ ЛЕПЕЛЬЩИНЫ: НОМИНАТИВНЫЙ АСПЕКТ

***канд. филол. наук, доц. Т.П. СЛЕСАРЕВА***
***(ВГУ имени П.М. Машерова, Витебск)***

*Предпринята попытка рассмотрения регионального топонимикона в контексте принципов номинации. Фактическим материалом исследования стали ойконимы Лепельского района Витебской области. Среди принципов номинации рассмотрены названия, образованные от антропонимов, водных объектов, животных и растений, отражающие в себе особенности населенного пункта, географические особенности местности, хозяйственную деятельность и черты быта, указывающие на местоположение населенного пункта по отношению к какому-либо объекту.*

Кожны народ не без роду і племя мае
Летапіс свой і гісторыі след на старонках.
*М. Гусоўскі*

Я шчасны, што сынам быць гэтай зямлі
Мне лесам наканавана
*Р. Барадулін*

Жизнь человека тесно связана с различными местами. Те, которые имеют для него хоть какую-нибудь значимость, обозначаются с помощью особых слов – географических названий.

Ойконимия (греч. oikos – «жилище»), под которой понимается совокупность названий населенных пунктов определенной территории, представляет особый интерес для научного изучения. В ней отражаются важнейшие этапы истории ма-

териальной и духовной культуры создавшего ее народа и проявляются языковые закономерности, в связи с чем ойконимия представляет интерес для исследования как историко-географический материал и как лингвистический источник.

Ойконимия любого региона – сложное явление, анализ которого предполагает различные пути исследования в зависимости от поставленных задач.

В данной работе предпринята попытка рассмотрения регионального топонимикона в контексте принципов номинации. Вслед за Н.В. Подольской, под принципом номинации будем понимать «основание для связи имени с называемым объектом» [1, с. 114]. Фактическим *материалом* исследования явились ойконимы Лепельского района Витебской области (198 единиц). Основным для нашей работы является *метод* лингвистического описания, в ходе которого была выстроена система наиболее существенных оснований для связи ойконима с именуемым объектом.

История топонимики дает разнообразные подходы к характеристике топонимов и ойконимов в частности. Традиционная классификация топонимов с точки зрения принципов номинации делит их на три группы: названия, данные по месту расположения объекта (географический принцип), по отличительным признакам объекта, а также по отношению объекта к человеку. Однако подобная классификация не учитывает всего многообразия оснований для номинации. Кроме того, нередко трудно с уверенностью отнести какой-либо топоним к определенной тематической группе, так как образующие основы некоторых названий не удается объяснить с достоверностью на основе доступных материалов. Не всегда ойконимия дает ответ на вопрос, что же явилось основой для топонима и каким образом это название сопутствует реальной номинации.

Одним из первых исследователей этой проблемы был профессор Белгосуниверситета В.А. Жучкевич, который начал собирать материал по белорусской топонимии еще во второй половине 40-ых годов XX века. В 1974 году в Минске была издана его книга «Краткий топонимический словарь Белоруссии» [2]. Богатый фактический материал находим в «Словаре» и о происхождении названий деревень Лепельского района Витебской области.

Далеко в глубь веков уходит история Лепельщины. Изучение ее позволяет сделать вывод, что еще в ту эпоху, когда реки служили главными путями сообщения, бассейн Березина – Улла уже был густо заселен. Об этом свидетельствует масса городищ и курганов, которые встречаются на его берегах. А.М. Сементовский в книге «Белорусские древности» [3] насчитывает в Лепельском уезде до 400 курганов. Эти курганы не раз привлекали внимание археологов и историков. Делая раскопки, они установили, что здесь жил человек с древнейших времен.

В настоящее время на территории Лепельского района находятся 198 деревень. Люди давали названия окружающим их объектам, и давали по тем признакам, которые казались им в момент называния самыми важными, самыми характерными.

Как показывает лексико-семантический анализ, источники образования ойконимов Лепельщины самые разнообразные.

Наиболее распространенным принципом номинации (33, или16,6 %) можно считать название, образованное от антропонимов – личных имен, фамилий или прозвищ людей. Однако общий принцип называния по отношению к человеку включает в себя более узкие основания: 1) от имени первого поселенца: *Адамовка, Антоновка*; 2) от имени женщины, имевшей в поселении некий особый статус: *Иринполье*; 3) от имени владельца (эти названия некогда служили основным средством выражения принадлежности, когда распространение феодальной собственности на землю стало главным признаком наименования мест): *Овласово, Демешково, Михалово, Морозова Слобода, Матюшина Стена, Сергеевщина, Тодулино* (тюркск. фамилия Тодулин), *Халимоново, Юрковщина, Макаровщина*; 4) ойконимы-посвящения в честь выдающихся лиц: *Заслоново, Новозаслоново;* 5) от преобладающих в деревне фамилий: *Аношки, Мишульки, Мягели, Пахомлевичи, Плиговки, Соломахи, Шубники, Григоровичи, Терешки;* 6) названия, связанные с особенностями внешнего вида человека: *Подлобные, Велевщина* (основа «вялікі»).

Следующую группу составляют ойконимы, отразившие в себе особенности населенного пункта, по которым происходила номинация (17 %). Этот принцип носит во многом субъективный характер, поскольку зависит от непосредственного коммуникативного акта номинатора. По меткому замечанию В.А.Никонова, «в топонимике нет заблужденья опасней, чем распространенное представленье, будто названье «вытекает» из свойств самого объекта» [4, с. 26]. Ведь то, что важно для одних, может быть совершенно не важно для других. За основание мог браться наиболее выраженный признак именуемого объекта: 1) форма поселения: *Дворище, Двор Бабча, Двор Людчицы, Двор Поречье, Двор Суша, Двор Черосово, Долгое, Кривки, Кривцы* («кривая деревня»); 2) время возникновения населенного пункта: *Новоселки, Новины, Староселье, Старый Лепель;* 3) размеры: *Малое Жежлино, Малый Полсвиж, Малые Торонковичи, Малые Пышногоры;* 4) условия проживания: *Слобода, Слободка* (селения в XI – XVIII вв., которые освобождались временно от выплаты налогов); 5) индивидуальная характеристика населенного пункта или его жителей: *Беленица* (от «белый»), *Веселово, Дримовщина (*от «дремучий»), *Зеленка, Погорелое.*

Современный рельеф Лепельщины формировался продолжительное время. Много раз суша сменялась морем, а море – сушей. Поэтому географические особенности местности отражаются в названиях 13 % ойконимов и мотивируют их. Для характеристики особенности почвенного покрова и грунта местности послужили следующие апеллятивы: камень, глина, песок: *Глинница, Жерствянники* (от «жерства» – большой песок), *Пески, Камень, Каменка, Каминщина, Пышно* (от «пахун» – рыхлый грунт).

Топографические особенности местности и окружающего ландшафта иллюстрируют в ойконимах названия возвышенных мест, среди которых наиболее продуктивными оказались лексемы гора, остров: *Острова, Волова Гора, Пышногоры, Горовые, Горони, Горки, Кальники* (от «кальник» - каменистая горка), *Зеленый Остров.* Есть ой-

конимы, которые в своих образовательных основах передают информацию о низких, ровных и заболоченных местах: *Болотники, Большое Поле, Торонковичи* (от «торный» – гладкий), *Поляны, Суша* («сухое поле»).

С давних времен поселениям давали названия, которые характеризовали особенности топографического положения данного населенного пункта, его расположенность на местности относительно каких-то смежных объектов. Такие ойконимы являются «названиями-ориентирами» и помогают воссоздать прежние естественные ландшафты местности. Почти 13 % ойконимов указывают на местоположение населенного пункта по отношению к какому-либо объекту, название которого является корневой частью: *Заозерье, Заболотье, Заборовье, Загорцы, Залесье, Заполье, Заровье, Поречье* («возле реки»), *Студенка* («возле колодца»/студни), *Селище* («на месте, где раньше уже было село»), *Далики* («поселение, размещенное далеко от мест, где они возникли»).

Лепель стоит на берегу большого красивого озера. А вокруг него – еще 57 различных озер. В озеро впадает река Эсса, которая берет свое начало недалеко от Березины. Вытекает из Лепельского озера приток Западной Двины – Улла.

25 февраля 1797 года Павел I своим указом поручил графу Сиверсу, наместнику края, устроить «водяное сообщение» между Днепром и Западной Двиной. Так появилась Березинская система каналов – очень сложный водный путь, общая длина которого – 159 километров.

Наши предки предпочитали селиться около водоемов. Их жизнь была тесно связана с водой. Вполне естественно и закономерно, что впоследствии названия гидронимов переходили и на названия населенных пунктов. Поэтому отгидронимические ойконимы – наиболее устойчивый и самый древний пласт в топонимии любого региона.

В основе 11 % ойконимов Лепельского района лежат названия природных или искусственных водных бассейнов: *Глубочица, Воронь, Ладосно, Несено* (от одноименных озер). Некоторые ойконимы этой группы образованы от лексем река, озеро, ручей, пруд: *Рачицы, Черноручье, Озерцы, Белоозерный, Прудок.*

Географические названия наиболее прочно и в течение длительного времени сохраняют связь с теми нарицательными существительными, от которых они образованы. От общеупотребительных слов образовано 20 ойконимов (10 %) Лепельщины: *Городец, Городянки, Губино, Деньгубы, Звезда, Зорница, Ворошки* (от «ворох») и др.

Своеобразную историческую, этнографическую и хозяйственную характеристику краю дают ойконимы, отражающие хозяйственную деятельность, черты быта (*Дражно* – небольшое предприятие, где выдалбливали челны, ступы, корыта, *Жерцы* – первоначальное спаливание леса для земледелия, *Лутчино, Лутище* – «лут, лута» - лыко молодой липы, *Стаи, Стайск* – «стая, стайня» - временный навес для животных, *Черейщина* – «чартала» – название примитивного приспособления для обработки земли, *Ладосно* – от «ладья», *Бочкари, Ковалевичи* – от «коваль» – кузнец, *Поташня* – мастерская по выработке паташу, который применялся для отбеливания в стеклянной промышленности, *Рудня* – мастерская, в которой выплавляли железо из болотной руды, *Ситники* – люди, которые занимались изготовлением сита, *Пунище* – место, где была пуня – хлев, сарай), названия населенных пунктов, данные по этническим наименованиям жителей (*Ляховичи* – от «ляхи» – поляки), названия населенных пунктов, топоосновы которых отражают типы и границы селений, виды построек (*Беседы* – строение на старых дорогах, *Будище, Будевцы* – от «буда» – небольшое строение, временное жилье, *Крайцы* – место на краю земельного массива, *Межица* – от «межа, граница»).

Народ всегда с любовью относился к лесу. Из народных традиций известно, что в древности наши предки особенно почитали те деревья, которые чаще использовались в языческих обрядах и исполняли в них определенную магическую функцию. Так славяне в дубовых рощах совершали обряды, «перунову дереву» приносили жертвы, почитали его как символ силы и красоты, как старца, посланного богом, хранящего память о делах «давно минувших дней». Кроме дуба, особым «уважением» пользовались береза, клен, липа, сосна, ель.

Это нашло отражение в топонимии. Правда, ойконимы с фитонимической и зоонимической основами немногочисленны (14 или 7 %): *Липки, Поддубье, Сосняги, Веробки* (от «вербена»), *Кветче* (от «кветка»), *Хвощево, Свядица* (от «свидина» – растение), *Черница* (от «черника»), *Рожно* (от «рожь»).

В исследуемом материале в качестве образующей основы ойконимов зоонимического происхождения используются названия диких животных – медведь, бобер, домашних – козел, коза, а также улитка. Эти исходные лексемы участвуют в образовании названий *Боброво, Козинщина, Козлы, Медведовка, Улитинки* (от «улита», «улитка»).

Следует отметить, что в ойконимии Лепельского района практически отсутствуют советские идеологические ойконимы (разве только *Красный Октябрь*).

Каждое отдельное топонимическое пространство имеет свои специфические особенности, из которых выявляются соответствующие топонимические универсалии, дающие возможность выявить физико-географические характеристики местности, получить определенные сведения о занятиях населения, а также позволяют выяснить основные принципы топонимической номинации.

В частности, в ойконимии Лепельского района можно выделить два типа топонимов: названия естественно-географического характера и названия культурно-исторического характера.

К названиям естественно-географического характера принадлежат отгидронимические ойконимы, ойконимы, образованные от географической апеллятивной лексики, а также ойконимы-фитонимы, ойконимы-зоонимы и названия-ориентиры.

К названиям культурно-исторического характера восходят ойконимы, образованные от антропонимов, ойконимы, отражающие особенности хозяйственной деятельности населения края или черты быта, наименования, топоосновы которых отражают типы селений и виды построек.

ЛИТЕРАТУРА

1. Подольская, Н.В. Словарь русской ономастической терминологии / Н.В. Подольская. – М.: Наука, 1978. – 198 с.

2. Жучкевич, В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии /В.А. Жучкевич. – Минск: Наука и техника, 1974. – 447 с.
3. Сементовский, А.М. Белорусские древности / А.М. Сементовский. – СПб.: Типо-литография Н. Стефанова, 1890. – XII с.+137 с.
4. Никонов, В.А. Введение в топонимику / В.А. Никонов. – М.: Наука, 1965. – 179 с.

## ДАСЛЕДАВАННЕ ТРАДЫЦЫЙНЫХ ЭТНАЭКАЛАГІЧНЫХ ВЕДАЎ ВЯСКОВАГА НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСКАГА ПАДЗВІННЯ

***канд. гіст. навук, дац. К.А. ШУМСКІ***
***(Беларускі дзяржаўны аграрны тэхнічны ўніверсітэт, Мінск)***

*Аналізуюцца вынікі палявых этнаграфічных даследаванняў 2002 – 2006 г., прысвечаных традыцыйным этнаэкалагічным ведам беларусаў (у тым ліку і на тэрыторыі Падзвіння). Разгледжаны народныя веды аб культурных раслінах і хатніх жывелах, аб дзікарослых раслінах і дзікіх жывелах, аб спосабах вызначэння надвор'я і прагназавання будучага ўраджаю.*

Этнаэкалогія – гэта новы накірунак у этналогіі, што вывучае ўзаемаадносіны чалавека з навакольным асяроддзем і ўяўленні аб ім у рамках традыцыйнай культуры, а таксама ўплыў культурных установак на сучасныя ўзаемаадносіны з прыродай і навакольным асяроддзем у цэлым. Тэарэтыка-метадалагічнай асновай гэтага накірунку з'яўляецца ўяўленне аб этнасе як аб цэласнай этнаэкалагічнай сістэме, складаючыя элементы якой (асяроддзе пражывання, традыцыйнае прыродакарыстанне і народны светапогляд) пастаянна ўзаемадзейнічаюць, знаходзячыся ў дынамічным адзінстве. Такім чынам, прадметную сферу этнаэкалогіі складаюць этнічныя і сацыяльна-культурныя аспекты ўзаемадзеяння грамадства і прыроды.

Галоўная ўвага ў сучаснай этнаэкалогіі надаецца вывучэнню адаптацыі чалавечага грамадства да навакольнага асяроддзя. Традыцыйная і сучасная культура разглядаюцца ў якасці механізму, з дапамогай якога такая адаптацыя ажыццяўляецца. Карыстаючыся культурай, людзі не толькі з цягам часу прыстасоўваліся да пэўнага прыроднага асяроддзя, але і пераўтваралі гэтае асяроддзе, ствараючы т.зв. «культурныя ландшафты». Падобна экалагічным сістэмам, культурныя сістэмы больш устойлівы пры максімальнай разнастайнасці сваіх структурных элементаў. Уніфікацыя пагражае захаванню культурнай спадчыны, вядзе да страты унікальных ведаў і вопыту, назапашанага на працягу стагоддзяў многімі пакаленнямі.

На сучасным этапе, у сувязі з вострым экалагічным крызісам, з якім сутыкнулася сусветная супольнасць у цэлым і Рэспубліка Беларусь у прыватнасці, вывучэнне ўзаемаадносін чалавека і прыроды скрозь прызму культуры становіцца ўсе больш і больш актуальным. Захоўваемыя народнай культурай прынцыпы адносінаў да навакольнага асяроддзя, да прыродакарыстання, узаемаадносінаў унутры грамадства могуць дапамагчы выявіць прычыны ўзнікнення многіх экалагічных праблем, а магчыма і знайсці спосабы іх вырашэння.

Тэарэтычныя распрацоўкі этнаэкалогіі могуць быць выкарыстаны ў прыродаахоўчай дзейнасці, для выяўлення і прапагандавання традыцый рацыянальнага прыродакарыстання, высвятлення культурна абумоўленых прычын прыродапарушальнай дзейнасці чалавека і магчымых метадаў іх карэкцыі, а таксама ў адукацыйным і выхаваўчым працэсе – для выхавання эка-арыентаванага тыпу асобы, якое будзе грунтавацца на лепшых традыцыях народнай культуры.

Традыцыйныя спосабы і формы прыродакарыстання, характэрныя для таго ці іншага этнасу, найбольш выяўляюцца ў яго народных этнаэкалагічных ведах – комплекснай сістэме вынікаў назіранняў за прыроднымі працэсамі і з'явамі і зробленых на іх аснове высноў, якія выкарыстоўваліся ў штодзённай практычнай дзейнасці і былі замацаваны ў традыцыях, што перадаваліся з пакалення ў пакаленне пераважна непісьмовым чынам (шляхам вуснай трансмісіі і паўтору дзеянняў). Гэтыя веды ўяўляюць сабой суму вопыту народа ва ўзаемадзеянні з акаляючым яго светам – прыродным і грамадскім, вопыту вырашэння спецыфічных і складаных праблем, што ўставалі перад гэтай этнічнай супольнасцю.

У дадзеным дакладзе аналізуюцца вынікі палявых этнаграфічных даследаванняў традыцыйных этнаэкалагічных ведаў беларусаў – аб культурных раслінах і хатніх жывелах, аб дзікарослых раслінах і дзікіх жывелах, аб спосабах вызначэння надвор'я і прагназавання будучага ўраджаю, – якія праводзіліся аўтарам на ўсей тэрыторыі Беларусі ў 2002 – 2006 гг. [гл. 1 – 3], у параўнанні з дадзенымі, што адносяцца да XIX – XX ст. Усяго праведзена 14 экспедыцый па збору палявога этнаграфічнага матэрыялу, падчас якіх апытана 102 інфарматары з 83 весак і гарадскіх паселкаў Беларусі. У выніку палявымі этнаграфічнымі даследаваннямі былі ахоплены ўсе гісторыка-этнаграфічныя рэгіены Беларусі, у тым ліку і Беларускае Падзвінне. Пры вывучэнні традыцыйных ведаў беларусаў у палявых умовах выкарыстоўваўся экспедыцыйны метад. У экспедыцыйнай рабоце прымяняліся асабістыя назіранні і апытанне інфарматараў метадам іх анкетавання. Аўтарам былі распрацаваны апытальнікі па ўсіх галінах народных ведаў аб прыродзе. Пытанні задаваліся вусна, адказы на іх фіксаваліся аўтарам, у рэдкіх выпадках інфарматар запаўняў апытальнік самастойна. Аналіз гэтых звестак дае падставу сцвярджаць, што ў пачатку XXI ст. носьбітам традыцыйных ведаў беларусаў аб раслінным, жывельным свеце і надвор'і з'яўляецца сацыяльна-дэмаграфічная група вясковых жыхароў, старэйшых за 60 гадоў, а асноўнай сферай іх функцыянавання і прымянення стала прыватная падсобная гаспадарка.

Народныя веды аб культурных раслінах паспяхова выкарыстоўваліся ў гаспадарчай дзейнасці беларусаў, галоўным чынам у земляробстве. Яны найбольш выяўляюцца ў традыцыйных спосабах правядзення агратэхнічных мерапрыемстваў і ў земляробчым календары, дзе знайшла прадметнае адлюстраванне ўся сума ведаў аб акаляючай прыродзе. Традыцыйныя спосабы і тэрміны правядзення ўсіх неабходных агратэхнічных работ (угнаення глебы, узорвання, баранавання, сяўбы, праполкі гародніны, акучвання і ўборкі пасеяных і высаджаных раслін) вызначаліся на падставе ведання ўласцівасцей сельскагаспадарчых культур, вегетатыўных перыядаў іх прарастання, цвіцення і выспявання, а таму былі цалкам аптымальнымі.

Вынікі праведзеных апытанняў вясковага насельніцтва ўсіх гісторыка-этнаграфічных рэгіенаў Беларусі выявілі прынцыповае адзінства традыцыйных ведаў аб культурных раслінах на разглядаемай тэрыторыі. Гэта ж адлюстравана і ў працах этнографаў XIX – пачатку XX ст., і ў палявых матэрыялах 50 – 80-х гг. XX ст. Нягледзячы на тое, што прыродна-кліматычныя ўмовы не з'яўляюцца поўнасцю аднастайнымі на ўсей тэрыторыі Беларусі, ваганні паміж імі з'яўляюцца неістотнымі для фарміравання якасных тэрытарыяльных адрозненняў у народных ведах аб культурных раслінах і асаблівасцях іх прымянення ў гаспадарчай дзейнасці беларусаў. Прыродна-кліматычныя ўмовы непасрэдным

чынам уплываюць толькі на тэрміны правядзення сельскагаспадарчых работ, якія вагаюцца ў розных гісторыка-этнаграфічных рэгіенах Беларусі: найбольшыя адрозненні (у 1 – 2 тыдні) маюць Паазер’е (Падзвінне) і Палессе.

У XIX – пачатку XX ст. на тэрыторыі Беларусі было найбольш распаўсюджана традыцыйнае земляробства, заснаванае на народных ведах аб культурных раслінах. У 20 – 30-я гг. XX ст., калі далейшае павышэнне яго прадукцыйнасці толькі на аснове існуючых традыцыйных ведаў стала немагчымым, земляробства на Беларусі развіваецца на падставе шырэйшага ў параўнанні з папярэднім перыядам выкарыстання навуковых ведаў у вобласці агранаміі. Паступальнае развіцце сельскай гаспадаркі Беларусі было перапынена Вялікай Айчыннай вайной, падчас якой назіраецца вяртанне да ранейшых спосабаў і прыемаў гаспадарчай дзейнасці. Для другой паловы XX ст. характэрна не толькі канчатковае выцясненне традыцыйнай сістэмы земляробства, а таму і значнае абмежаванне сферы прымянення народных ведаў аб культурных раслінах, але і тое, што земляробства перастала адыгрываць галоўную ролю ў жыццезабеспячэнні беларускага этнасу, вызначаць яго матэрыяльную, духоўную культуру, лад жыцця. Гэтыя тэндэнцыі характэрны для ўсіх гісторыка-этнаграфічных рэгіенаў Беларусі.

Значныя змены ва ўсіх сферах культуры беларусаў, у сацыяльна-дэмаграфічнай структуры нацыі, якія адбыліся на працягу другой паловы XX – пачатку XXI ст., звузілі сферу прымянення традыцыйных ведаў аб культурных раслінах і разбурылі іх як цэласную сістэму: у практыцы гаспадарчай дзейнасці выкарыстоўваюцца толькі асобныя іх элементы. З прычыны таго, што збожжавыя культуры адыгрываюць нязначную ролю ў падсобнай гаспадарцы, страціла гаспадарчае значэнне сукупнасць ведаў, што прымянялася пры іх вырошчванні. На сучасным этапе выкарыстоўваюцца толькі асобныя прыемы і прыкметы, звязаныя з угнаеннем глебы і паслядоўнасцю высеву сельскагаспадарчых культур. У той жа час склаліся больш спрыяльныя ўмовы для захавання ведаў, якія выкарыстоўваліся пры вырошчванні гародніны і бульбы, бо гэтыя культуры займаюць важнае месца ў прыватных падсобных гаспадарках. Нягледзячы на тое, што прыродна-кліматычныя ўмовы, лад жыцця і спосабы правядзення палявых работ кардынальным чынам змяніліся, асабліва на працягу другой паловы XX ст., рацыянальныя традыцыйныя веды беларусаў аб культурных раслінах можна выкарыстоўваць і ў сучаснай сельскагаспадарчай вытворчасці, у фермерскіх і прыватных падсобных гаспадарках, бо ўвабраныя ў іх вынікі шматгадовых назіранняў за з’явамі навакольнага свету, за працэсамі і вынікамі чалавечай дзейнасці ў пэўным экалагічным асяроддзі правільна суадносяцца з сістэмай узаемасувязей і ўзаемазалежнасцей у акаляючай прыродзе.

Як і традыцыйныя веды аб культурных раслінах, народныя веды аб хатніх жывелах былі адзінымі ў сваей аснове ва ўсіх гісторыка-этнаграфічных рэгіенах Беларусі. Матэрыялы апытанняў вясковага насельніцтва сведчаць аб тым, што гэты комплекс традыцыйных ведаў не страціў свайго практычнага значэння і ў канцы XX – пачатку XXI ст.

Сяляне валодалі як навыкамі па догляду хатняй жывелы, так і разнастайнымі лячэбнымі сродкамі. У традыцыйных ведах беларусаў аб спосабах лячэння хатніх жывел можна вылучыць наступныя часткі: прыемы і сродкі, да якіх прыбягалі ў выпадках эпізоотый, павальных хвароб жывел; прыемы і сродкі, якімі карысталіся ў выпадках неінфекцыйных хвароб, для лячэння асобных жывел.

Пры лячэнні хатніх жывел найбольш шырока выкарыстоўваліся лекавыя сродкі расліннага паходжання. Яны прымяняліся ў якасці ўзвараў, сухога парашку, які дадавалі ў корм ці прысыпалі раны; высушанымі зелкамі абкурвалі хворую жывелу. Палявыя этнаграфічныя даследаванні не выявілі прынцыповых рэгіянальных адрозненняў у гэтых спосабах і прыемах лячэння. Яны не страцілі свайго практычнага значэння і ў другой палове XX – пачатку XXI ст., калі асноўнай сферай іх прымянення стала прыватная падсобная гаспадарка. У XIX – першай палове XX ст. ужыванне тых ці іншых прыемаў лячэння падмацоўвалася магічнымі дзеяннямі, замовамі, шэптамі, якія ў большасці выпадкаў былі ідэнтычнымі «людскім замовам» – ад укусаў гадзюкі, ад звіху, ад бяльма, ад уроку. У другой палове XX ст. выкарыстанне магічных дзеянняў у лячэнні жывел захавалася ў значна меншай ступені, чым прымяненне сродкаў расліннага і жывельнага паходжання. У асноўным яно абмежавана выкарыстаннем замоў, якое робіцца асобнымі пажылымі людзьмі ў прыватным парадку. У XIX – першай палове XX ст. селянін даволі часта звяртаўся і да паслуг канавалаў (у першую чаргу ў час лягчання бычкоў, жарэбчыкаў, парсюкоў). На працягу другой паловы XX ст., асабліва апошняй яго чвэрці, колькасць канавалаў значна скарацілася.

У сялянскай гаспадарцы не меншае месца ў параўнанні з уласна лячэннем займалі меры, накіраваныя на прафілактыку захворванняў хатніх жывел. Неабходна падкрэсліць, што толькі адносна нешматлікія ўключаемыя сюды прадметныя і акцыянальныя абярэгі валодалі яскрава «ветэрынарнай» спецыфікай – большасці з іх паралельна надаваліся і іншыя семіятычныя функцыі: іх лічылі сродкамі, што садзейнічалі плоднасці жывелы, ахоўвалі яе ад драпежнікаў і інш.

Найбольш характэрная асаблівасць традыцыйных ведаў беларусаў аб хатніх жывелах – арганічнае спалучэнне міфалагічна-рэлігійнага ўспрыняцця свету з рацыянальнымі навыкамі, якія грунтаваліся на практычнай дзейнасці сялян, іх шматгадовых назіраннях. Традыцыйныя спосабы і прыемы догляду хатніх жывел, прафілактыкі і лячэння іх хвароб уяўляюць сабой сістэму, у якой злучаны ў адзінае цэлае яе вярбальны, акцыянальны (дзейнасны) і прадметны элементы. Да вярбальных элементаў адносяцца замовы, малітвы, матывіроўкі-пажаданні. Вярбальная магія выступала як у самастойным выглядзе, так і ў якасці суправаджэння тых ці іншых акцыянальных сродкаў і прыемаў. Да найбольш распаўсюджаных акцыянальных элементаў адносяцца абход жывелы, абкурванне, крапленне, кармленне ці паенне жывелы лекавай ежай ці пітвом, масаж, расціранні, кровапусканне. Колькасць канкрэтных прадметаў, якія выкарыстоўваліся ў якасці прафілактычных і лячэбных сродкаў, амаль бязмежная, бо практычна любы прадмет і любая маніпуляцыя з ім маглі быць уцягнуты ў сферу жывелагадоўчай практыкі. Разглядаемы комплекс ведаў аб хатніх жывелах быў адзіным ва ўсіх гісторыка-этнаграфічных рэгіенах Беларусі. У XIX – першай трэці XX ст. традыцыйная жывелагадоўля функцыянавала пераважна на аснове народных ведаў. Комплекс народных ведаў аб хатніх жывелах не страціў свайго практычнага значэння і ў другой палове XX – пачатку XXI ст. Гэта ў найбольшай ступені адносіцца да спосабаў і прыемаў, што прымяняюцца ў доглядзе хатняй жывелы ў асабістых, фермерскіх гаспадарках. Акрамя таго, народныя веды аб хатніх жывелах дапаўняюць ветэрынарнае абслугоўванне, асабліва ў сферы прафілактыкі і лячэння неінфекцыйных хвароб сродкамі расліннага і жывельнага паходжання.

Наступная частка нашага дакладу прысвечана выкарыстанню дзікарослай флоры ў сістэме жыццезабеспячэння беларускага этнасу. Вывучэнне прымянення ведаў аб дзікарослых раслінах у народнай медыцыне беларусаў дазваляе зрабіць выснову аб тым, што тэрміны збору лекавых раслін і прыемы іх прыгатавання да ўжывання былі цалкам аптымальнымі з пункту гледжання найбольшага назапашвання і найлепшага захавання раслінамі лекавых уласцівасцей. У 80 – 90-я гг. XX ст. сярод значнай часткі насельніцтва Беларусі пачынаецца ўзмацненне цікавасці да народнай медыцыны. Аднак, на сучасным этапе далека не ўсе нарыхтоўшчыкі карыстаюцца трады-

цыйнымі спосабамі збору раслліннай лекавай сыравіны, якія дазвалялі б рацыянальна выкарыстоўваць прыродныя рэсурсы, забяспечваць іх узнаўленне.

Спецыфіка народных ведаў беларусаў аб дзікарослых раслінах залежала ад традыцыйна склаўшыхся адносінаў да навакольнай прыроды. Многія з распаўсюджаных на тэрыторыі Беларусі відаў дрэваў (перш за ўсе вярба, бяроза, клен, ліпа, дуб) лічыліся сялянамі «добрымі» і нават свяшчэннымі. Іх забаранялася секчы без патрэбы, галінкі вярбы асвячалі на Вербніцу ў цэрквах і касцелах, галінкамі бярозы, клену, ліпы на свята Троіцы ўпрыгожвалі хаты, вароты, сцены і дзверы хлява, вуглы, сенцы. Існаванне гэтых абрадаў зафіксавана ва ўсіх гісторыка-этнаграфічных рэгіёнах Беларусі, як вучонымі XIX – першай паловы XX ст., так і палявымі этнаграфічнымі даследаваннямі аўтара. У XIX–XX ст. беларусы ахвотна садзілі на сваіх сядзібах бярозы, клены, ліпы, бо лічылася, што яны прыносяць людзям шчасце. Гэтыя факты з'яўляюцца адлюстраваннем старажытнага культу дрэваў і расліннасці наогул. Негатыўныя ўяўленні былі звязаны са значна меншай колькасцю відаў дрэваў, найперш – з асінай.

У народных ведах беларусаў аб дзікарослых раслінах выяўляюцца беражлівыя адносіны да акаляючай флоры, у першую чаргу да лясных рэсурсаў. Беларускія селяне ніколі не ссякалі дрэвы без патрэбы, не вынішчалі ягадныя і грыбныя запасы. З канца XIX – пачатку XX ст. атрымаў шырокае распаўсюджанне ашчадны спосаб збору бярозавага і кляновага сокаў, які амаль не пашкоджваў дрэва. Рацыянальна падыходзілі і да нарыхтоўкі кары, здымаючы яе не з усіх дрэваў на тым ці іншым вучастку, а выбарачна.

У народных ведах беларусаў аб дзікіх жывелах таксама выяўляюцца іх беражлівыя, рацыянальныя адносіны да навакольнай прыроды. Блізкасць сялян да дзікай прыроды, яе абагаўленне, прынцыпы роднасці, якія распаўсюджваліся на акаляючы свет, нараджалі ўпэўненасць, што лес чалавека і грамадства ў цэлым шмат у чым залежыць ад станоўчых ці адмоўных адносінаў да яго прыродных сіл. Катэгарычна забаранялася без нагоды забіваць і нават крыўдзіць звяроў і птушак. Шэраг прадстаўнікоў жывельнага свету (у першую чаргу ластавак, жаваранкаў, буслоў, вужоў, пчол, мурашак) беларускі селянін лічыў свайго роду свяшчэннымі. Забаранялася разбураць птушыныя гнезды, мурашнікі, пчаліныя дуплы. Гэтыя ўяўленні зафіксаваны ва ўсіх гісторыка-этнаграфічных рэгіёнах Беларусі. Захаваліся яны і ў пачатку XXI ст., галоўным чынам сярод вясковага насельніцтва старэйшага ўзросту [3, л. 24, 30, 37].

Разам з тым, неабходна адзначыць, што пазітыўнымі былі адносіны не да ўсіх прадстаўнікоў жывельнага свету. Лічылася, напрыклад, што агародная жаба («варопаўка») нібыта прыносіла засуху, таму яе рытуальнае забойства выкарыстоўвалася ў абрадах выклікання дажджу, існаваўшых у XIX – першай трэці XX ст. [4, с. 19]. Не менш гаротны лес напаткаў і кажана. Па дадзеных М.Я. Нікіфароўскага, зафіксаваных у Беларускім Падзвінні, сяляне меркавалі, што ен насылае «шалудзькі» на галаву [5, с. 65], ад чаго чалавек можа нават памерці. З гэтай прычыны кажаноў пры магчымасці забівалі, хаця яны прыносілі вялікую карысць, знішчаючы начных насякомых. Не любілі таксама саву (з-за яе вялікіх «страшных» вачэй), а таксама зязюлю, бо яна выводзіла птушанятаў у «чужых» гнездах. Акрамя таго, лічылі, што зязюля не мае самца: многія быццам бы бачылі, як яна падлятала пад пеўня. Вынікі апытанняў вясковага насельніцтва не выявілі тут прынцыповых рэгіянальных адрозненняў на ўсей тэрыторыі Беларусі. Гэтыя экафобныя ўстаноўкі (асабліва адносіны да жаб і кажаноў) захаваліся і ў пачатку XXI ст., нягледзячы на пэўнае развіцце экалагічнай адукацыі і выхавання насельніцтва [1, л. 8, 27; 2, л. 8; 3, л. 3 – 4, 45, 67, 71].

Мноства традыцыйных метэаралагічных прыкмет і назіранняў беларусаў, зафіксаваных у XIX – пачатку XXI ст., можна падзяліць на тры вялікія семантычныя групы. Гэта прыкметы, што дазвалялі сялянам прагназаваць надвор'е на кароткі прамежак часу (ад некалькіх гадзін да трох дзен); прыкметы на больш працяглы тэрмін (у межах года ці з аднаго года на наступны); цесна звязаныя з імі метэаралагічныя прыкметы, што фіксавалі ўплыў прыродных умоў пор года на якасць ураджаю.

Прыкметы аб зменах надвор'я ў кароткі прамежак часу выводзіліся на падставе назіранняў за Сонцам, яго ўсходам і заходам, працяглацю ранішняга і вячэрняга золаку, колерам Сонца, яго праменеў, колерам неба. Кароткатэрміновыя метэаралагічныя прыкметы беларусаў грунтаваліся і на назіраннях за іншымі фізічнымі атмасфернымі з'явамі: за кругамі вакол Сонца ці Месяца, «слупамі» ці «крыжамі» каля Сонца, хмарамі, якія з'яўляліся ў пэўны час дня, вяселкай. Вялікая колькасць кароткатэрміновых прагнозаў беларускіх сялян заснавана на назіраннях за раслінамі, за паводзінамі і станам хатніх жывел і птушак, дзікіх прадстаўнікоў мясцовай фауны (звяроў, птушак, рыб, земнаводных, паўзуноў і насякомых), уся жыццядзейнасць якіх знаходзіцца ў цеснай залежнасці ад змены метэаралагічных умоў. Надвор'е на кароткія прамежкі часу вызначалася і па самаадчуванню людзей, іншых штодзенных назіраннях (за распаўсюджаннем дыму, чутнасцю адгалоску, па ранішняй расе і інш).

Беларускі народ, дзякуючы пастаянным назіранням за акаляючай яго прыродай, назапасіў вялікі вопыт ў вызначэнні надвор'я на непрацяглы час. Гэты комплекс ведаў быў адзіным, яго прынцыповыя элементы не адрозніваліся на ўсей тэрыторыі Беларусі. Іх вылучаюць аб'ектыўнасць, прастата, завершанасць, магчымасць хуткай практычнай праверкі і зручнасць прымянення, улік значнай колькасці прыродных узаемасувязей.

Доўгатэрміновыя метэаралагічныя прыкметы аўтар падзяляе на каляндарныя (надвор'е таго ці іншага дня ці перыяду гадавога цыклу вызначалася на падставе фіксацыі яго стану ў канкрэтны перыяд, найперш у час значнага каляндарнага свята) і некаляндарныя, што абапіраліся на неарганізаваныя ў часе назіранні за з'явамі акаляючай прыроды.

Прыкладна да 80-х гг. XX ст. рацыянальнасць доўгатэрміновых каляндарных прыкмет адназначна адмаўлялася; савецкія этнографы бачылі ў іх толькі «рэлігійныя перажыткі». У 80–90-я гг. XX ст. назіраецца абуджэнне цікавасці да гэтай важнай часткі традыцыйных ведаў аб надвор'і: каляндарнымі прыкметамі, прымеркаванымі як да мясцовых зменаў надвор'я, так і да рэлігійных святаў, карыстаецца ўсе большая частка насельніцтва. Назіранні за характарам надвор'я ў пэўнай мясцовасці, прымеркаваныя да таго ці іншага каляндарнага свята, лягчэй запаміналіся, што давала магчымасць з года ў год параўноўваць іх вынікі. Такім чынам, кожная каляндарная прыкмета аб надвор'і – гэта вынік шматгадовых назіранняў пэўнай з'явы прыроды ў дакладна вызначаны час, яна адлюстроўвае выяўленыя эмпірычным шляхам цыклічныя перыяды метэаралагічных зменаў.

Некаляндарныя доўгатэрміновыя прадказанні надвор'я засноўваліся на шматвяковым вопыце беларускіх сялян, іх назіральнасці, глыбокім веданні прыродных заканамернасцей. Пад увагу браліся ўзаемасувязі атмасферных з'яў, асаблівасці развіцця раслін, іх рэагаванне на змены метэаралагічных умоў, паводзіны звяроў, птушак, насякомых, рыб. Адначасова ў прадказаннях надвор'я мелі месца і прымхлівыя ўяўленні чалавека, якія грунтаваліся на вобразна-сімвалічных асацыяцыях, выпадковых супадзеннях, вынікалі з фантастычных тлумачэнняў тых ці іншых прыродных фактараў.

Вельмі цікавыя для этнолага народныя меркаванні аб тым, як паўплываюць умовы надвор'я на розныя бакі гаспадарчага жыцця, а найперш – на колькасць і якасць будучага ўраджаю. Традыцыйныя ўяўленні, якія звязваюць умовы на-

двор’я з ураджаем азімых і яравых культур, гародніны, грыбоў, ягад, арэхаў, прыплодам жывелы, дэманструюць разнастайнасць і стараннасць штодзенных назіранняў за акаляючым асяроддзем, адлюстроўваюць разуменне сялянамі складанай залежнасці вынікаў іх гаспадарчай дзейнасці ад умоў надвор’я. У народных ведах беларусаў аб спосабах прагназавання будучага ўраджаю адлюстравана асноўная мэта ўсіх назіранняў за акаляючай прыродай – забяспечыць поспех сваей жыццядзейнасці, а таксама спецыфічная асаблівасць такіх назіранняў: часта прадказваецца не сам характар будучага надвор’я, а тое, як паўплываюць умовы надвор’я на тыя ці іншыя бакі гаспадарчага жыцця. На тэрыторыі Беларусі, ва ўмовах аб’ектыўнай складанасці прагназавання надвор’я на працяглыя прамежкі часу, народныя прыкметы аб будучым ураджаі адрозніваюцца як шырыней назіранняў, так і сінкрэтычным спалучэннем эмпірычных ведаў з рэлігійна-магічнымі ўяўленнямі і вераваннямі. У іх знайшлі свае адлюстраванне прыродна-кліматычныя ўмовы розных гісторыка-этнаграфічных рэгіенаў Беларусі. Разам з тым, комплекс традыцыйных ведаў беларусаў аб спосабах прагназавання будучага ўраджаю вызначаецца не лакальнымі рысамі, а прынцыповай агульнасцю на ўсей тэрыторыі Беларусі. У другой палове ХХ – пачатку ХХІ ст. узмацняецца трансфармацыя гэтай часткі народных ведаў аб надвор’і: у іх структуры ўзрастае роля рацыянальных ведаў (з элементамі навуковага асэнсавання чалавекам узаемазалежнасцей у акаляючай прыродзе).

Народныя веды аб спосабах вызначэння надвор’я і прагназавання будучага ўраджаю з’яўляюцца завершанай, арганізаванай у часе і ў прасторы, сістэмай, што ахоплівае ўвесь прыродны комплекс. Дзякуючы пастаянным назіранням за самымі нязначнымі зменамі ў акаляючай прыродзе, беларускія сяляне прыкмецілі сувязі паміж рознымі яе з’явамі і вызначылі ў іх пэўныя заканамернасці. Большасць традыцыйных метэаралагічных прадказанняў заснавана на аб’ектыўнай прычынна-выніковай узаемазалежнасці прыродных з’яў. У той жа час назіранні беларусаў за прыродай не абмяжоўваліся простай канстатацыяй фактаў, людзі таксама спрабавалі паўплываць на акаляючы свет, таму ў некаторых прадказаннях надвор’я сувязь прычыны і следства парушаецца: імкнучыся растлумачыць незразумелыя і загадкавыя з’явы прыроды, яны грунтуюцца як на эмпірычных дадзеных, так і на рэлігійных вераваннях, фантастычных уяўленнях аб прыродзе, вобразна-сімвалічных асацыяцыях, якія своеасабліва спалучаюцца ў адзінае цэлае.

Гэты комплекс традыцыйных ведаў аб надвор’і быў адзіным, яго прынцыповыя элементы не адрозніваліся на ўсей тэрыторыі Беларусі. Істотныя рэгіянальныя адрозненні выяўляюцца толькі ў каляндарных метэаралагічных прыкметах, што звязана з прыродна-кліматычнымі асаблівасцямі гісторыка-этнаграфічных рэгіенаў Беларусі. Аднак, кліматычныя ваганні знайшлі свае адлюстраванне толькі ў канкрэтным метэаралагічным значэнні каляндарных дат, у той час як структура і сутнасць традыцыйных ведаў аб надвор’і характарызуюцца значнай устойлівасцю: яны няспынна развіваюцца, узбагачаюцца, але захоўваюць пры гэтым сваю старажытную аснову і этнічную спецыфіку.

З усяго комплексу традыцыйных ведаў аб надвор’і ў пачатку ХХІ ст. найбольшае распаўсюджанне і прымяненне знаходзяць народныя веды аб спосабах яго вызначэння на кароткія прамежкі часу, заснаваныя на мясцовых прыкметах надвор’я, на назіраннях за прадстаўнікамі расліннага і жывельнага свету, а таксама доўгатэрміновыя каляндарныя метэаралагічныя прыкметы. Вялікае прыкладное значэнне для сельскай гаспадаркі маюць уяўленні беларусаў аб пэўных рытмах, цыклічнасці ў прыродзе, аб узаемазалежнасці і ўзаемаабумоўленасці шматлікіх прыродных з’яў, якія вызначаюць спрыяльныя ці неспрыяльныя ўмовы для развіцця культурных раслін.

ЛІТАРАТУРА

1. АІМЭФ. – Фонд 6. – Воп. 14. – Спр. 102. Матэрыялы па традыцыйных экалагічных ведах беларусаў, сабраныя К.А. Шумскім. 2002 – 2003 гг.
2. АІМЭФ. – Фонд 6. – Воп. 14. – Спр. 134. Матэрыялы па традыцыйных экалагічных ведах беларусаў, сабраныя К.А. Шумскім. 2004 г.
3. АІМЭФ. – Фонд 6. – Воп. 14. – Спр. 135. Матэрыялы па традыцыйных экалагічных ведах беларусаў, сабраныя К.А. Шумскім. 2005 – 2006 гг.
4. Шумскі, К.А. Мясцовая фауна ў традыцыйнай культуры беларусаў (XIX – пачатак XX ст.) / К.А. Шумскі // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 3. Гісторыя. Філасофія. Псіхалогія. Паліталогія. Сацыялогія. Эканоміка. Права. – 2007. – № 1. – С. 15 – 20.
5. Никифоровский, Н.Я. Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах / Н.Я. Никифоровский. – Витебск: Губерн. Типо-Литограф., 1897. – 171 с.

# ЗМЕСТ

## *ГІСТОРЫЯ*



## *ЭТНАГРАФІЯ І ФАЛЬКЛОР*

*Навуковае выданне*

# БЕЛАРУСКАЕ ПАДЗВІННЕ: ВОПЫТ, МЕТОДЫКА І ВЫНІКІ ПАЛЯВЫХ І МІЖДЫСЦЫПЛІНАРНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ

Зборнік навуковых прац
міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай
160-годдзю з дня нараджэння А. П. Сапунова

(Полацк, 21 – 23 красавіка 2011 г.)

У дзвюх частках

Частка 2

Тэкст друкуецца ў аўтарскай рэдакцыі

Адказны за выпуск *Д. У. Дук*

Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *І. М. Бязборшчай*
Дызайн вокладкі *В. А. Вінаградавай*

Падпісана да друку 22.10.11. Фармат 60×84⅛. Бумага афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 26,03. Улік.-выд. арк. 28,71. Тыраж 50 экз. Заказ 1753.

Выдавецтва і паліграфічнае выкананне:
установа адукацыі «Полацкі дзяржаўны універсітэт».

ЛВ № 02330/0548568 от 26.06.2009 ЛП № 02330/0494256 от 27.05.2009

Вул. Блахіна, 29, 211440, г. Наваполацк.